Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР.

У НУМАРЫ:

Вершы Р. Барадуліна, К. Цвіркі, Ул. Паўлава, М. Парахневіча, В. Зыблева.

Навукова-фантастычны раман М. Гамолкі «Цытадэль неба» (працяг).

Апавяданні і нарысы М. Даніленкі, В. Дайліды, В. Быкава, Ф. Клакоцкага, А. Вечаркова, Ул. Мяжэвіча, Ф. Собаля.

Артыкулы М. Барсток, Д. Бальшова, І. Ігнаценкі, І. Бучынскага.

Гумарэска М. Скрыпкі.

Моладзь свету — моладзі Беларусі (з VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў).

Навіны навукі і тэхнікі.

9 (55)

Верасень.

1957.

Год выдання V.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Рыгор БАРАДУЛІН

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ІНСТЫТУТ!

Дзень добры, інстытут — стары знаёмы,
Вясёлая студэнцкая радня!
Зноў важыць чамадан лягчэй, чым дома,
Зноў дабаўляем дзірак у рамнях.

За лета шмат пытанняў не рашылі,
Па вечарах дыскусія кіпіць.
Над кнігай чайнік, выцягнуўшы шыю,
Нібы гусак разгневаны, шыпіць...

Зноў, любы інтэрнат, да позняй ночы
Струменіцца святло з тваіх акон —
Так свецяцца ад шчасця ў бацькі вочы,
Калі сваіх сыноў сустрэне ён.

**Кастусь ЦВІРКА**



Кастусь Цвірка нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна Мінскай вобласці.

Цяпер ён займаецца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна.

Вершы К. Цвіркі друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Вожык» і ў газеце «Чырвоная змена».

Ніжэй мы змяшчаем новыя вершы маладога паэта, які ўдзельнічаў ва ўборцы ўраджаю на цалінных землях.

## ПА УРАЛУ

Дык вось-жа ён, Урал з красою дзікай,
Знаёмы мне ўсяго са школьных карт.
Відаць здалёк — крутых вяршыняў пікі
Уткнуты ў белы пух залётных хмар.

І нас не адцягнуць ад шыб вагонных:
Дай хоць зірнуць, як за гудкамі ўслед
Па схілах гор чародкаю зялёнай
Збягаюць сосны проста пад кювет.

А вунь між скал з-за касачоў зялёных,
Разліўшы па даліне сіняву,
Нам бліснуў возера прастор гранёны,
Нібы тут неба кінулі ў траву!

Зноў пад цягнік плывуць масты і дамбы,
Высокія, ляцяць паўз нас хрыбты.
І ўжо фатографы, залезшы ў тамбур,
Старанна ловяць іх у аб'ектыў!

## ПАЛАТКА

Мы ведалі: не будзе тут і блізка
Такога інтэрната, як у Мінску.
На голым месцы мы раскрылі скатку,
І сярод стэпу — усплыла палатка.

Забарабаніць лівень па брызенту,
Бы ў інтэрнаце мы сядзім, студэнты.
Няхай няма у ім шырокіх вокан,
Ды люк адкрыеш — бачна ўсё навокал.

Хай часам стане ў чамаданах пуста,
І на палатку — хлеба пара лустаў,
Дык мы і іх нажамі усёроўна
На трыццаць два раты раздзелім роўна.

А вечарам, забыўшыся аб скрусе,
Пяем брыгадай як ляцелі гусі...
Хай стэп кругом, а ўсё-ж скажы мне, браце:
Ці-ж мы не у сапраўдным інтэрнаце?

## ЭКЗАМЕНЫ

Б'ешся ў кнігах — весела не весела,
Не звядзеш і воч, пакуль зара.
Хто не знае, што ў студэнтаў сесія —
Самая гарачая пара!

Тут-жа спаць няма калі таксама нам:
Збажыну не можа стэп трымаць.
Самыя цяжэйшыя экзамены
Сёння нам прыходзіцца здаваць.

Не між сцен, дзе свет быў убаку з-за іх, —
Тут за аудыторыю ўвесь стэп.
І не за сталом, а проста ў кузаве,
Дзе адзін прадмет — цалінны хлеб!

Хай няма у нас экзамінатара —
За яго радзіма тут сама...
І таму гуляць мы не аматары:
З плеч — кашулі, і савок трымай!

Вырваць з стэпу-б ураджаі слаўныя,
Дык дармо, што ўжо спіны не ўзняць...
Тут у нас экзамены дзяржаўныя,
І іх трэба вытрымаць на пяць!

## У ГАСЦЯХ У КАЗАХА

Сядзеў я ў старога казаха,
І той за сталом не пра цуд
Расказваў, бажыўся алахам,
Што бачыў ён Леніна тут.

Нібы, уцякаючы з ссылкі,
Ён рана аулам прайшоў
І доўга стаяў над развілкай
Старых палыновых шляхоў...

Я слухаў за кубкам кумыса,
А з рамкі на светлай сцяне,
З маленства знаёмы да рысы,
Глядзеў правадыр на мяне.

На століку чыстым прыкмеціў
Я стос розных кніг і папер —
Відаць, яшчэ вучацца дзеці
І, пэўна, у школе цяпер.

А вунь абажур у праходзе
Над лямпачкаю Ільіча,
Прыёмнік «Масква» на камодзе,
Прыкрыты агнём кумача.

І нумар нячытаны «Праўды»,
Прынесены сёння ў пакой...
Хто ведае: можа, і праўда,
Што Ленін праходзіў сюдой.

## РУКІ

Хлеб цалінны! Бы стэп затапіла...
Камбайнеру не трэба прывал.
Рукі ў веццi блакітных пражылак
Моцна цiснуць жалезны штурвал.

Да крыві хай натруцца далоні,
Ды, як сэрца, матор будзе біць...
Вось на гэтыя-ж рукі сягоння
Увесь свет, можа, нават глядзіць!

## ХЛЕБ

Стаю я — толькі з Казахстана,
Спыніць не знаю позірк дзе-б:
На ўсіх прылаўках ён, духмяны,
З пякарань мінскіх свежы хлеб.

Стаю, гляджу, і дзіўна неяк,
Як проста тут, каля латка:
Дастаў руб сорак сем капеек,
І бохан цёплы — у руках!

А мне на памяць раптам прыдзе
Мільганне шпалаў, стук калёс...
Ці-ж не за гэтым хлебам тыдзень
Мяне на дошках поезд трос?

Не праз яго-ж у стэпе хіба
Каля Табола у разліў
Дзень да цэнтральнае сядзібы
Я гразь цалінную мясіў?

А на таку ў гарачым жніўні,
Як з хмар ліў раптам дождж густы,
Садраўшы з плеч плашчы, ад ліўня
Хавалі крыссем мы бурты.

Тут ночы, хоць цяжэлі вейкі,
Я мёрз пад свіст вятроў тугіх...
І хай каштуе хлеб капейкі,
Мне-ж ён — надзвычай дарагі!

Мікола ГАМОЛКА



# ЦЫТАДЭЛЬ НЕБА

*Навукова-фантастычны раман*

Раздзел трынаццаты

Мал. П. Каліміна.

**20 мая 196... года.**

Віктар казаў праўду: я кахаю! Сустрэў яе сёння неспадзявана і — разгубіўся. Чаму я такі нерашучы? Зноў не змог пагаварыць з незнаёмай. Толькі паспеў пакланіцца, — і яна знікла ў будынку «Радыёлакацыя неба». Відаць, яна там працуе.

Кажуць, у каханні трэба быць таксама смелым. Я не памыліўся ў той памятны дзень — дзяўчына вельмі прыгожая! Я ўбачыў яе ўсмешку. Не, яна не была пагардлівай. Гэта была ўсмешка сябра, які рад сустрэчы. Але можа я памыляюся?..

Я пакахаў яе з першага позірку — яе твар, голас, яе дзявочую непакорнасць. Адчуваю: яна мая спадарожніца.

**23 мая.**

Позна ўвечары вярнуўся Віктар, узлаваны, устрывожаны. Я запытаўся: «Што з табою?» Нічога не адказаў, распрануўся і лёг на пасцель. Я доўга стаяў ля яго ложка, стараючыся зразумець, што з ім здарылася...

**24 мая.**

Віктар прачнуўся раней за мяне. Я паглядзеў на яго твар. Асаблівых змен на ім не прыкмеціў, толькі яго круглыя блакітныя вочы, здалося, страцілі бляск. Ці вытрымае ён сёння трэніроўку? Ужо двойчы яго не дапускалі ў цэнтрыфугу. Калі сарвецца і сёння, ён не пройдзе камісіі.

Я памыўся і, вярнуўшыся ў пакой, сказаў: «Віктар, ты на сябе не падобны. Што здарылася?»

Ён махнуў рукой і з роспаччу прамовіў: «Ведаеш, прыехала Наташа». «Дык чаго-ж ты нос павесіў — радавацца трэба!»

---

Пачатак у № 8 часопіса

Ён падышоў да мяне, схапіў за плячо і са злосцю спытаў: «Прызнайся, ты заваражыў Наташу?» Я здзівіўся: ці не здурнеў ён? Што ён гаворыць?

Віктар растлумачыў: «Сустрэліся ўчора. Яна не захацела нават гаварыць са мной. А яна-ж мяне выратавала ад смерці. У нас такая была перапіска...»

Я ўстрывожыўся. Няўжо віктарава Наташа і мая незнаёмка — адна і тая-ж дзяўчына?.. Я ў гэта не хацеў верыць. Віктару сказаў: «Ты глупства вярзеш, дружа. Адумайся, ці-ж магла дзяўчына, сустрэўшы выпадкова нават прыгожага хлопца, адразу выказаць свае пачуцці яму, забыцца аб тым, з кім сябравала?».

Ён падумаў, згадзіўся са мной і, здавалася, крыху супакоіўся. Калі мы пайшлі ў сталовую, ён усё мяне распытваў пра тую дзяўчыну, якую я сустрэў ля возера ў час навальніцы, цікавіўся яе ростам, колерам валасоў, адзеннем. Я, прызнацца, крыху гаварыў не так. Думаў, няхай чалавек супакоіцца.

**27 мая.**

Сёння субота. Дзень прайшоў непрыкметна. Мы трэніраваліся ў надзяванні і раздзяванні пусталазага касмічнага касцюма. Выдатны падарунак падрыхтавалі нам інжынеры. Касцюм зроблены з такога матэрыялу, які не гарыць, слаба награецца, затрымлівае касмічныя праменні і—самае важнае — вельмі трывалы.

Скафандр таксама спадабаўся нам: спераду ён шкляны, ззаду металічны. Пры касцюме маецца мініятурная рацыя. Мы свабодна размаўляем адзін з адным. Лёгка дыхаць: ззаду прымацаваны балон, у якім ёсць вялікі запас паветра. Канструктарам і інжынерам давялося многа папрацаваць, каб вырашыць пытанне палёту ў такім касцюме ў беспаветранай прасторы космаса.

Раней касманаўтам прапанавалася браць з сабой асобны пнеўматычны пісталет. Але зараз адмовіліся ад гэтага. Мы будзем мець рэактыўны рухавічок, з дапамогай якога значна лягчэй перасоўвацца ў прасторы. Спецыяльная атамная батарэя будзе даваць ток для ручнога ліхтара і рацыі.

Мы паспрабавалі хадзіць у такім касцюме па зямлі. Дзе там — вельмі цяжка, нязручна! Затое на Месяцы мы будзем крочыць у ім лёгка, як па Зямлі ў звычайнай вопратцы. У гэтым няма нічога дзіўнага — там мы будзем важыць у шэсць разоў менш, чым цяпер. На Месяцы слабая сіла прыцяжэння. Некалі на ім было паветра. Але цяпер яго там няма, а калі ёсць, дык вельмі разрэджанае і то дзе-небудзь у глыбокіх кратэрах. Куды-ж яно падзелася?

Малекулы паветра рухаюцца надзвычай хутка, прыкладна, 2,5 км у секунду. А такая хуткасць дастатковая для адрыву ад Месяца і рассейвання ў міжпланетнай прасторы. Вось, мабыць, паветра і пакінула назаўсёды свайго слабавольнага гаспадара!

Пасля работы я пайшоў у парк. Песні, музыка. Над галавой — зялёны дах, утвораны шатамі дрэў. У прасвеце бачу зоркі, а ў поўночна-заходнім баку неба вісіць зіхатлівы Юпітэр.

Я падышоў да танцавальнай веранды. Тут было многа моладзі. Кружыліся пары. Аркестр іграў кракавяк. Калі танец закончыўся, паўз мяне прайшлі дзве дзяўчыны. У адной з іх я пазнаў «незнаёмку».

Сэрца маё замёрла — яна тут! Я магу яе бачыць. Ужо адна прысутнасць гэтай дзяўчыны давала мне найвялікшую радасць. Я глядзеў на яе, але яна, мабыць, мяне не заўважала.

Не таюся, я хацеў хоць трохі падабацца гэтай дзяўчыне. Я шукаў з ёю сустрэчы, жадаў звярнуць на сябе ўвагу. Няўжо я не варты яе? Гэтым вечарам спадзяваўся здзейсніць сваю мару — пазнаёміцца з ёю.

Захацелася блізка падысці да дзяўчыны. Я стаяў побач. Яна размаўляла з сяброўкаю, прыцішана смяялася.

Аркестр зайграў «Амурскія хвалі». Гэты старадаўні вальс заўсёды выклікаў у мяне пачуцці нейкага ўздыму, радаснага парывання. Не ведаю, адкуль з'явілася смеласць, але я раптам падышоў да дзяўчыны, запрасіў яе на танец. Дзяўчына пайшла са мною ў круг.

— А я вас ледзь пазнала, — сказала яна, даверліва паклаўшы руку на маё плячо.

Мы закружыліся ў танцы. Не, гэта не быў сон. Я адчуваў яе блізкасць, дыханне, позіркі нашых вачэй часта зліваліся ў адзін доўгі, праніклівы і мабыць толькі нам зразумелы позірк. Так, я танцаваў з ёю! Мая мара здзейснілася.

Не ведаю, ці здагадвалася дзяўчына аб маіх пачуццях, калі-ж не здагадвалася, дык яна магла, здаецца, нават чуць, як моцна, усхвалявана б'ецца маё сэрца.

Я запытаў:

— Вы помніце той дзень, калі нас застала ля возера навальніца?

— Вядома, помню, — шчыра адказала яна.

— Вы смелая... — прамовіў я, — адна ў лесе, навальніца з громам— а вам хоць-бы што!

— Якая-ж тут смеласць? — запярэчыла яна.

— Можа, вам было тады цяжка? — выказаў я здагадку.

— Давайце не будзем успамінаць аб тым, — папрасіла дзяўчына.

Нечакана гукі аркестра абарваліся: танец закончаны. Я з дакорам паглядзеў на музыкантаў. Якія нездагадлівыя людзі! Перапынілі танец у той самы час, калі мы разгаварыліся.

Правёўшы дзяўчыну да яе сяброўкі, я адышоў у бок. Раптам перада мною, як з-пад зямлі, вырас Віктар. Позірк вачэй яго быў нейкі дзікі, калючы.

— Алег,— сказаў ён, і я заўважыў, што Віктар з цяжкасцю стрымлівае злосць.— Я хачу ведаць, якое ты маеш права адбіваць у сябра дзяўчыну?

Я паціснуў плячыма:

— Якую?

— Ты танцаваў з Наташай! Я забараняю падыходзіць да яе! Чуеш?

— Віктар, не крычы. Я-ж не ведаў, што гэта Наташа.

Ад Віктара пахла віном. Я баяўся, што ён пачне скандаліць і, узяўшы яго пад руку, адвёў у бок.

— Ты мне зубы не загаварвай,— не мог супакоіцца Віктар.— Так не робяць сумленныя людзі...

— Віктар, адумайся, што ты гаворыш! Мы з ёй сустрэліся выпадкова, я не ведаю нават яе імя.

— Папярэджваю, не чапляйся да яе! Інакш, я за сябе не адказваю.

— Ты многа на сябе бярэш,— не на жарт узлаваўся я.

Ён сярдзіта чмыхнуў носам, адышоў у бок.

Якая непрыемная гісторыя! Я задумаўся. Што рабіць? Вядома, калі Наташа сябравала з Віктарам, аб блізкім знаёмстве з ёю не можа быць і гутаркі.

Мне стала вельмі сумна. Вочы міжвольна шукалі ў натоўпе Наташу.

Дзе яна? Каля яе я ўгледзеў Віктара. Ён кланяўся, запрашаў на танец. Але Наташа адмовілася ісці.

Ну, вось, атрымай, хлопчык, здачы! Гэта мяне падбадзёрыла, прымусіла падумаць аб іх адносінах зусім іншае.

Я ўбачыў, як Віктар схапіў Наташу за руку і пацягнуў яе да агарожы пляцоўкі. Яна ўдарыла па яго руцэ, з абурэннем нешта загаварыла. Нейкае пачуцце падштурхоўвала мяне падысці да іх, стаць на абарону дзяўчыны. Але я стрымаўся.

«Паміж імі была дружба,— разважаў я,— і ў сваіх адносінах няхай разбіраюцца самі...» Я пакінуў танцавальную пляцоўку. Доўга адзін блукаў па алеях парка і вярнуўся дамоў толькі ў поўнач.

**28 мая.**

Віктар злуецца і амаль не размаўляе са мною. Дзівак! Я жадаю яму толькі дабра. Аб Наташы — ні слова. Мне яе таксама хочацца забыць, але гэта, мабыць, вельмі цяжка. Яна разбудзіла ў душы нейкае невядомае мне да гэтага часу пачуцце. Я нават пачынаю злавацца на самога сябе. Няўжо я такі бязвольны? Да таго-ж, я даў слова Віктару, што не буду перашкаджаць яму ў адносінах яго да дзяўчыны.

Але нават добра разумеючы гэта, я колькі разоў лавіў сябе на думках аб Наташы. Сярод людзей я міжвольна шукаў яе постаць...

Сёння ў інстытуце міжпланетных зносін на чарговай лекцыі нам паведамілі, што ў нашай ракеце будзе пастаўлены дадатковы рухавік, заснаваны на фатоннай энергіі. Прынцып яго дзеяння просты: цягавая сіла карабля ўзнікае непасрэдна ад прамяністай энергіі ядзернай рэакцыі. Мы шчыра ўзрадаваліся. Якая цудоўная перамога нашай навукі!

Я не толькі штурман, мне даводзіцца авалодваць прафесіяй радыста, картографа, метэаролага і нават кіноаператара. Віктар — другі штурман карабля, у дадатак, ён абавязаны будзе весці фізічныя і хімічныя доследы, збіраць мінералагічныя і петраграфічныя калекцыі на Месяцы.

Які будзе экіпаж, мы яшчэ не ведаем. Цяпер ад нас патрабуюць аднаго — вучобы, трэніровак, ведаў.

**10 чэрвеня.**

Сёння не займаліся. Раніцай усёй школай выехалі на ракетадром. У цэнтры поля ўбачылі аграмадную металічную вежу, у сярэдзіне якой стаяла хвастом уніз ракета. Каля вежы хадзілі людзі, рухаліся аўтамашыны, цягачы. Нам паведамілі: гэта аўтаматычная ракета «Алмаз». Сёння будзе дадзены старт, і яна стане штучным спадарожнікам Месяца.

Сотні апаратаў і прылад, устаноўленых на ракеце, дадуць магчымасць лепш вывучыць Месяц, выбраць надзейную пляцоўку для пасадкі пасажырскага касмічнага карабля. Як гэта правільна, разумна! Мы не маем права рызыкаваць жыццём чалавека. Кожны наш крок у нязведанае павінен быць прадуманы, надзейны. Ракета «Алмаз» пракладзе першую трасу да Месяца, разведае яе. Колькі перашкод і нечаканасцей можа ўзнікнуць на шляху палёту! Самым небяспечным для ракеты з'яўляецца, вядома, сустрэча з метэорамі. Мы іх называем касмічнымі снарадамі.

Нам раздалі карты, на якіх нанесена траса ракеты. Тут разлічана ўсё да драбніц — хуткасць, кожная секунда палёту, участкі касмічнай прасторы. На ёй дакладна паказаны шляхі метэорных патокаў. Іх трэба абмінуць! Інакш праца соцень людзей, якія стварылі ракету, загіне марна.

Хутка час старту. І вось — аграмадная вежа падзялілася на дзве роўныя часткі, якія па рэйках адсунуліся далёка ў бок. На полі на шэрай бетаніраванай пляцоўцы застыла ракета. У яе тонкае прыгожае цела, яна падобна на стралу, на аграмаднае казачнае кап'ё.

Адзін за адным мы зайшлі ў бетонныя падземныя ўкрыцці. Цяпер мы назіралі за ракетадромам праз тоўстае кварцавае шкло ды праз спецыяльныя падзорныя трубы.

І раптам — што гэта — абвал, землетрасенне? Бетонны дзот цяжка здрыгануўся. Грамавы, раскацісты гул запоўніў прастору. Мільганулі і тут-жа пагаслі ў клубах дыму снапы барвовага шалёнага полымя. Мы павярнуліся да радыёлакатара. На мяккай белесаватай паверхні яго імкліва нёсся ўверх чорны язычок.

У добры час! Разведка паслана. Цяпер можна рыхтаваць сур'ёзны штурм вялікага шостага акіяна і яго цытадэлі — Месяца. Мы — першыя капітаны касмічных крэйсераў, павядзем іх наперад смела і ўпэўнена. Зоркі будуць нашымі маякамі, сэрцы — запаветным компасам.

Ракета «Алмаз» трохступенная. Першыя дзве ступені з паветрана-рэактыўнымі і праматочнымі рухавікамі адпрацавалі і адваліліся. Мы бачым, як яны апускаюцца на Зямлю на парашутах. Цяпер у ракеце працуе атамны рэактар, куды ўпырскваецца вадкі вадарод. Хуткасць палёту павялічваецца. Тры... чатыры... пяць кілометраў у секунду. А вось і праектная — 11,2 кілометра!

Як дакладна працуюць аўтаматы! Радыёімпульсы лакатараў будуць суправаджаць ракету на ўсім яе шляху. Калі спатрэбіцца змяніць курс палёту, ён будзе зменены. І гэта зробіць чалавек з Зямлі, знаходзячыся далёка ад касмічнага карабля...

Цяжка перадаць пачуцце, якое ахапіла нас. Мы крычалі «ўра!», абдымаліся, віталі адзін аднаго з перамогай. І як было не хвалявацца! Услед за гэтай ракетай паляціць другая, у якой будуць людзі, астранаўты.

**13 чэрвеня.**

«Алмаз» дасягнуў Месяца. Палёт прадаўжаўся крыху больш 50 гадзін. Атрыманы першыя тэлевізійныя перадачы. Мы ўбачылі адваротны бок Месяца. Некаторыя вучоныя сцвярджалі, што там яго паверхня мае форму ўвагнутай чашы. Няпраўда! Тыя-ж самыя горы, кратэры, шчыліны, чорныя правалы — малюнак пустэльнасці і безжыццёвасці.

«Алмаз» стаў спадарожнікам нашага начнога свяціла. Нарэшце мы ўпершыню ўбачылі з далечыні сваю Зямлю. На тэлеэкранах яна з'явілася перад намі ў выглядзе блакітнага шара з прыплюснутымі полюсамі. Дык вось ты якая, маці-Зямля! Цяпер мы бачым і твой твар, такі велічны і прыгожы, што доўга не можам адарвацца ад тэлевізараў.

Сёння ва ўсіх газетах апублікавана паведамленне Акадэміі навук СССР аб старце міжпланетнага карабля «Алмаз». На вуснах усіх — імёны канструктараў і вучоных, дзякуючы намаганням якіх заваявана новая перамога. Нават цяжка сабе ўявіць грандыёзнасць падзеі, што адбылася.

Мы падышлі блізка да Месяца. Бачым яго грозныя бастыёны — востраканечныя горы, нізіны. Табой, Месяц, маглі любавацца закаханыя і паэты, але хадзіць па тваіх прасторах будуць толькі смелыя, з мужнымі сэрцамі людзі.

Ага! Не магу без хвалявання пісаць. Позна ўвечары адбыўся небывалы ў гісторыі чалавецтва салют. З ракеты «Алмаз» роўна ў 22 гадзіны па маскоўскаму часу на неасветленую частку Месяца былі пасланы не-

калькі дзесяткаў снарадаў са спецыяльнай агністай сумессю. Усюды, у нас, у Азіі і Афрыцы, людзі назіралі за небывалымі фіялетава-сінімі ўспышкамі. Здавалася, на Месяцы пачалася навальніца... Агністыя выбухі і сполахі нагадвалі маланкі. Усе людзі пераканаліся — ракета дасягнула Месяца!

Гэта быў трыумф савецкай навукі, найвялікшая перамога людзей над прасторай. Пройдзена 380 тысяч кіламетраў! Я так расхваляваўся, што доўга не мог заснуць. Ці бачыла ўспышкі на Месяцы Наташа? Хацелася ведаць, як яна назірала касмічны феерверк? Хоць на душы — радасць, урачыстасць, недзе пад сэрцам жыве туга. Я раней амаль ніколі не ведаў гэтай тугі. Як адчапіцца ад яе? Мабыць, зрабіць гэтага я не здолею. Туга так прывязалася да мяне, як наша ракета да Месяца! Няўжо яна стане маім спадарожнікам? Прызнацца, я баюся гэтага.

**15 чэрвеня.**

Мы да драбніц вывучаем трасу свайго палёту. Кожны дзень разлікі, задачы, табліцы, вылічэнні. Самастойна складаем нябесныя карты. Завучаны на памяць графік рэйса. Калі-б мяне разбудзілі ноччу і спыталі, з якой хуткасцю будзем ляцець на адлегласці 120 тысяч кіламетраў ад Зямлі, я адразу даў-бы беспамылковы адказ. І не дзіўна! Так доўга і настойліва мы рыхтуемся да адказнейшага моманту ў нашым жыцці. Дарэчы, мы будзем ляцець да Месяца не 50 гадзін, як ракета «Алмаз», а 30 гадзін. А тлумачыцца гэта асаблівасцямі астранаўтыкі. У час палёту мы ўключым фатонныя рухавікі, якія дапамогуць павялічыць хуткасць ракеты да 15,2 кіламетра ў секунду.

У апошнія дні часта блукаю па лесе. Яго працяжны, крыху тужлівы шум супакойвае, напаўняе нейкай лёгкасцю і бадзёрасцю. Мне здаецца, каб у мяне былі раны, я іх гаіў-бы шумам лесу, яго цішынёй і прахаладай.

Некалькі разоў прыходзіў да ляснога возера, шукаў вачыма знаёмую постаць. Яе не было. Я чакаў, спадзяваўся, і мае наведванні возера зрабіліся яшчэ болей частымі.

Сёння ў мяне асабліва радасны настрой. Нам паведамілі, хто ляціць першым рэйсам на Месяц. Я лячу, лячу да зор! Разам са мной рыхтуецца ў рэйс Віктар. Начальнікам экспедыцыі назначаны Іван Іванавіч Дзянісаў.

На душы ў мяне — радасны непакой перад сустрэчай з чаканым, крыху загадкавым будучым днём. Я цалкам аддаўся марам. Абходжу знаёмыя сцежкі, лугавіны, лясныя сцяжынкі.

Я хутка пакіну цябе, бор, буду сумаваць па табе! Чуеш?

Меднастволы, з цёмназялёнай чупрынай, ён глядзіць на мяне, нічога не адказвае, толькі па-ранейшаму шуміць, шуміць... Можа гэта ён уздыхае, шкадуе аб росгані? Невядома.

Я не прыкмеціў, як падышоў да возера. Над кручай — высокая беланогая бярозка, непадалёку — шэры, патрэсканы камень. Знаёмая сэрцу мясціна! Я міжволі прысеў на камень. Шумелі, каціліся на пясчаны бераг хвалі. Над галавой, пад ледзь прыкметнай вясёлкай, плылі хмары. Я люблю пазіраць на ціхае, спакойнае неба. Яго прастора, халаднаватыя глыбы воблакаў чаруюць сэрца і як-бы астуджаюць пачуцці.

Але па-асабліваму прыгожым становіцца неба тады, калі раптам яно загрукоча, загаворыць магутным, уладным голасам. Хмары ў такі час робяцца гулкімі, як звон. І хоць іх паласуюць вострыя стрэлы ма-

ланак, яны не распаўзаюцца, а плывуць дружна, пагрозліва, і цэлыя вадаспады вады абрушваюцца на палі, лугі, дубровы...

Колькі я сядзеў ля возера, не ведаю. Але нечакана адчуў прыемны подых ветру. Ён даносіў да мяне не вільгаць возера, а пахучую вільгаць далёкіх лугоў, водар кветак.

Я зірнуў на неба. Уга! Блізка навальніца. Хоць вецер не быў моцны, але хмары ў вышыні неспакойна варочаліся, закручваліся ў чорны гугі вузел. І не паспеў я ўсхапіцца на ногі, як па лісцях дрэў, па траве закрапаў дождж.

У гэты-ж момант пачуліся дзявочыя галасы. Я ўздрыгнуў. З маладога ельніку выбегла некалькі дзяўчат. Яны мітусіліся, шукалі пад дрэвамі схованкі. Нарэшце падбеглі пад старую сасну. Адна дзяўчына адлучылася ад сяброўак, заспяшалася да разгалістага нахіленага дрэва.

Вось дык нечаканасць! Гэта-ж Наташа! Я подбегам накіраваўся да нашага знаёмага дрэва. Яна пачула крокі, аглянулася ў мой бок і ўзрадавана закрычала: «Хутчэй! Хутчэй!»

Мокры, задыханы, я прыпыніўся.

— Як вы сюды трапілі? — запытаўся я.

Яна адказала:

— Хаваюся ад дажджу! І дзіўна — зноў мы з вамі разам...

— Дзякуючы навальніцы...

— Так,— пацвердзіла Наташа, памаўчала нейкую хвіліну, потым дадала: — А ведаеце — гэта добрая прыкмета. Прабачце, як ваша імя?

— Алег.

— Прыгожае імя...

— А я і не заўважаў,— пажартаваў я.

Яна з нейкім сумам і дакорам адказала:

— Імкненне не заўважаць — дрэнная рыса ў людзей. Паступова яны звыкаюцца з гэтым і становяцца чэрствымі.

— Вы мяне ў нечым абвінавачваеце? — павярнуўся я да Наташы і паглядзеў проста ў яе карыя з залатой іскрынкай вочы.

— Так! — адказала яна.— Чаму вы збеглі з танцаў? Помніце?

Я апусціў галаву.

— Не ўмею танцаваць,— нарэшце прамовіў я, каб што-небудзь сказаць.— І мне стала сумна...

— Я сумавала таксама... А вы, мабыць, па сваёй прывычцы не заўважылі?

— З вамі быў Віктар... А я сябрам не перашкаджаю.

— Ах, вось вы які! Клапоціцеся пра Віктара, а пра мяне не падумалі? — яна, хоць яшчэ ішоў дождж, пабегла да сяброўак.

Дзяўчаты весела смяяліся.

Я таксама выйшаў з-пад сасны і паволі пакрочыў па беразе возера. Наташа глядзела мне ўслед, і я інстынктыўна адчуваў — глядзела дакорліва і сумна. Мне хацелася спыніцца, паклікаць яе, каб пайсці разам пад гэтым дажджом. Але я нават не павярнуўся. Ззаду звінеў дзявочы смех, уздыхала пад кручаю возера.

Не, я не быў у роспачы. Я зразумеў, што адбылося жаданае цуда — каханая дзяўчына звярнула на мяне ўвагу. Цяпер у гэтым не было ніякага сумнення. Мне хацелася ісці на край свету, скакаць і спяваць, цалаваць усіх сустрэчных, моцна паціскаць ім рукі ў падзяку за шчасце.

Шумела навальніца. Не толькі ў небе, але і ў маёй душы... І вось на захадзе парваліся, рассунуліся хмары, і ў іх прасвеце па-маладому весела заззяла сінява. Яна была яркая, свежая і нагадвала чысціню марскіх прастораў.

## Раздзел чатырнаццаты

У сталічным прэс-клубе было поўна народу. Тут нараджаюцца сенсацыі і самыя неверагодныя выдумкі, якімі так часта запаўняецца ўся прэса Штатаў. Сюды сабраліся карэспандэнты соцень газет з усіх канцоў свету.

Прэс-канферэнцыю будзе весці Поль Арноль. Ён павінен расказаць аб мэце палёту ракеты «Анаконда» да Месяца, адказаць на пытанні.

Прэс-канферэнцыя яшчэ не пачалася, і ў зале было шумліва. Але нават і ў такой абстаноўцы паміж карэспандэнтамі ішоў ажыўлены абмен навінамі. На століках трашчалі пішучыя машынкі, круціліся дыскі магнітафонаў. Нехапала месц: былі заняты ўсе праходы і нават верхнія балконы.

І вось на ўзвышэнні, дзе стаяў стол прэзідыума, упрыгожаны двума сцягамі (зорна-паласатым, нацыянальным, і сінім, галоўнага горада Штатаў), выйшаў прэзідэнт прэс-клуба містэр Дэвід у суправаджэнні Поля Арноля, Макса Вэла і Роба Пітэрса.

У зале пачуўся свіст, рэдкія апладысменты.

Містэр Дэвід, сутулаваты, з маршчыністым, сухім тварам, паставіў на стол традыцыйную срэбную кошку з круглымі вялізнымі вачыма. Гэта азначала: усё, аб чым тут будзе сёння расказвацца, не з'яўляецца сакрэтам і можа смела каментыравацца ў друку.

Уступная прамова містэра Дэвіда была кароткая, строга афіцыйная. І вось настала чарга Поля Арноля. Ён узышоў на трыбуну важным, упэўненым крокам, задаволена ўсміхаючыся.

— Пан старшыня, лэдзі і джэнтльмены! Я разумею цікавасць, якую праяўляюць ва ўсім свеце да нашага незвычайнага падарожжа,— пачаў ён,— Калумб адкрыў некалі Новы свет — Амерыку. Мы ўзялі на сябе больш цяжкі абавязак — адкрыць для Штатаў Месяц. Заўтрашні дзень — выключны дзень у маім календары. Я з сваімі калегамі пакідаю Зямлю. 380 тысяч кіламетраў — небывалы шлях. Ён усыпаны золатам, лаўровымі вянкамі славы. Мы прывяжам гэтыя вянкі сюды, у наш слаўны горад. Я просты чалавек. Мой бацька — уладальнік невялікага кансервавага завода, мой сябра Макс па прафесіі — рыбак, Роб — грузчык. Усе мы пажадалі ўславіць імя нашых Штатаў, нашага вялікага горада. У нас — самая шчаслівая краіна. Мы выбіраем прэзідэнтамі людзей самых розных прафесій. У нас можна легчы спаць бедняком, а назаўтра прачнуцца багатым. Роўна сто гадзін палёту ракеты дадуць нам 5 мільёнаў долараў. У нашых Штатах — усё для чалавека справы, для яго шчасця і багацця.

Зусім іншыя парадкі заснавалі камуністы. Вы ведаеце, лэдзі і джэнтльмены, што Саветы паслалі ракету да Месяца. Яна там і засталася. Вы хочаце ведаць прычыны? Калі ласка — ракеце нехапіла на зваротны шлях паліва.

Нам вядома, што хутка рускія пасылаюць на Месяц другую ракету, на гэты раз з пасажырамі. Але заўважце, экіпажу не паабяцана ніякай

узнагароды. Гэта, я скажу, бесчалавечна, жорстка! Яны выхваляюцца сваімі ідэямі. А што такое ідэя? Глупства. Па-мойму, комуністы дрэнныя іменна тым, што яны прымушаюць людзей думаць аб шчасці. А што такое шчасце без золата? Прывід. Падман.

Мы не дэмагогі, мы людзі справы. Можаце паведаміць у сваіх газетах,— падкрэсліў Поль Арноль,— што роўна праз трое сутак сцяг Штатаў будзе красавацца на Месяцы, над кратэрам Каперніка. Пасля гэтага няхай ляцяць усе, каму ўздумаецца, але ім давядзецца падпарадкоўвацца законам Штатаў. У дзень стварэння сусвету бог завяшчаў Месяц нам. Мы чэсна выканаем свой абавязак, возьмем сабе ўсё тое, што нам па праву належыць... Няхай жывуць Штаты! Няхай жыве прэзідэнт!..

Нельга сказаць, што прамова Поля Арноля не выклікала пэўных пачуццяў у журналістаў. Яны даволі шчыра і доўга апладыравалі яму, выкрыквалі прывітанні, энергічнымі жэстамі выказвалі сваю павагу і прыхільнасць. Некаторыя журналісты пакінулі залу і спешна накіраваліся ў рабочыя пакоі, каб перадаць па тэлеграфу, тэлетайпах і тэлефонах у свае газеты першыя весткі аб сенсацыйным выступленні.

Стол прэзідыума, за якім сядзелі касмічныя падарожнікі, быў акружаны натоўпам фотарэпарцёраў. Пстрыкалі фотаапараты, асляпляльна ўспыхвалі «бліцы».

Па традыцыях прэс-клуба ў хуткім часе адкрыўся форум. Да Поля Арноля пасыпаліся карткі з пытаннямі. Журналісты, як вядома, вынаходлівыя людзі. Яны задалі нямала хітрых пытанняў, над якімі Полю Арнолю давялося паламаць галаву.

Поль урэшце выбіўся з сіл. Яго лоб пакрыўся потам. Ён стомленым позіркам акінуў залу і ўзяў у рукі чарговую картку. Тое, што ён прачытаў, прымусіла яго насцярожыцца. Адразу знікла адчуванне стомленасці. У картцы было напісана: «Брат! Сёння вечарам у Кложы 55 цябе чакае Начны Ястраб. Прыходзь! Не забывай, ты даў клятву сваёй крывёй». Унізе карткі быў змешчаны малюнак чэрапа са скрыжаванымі пад ім кавалерыйскімі шаблямі і стаяў выразны подпіс «Браты Д'ябла».

Поль расхваляваўся. Яшчэ чаго нехапала! Узнікла трывога, што важакі і заправілы клана могуць перашкодзіць здзейсніць запаветную думку. «О, вялікі божа! Пранясі ліха», — прашаптаў Арноль і схаваў картку ў кішэню.

Заключная частка прэс-канферэнцыі прайшла менш цікава. Поль Арноль відавочна быў не ў настроі.

Усё-ж, калі прэзідэнт прэс-клуба стукнуў малатком, абвясціўшы заканчэнне форума, Поля акружыў цесным колам узбуджаны натоўп журналістаў, рэпарцёраў, якія ўрачыста вынеслі яго з прэс-клуба на руках. На шыю Арнолю быў павешаны вялізны вянок з надпісам: «Вялікаму нацыянальнаму герою Штатаў, які пакіне першы чалавечы след на Месяцы».

Сам прэзідэнт прэс-клуба Дэвід праводзіў Поля дадому.

* * *

Роўна ў дванаццаць гадзін ночы Поль Арноль спыніўся ля змрочнага будынка з нейкімі вычурнымі нелюдзямі, высечанымі з каменя, якія нібы ахоўвалі парадны яго пад'езд. На сёння ў клане быў устаноўлены пароль «Судны дзень». Поль падышоў да шкляных дзвярэй. З акенца выглянуў «вартавы».

— Судны...— прамовіў Поль ціхім, як-бы здаўленым, голасам. Другую частку пароля гаварыць не дазвалялася.

«Вартавы», апрануты ў балахон і маску, націснуў кнопку. Дзверы адчыніліся. Поль прайшоў праз пустынную, без мэблі залу і спыніўся перад вузкімі дзвярамі, абабітымі жоўтай скурай. Тут быў уваход ва ўнутраную залу Кложы. Поль па рытуальнаму звычаю пастукаў у дзверы і пазногцем пальца накрэсліў на ёй круг.

— Заходзьце! — пачуўся рэзкі, непрыемны голас.

Зала, куды ўвайшоў Арноль, была значна меншых памераў, чым першая. Яна таксама была напалову пустая, ледзь-ледзь асветленая. У куце справа гарэў знаёмы неонавы крыж. Усё гэта стварала нейкую трывожную таямнічасць. Хоць Поль не быў баязліўцам, па яго целе прабеглі непрыемныя дрыжыкі.

Здавалася, у зале нікога не было. Але вось у адным кутку нешта заварушылася, засапло. Поль прыгледзеўся. Узмахам рукі клікаў яго да сябе ўладар Кложы. Поль пакорліва падышоў, пакланіўся і зрабіў левай рукой кланаўскі знак прывітання.

— Брат! — сказаў доўгі, сухі чалавек у чорным балахоне і жахлівай масцы.— Я твой суддзя і ўладар — Начны Ястраб. Ты наш верны і надзейны кавалер. Табе добра вядома: Штаты ў небяспецы. Трэба знішчыць чорных і чырвоных пачвараў на Зямлі. Ты адзін з тых, хто гатовы гэта зрабіць. Калі-б усе кавалеры былі такія, як ты, роўна праз два гады мы кіравалі-б Штатамі. Добрыя словы сказаны табой сёння нашаму народу ў прэс-клубе. Брат,— чорны чалавек паварушыўся, узяў у рукі неонавы крыж.— Мы — людзі і беззаганнай сумленнасці і высакародства. Мы ганарымся тым, што адкрылі тайную вайну супраць чорных і будзем хутка ваяваць з комуністамі. Ты першы будзеш біць іх сваім бяспрыкладным подзвігам... Брат! Мы жадаем табе дабра, поспехаў, удачы. Але не крыўдуй на наша слова — ты можаш загінуць, і пяць мільёнаў долараў застануцца ў сейфах сенатара Уолтэра. Ты падумай, брат, як зрабіць лепш.

— Я заключыў кантракт,— адказаў з адчаем Арноль і тут-жа адчуў, што яго дрэнна трымаюць ногі: яны дрыжаць. — У выпадку... — ён запнуўся, потым дадаў: — грошы атрымае бацька.

— Брат! — усклікнуў чорны чалавек, і ў проразях маскі па-кацінаму засвяціліся вочы.— Ты зрабіў памылку. Мы ўсё ведаем! Заўтра ты пакінеш Зямлю і можа быць назаўсёды. Твае браты кавалеры будуць шанаваць тваё імя, будуць помніць твой подзвіг. Ты павінен завяшчаць пяць мільёнаў клану!

Поль Арноль ледзь не застагнаў ад роспачы. Ён адступіў крок назад, пахіснуўся і зваліўся-б на падлогу, каб не схапіўся за арэхавую падстаўку, дзе стаяў магнітафон і запісваў усю гэтую размову.

Доўгая чорная рука ўзняла барвовы крыж, паднесла да твару маладога джэнтльмена.

— Спакойна, брат, спакойна! Не забывайся, ты — кавалер клана. Мы прынялі тваю кроў, тваё цела.

Поль Арноль убачыў, як аднекуль з цемры выплыў белы ліст паперы, лёг перад ім на круглым маленькім століку.

— Падпішы, брат! Мы — не твой бацька, мы выцягнем альбо грошы альбо жылы з Уолтэра!

Полю здалося, што яму сніцца нейкі цяжкі, страшны сон, што пройдзе хвіліна — і ўсё гэта знікне, развеецца і ён з палёгкай уздыхне.

Але гэта быў не сон. Перад ім у поўзмроку віднелася чорная востраверхая маска, за якой быў схаваны хцівы, жорсткі твар Начнога Ястраба.

О, Поль ведае яго подзвігі! Некалькі дзён ён сам ганарыўся і выхваляўся перад сябрамі-клавалерамі гэтым важатым, лідэрам клана, здзіўляўся яго халоднай разважлівасці, бесцырымоннасці і жорсткасці.

А цяпер — калі ласка. Сам трапіў у яго бязлітасныя рукі.

Нічога іншага не прыходзілася рабіць, як пакорліва згадзіцца з патрабаваннем Начнога Ястраба.

Поль нахіліўся над столікам і, не чытаючы паперы, падпісаў яе.

— Брат! Будзь гатовы змагацца за свой Гонар, за свой Дом, за Клан і перавагу Белых. Ідзі!..— каркнуў старэчым, надтрэснутым голасам уладар клана і паставіў неонавы крыж у левы кут залы.

Полю здалося, што яго нехта ўдарыў ззаду. Ён сагнуўся і выбег з жахлівага будынка. Трэба ісці да першай стаянкі таксі. У Поля было адчуванне, быццам нехта нахабна, у прысутнасці людзей, залез у кішэню і забраў усе яго грошы.

Свежае паветра паступова вярнула Поля да сапраўднасці.

Нейкі халодны спалох і збянтэжанасць, якія завалодалі ўсім яго целам у будынку Кложы, зніклі.

Калі як след разважыць, нічога асаблівага не здарылася. Апека клана, вядома, была-б нежаданай. Калі-ж так атрымалася, што-ж, Полю трэба цяпер быць асабліва пільным, асцярожным і абавязкова вярнуцца на Зямлю.

«Калі буду жывы, — разважаў ён, — атрымаю ўсе пяць мільёнаў, з якіх, праўда, давядзецца выдзеліць сёе-тое Максу, Робу і, вядома, клану. Аднак я не буду ўсё-ж у пройгрышы. Не, Роб і Макс павінны атрымаць узнагароду яшчэ ў дарозе. Так, так. Тады іх долю атрымае клан, і я стану багатым!»

Поль паскорыў крок. Уперадзе на плошчы чакалі яго ззяючыя лакам раскошныя таксі. Тысяча д'яблаў! Не ўсё прапала, ёсць верныя гарантыі, што і Элсі і долары будуць яго.

Горад яшчэ не спаў. З бараў і рэстаранаў даносіліся песні, крыкі, звон шклянак. Але ён нічога не чуў і не заўважаў. Перад вачыма Поля не знікалі твары Макса, Роба, Элсі і барвовы неонавы крыж.

## Раздзел пятнаццаты

**20 чэрвеня.**

Віктар па-ранейшаму мала са мной размаўляе, трымае сябе падкрэслена строга, стрымана. Таму я часцей, чым калі-небудзь, звяртаюся да дзённіка — майго вернага таварыша. Я давяраю яму ўсе самыя таемныя перажыванні і пачуцці.

Я жыву добра. Калі асалодай жыцця называюць радасць, то яе ў мяне — хоць адбаўляй. У нашай Галактыцы нічога асаблівага не адбылося. Але на свеце ёсць шмат цікавага. Учора газеты паведамілі аб адлёце на Месяц першай касмічнай ракеты Штатаў. Камандзір карабля Поль Арноль сказаў даволі ваяўнічую прамову. Дзівакі! Мала таго, што яны ўжо раскупілі па частках Месяц, яны збіраюцца ўстанавіць пошліны для караблёў іншых краін, якія будуць туды прылятаць.

У Францыі, Балгарыі, Польшчы грамадскасць заяўляе супраць гэтага рашучы пратэст.

Дзеля чаго яны гэта робяць? Вядома, генералы марадь пабудаваць на Месяцы атамныя ваенныя базы, каб трымаць усю Зямлю пад страхам і пагрозай. Уладары кампаній і манаполій ужо намецілі месцы для сваіх руднікоў! Злосныя, нікчэмныя маньякі!

Прэса Штатаў узняла шалёнае выццё, ганьбіць совецкую навуку, услаўляе ракету «Анаконда». Я ў гэта не веру. Імкненне бізнесменаў да заваёвы Месяца тоіць у сабе якую-небудзь авантуру.

Хто такі Поль Арноль? Гавораць, гэта заядлы бізнесмен, але не прафесійны касманаўт. Ніхто нічога не чуў пра Макса і Роба. Я лічу, што хоць кіраванне ракетай амаль цалкам адбываецца з Зямлі, на барту трэба мець спрактыкаваных і ўмелых людзей. Хто ведае, што можа здарыцца на шляху ў космас.

Я хадзіў на касмадром. Заакіянская ракета якраз праходзіла 170-ю тысячу кілометраў. Спецыяльна вылучаныя інжынеры і вучоныя, якія сочаць за яе падарожжам, сказалі, што графік руху ракеты правільны. Тут быў таксама Іван Іванавіч Дзянісаў. Ён больш за іншых цікавіўся палётам заакіянскіх калег. Яно і вядома. Нялёгка было яму ўсведамляць, што не ён і яго таварышы першымі ступяць на незнаёмую планету.

Нечакана я заўважыў, як спахмурнелі яго вочы. У чым справа? Што такое з Дзянісавым? Не толькі я, але і другія паспелі заўважыць нечаканую змену настрою вучонага. Да яго падышоў галоўны інжынер ракетапарта.

— Што з вамі, Іван Іванавіч? — пацікавіўся ён.

— Прыгледзьцеся да ракеты. Мне здаецца, у ёй адсутнічаюць прапорцыі аб'ёму і велічыні,— сказаў ён трывожным голасам.

— Прашу вас, праверце...

Усе, хто быў у гэтай поўзмрочнай зале, сцены якой служылі своеасаблівымі пультамі кіравання будучымі касмічнымі караблямі, насцярожыліся.

Галоўны інжынер, высокі і добрадушны, падышоў да электроннай лічыльнай машыны, націснуў на нейкія кнопкі і застыў у чаканні. Хутка крайні з апаратаў пстрыкнуў, выкінуўшы на стол паперку з канчатковым вынікам развязанай задачы. Інжынер нейкі момант разглядаў яе, потым таропка падышоў да Івана Іванавіча.

— Глядзіце!

Дзянісаў наблізіў паперку да маленькай сіняй лямпачкі. Раптам ён рэзка ўзняў галаву, павярнуўся да служачых тэлевізійнай станцыі і вучоных.

— Сябры! Адно з двух — альбо нашы супернікі прымянілі для рухавіка ракеты нейкае невядомае нам інтэнсіўнае паліва, альбо... — ён раптам замоўк і, апусціўшы галаву, дадаў: — Вы самі павінны здагадацца...

— Не хопіць, каб вярнуцца назад? — спытаў Вілі Рэндол, які таксама быў тут і асабліва ўважліва сачыў за ходам палёту замежнай ракеты.

Іван Іванавіч зірнуў у вочы Вілі.

— Так, — выдыхнуў ён.

— Але-ж у ракеце зяць Уолтэра! — усклікнуў Рэндол. — Не можа быць, каб сенатар рызыкаваў яго жыццём...

— Э, мілы, пачакай,— спыніў яго Дзянісаў.— Тут можа быць пэўны разлік. Вы не памятаеце, як аднойчы там, у іх Атланце, адзін джэнтль-

мен, жадаючы разбагацець, застрахаваў сваю маці на 500 тысяч долараў і пасадзіў яе ў самалёт адной багатай кампаніі. І што-ж адбылося? Самалёт на шляху ўзарваўся. Загінула маці джэнтльмена і больш 30 пасажыраў. Што-ж джэнтльмен прыдумаў? Паслаў з маці багаж, у якім была схавана міна. Ён і атрымаў-бы гэтыя 500 тысяч долараў страхавых, каб не паспяшыў і не выкрыў самога сябе. Вось якія бываюць гісторыі ў іх свеце...— закончыў Іван Іванавіч і закурыў.

— Навошта Уолтэру багацець? — запярэчыў нехта. — Арноль — небагаты чалавек. Кажуць, бацька яго ўсяго толькі ўладальнік невялікага кансервавага завода.

— Значыць, ён — непажаданы жаніх... — адказаў Дзянісаў. — Адным словам, вясельнага падарожжа ў яго не будзе...

Такое адкрыццё Дзянісава насцярожыла ўсіх. Ракета «Анаконда» праляцела большую частку шляху і ўжо набліжалася да Месяца. Хваляванне за жыццё замежных калег паменшылася. Я ўжо, прызнацца, мала верыў у папярэджанне Дзянісава.

І вось позна ноччу вучоныя, інжынеры, штурманы сабраліся каля аграмаднага тэлевізара. На яркім трапяткім з закругленымі краямі квадраце па-ранейшаму рухалася ракета. Хуткасць яе з кожнай хвілінай павялічвалася. Так, яна падала на Месяц. Мы замерлі ў чаканні: хутка адбудзецца пасадка. Наша насцярожанасць была зразумелай. Гэта-ж адзін з самых адказнейшых момантаў палёту.

Экран мігціць, і ўжо амаль палову яго заняло адлюстраванневаспаватай паверхні Месяца. Яно робіцца ўсё шырэйшым і шырэйшым, грозна насоўваецца пірамідальнымі пікамі і шырокіміαваламі на экран. Вось ужо Месяц можна добра разгледзець.

— Ракета набліжаецца...— сказаў з нейкім смуткам у голасе Дзянісаў, калі «Анаконда» выйшла на рубеж тармажэння.

Я зірнуў на тэлевізар. На экране ў пярэдняй частцы ракеты як-бы выраслі вусы — пышныя, доўгія. Пачалося тармажэнне. Экран мігцеў, свяціўся, і на ім хвалямі прабягалі нейкія загадкавыя цені. Я паглядзеў на Івана Іванавіча. Ён паклаў на маё плячо руку, спакойна і бадзёра сказаў:

— Малайцы! Тармажэнне правялі правільна.

— Дзе-ж ракета? — усклікнуў нехта.

— Праверце факусіроўку экрана...

Прайшло некалькі хвілін напружанага чакання. І вось у правым баку экрана з'явілася шэрая сігара карабля. Ракета рабіла кругавы аблёт Месяца.

У мяне ў душы была і радасць, і нейкая горыч нездавальнення. Хацелася сказаць Дзянісаву з дакорам:

«Першынство за імі! Нам давядзецца толькі паўтарыць чужыя подзвігі. Эх, Іван Іванавіч!..»

Не ведаю, якім чынам, але ён адгадаў мае думкі. Падышоўшы да мяне, моцна сціснуў плячо, ціха сказаў:

— Не сумуй, хлопча, перамагае той, хто ўмее чакаць!

Экран на нейкі час патух. Адлюстраванне ракеты адсунулася за рамку, знікла. Хвіліна — і на экране, заняўшы ўсю яго плошчу, узнік твар чалавека з задаволенай, пагардлівай усмешкай на вуснах. На ім быў чорны з іголачкі смокінг, гальштук у буйную гарошыну. Гэта быў Поль Арноль. Зрабіўшы жэст, дастойны тэатральнага героя, ён загаварыў:

— Містэр прэзідэнт! Лэдзі і джэнтльмены Штатаў і ўсяго свету!

Слухайце і глядзіце нас! Мара чалавецтва здзейснена. Мы наблізіліся да Месяца, ён унізе пад намі. Хэло, сябры! Палёт прайшоў выдатна. Адчуванне ў нас самае найлепшае. Элсі, я веру і спадзяюся, ты бачыш мяне. Рыхтуйся да сустрэчы на Зямлі. Мы выканаем заданне Штатаў. Хай ведае ўвесь свет — з гэтай хвіліны наша краіна павялічваецца на адзін штат. Губернатарам яго па волі прэзідэнта прызначаюся я. Для ўсіх прылятаючых на Месяц караблёў устанаўліваецца строгі тарыф — за адну гадзіну стаянкі ў любым месцы плата 2 000 доларaў. Слухайце і глядзіце ўсе, усе! Першая перадача з барта карабля на Месяцы заканчваецца. Экіпаж ракеты рыхтуецца да пасадкі. Мы разгорнем палотнішча сцяга Штатаў у кратэры Капернік. Няхай жыве новы штат! Слухайце і глядзіце нашы наступныя перадачы.

Хоць Арноль гаварыў на англійскай мове, усе прысутныя ў гэтай зале разумелі яго. Алег паглядзеў на Рэндола. Гэты заўсёды спакойны чалавек сёння нерваваўся. Мускулісты прадаўгаваты твар быў напружаны, вочы звузіліся, і нязменны іх бляск нібы быў патушаны. Зморшчыны на высокім ілбе нібы паглыбіліся, зблізіліся.

Я зразумеў яго настрой. Ён ніколі не мог спакойна адносіцца да самазадаволеных балбатуноў.

Іван Іванавіч Дзянісаў стаў у баку, назіраў за ўсім і ўсміхаўся. Што ён думаў? Цяжка адказаць. Мне здаецца, што ён і пагардліва адносіўся да фанабэрыстага замежнага калумба, але ўсё-ж крыху шкадаваў яго. Няўжо ён угадваў яго незайздросны далейшы лёс? Ці верыў, што савецкая экспедыцыя пахваліцца не такімі подзвігамі? Дакладна на гэта я не мог адказаць.

Мы вярталіся дадому разам з Віктарам. Гаварылі, вядома, пра апошнюю падзею. Я адчуў у яго словах нейкую абыякавасць да будучага нашага палёту. «Усё гэта выдумка, непатрэбшчына! — гаварыў ён.— Месяц... Месяц».

Я, вядома, заспрачаўся з ім. Мы гаварылі горача, потым я спытаў яго: «Можа ты адмовішся ляцець? У цябе-ж такія думкі!»

Ён змоўк і некалькі хвілін ішоў як-бы аб нечым разважаючы. Пасля рэзка спыніўся, сказаў: «А ведаеш, дальбог, адмовіўся-б. Але ты ляціш, і я ад цябе не адстану!» «Баішся, што славу забяру ўсю?» — спытаў я з'едліва. Ён нічога не гэта не адказаў. Бачу я: мы ўсё больш і больш аддаляемся адзін ад аднаго. Шкада!

Я па-ранейшаму думаю аб Наташы. Ці дружыць Віктар з ёю? У апошнія дні нідзе яе не бачыў. Хоць я не веру ў прыкметы, але сустрэча двойчы на адным і тым-жа месцы не так сабе. А як шчыра яна гаварыла! І апошнія яе словы... Не, яна не кахае Віктара, не кахае!

## Раздзел шаснаццаты

Сенатар Уолтэр сустрэў Фрэнка Уэста на парозе дома.

— Вельмі рад бачыць вас,— весела прамовіў ён.— Як справы фірмы?

— О-о-о, веры-веры гуд! — падкінуўшы капялюш, задаволена адказаў той.

— Вы не спазніліся. Заходзьце, палюбуйцеся: нашы хлопцы чорту рогі збіваюць. Ведаеце, я сцвярджаў і зараз сцвярджаю: найвялікшым палкаводцам нашага часу з'яўляецца Долар! Ён выйграва̀е такі рашаю-

чыя бітвы ў свеце, што любы генерал можа пазайздросціць. Як вы думаеце?

Фрэнк Уэст ветліва ўсміхнуўся:

— Я пакланяюся вашаму палкаводцу ўжо больш сарака год і цалкам згодны з вамі ў ацэнцы яго вартасцей.

Доўгі лёкай з вусікамі адчыніў перад імі дзверы. Сенатар праводзіў свайго старога друга ў гасціную.

Справа ў сцяне быў камін, у якім ззялі асветленыя ружовым святлом кавалкі антрацыту. Навокал панаваў поўзмрок, і стваралася поўная ілюзія, што ў каміне гарэла, бушавала спякотнае полымя.

Сенатар падвёў Уэста да супрацьлеглай сцяны, узмахнуў рукою, і нябачныя фотаэлементы зараз-жа выканалі загад. Сцяна рассунулася, і перад гаспадаром і госцем заззяў флуарэсцыруючымі агнямі аграмадны экран тэлевізара.

— Уключаю Месяц,— не без гонару прамовіў сенатар, настройваючы апарат.

Нейкі момант экран быў пустынны. Па ім прабягалі прадоўжныя хвалі-сполахі. Потым мільганулі нейкія цені, і ў матавым акне заварушыўся, як аграмадны футбольны мяч, Месяц.

— Вось ён, наш прыгажун! — сказаў Уолтэр, самазадаволена пагладжваючы тлусты паголены падбародак. — Павінен вас узрадаваць, усё ідзе па плану. Акцыі нашага канцэрна ўзняліся яшчэ на некалькі пунктаў. Вы чулі, сэр? — не паварочваючыся да Уэста, спытаў сенатар.

— Я зайздрошчу вам. Незвычайны рост попыту на акцыі «Ракета энд індустры» выклікаў перапалох у большасці прадпрыемцаў краіны. Іх канцэрны і кампаніі перажываюць спад. І ўсё гэта дзякуючы вам, сэр.

— А мне напляваць на ўсіх! — кінуў сенатар.

Ён настроіў тэлевізар на другую хвалю. Перад позіркам выраслі горныя ланцугі, чорныя шчыліны. І вось рука Уолтэра ўздрыгнула, застыла. У эфіры загучаў яго ласкавы голас:

— Хэло, містэр Арноль! Вельмі рад вас бачыць. Зірніце на мяне, мой хлопчык.

Поль Арноль пачціва пакланіўся, прыклаўшы руку да грудзей. На яго вуснах застыла радасная ўсмешка.

— Вы добра пастараліся, Арноль! Ты, сказаць па праўдзе, удачлівы, як чорт! Рыхтуешся да пасадкі?

— О, так, сэр! Спадзяюся, вы не забылі: там мяне чакае чэк на 5 мільёнаў і мая Элсі.

— Зусім правільна. Калі пасадка?

— Якраз ужо час,— даляцеў вокліч з экрана.— Макс, падрыхтавацца!

Уолтэр і Уэст замерлі ў чаканні. Сенатар, здавалася, хваляваўся. Ён глыбока дыхаў, маршчыніў лоб. Потым памахаў касманаўтам рукой, пажадаў:

— Добрага поспеху вам, сыны Штатаў!

Уэст уважліва сачыў за экранам. Ён думаў аб моры Дажджоў, аб першых рудніках, якія ён абавязкова там пабудуе, каб распрацаваць уранавыя залежы. Вось калі акцыі і яго фірмы «Уэст, Пэйн энд компані» набудуць вялікі курс.

— Элсі! — паклікаў сенатар.— Элсі! Элсі! Хадзі сюды, будзем разамназіраць за караблём Арноля. Чуеш?

Элсі не прымусіла доўга чакаць. Яна ўвайшла. Валасы яе былі модна

завіты, чорнае дэкальтаванае плацце з доўгімі срэбранымі кістачкамі ўнізе блішчэла, пералівалася, быццам сатканае з самацветаў.

— Я хвалююся, па,— сказала яна.— Мне чамусьці робіцца страшна. Хаця-б нічога не здарылася...

— Памаліся богу, табе стане лягчэй,— параіў сенатар.

На экране былі бачны ледзь прыкметныя выбухі матораў. Ракета запаволіла падзенне і пайшла ў кругавы палёт вакол Месяца.

— Вельмі-ж мала працавалі маторы,— сказаў Фрэнк Уэст сенатару.

— Колькі секунд?

— Прызнацца, не заўважыў,— адказаў ён нядбайна.— З Элсі загаварыўся. Заўсёды яна з гэтымі сваімі пытаннямі... А што, хіба не вытрыманы графік?

— Пакуль на гэта не падобна. Дзякуй богу, ракета ляціць...

Сенатар Уолтэр узяў Элсі за руку, прыцягнуў да сябе.

— Пазвані ў ракетапорт,— сказаў ён клапатліва.— Запытай, чаму ракета не ідзе на пасадку?

Элсі першая адчула сэрцам: здарылася нешта страшнае, непапраўнае. Амаль не ўсведамляючы, што робіць, яна набрала нумар.

— Сенатар! Містэр Уолтэр! — закрычаў Фрэнк Уэст, павярнуўшыся да свайго сябра.— Я нічога не разумею. Растлумачце! Ракета робіць круг вакол Месяца. Яна страціла кіраванне...

Элсі выпусціла з рук трубку: яна ўсё зразумела.

— Поль! О, Поль, няўжо ты загінуў для мяне? — усклікнула Элсі ў адчаі і замітусілася па пакою.

Сенатар сціснуў дрыжачыя рукі дачкі, пасадзіў яе ў крэсла.

— Супакойся, не ўсё яшчэ загінула. Твой хлопчык вернецца, ён будзе жыць!

А сам паспешна звязаўся з ракетапортам. Адтуль паведамілі, што ракета Арноля пачала тармажэнне ў вызначаны час, выйшла на кругавую арбіту Месяца і раптоўна страціла кіраванне. З ёю перарвана радыёсувязь. Што адбылося — невядома.

— Ці стане ракета штучным спадарожнікам Месяца? — запытаўся сенатар.

— Не, сэр, — выразна пачулася з трубкі.— Не стане.

— Што-ж рабіць? Як ім дапамагчы?

— Дапамагчы немагчыма. Карабель Арноля роўна праз дзесяць гадзін упадзе на скалы Месяца...

Сенатар ціха апусціў пасівелую галаву, моўчкі выйшаў з гасцінай.

— Па, не пакідай мяне адну! Будзь са мной! — закрычала Элсі ў роспачы.

— Ты павінна змірыцца з лёсам,— лагодна прамовіў сенатар, спыніўшыся. — Поль — нацыянальны герой Штатаў. Яго не забудуць пакаленні...

Элсі закрыла твар рукамі. Плечы яе затрэсліся ад плачу.

* * *

— Які дзівосны свет! — усклікнуў Макс, аглядаючы праз шырокі ілюмінатар крутыя камяністыя бакі Месяца.

Задаволена свяціўся ўспацелы твар былога рыбака. Хутка яны выканаюць самае важнае заданне — разгорнуць сцяг Штатаў у кратэры Капернік. Цяпер думкі Макса былі скіраваны на Зямлю. Там, у галоўным горадзе Штатаў, для яго падрыхтаваны чэк. Ён будзе мець грошы,

купіць самы лепшы рыбалоўны траўлер, зажыве ціха, спакойна, багата. Успамін аб гэтым прымусіў радасна забіцца сэрца. Макс пачаў напяваць нейкі вясёлы матыў.

— Задаволены? — спытаў Поль Арноль.— Як бачыце, хлопчыкі, нам пашанцавала. Мы здзівілі ўвесь свет. Гэта называецца чыстая работа. Так, Макс?

— Вядома. Толькі трэба ўдала правесці пасадку.

— Правядзем, не турбуйся. Самае страшнае — ззаду, — адказаў з уласцівай яму самаўпэўненасцю Арноль.

Унізе віднеўся заліў Гарачыні. На ім выразнай паласой ляжала мяжа ночы і святла. І вось ракета трапіла ў густую непраглядную цемру. Зусім іншым стала неба. На ім па-новаму, прыгожа і ласкава зіхацеў аранжава-блакітны шар Зямлі.

— Палюбуйцеся, якія тут бываюць ночы, — заўважыў Поль.

Макс і Роб прыпалі да ілюмінатараў. Густая, жахлівая цемра акружала іх. Але пад ракетай, на Месяцы, выразна былі відаць скалы, ланцугі гор.

Поль падышоў да пульта кіравання, загадаў Максу зрабіць некалькі фотаздымкаў. Ён прыняў пыхлівую паставу, нядбайна трымаючы ў руках сцяжок Штатаў. На яго твары трапятала ўсмешка захаплення.

— О'кэй! — закрычаў ён, і Макс схаваў фотаапарат. — На пасадку!

Сонца вынырнула з-за зубчатага краю Месяца. Відно, як бяжыць, адсоўваецца ўсё далей і далей. На Месяцы пачынаецца дзень. Пара!

Вогненныя факелы газавых патокаў успыхнулі ўперадзе ракеты. Яна ўся задрыжала, як-бы напружылася.

— Зніжаемся! — усклікнуў Макс, павярнуўшы галаву да ілюмінатара.

Хоць пры тармажэнні ўзнікае не такая ўжо вялікая перагрузка, але падарожнікі не сядзелі, а ляжалі. Толькі Поль Арноль стаяў перад экранам тэлевізара і ўсё нешта гаварыў, перадаваў на Зямлю.

Макс радаваўся ў душы: нарэшце заканчваецца першы этап поўнага нечаканасцей падарожжа. Хутка яны вернуцца на Зямлю. Вядома, ён ажэніцца з Эдзіт, абзавядзецца гаспадаркай. У яго абавязкова будзе каменны домік, аўтамашына. З'явяцца дзеці. Зацвіце садзік ля дома. Кожны дзень яго будуць сустракаць з работы жонка, дзеці. Ён — гаспадар! Яго будуць паважаць, пры сустрэчы кланяцца, паціскаць моцна рукі. І, вядома, стануць жартаваць: «Ну, як, містэр Макс, дапамог вам Месяц?» А ён паблажліва ўсміхнецца, адкажа: «Так, сэр».

У каюце нешта гудзела, сапло. Над галавой вентылятары падавалі свежае халаднаватае паветра. Хоць грудзі сціснуліся ад перагрузкі, Макс не заўважаў удушша. Крыху адчувалася, што адліла ад галавы кроў. Невялікая, малапрыкметная пакута: хутка міне хвіліна — і яны адчуюць здзіўляючую лёгкасць у целе і амаль не будуць важыць...

Нечакана ля пульта кіравання нешта грукнула. Макс і Роб падхапіліся з канапак. На падлозе нерухома, як мёртвы, ляжаў іх капітан. Макс падбег першы, зірнуў на Поля і ўсё зразумеў.

Трэба-ж было стаяць ля тэлевізара! З носа і рота капітана цякла кроў. Вочы былі закрытыя, твар, як у мерцвяка. Поль страціў прытомнасць.

— Роб, лякарствы! — папрасіў Макс. З цяжкасцю перастаўляючы ногі, той падышоў да светлай пластмасавай скрынкі. У гэты-ж час Макс адчуў, што з цела нібы зваліўся вялікі цяжар.

— Слава ўсявышняму! — сказаў ён.— Маторы выключаны. Ляцім па інерцыі.

Рыбак асцярожна падняў з падлогі Поля, паклаў яго на мяккую губчатую канапку і замацаваў спецыяльнымі раменьчыкамі. Роб прынёс лякарствы. Капітану далі панюхаць нашатырны спірт. Ён паварушыўся, але вачэй не адкрыў.

— Містэр Поль! Прачніцеся! — клікаў Макс.— Вы нас бачыце?

Роб прыклаў да грудзей Арноля вуха, прыслухаўся.

— Дыханне неглыбокае, перарывістае,— сказаў ён.— Трэба даць кісларод...

Адпіхнуўшыся ад сцяны, ён узняўся ў паветра і, як самы віртуозны акрабат, адразу апынуўся ў другім канцы каюты. У санітарнай шуфлядзе Роб знайшоў балончык з кіслародам. І сам здзівіўся: як добра паклапаціліся аб іх, нават самыя дробязі ўлічаны.

Глынуўшы кіслароду, Поль адразу адкрыў вочы і здзіўлена паглядзеў вакол.

— Дзе я? Што са мною? — спалохана спытаў ён і прыўзняўся на канапцы.

— Усё ў парадку! Не трывожцеся, містэр...

— Мы зніжаемся?

— Так, маторы ўжо выключаны.

Поль Арноль адвязаўся ад канапкі, наблізіўся да пульта кіравання і паглядзеў на высотамер.

— 800 кіламетраў...— прамовіў Поль ціха, насцярожана.— Чаму мы рухаемся, чорт пабяры? Калі-ж пачнецца пасадка?

— Не ведаю,—разгублена пацiснуў плячыма Макс.— Кіруюць пасадкай з Зямлі...

Поль націснуў на кнопку тэлевізара. Успыхнуў экран. Але што за ліха? Ён маўчаў. Што здарылася? Аварыя? Позірк адшукаў бліскучы цыферблат паказчыка гаручага ракеты. Стрэлка стаяла на нулі.

— О, божа! Мы загінулі!— зняможана сказаў Поль і апусціўся ў крэсла штурмана. Вочы яго ліхаманкава бегалі па прыладах, як-бы шукаючы ратунку. Потым ён усхапіўся, рэзка павярнуўся ў бок Макса.

— Якога д'ябла ты глядзеў? Як усё здарылася?— загрымеў ён на ўсю каюту.— Адказвай!

— Капітан, палёт праходзіў правільна,— прамовіў штурман.— Вось мае запісы. Потым вы страцілі прытомнасць, і я з Робам ратавалі вас. На маю думку, мала працавалі маторы. Вось мы і ляцім па кругавой арбіце вакол Месяца.

— А чаму не дзейнічае радыё, тэлевізар? — запытаў капітан і тут-жа ўскрыкнуў:— Адбылася аварыя. Клянуся небам, гэта так! Куды ты глядзеў, Макс?— наступаў на штурмана Арноль.— Ты павінен быў прадухіліць аварыю! Павінен! Што паказвалі лакатары?

Макс выцягнуў з апарата плёнку, пракруціў яе праз павелічальны светлавы фільтр. На плёнцы быў адзначаны след двух невялікіх метэораў, якія пранесліся ў 50 кіламетрах ад карабля.

— Як бачыце, містэр, — прамовіў Макс. — Метэоры тут ні пры чым.

— Аслы! Ідыёты! Адказвайце, што здарылася!— нерваваўся Поль, размахваючы сціснутымі ў бяссільнай злосці кулакамі.— Ты памрэш, Макс! Ты нас падвёў.

— Містэр Поль, я не прашу літасці, але я не вінаваты...

Арноль стаў ля пульта кіравання, круціў рычажкі, націскаў кнопкі. Кантрольныя і вымяральныя прылады былі ў спраўнасці. Тады ён уключыў

рэактар і загадаў спецыяльным машынам падаць вадкі вадарод. Яны запрацавалі, але дарэмна: у рэактар не трапляла ніводнай кроплі паліва.

— Містэр Поль, мы дарэмна трацім час, — прамовіў Макс. — Па майму падліку, наша ракета не можа стаць спадарожнікам Месяца. Дазвольце праверыць антэну. Нам трэба звязацца з Зямлёй.

— Ідзіце!

Макс з дапамогай Роба хутка апрануў касмічны касцюм, напоўніў балон паветрам і ўвайшоў у шлюзавую камеру. Роб уключыў вакуумныя помпы, потым адчыніў знешнюю дзверцу ракеты.

Макс злёгку адпіхнуўся нагамі і вылецеў у чорную бездань сусветнай прасторы. Тут-жа азірнуўся: карабель стаяў нерухома на адным месцы. Вось дзіва! І ён сам нікуды не падае, не ляціць, хоць унізе, пад нагамі, жахлівае бяздонне, усыпанае безліччу зорак.

Чакайце, дзе-ж тут ніз, верх, бакі? Яны зніклі. Існуе толькі чорная маўклівая глыбіня, якая праглынула ўсё — і Месяц, і Зямлю, і Сонца, і карабель...

Няўжо ракета стаіць на месцы? Не! Яна ляціць і вельмі хутка. Яе спакой з'яўляецца ўяўным, адносным.

Што-ж здарылася з ёю? Макс уключыў рэактыўны маторчык і касцюмны ліхтар. Наблізіўшыся да срабрыстай сталёвай грамады, ён накіраваў прамень ліхтарыка на антэну.

Антэны не было. Бяда не толькі ў тым, што нехапіла паліва — цяпер няма ніякай магчымасці паслаць у эфір сігналы аварыі, прасіць з Зямлі дапамогу.

Макс пільна агледзеў месца злучэння антэны з бартом карабля. Над сталёвай абшыўкай тырчэў тоўсты медны шпянёк, на якім быў выразна відаць злом. Не засталося на ракеце і тэлевізійнай антэны.

Усё стала зразумела: ад вібрацыі ў часе тармажэння яны не вытрымалі. Аграмадны сусвет замкнуўся ў адной кропцы. Цяпер яны былі адарваны ад Зямлі і ад жыцця. Іх карабель ператварыўся ў металічную труну.

— Макс? — пытаўся па радыётэлефону Поль. — Чаго маўчыш? Мы чакаем тваіх вестак. Што з антэнай?

— Бяда, містэр Поль, вялікая бяда, — цяжка ўздыхнуў штурман. — Мы загінулі, — і ён падрабязна расказаў аб сваім абследаванні.

— Праверце ўсё вакол ракеты, пашукайце іх — і хутка назад.

— Будзе зроблена, капітан!

Макс уключыў маторчык і паімчаўся за карму ракеты. Свой шлях ён не асвятляў. Калі-б антэны па інерцыі ляцелі ўслед за ракетай і знаходзіліся недалёка, яны былі-б добра бачны.

І раптам — што гэта? Уперадзе з'явілася круглая бліскучая зорка, яна з кожнай хвілінай павялічвалася, рабілася ярчэйшай.

Толькі цяпер здагадаўся Макс: гэта-ж савецкая аўтаматычная ракета! Якраз на вышыні 800 км праходзіць яе арбіта. У грудзях Макса затрапятала сэрца. Думка, дзёрзкая, смелая, авалодала ўсёй яго істотай. Цуда! Ці не бог хоча дапамагчы ім. Калі ракета наблізіцца, ёсць магчымасць прычапіцца да яе, забрацца ў яе каюту і даць на Зямлю сігнал аб няшчасці на караблі «Анаконда».

Нядоўга думаючы, Макс на ўсю магутнасць уключыў касцюмны маторчык і паімчаўся наперарэз савецкай ракеце. Адначасова ён перадаваў па радыё:

— Містэр Поль! Незвычайная навіна: за намі следам ляціць савецкая

ракета «Алмаз». Я хачу перасесці на яе, каб выратаваць вас. Не губляйце духу, сэр. Пакуль!

«Алмаз» рухаўся між зор даволі прыкметна. Макс, не зводзячы вачэй, сачыў за ім. Вось ужо бачны не кружок, а прадаўгаватая сігара.

Хутчэй! Хутчэй! Непадалёку лінія траекторыі яго палёту. Чорная пустэча анямела, толькі Макс ды тры зіхатлівыя кругі — сонечны, зямны і месячны — імчацца па ёй у далеч.

Набліжалася незвычайная сустрэча. Макс напружыўся, падрыхтаваўшыся да смяротнага скачка. Ён ляцеў не наперарэз ракеце, а ўперадзе яе. Адлегласць з кожнай секундай скарачалася. І вось над яго галавой прасунулася верацёнападобнае цела сталёвага карабля. Макс раскінуў рукі і, падштурхнуты выбухам газаў партатыўнага рухавіка, ударыўся ў металічную абшыўку «Алмаза». Рукі каўзанулі па металу.

Што гэта? Няўдача? Ды не! Ён за нешта трымаецца. Макс падняў галаву і шчасліва ўсміхнуўся. Пагоня ўдалася. Разлік быў правільны, рукі моцна сціскалі металічную сетку накіравальнай антэны.

— Анаконда! Анаконда! Містэр Арноль! Дакладваю: аперацыя ўдалася. Хутка буду ў каюце «Алмаза». Вы чуеце мяне? Чуеце?

Адказу не было. І зразумела: іх раздзяляла вялікая адлегласць. Радыётэлефон, што быў у кожнага падарожніка пры касцюме, дазваляў весці размовы толькі на адлегласці 100—200 кіламетраў.

Макс журботна паглядзеў назад. «Анаконда» была ледзь-ледзь відаць. Хутка блеклы рухомы агеньчык згубіўся між яркіх пунцовых зорак.

— Да пабачэння, Роб! — прашаптаў Макс, і слёзы навярнуліся на яго вачах. — Не губляй надзеі, дружа. Мы яшчэ спаткаемся. Чуеш?

Эфір маўчаў.

Макс цяпер без рызыкі мог адарвацца ад «Алмаза», абляцець яго з усіх бакоў, пашукаць уваход у ракету: ён набыў тую-ж хуткасць палёту, якую меў савецкі спадарожнік Месяца.

* * *

Сенатар ляжаў на мяккай тахце, праглядаў газеты. Штаты жылі небывалай сенсацыяй. Уся прэса на розныя лады каменціравала загадкавую аварыю на касмічным караблі «Анаконда». Давалі сваё інтэрв'ю самыя буйныя вучоныя Штатаў. Большасць з іх прытрымлівалася думкі, што ракета з'явілася ахвярай сутыкнення з метэарытам. У пацверджанне гэтага яны спасылаліся на раптоўную страту радыё- і тэлесувязі з экіпажам.

У газетах былі змешчаны партрэты Поля, Макса і Роба ў чорных жалобных рамках. «Яны загінулі першымі ў космасе. Іх доўга будуць помніць людзі. Цудоўная, прыгожая смерць. Ім зайздросціць усё маладое пакаленне мужчын Штатаў»,— крычалі чорныя тлустыя загалоўкі на першых палосах.

Зусім іншым быў тон прагрэсіўных газет. Іх каментатары абвінавачвалі арганізатараў касмічнага рэйса ў паспешлівасці, давалі падрабязнае апісанне перад пасадкай на Месяц і прыходзілі да вываду, што ракета мела канструктыўныя памылкі, недаробкі.

«У пагоні за бізнесам яшчэ раз даказаны авантурызм планаў некаторых босаў Штатаў. Мы не павінны былі гэтак рызыкаваць. На сумленні Уолтэра і К° жыццё загубленых людзей».

Сенатар, прачытаўшы гэта, зацягнуўся сігарай і задаволена зарагатаў.

— Тысяча д'яблаў! Не заўсёды, аказваецца, бываюць аслы дурнымі. Пішуць, як у ваду глядзяць.

Артыкулы газет яго зацікавілі. Ён ажывіўся, стаў больш уважліва іх праглядаць. Разгарнуўшы газету «Трыбюн», орган Саюза рабочых «Рэспубліканцы за мір», ён аж падхапіўся на ногі. На першай паласе загаловак крычаў: «Загадкавае забойства экіпажа касмічнага карабля «Анаконда». Нячыстая ігра Уолтэра. Дзіўная сітуацыя на караблі. Поль быў бедным, нялюбым зяцем».

Не, гэта ўжо нахабства! Праўду кажуць: не прывязаны мядзведзь не скача. Што-ж, ён, Уолтэр, прымусіць гэтых балбатуноў, якія ўзяліся за пяро, пашкадаваць аб сваіх словах. За паклёп і ганьбу яны будуць сядзець за кратамі.

Адкінуўшы ў бок газету, ён пачаў апранацца. Бледны твар са сціснутымі губамі быў роўнадушны, халодны. І ўсё-ж сенатар крыху хваляваўся. Трэба заткнуць горла гэтай газеце, інакш яе выдумка будзе падхоплена другімі, і тады... Што тады будзе, вядома — катастрафічна знізіцца курс акцый, кампанія панясе мільённыя страты, і яго, Уолтэра, дзеяннямі можа зацікавіцца сенацкая камісія. Не, да гэтага ён не дапусціць!

Увайшоўшы ў кабінет, ён зняў трубку тэлефона, набраў нумар.

— Містэр Колінг? Гэта вы? Патрэбна ваша дапамога. Вы чыталі, што выдумала газета «Трыбюн»? О, вы здагадлівы чалавек. Сёння-ж будзе пераведзены чэк. Заўтра на абед? Веры-веры гуд! — ён паклаў трубку, і створкі ў нішы сцяны зачыніліся.

Сенатар заклаў назад рукі і ўсхвалявана закрочыў па кабінеце. Бляклыя яго вочы ўспыхнулі, заззялі — ён быў задаволены.

Выклікаўшы слугу, Уолтэр спытаў:

— Элсі дома?

— Так, містэр Уолтэр, у сваім пакоі.

— Скажыце, няхай зойдзе да мяне.

Элсі ўвайшла ў кабінет прыціхшая, задуменная. Яна села на канапку, паклала на калені атласную падушачку і з надзеяй глянула на бацьку.

— Ёсць новыя весткі, па-а?

— Элсі,— пазіраючы ў расчыненае акно, з несхаванай злосцю прамовіў Уолтэр.— Пакінь пра яго думаць. Не будзь наіўнай — ён не вернецца больш. Ты дачка бізнесмена. Будзь роўнадушнай да лёсу людзей.

— Я яго кахаю, па-а,— сказала ціха Элсі.— Вам гэтага не зразумець...

— Элсі, я ведаю: у цябе глыбокая рана. Пакінь хвалявацца. Я пастараюся залячыць яе.

— Я адзінокая. Мне ніхто не падабаецца,— апусціўшы галаву, сказала яна.

— Ты бязвольная. Няўжо ты нічога не пераняла ад мяне? Я валодаю лёсам мільёнаў людзей, а ты — сэрцам толькі аднаго чалавека, якога цяпер няма ў жывых.

— Па-а, не гавары так! — заплакала дачка. — Ты зневажаеш мяне!

— Ніколькі, галубка. Я даю табе невялікі ўрок жыцця.

— Гэта ўсё, што ты хацеў сказаць?

Уолтэр падышоў да канапкі, сеў побач з Элсі. Яна паклала свае рукі на яго калені, ён пацалаваў іх.

— Ты любіш свайго старога па, любіш? — спытаў ён, пазіраючы ў шырока расплюшчаныя вочы дачкі. Крыху памаўчаўшы, паведаміў: — Ёсць навіна. Мы з табою запрошаны да Колінга на абед. Дамоў вярнуўся яго сын. На Мадагаскары ваенныя дзеянні закончаны. Ён будзе кіраваць ваенным камісарыятам нашага горада. Ты, Элсі, павінна зрабіць на яго ўражанне... Я быў-бы вельмі задаволены вашай дружбай...

— Ён свабодны? — ціха, нерашуча спытала Элсі.

— Так. На ўсё астатняе забудзься. Дамовіліся?

Яна сцвярджальна кіўнула галавой і выйшла з кабінета.

Сенатар запаліў сігару, уваткнуў яе ў зубы і толькі цяпер супакоіўся. Справы ішлі на лад. Заўтра нечаканым нападам невядомых людзей будзе разгромлена рэдакцыя газеты «Трыбюн», заўтра ён будзе прысутнічаць на абедзе ў загараднай віле Колінга, заўтра Элсі павінна пакахаць другога...

## Раздзел семнаццаты

Неабсяжная пустата прасцёрлася наўкола. Хоць кілометр за кілометрам змяняліся з маланкавай хуткасцю, ніякіх новых краявідаў тут не адкрывалася. Па-ранейшаму спакойна ў журботным змроку ззялі зоркі, ледзь-ледзь рухаліся Сонца і Зямля.

Затое Месяц, аграмадны, выпуклы, заняўшы ў гэтай дзікай чорнай пустыні самае вялікае месца, хутка мяняў свае фазы. Серп асветленай яго часткі то ўвачавідкі звужаўся, знікаў, то раптам рос, пашыраўся, — і начное свяціла паўставала тады ва ўсёй красе — яркае, зіхатлівае, быццам выкаванае з металу.

Любуючыся пейзажам сусвету і яшчэ раз абдумваючы свой незвычайны ўчынак, які вельмі нагадваў учынак гарэзлівага хлапчука, што на поўным хаду аўтамашыны чапляецца за яе борт, Макс не заўважыў, як адляцеў далёка ў бок ад ракеты. Ён схамянуўся, уключыў маторчык.

Але што гэта? Ззаду ўспыхнуў агністы клубок газаў і тут-жа патух. Сіла аддачы штурханула яго ўперад. І ён стаў набліжацца да «Алмаза». Па спіне беглі халодныя мурашкі. Усё зразумела: у балоне скончылася гаручае, прызначанае для маторчыка. Які няўважлівы! Ён паглядзеў на цыферблат манометра. Стрэлка паказвала нуль.

Вядома, штуршка газаў было-б дастаткова, каб наблізіцца да ракеты. Але ён добра не разлічыў і няправільна накіраваў сілу аддачы газаў і ляцеў наўскос да «Алмаза». О, вялікі божа! Бяда, зноў бяда! Макс у адчаі замахаў рукамі, як-бы жадаючы змяніць напрамак руху. Чатырыста метраў, трыста, дзвесце пяцьдзесят... Ён рухаецца, але цяпер паралельна з ракетай. Яшчэ некалькі хвілін пакутлівага чакання.

І вось — усё! Няма ніякай надзеі. Да ракеты засталося не больш двухсот метраў. Макс выразна бачыць шырокія авальнай формы соплы ў яе карме, бліскучыя хваставыя кілі. Але цяпер адлегласць паміж ім і ракетай не памяншаецца і не павялічваецца.

Вялікая трывога апанавала яго. Няўжо гэта канец? Ён так і будзе бясконца ляцець побач з ракетай? Праз некалькі гадзін скончыцца ў балоне кісларод, ён задыхнецца, і касмічны холад зробіць з яго цела звычайную ледзяную кроплю.

Нічога на свеце не баяўся Макс, але цяпер спалохаўся. Не хацелася паміраць у адзіноце, у гэтай чорнай ледзяной пустыні. «Людзі, — шаптаў

Макс, — дапамажыце мне. У чым я вінаваты? Чаму адраклася ад мяне Зямля? Я хачу памерці сярод вас, на вашых вачах, на вачах маёй любімай Эдзіт. Я нічога не папрашу для сябе: ні рыбацкага траўлера, ні каменнага дома, ні аўтамашыны. Буду ўзнагароджаны шчасцем, калі ўбачу святло дня і пачую людскія галасы...»

На ілбе Макса выступіў пот. Ракета была на ранейшай адлегласці. Яна вабіла да сябе, клікала зіхатлівай чысцінёй асветленага сонцам борта, рамкай антэны, якая поўгадзіны назад дапамагла яму стаць яе спадарожніцай. Адзін неасцярожны крок — і ўсё прапала. Лёс насміхаўся над ім. Бязмежная пустата душыла сваім страшным, халодным спакоем.

Нягледзячы на безнадзейнасць становішча, душа Макса не магла прымірыцца са смерцю. Напружана працавала думка. Што-ж рабіць? Рухі рук і ног нічым не маглі дапамагчы. А можа ў балончыку хоць крыху засталося гаручага? У ім ёсць сіфон, ён не даходзіць да дна, і там іншы раз застаюцца кроплі гаручай вадкасці.

«Яны павінны застацца і цяпер,— нашэптваў Максу нейкі ўнутраны голас.— Правер».

Макс дрыжачымі рукамі абмацаў балон, страсянуў яго і тут-жа ўключыў матор. Дарэмна! Спадзяванне не апраўдалася. Зноў усхваляванасць змянілася роспаччу. Так, яму гэтыя дзвесце метраў не пераадолець...

«Стоп! — устрапянуўся Макс. — Няма гаручага — дапаможа фізіка!» І як гэта раней не прыйшло яму ў галаву? Хто змагаецца за жыццё, павінен змагацца ўпарта, хітра, настойліва.

Як адкруціць балон з гаручым? Ён знаходзіцца на спіне, яго вельмі нязручна даставаць рукамі.

Хвілін пятнаццаць завіхаўся Макс, круціўся, як ваўчок, на месцы, ды ўсё-ж свайго дамогся. Балон у яго руках! Макс цяпер глядзеў на гэты балон з вялікай надзеяй. Ён тут не мае ніякай вагі, але ў яго ёсць маса. Калі кінуць балон у прастору, рука набудзе апору і як-бы адштурхнецца ад яе. Выдатны закон! Ён павінен дапамагчы Максу.

Штурман заціснуў у руцэ балон, шырока ім замахнуўся. Намаганне, і балон паляцеў у далеч. Макс адразу заўважыў, што ён як-бы скрануўся з месца, паплыў. Карма ракеты цяпер была зусім блізка. Вось яна — рукой падаць — у нейкіх ста метрах.

Але не прайшло і хвіліны, як выратавальнае збліжэнне раптам прыпынілася. Макс не вытрываў, вылаяўся. Што ў яго ёсць яшчэ ў запасе? Матор? Не шкада. Цяпер ён яму не патрэбны. Кінуўшы і яго ў прастору, Макс падплыў да хваставога кіля карабля.

Нарэшце! Макс глядзеў на адпаліраванае металічнае цела «Алмаза» і не верыў сваім вачам. Няўжо яго не пакінула шчасце? Аддыхаўшыся, ён толькі цяпер адчуў, як моцна стаміўся. Нядобра ныла сэрца, звінела ў вушах, кружылася галава.

Хоць-бы ў каюту. Там паветра, цеплыня, спакой. Ён адразу паведаміць па радыё і тэлебачанню аб аварыі на «Анакондзе», ён раскажа аб сваіх прыгодах.

Але моцна білася сэрца, не хацелася рухацца, варушыцца. Многа цяпер ён даў-бы, каб можна было раптам распрануцца, легчы ў белую мяккую пасцель, ні аб чым не думаць, ні аб чым не клапаціцца.

Макс акінуў позіркам сусвет. Яму ўявілася, што ён плыве ў сваім рыбацкім баркасе па акіяне, у чорную глыбіню якога закінуты непамерна вялікі зорны невад. Ужо злоўлены, трапечуцца ў ім дзівосныя фантастычныя рыбы...

Марудзіць нельга! Ужо няма большай палавіны кіслароду. Хочацца піць і есці. Але як дабрацца да каюты?

Макс асцярожна прапоўз між хваставога апярэння ракеты і апынуўся перад роўнай адпаліраванай паверхняй знешняй абшыўкі. Калі рухацца па ёй паволі, гэта вельмі рызыкоўна. Прагледзіш — і зноў апынешся ў далечыні ад карабля.

Вунь уперадзе віднеецца падобная на чашу антэна. За яе трэба ўчапіцца рукамі. Для гэтага патрэбны спрыт, разлік, упэўненасць рухаў. Макс напружыўся і, моцна адштурхнуўшыся нагою аб грэбень кіля, паляцеў уперад. Яму стала страшна, закружылася галава. Але рукі дзейнічалі спрытна. Яны сціснуліся якраз тады, калі наткнуліся на металічнае перапляценне антэны.

«Ёсць! ——ледзь не ўскрыкнуў ад радасці Макс.— Адсюль да дзвярэй каюты зусім недалёка. З якога-ж яны боку? Ды, вядома, з правага». Удалы скачок падахвоціў Макса, надаў яму новыя сілы.

Ён перапоўз на асветлены сонцам бок ракеты. Хоць абшыўка была бліскучай, усё-ж адчувалася, што яна вельмі моцна нагрэлася. Пякло рукі. Касцюм, у якім паспела нагрэцца паветра нават праз пластмасавую тканіну, непамерна разбух. Але гэта не трывожыла штурмана: праз некалькі хвілін за ўсе свае пакуты ён будзе ўзнагароджаны заслужаным адпачынкам. І гэта яго суцяшала.

Макс агледзеў усю шырыню бартавой абшыўкі і ўнізе ўбачыў ручку дзверцаў. Ён аж усміхнуўся ад радасці. Не доўга думаючы, Макс адштурхнуўся і паляцеў уніз. Хвіліна — і ён апынуўся каля дзвярэй. Цяпер засталося павярнуць ручку, і ён выратаваны. Хутчэй-жа, хутчэй!

Невялікае напружанне мускулаў, ручка павярнулася і Максу нават здалося, што яна па-зямному прыемна завішчэла. Рывок на сябе! Што гэта? Не адчыняецца!? Не можа быць!

Макс абапёрся аб борт карабля нагамі, напружыўся і зноў тузануў дзверцы на сябе. Яны нават і не зварухнуліся.

«Эх, дурань! — нарэшце дайшло да свядомасці. — Няўжо нельга было здагадацца аб гэтым раней? Ракета-ж аўтаматычная, яна кіруецца пры дапамозе радыё з Зямлі. І дзверы могуць адчыніцца толькі па загаду Зямлі. Значыць, асталася толькі смерць».

Макс у роспачы схіліў галаву. Абыякавым, сумным позіркам ён глядзеў у зорную даль, што разляглася перад ім без бачных граніц і абрысаў. Рукі і ногі раптам зрабіліся расслабленымі, абмяклымі, нібы іх назаўсёды пакінула сіла.

Але няўжо роспач мацней за храбрасць і адвагу, якая некалі была ў яго душы і якой ён ганарыўся? Не! Трэба яе сабраць у змораным целе, трэба... Але мускулы чамусьці не напружваюцца.

Вакол туман, туман... І што гэта? У тумане ўспыхваюць іскры, мітусяцца, кружацца роем. Не, гэта не іскры, а пчолы. Яны хутка аблепяць яго, балюча абкусаюць...

Макс устрапянуўся, здзіўлена паглядзеў навокал. Што гэта — сон ці галюцынацыя?

Ён не зразумеў, а адчуў сэрцам: густая павалока туману хутка можа зусім праглынуць яго. Вялікім, цяжкім намаганнем ён прымусіў сябе выпрастацца на ўвесь рост. Позірк адразу стаў праніклівым, жвавым, у галаве нарадзіліся думкі.

Што-ж яшчэ можна зрабіць? Ага, над ягоным шлемам тырчыць

антэна. Ён можа прыключыць яе да антэны «Алмаза». І паспрабаваць паслаць у эфір сігналы. Іх могуць прыняць на Зямлі, і ён...

Не, у яго нехапала смеласці нават падумаць, што будзе выратаваны. Але ён павінен паспрабаваць апошні абнадзейваючы сродак. Павінен!

Макс напружыўся, адштурхнуўся ад дзвярэй і ўзляцеў над сталёвай грамадай ракеты. Разлік быў правільны — рукі адразу знайшлі жалезнае перапляценне антэны. Цяпер застаецца зручна легчы на ёй, прыключыць антэну свайго шлема.

Дрыжаць рукі, дыханне становіцца цяжкім і частым. Канчаецца паветра? Так, гэта першая прыкмета. Хутчэй, хутчэй! Трэба выкарыстаць апошнія яго струмені, каб сказаць некалькі слоў людзям, Зямлі. Рукі толькі прыладжвалі антэну, а з вуснаў ужо зрываліся словы:

— Адчыніце дзверы «Алмаза». Адчыніце!.. Задыхаюся... Я Макс Вэл. Людзі, чуеце мяне? Я гіну без паветра...

## Раздзел восемнаццаты

**23 чэрвеня.**

Мы прасілі інжынераў і канструктараў зрабіць нашу ракету як мага лягчэйшай. Сёння нам паведамілі: мантаж ракеты закончаны. Мы ад радасці падкідалі ўверх шапкі. Я з Віктарам быў запрошаны агледзець наш карабель, праверыць усе апараты і механізмы. Раніцай мы селі ў аўтамашыну і разам з Іванам Іванавічам Дзянісавым накіраваліся на новы ракетадром, які знаходзіцца далёка ад Масквы, у глухой, пустыннай мясцовасці. Доўгі час ехалі лесам, потым машына вырвалася ў шырокі стэп, у якім мы за цэлую гадзіну язды не сустрэлі ні дрэўца, ні ўзгорка, ні рэчкі. Толькі бачылі, як у высокім выцвілым небе з панылым крыкам лталі арлы.

Нечакана на даляглядзе з'явілася доўгая лінія металічных ферм. Сэрцы нашы радасна забіліся: недалёка ўзлётная эстакада.

Калі машына спынілася, яе адразу абкружылі рабочыя — мантажнікі, служачыя ракетапорта, інжынеры, канструктары. Многія рабочыя былі ў камбінезонах. Яны і сёння яшчэ працавалі, рыхтуючы ракету да палёту. Мне запомніўся малады шырокатвары казах, які, падышоўшы да Івана Іванавіча, сказаў:

— Мы рады вас бачыць у гэтым стэпе, начальнік, бо яго любяць арлы.

Іван Іванавіч задаволена ўсміхнуўся.

— Я ўжо стары арол, вось паглядзіце на маладых,— і ён паказаў рукою на мяне і Віктара.

З намі цёпла прывіталіся. Распытвалі пра здароўе і, вядома, жартавалі:

— Ну, як, не страшна вам Зямлю пакідаць?

— Не страшна,— адказаў я рашуча.— Мы-ж спадзяемся на вас.

— О! — усклікнуў казах, і вочы яго заблішчэлі.— Мы падрыхтавалі такую птушку, што можаце смела ляцець.

Здалёку касмапорт уяўляўся нам зігзагападобнай лініяй нейкіх нязграбных збудаванняў. А тут ён паўстаў перад намі ва ўсёй велічы і прыгажосці.

Вядома, гордасцю касмапорта з'яўлялася ўзлётная эстакада, якая велічна працягнулася па стэпе на тры кілометры ў даўжыню. На вялікай тэрыторыі, як акінуць вокам, стаялі купалападобныя будынкі, сталёвыя

вежы, нейкія цяжкія, прысадзістыя збудаванні. Ва ўсе бакі ад касмапорта ішлі бетонныя стужкі дарог. Тут не было ні дрэваў, ні газонаў, ні клумбаў. Затое ўсюды былі відаць фантаны. Яны высока ўскідвалі сцюдзёныя струмені вады, ззялі, дыміліся пад сонцам.

Нас павялі да велізарнага, як-бы сплеценага з жалеза ангара. Тоўстае кварцавае шкло, якім ён быў пакрыты, паглынала многа святла, і ў ангары струменіў прыемны халадок, мяккія фарбы не стамлялі вачэй.

Вось яна, наша прыгажуня! Ракета ляжала на спецыяльных стапелях, злучаных з узлётнай эстакадай. Вострым носам яна глядзела на ўсход, нібы ляцела насустрач магутнаму свяцілу.

Сам выгляд ракеты, яе форма сведчыла аб яе імклівасці, маланкавасці палёту. Серабрыстая грамада здавалася як-бы высечанай старанным майстрам з аднаго велізарнага кавалка металу.

Галоўны канструктар Вілі Рэндол паважна падышоў да невялікай дзюралюмініевай лесвіцы і запрасіў нас. І вось мы ў пасажырскай каюце ракеты.

Канструктары выканалі нашу просьбу: каюта не вельмі цесная. Па ёй можна свабодна хадзіць. Тут зручныя крэслы, якія пры патрэбе ператвараюцца ў мяккія канапкі. Тут-жа штурманская рубка. Я адразу заняў у ёй месца, прыгледзеўся да прыбораў. Нічога не скажаш: усё прадумана, прадугледжана, ва ўсім адчуваецца дакладнасць і разлік.

Штурманская рубка будзе служыць адначасова і абсерваторыяй. Трэба сачыць за нябеснымі маякамі-зорамі, правяраць дакладнасць палёту. Вялікія і маленькія экраны радыёлакатараў кругавога агляду, тэлевізафоны, радыёстанцыя, партатыўная электронная машына для складаных вылічэнняў, магутныя электронна-магнітныя гарматы для знішчэння дробных метэарытаў, пульт кіравання цыклатронамі, зорная карта сусвету, — уся гэта вялікая гаспадарка належала штурману. Для мяне з Віктарам нічога тут не было складанага, альбо незразумелага. Мы вучыліся больш года і добра ведалі ўсе апараты і прылады.

Іван Іванавіч праверыў работу паветрана-кіслародных апаратаў, электронную машыну — мозг ракеты. Цікава было назіраць, як на пульце кіравання адразу загарэліся зялёныя, сінія, жоўтыя агеньчыкі сігналаў. Яны дакладвалі, патрабавалі, папярэджвалі. Штурману трэба быць пільным, спрытным і кемлівым. Не заўважыш чаго-небудзь, пасля цяжка будзе паправіць. Штурманская кабіна — вочы і вушы касмічнага карабля.

Я шчыра падзякаваў Вілі Рэндолу за пасажырскую кабіну. Ён усміхнуўся, сказаў:

— Чакайце, вы яшчэ не ўсю сваю гаспадарку агледзелі.

Я здзіўлена пацiснуў плячыма, паглядзеў на Віктара. Сябра таксама нічога не разумеў.

— Як не ўсю? — запярэчыў быў я.

— А вось так, малады чалавек. Паглядзім, куды вядуць гэтыя дзверы,— сказаў ён і падышоў да левай сцяны. Што ў ёй былі дзверы, мы спачатку не паверылі. Сапраўды, сцяна была роўная, цэльнаметалічная. Але вось Рэндол націснуў кнопку, што віднелася збоку, і перад намі імгненна рассунулася сцяна. Мы здзівіліся: побач была такая-ж пасажырская кабіна з усімі складанымі механізмамі і абсталяваннем.

— Гэта на ўсякі выпадак,— растлумачыў Вілі Рэндол, і я бачыў: ён быў узрадаваны, што здзівіў нас нечаканасцю.— Вы-ж не на кірмаш едзеце...

Мы горача паціснулі яму руку, падзякавалі за такі нечаканы падарунак. Запасная пасажырская кабіна ў касмічнай ракеце фактычна гарантуе поўную бяспеку палёту. Да таго-ж карабель мае двайную бартавую абшыўку. Цяпер не страшны дробныя выпадковыя метэоры, якіх па якойнебудзь прычыне не знішчаць электронна-магнітныя гарматы!

Невыказнае хваляванне ахапіла нас, калі мы зайшлі ў так званае машыннае аддзяленне. Тут панаваў бляск нікеля, плаціны, нейкіх залацістых сплаваў. Вось яно перад намі, найвялікшае цуда навукі і тэхнікі! Мы з гордасцю аглядалі атамныя машыны, зробленыя на нашых заводах. Малайцы нашы інжынеры і вучоныя! У гэтых апаратах будзе кіпець небывалае жыццё элементарных часцінак ядра. Тут таямнічы, захапляючы свет. Блізкі той дзень, калі я націсну кнопкі і прымушу гэты свет раскрыць для нас сваю энергію. У трубах, камерах бясшумна пачне ўсё рухацца, круціцца, імчаць, пульсаваць, знікаць у адным месцы, каб нарадзіцца ў другім.

І тады з кілевых шлюзаў вырвуцца аграмадныя патокі энергіі, і ракета, быццам падхопленая віхрам, узляціць высока над Зямлёй. Густыя воблакі закрыюць чароўны воблік роднай планеты, і мы апынемся ў бязмежным касмічным акіяне. Грозны, таямнічы, загадкавы, ён даўно клікаў да сябе людзей, каб праверыць іх сілу, мужнасць, іх крылатыя мары.

— Выдатная канструкцыя, цудоўная работа,— сказаў задаволена Іван Іванавіч.— Гэта не машына, а казка.

— Гэта яшчэ трэба праверыць,— стрымана зазначыў Рэндол.— Вядома, мы стараліся. А як атрымалася, будзе відаць пасля.

Я міжвольна ўспамінаў першую касмічную экспедыцыю на Малы Месяц. Палёты з Хлебнікавай вакол металічнага вострава, яе расказ пра дзівосную энергію «халоднага» святла, загадкавае знікненне фотаэлементаў... Ёй не верылі тады. А я цэлую ноч не спаў, думаў, пакутаваў, рашаў. Мне не верылася, што Хлебнікава была на спадарожніку чужым чалавекам.

Назараў... Хітра ён сплёў павуцінне інтрыгі. Але нічога не дапамагло. Ракета была выратавана, а вораг стаў перад суровым судом савецкіх людзей.

Мінула толькі сем год. Хлебнікава стала адным з відных вучоных краіны. Шкада, што яна не ляціць з намі, гэтая жанчына з добрым, чулым сэрцам і вострым, дапытлівым розумам. Але мы будзем помніць аб ёй. Хлебнікава разам з другімі вучонымі адкрыла новы від энергіі. У гэтым палёце мы праверым створаныя згодна яе ідэі новыя рухавікі.

На нашым караблі ёсць невялікая аранжарэя. У любы дзень палёту мы будзем на снеданне мець свежыя агуркі, радыску, памідоры. На ўсіх штучных спадарожніках Зямлі вырошчваюць гародніну. З кожнай градкі можна сабраць ураджай амаль у дзесяць разоў большы, чым на звычайнай глебе дзе-небудзь пад Масквой. Тут няма нічога дзіўнага і нечаканага. Усё залежыць ад догляду гародніны, размеркавання цяпла і сонца.

Толькі ў поўдзень мы закончылі агляд ракеты. Усё зроблена моцна, надзейна. Нябесны падарожнік тут будзе адчуваць сябе, як у купэ камфартабельнага экспрэса.

Іван Іванавіч застаўся таксама вельмі задаволены. Ён падпісаў акт прыёму ракеты, запламбіраваў уваходы ў каюты і машыннае аддзяленне.

Цяпер усё залежыць ад таго, калі будзе атрыманы дазвол на палёт. У душы разам з радасцю жыве нецярплівасць. Хочацца хутчэй дачакацца

таго дня, калі будзе загадана сесці ў штурманскай рубцы за пульт кіравання.

Калі мы вярталіся ў Галактыку, усю дарогу толькі і гаварылі аб ракеце.

Успаміналі амерыканцаў.

— Я таксама думаю пра іх,— сказаў Дзянісаў.— Вы не ведаеце, калі яны робяць пасадку?

— Сёння раніцай, Іван Іванавіч,— адказаў я.

— Эх, як нядобра атрымалася,— пашкадаваў ён. Потым паглядзеў на гадзіннік і сказаў: — Уключы, калі ласка, радыёпрыёмнік. Якраз чатыры гадзіны. Паслухаем апошнія навіны.

Я павярнуў ручкі настройкі. У радыёпрыёмніку пачуўся трэск, шум. Потым загучаў голас дыктара:

— Слухайце экстранае паведамленне Белага дома. Ракета «Анаконда», якая сёння ў 10.00 раніцы пачала рабіць пасадку на Месяцы, пацярпела аварыю. Сувязі з экіпажам няма. Прычыны аварыі невядомыя.

— Ну вось, тое страшнае, чаго я чакаў, адбылося, — сказаў Дзянісаў ціхім голасам. Адкінуўшыся на спінку сядзення, ён журботна заплюшчыў вочы.

Прызнацца, і мяне гэта вестка засмуціла. Ну, вось табе і касмічныя дарогі. Першы палёт — і катастрофа...

Да самай Галактыкі ехалі маўклівыя, панурыя. Збіраемся ў космас, а ён так няветліва сустракае людзей.

Нарэшце, удалечыні з-за лесу паказаўся шэры купал абсерваторыі. Там — пільныя вочы тэлескопаў, якія неаслабна сочаць за вялікім сонечным прасторам. Непадалёку ад абсерваторыі ў выглядзе аграмадных чашаў, сплеценых з жалеза, стаяць магутныя накіравальныя антэны радыёлакацыйных установак, радыёстанцый, касмічных тэлеперадатчыкаў.

Так, гэта Галактыка! Шырокае шасэ крута павярнула ў бок. Рэактыўны «ЗІЛ» спыніўся.

— Іван Іванавіч, прыехалі!—напомніў я Дзянісаву. Ён расплюшчыў вочы, здзіўлена азірнуўся. Вядома, ён не спаў, а нешта пакутліва абдумваў. Выйшаўшы з кабіны, Дзянісаў паспешна пайшоў па алеі. Я — за ім следам.

І вось мы сядзім у круглай зале, у якой пануе поўзмрок. Уздоўж сцен — шчыты кіравання, аграмадныя матавыя экраны. Яны пульсуюць безліччу рознакаляровых кропак.

Дзянісаў кіўком галавы прывітаўся з аператарамі радыёлакатараў, сеў ля экрана, на якім адразу ўбачыў сілуэт ракеты «Анаконда».

— Сігналаў няма? — спытаўся ён.

— Няма, Іван Іванавіч.

Да самага вечара прасядзеў Дзянісаў ля апарата, запісваў даныя палёту ракеты, вызначаў яе арбіту. Потым падняўся, з горыччу сказаў:

— Заўтра ракета разаб'ецца аб скалы. Трэба дапамагчы людзям! Праверце яшчэ раз і паведаміце мне...

І толькі ён падышоў да дзвярэй, як на сценах раптам загарэліся чырвоныя агеньчыкі лямп. У зале пачуўся нізкі гудок, збоку ўспыхнуў невялікі экран тэлевізафона.

Я ледзь не аслупянеў ад нечаканасці. Мне проста ў вочы глядзела Наташа. Твар яе быў усхваляваны, трывожна гарэлі вочы.

— Начальнік аператарскай! Таварыш начальнік, — гаварыла яна з

нейкай роспаччу ў голасе. — З ракеты «Алмаз» ідуць дзіўныя сігналы. Уключаю цэнтральную залу. Слухайце!

Дзянісаў крута павярнуўся, ускінуў галаву. Аднекуль, як быццам з-пад столі, даляцеў ледзь чутны шэпт на англійскай мове:

— Адчыніце дзверы «Алмаза». Адчыніце... задыхаюся!..

## Раздзел дзевятнаццаты

— Роб, я звар'яцеў ці мне прыснілася? Што гэта Макс нарабіў? Ён-жа загубіў сябе! — гаварыў разгублена Поль Арноль.

Роб стаяў ля ілюмінатара, прыціхлы, задумлівы. Праз зорную мітусню чорнага неба прад ім паўставала постаць хворай, зняможанай жонкі. Ці не яна гэта гаворыць, шэпча пасінелымі вуснамі:

— Роб, ты загубіў сябе...

Ён усё, усё помніць да драбніц. Рывера чула сэрцам бяду. Яна не была рада тым пяцістам доларам, якія ён з гонарам палажыў у яе руку ў той дзень, калі быў залічаны ў экіпаж ракеты.

— Гэта грошы, якія не зароблены мазалём. Роб, адумайся. Пашукай другую работу. Я пачакаю... Я не памру...

Яна ўжо не магла гаварыць. У грудзях нешта хрыпела, яе біў знясільваючы кашаль. Рывера глядзела з папрокам. Жыццё пакідала яе, адны вочы, глыбокія, запалыя, яшчэ гарэлі агнём, бачылі святло, людзей, жылі, адлюстроўваючы чалавечае жаданне, трывогу, клопаты.

Ён не ўтрымаўся, заплакаў. Яна пагладзіла яго валасы, пацалавала. Яму здалося, што жонка дакранулася вуснамі да самага сэрца. Яно балюча сціснулася, устрапянулася.

— Пашкадуй дзяцей. Загінеш ты, не дацягну да восені і я. Яны застануцца сіратамі... Роб...

Разбіты, як громам, страшным папярэджаннем, ён не мог паварухнуцца. Ён складаў планы, як на крыллях ляцеў дадому, несучы гэтыя грошы, каб абрадаваць жонку, дзяцей. І атрымалася, што ён прынёс пакуту і страх.

І толькі тады, калі ў вузкі, цесны пакойчык увайшоў доктар, якога ён запрасіў з горада, Роб ціха падняўся з крэсла і паказаў яму хворую.

Ён не панёс назад грошай, не адмовіўся ад далёкага, небяспечнага падарожжа. Доктар запэўніў, што хворая ачуняе, калі будзе лячыцца. А каб лячыцца, трэба мець грошы... Гэта было зачараванае кола, з якога ён не мог вырвацца...

— Роб! Ты выводзіш мяне з цярпення! — загрымеў капітан ракеты, і Роб адразу адарваўся ад сваіх успамінаў.

— Слухаю, сэр!

— Макс нас пакінуў. Як ты лічыш, гэта хітрасць, спецыяльны разлік ці вар'яцтва? Адкажы мне, чуеш!

На ілбе Роба збегліся маршчынкі. Ён правёў па іх рукою, павярнуўся да Поля, сказаў:

— Макс — разумны чалавек. Я веру яму. Калі ён нешта задумаў — абавязкова зробіць.

— Тады, выходзіць, ён выратаваўся? Ён-жа меў намер перахапіць савецкі «Алмаз».

— Так, можа выратавацца, — пацвердзіў Роб.

Поль закусіў губу, злосна адкінуў у бок запісную кніжку, што трымаў у руках.

— Нягоднік! Ён выратаваўся, сабака, а нам прыдзецца паміраць...

Роб з агідай паглядзеў на капітана. Як хутка зляцела з яго пыхлівасць, самалюбаванне, фанабэрыстасць. Вось ён, ва ўсёй сваёй нікчэмнасці. Гэта не чалавек, а звер. Асуджаны на смерць, ён злуецца, што на свеце ёсць шчаслівейшыя за яго.

— Сэр, супакойцеся, — сказаў Роб. — Я малюся за Макса. Няхай ён выжыве, дабярэцца да совецкай ракеты. Пабачыце, калі шчасце нас яшчэ не пакінула, ён дапаможа нам.

«Макс! Макс! Добрай табе дарогі, дарагі, — у думках дадаў ён. —Калі мы загінем, ты раскажы пра нас. Раскажы ўсё, усё. І самае важнае — зайдзі да маёй сям'і, нізка пакланіся жонцы, дзецям. Няхай не чакаюць мяне, не асуджаюць...»

— Ён дапаможа! Я хачу бачыць яго тут, скруціць яму шыю! Гэта ён вінаваты ва ўсім... Куды мы ляцім, куды? — крычаў Арноль, пырскаючы слінай і кідаючыся то да ілюмінатара, то да пульта кіравання і не знаходзячы сабе месца.

Нечакана ад моцнага штуршка Поль Арноль адарваўся ад намагнічанай падлогі і павіс у паветры пасярод каюты. Ён сутаргава замахаў рукамі, яшчэ мацней закрычаў:

— Роб! Я гіну, не бачыш, лупавокі чорт. Я некуды лячу... Ратуй!..

Робу аж смешна стала: да чаго даводзіць чалавека баязлівасць! Ён схапіў Поля за рукі, дапамог яму сесці ў крэсла штурмана, прывязаў раменьчыкамі.

Поль шырока раскрытымі вачыма глядзеў на Роба, быццам бачыў яго ўпершыню.

— Роб, дзе ты? Ты не ўцёк яшчэ, сабака! — з ранейшай злосцю, але больш ціхім і спакойным голасам запытаўся капітан ракеты.

— Што вы, сэр! Куды ўцякаць? Ад смерці не ўцячэш, калі яна зусім блізка.

— Не, ты хітрыш! Ты нешта задумаў! — лютаваў Поль. — Я ведаю вас.

— Выпіце віна, сэр, — працягнуў яму Роб гумавую бутэльку. — Вам стане лепш.

Поль прагна прыпаў да бутэлькі. Потым, згорбіўшыся, сядзеў, пазіраючы сабе пад ногі. Здавалася, ён быў паглыблены ў нейкія цяжкія вылічэнні.

Так прайшло некалькі доўгіх хвілін. Нарэшце Поль жвава падняў галаву, кінуў ліхаманкавы позірк у бок Роба і, вызваліўшыся ад падвязак крэсла, устаў.

Ён пайшоў, злёгку пахістваючыся, да супрацьлеглай сцяны, дастаў ключ і адкрыў нейкую таямнічую скрынку.

Што надумаў капітан карабля? Гэта не абман зроку? Роб убачыў у руках Поля варанёны пісталет.

Поль павольна зачыніў скрынку, крута павярнуўся ў бок. Роб заўважыў, як у вачах капітана заблішчэлі халодныя ільдзінкі нянавісці.

— Роб! — закрычаў Поль. — Ты бачыш вось тэтую штуку?

— Бачу, містэр Арноль, — пакорна адказаў той.

— Я загадваю табе думаць!

— Аб чым, містэр Арноль?

— Аб нашым выратаванні. Даю роўна сто дваццаць хвілін. Калі нічога не прыдумаеш... Засякаю час! — І ён, усеўшыся на канапцы, замахаў сціснутым у руцэ пісталетам.

Нельга сказаць, каб Роб спалохаўся. Аднак ён даволі спрытна падхапіўся на ногі, акінуў каюту доўгім позіркам. Памерці яму было не страшна, але паміраць ад кулі гэтага вар'ята не хацелася.

Роб падышоў да штурманскай рубкі. Большая частка прыбораў працавала. У спраўнасці была таксама партатыўная электронная машына. На сцяне вісела вялізная карта неба. Цяпер яна была асабліва важнай.

Вядома, спачатку трэба было вызначыць шлях ракеты, адлегласць ад Месяца, улічыць прыцяжэнне, хуткасць палёту, — і толькі тады рабіць нейкія вывады, прымаць рашэнні.

Эліпс, які рабіла ракета вакол Месяца, прыкметна звузіўся. Намнога зменшылася адлегласць да вялізнага ззяючага халодным святлом шара. Калі яго закрыў цень і ён свяціўся адным вузкім бокам, здавалася, што ракета ляціць насустрач скале, адламанай ад нейкай дзівоснай срэбранай гары. Жудасць і непрыемны халадок страху агарнулі сэрца.

Роб цяжка ўздыхнуў, запісаў апошнюю лічбу зробленых вымярэнняў. Цяпер запрацавала электронная машына. Хвіліна — і быў атрыманы канчатковы падлік. Роб зняў стужку і міжволі прыжмурыўся. На ёй быў напісаны іх смяротны прысуд. Лепш бы не ведаць, калі наступіць іх апошняя хвіліна.

Але побач сядзіць капітан. Чутно, як ён цяжка сапе, паварочваецца ў крэсле. Агіднік! Перад тым, як памерці, ён хоча бачыць чужую смерць. Гэтага не здарыцца. Ён, Роб, паспрабуе яшчэ што-небудзь прыдумаць.

Колькі-ж застаецца часу? Ён глянуў на гадзіннік і акамянеў ад жаху. Поль Арноль больш паблажлівы, чым смерць. Яна патрабавала сваіх ахвяр роўна праз трыццаць хвілін!

У першую хвіліну ў яго перахапіла дыханне, і ён не мог нават вымавіць слова. Перамогшы хваляванне, Роб сказаў:

— Містэр Арноль, справы нашы кепскія. Праз трыццаць хвілін ракета пахавае нас пад выспамі.

— Праклянцце! — вылаяўся Поль. — Роб, як-жа ісці на той свет жывым? Ты не баішся? Скажы?

— Дзіўнае пытанне, сэр, — адказаў ён. — Я-ж таксама чалавек.

— Што-ж рабіць, Роб? Ты мазгавіты. Падумай!

— У нас ёсць шанс захаваць сабе жыццё. Ёсць выхад!

— Які?

— Трэба рабіць пасадку, — і Роб растлумачыў свой план.

У Поля загарэліся вочы: і сапраўды, гэта-ж магчыма. Яны возьмуць з сабой балоны з паветрам, выскачаць з ракеты і самастойна пойдуць на пасадку. Зрабіць яе не так ужо і цяжка. За спіной-жа надзейныя рэактыўныя апараты! Жыццё іх будзе прадоўжана яшчэ на два-тры дні! Цэлая вечнасць!

— О, хвала найвышняму! — з палёгкай уздыхнуў Поль. — Мы пamрэм, Роб, на кратэры Каперніка, са сцягам Штатаў. Дзе-б мы ні высадзіліся, павінны дайсці туды. Чуеш, Роб!

— Чую, сэр. На зборы застаецца дваццаць хвілін. Трэба ў апошні раз чаго-небудзь з'есці...

— Мудрае рашэнне, — задаволена адказаў Поль, і яны, сеўшы за спецыяльны столік, пачалі старанна падсілкоўвацца.

Пакутлівы смутак па роднай зямлі агарнуў сэрца Роба. Ён уявіў сабе на момант шумныя, ажыўленыя вуліцы і плошчы гарадоў, гаманлівыя натоўпы людзей. Як жывыя, паўсталі перад ім вобразы дзяцей з бескла-

потнымі ўсмешкамі на тварах, кучаравымі валасамі. Там — радасць, шчасце, весялосць!.. Як усё гэта далёка для іх і недасягальна.

Палонныя Месяца! Яны хацелі першымі ступіць на яго глебу, парушыць сваімі крокамі вечную цішыню мёртвай пустыні... А сталі першымі ахвярамі... Было прыкра, балюча адчуваць сваю асуджанасць, бездапаможнасць.

У цеснай, залітай асляпляльным святлом каюце стаяла цішыня. Поль еў спяшаючыся, глытаў ежу цэлымі кавалкамі, не пеpажоўваючы. Ніхто на свеце, мабыць, так не рыхтаваўся быць перад смерцю сытым, як ён.

Робу здавалася, што ўсё гэта адбываецца ў нейкім дзіўным недарэчным сне. Ён таксама спяшаўся: час быў няўмольным сведкам і суддзёй.

— Капітан, пара! — ускочыў нарэшце з крэсла Роб. — У запасе ў нас толькі сем хвілін. Глядзіце — пад ракетай Месяц.

Сапраўды, за тоўстым шклом ілюмінатараў зорная дарожка чорнага бяздоння замянілася на залацістую істужку знаёмых краявідаў мёртвай планеты.

Поль запхнуў у рот апошнюю плітку шакаладу, выцер губы і, схапіўшы бутэльку з вадой, выпіў яе ўсю да дна.

Апранаючы касцюм, ён загадаў:

— Роб, ты забярэш атамны снарад. Яго мы ўзарвем, каб падаць на Зямлю сігнал. Я вынесу балоны з паветрам. Колькі можна пакладзі ў касцюм шакаладу і бутэлькі з вадой. Зразумела?

— Так, сэр!

— Пайшлі!

Аўтаматычна адчыніліся дзверцы двайнога люка-шлюза. Роб у апошні раз акінуў вачыма ўтульную каюту, якая так добра служыла ім за ўвесь час падарожжа. Для чаго яны імкнуцца ашукаць самі сябе? Хіба можна суцешыць сэрца тым, што на некалькі гадзін будзе аддалена імгненне смерці? Ці не лепш памерці свабодна, у прывычнай абстаноўцы каюты, а не ў нязграбным і цяжкім касцюме, у якім давядзецца пакутаваць, галадаць і, нарэшце, задыхнуцца ад недахопу паветра.

— Скачы! — крыкнуў у мікрафон Поль і першым вылецеў у прастору.

Роб адчуў, як нейкі цёплы, лёгкі струмень абмыў сэрца. У вочы ўдарылі яскравыя патокі святла. Унізе паварочваўся голымі каменнымі бакамі Месяц. Усё было відаць да драбніц. Вось кратэры Герадот і Арыстарх. Далей разлягалася знаёмая раўніна мора Дажджоў. І ўсюды, куды ні глянь, — кругі вялікія, сярэдніх памераў і зусім малыя, якія нагадваюць варонкі ад выбухаў. Здавалася, гэта быў нейкі палігон.

— Роб, клянуся небам, ты наслаў на мяне нейкі туман, — закрычаў у мікрафон Поль.

— У чым справа, капітан?

— Я забыўся ў ракеце пісталет... — Поль сказаў гэтыя словы такім разгубленым, трывожным голасам, быццам там пакінуў усё сваё багацце.

Роб нічога не адказаў, толькі азірнуўся і дакорліва паглядзеў на скурчаную, нязграбную постаць Арноля. Яны ляцелі на вышыні ста кіламетраў. Уперадзе нябесных падарожнікаў сунулася металічная грамада касмічнага карабля.

— Капітан, пара зніжацца, — закрычаў Роб і ўключыў свой рэактыўны рухавік, каб затармазіць палёт. Адразу-ж здалося, быццам ён трапіў у ваду і з цяжкасцю прабіраецца наперад. Касцюм шчыльна прылёг да грудзей, сціснуў іх. Хуткасць змяншалася. Ракета, наадварот, як-бы паско-

рыла палёт, імкліва панеслася ўдалячынь і неўзабаве знікла за вострымі зазубрынамі чорнага небасхілу.

Два чалавекі, нібы дзве крылатых дзіўных істоты з нейкага фантастычнага свету, ляцелі над панурай каменнай пустыняй Месяца.

## Раздзел дваццаты

У яго аслабелі рукі і ногі, ён дрыжаў. Спазмы душылі грудзі, у галаве стаяў нудны, працяглы звон. Але чалавек неяк яшчэ знаходзіў у сабе сілы і ціха, з вялікім, пакутлівым намаганнем варушыў вуснамі, гаварыў. Можа ён вымольваў у ворага літасць? Не, ён як няшчасны замярзаючы жабрак, стаяў перад зачыненымі дзвярамі і прасіў паратунку.

Звон у галаве рабіўся больш надакучлівым. Вось ужо і на вочы наплыў туман. Сэрца ў грудзях не б'ецца, а трапеча, уздрыгвае, як параненая птушка. Хутка — канец. Але яшчэ трэба сказаць слова, яшчэ...

Ён гаварыў і глядзеў у адну кропку. Яна блішчэла для яго іскрынкай надзеі, прымушала пакутаваць, змагацца, жыць.

Колькі прайшло часу ў такім стане, чалавек не ведаў. Але ён выразна бачыў, як паступова вакол яго згушчалася цемра, як пачалі драбнець рассыпаныя навокал зоры. І ён адчуў раптам нейкую дзіўную лёгкасць. Саладкаватая стома агортвала ўсё цела. Прыходзіў супакойваючы, жаданы сон. Чалавек засынаў не засынаў, а паміраў...

І ўсё-ж вочы яшчэ з надзеяй углядаліся ў жорсткі халодны метал дзвярной ручкі ракеты. Ці то позірк яго вачэй быў такі гіпнатычны, ці то яго пачулі на Зямлі, але раптам... дзвярная ручка нарэшце павярнулася, і чалавек убачыў перад сабой авальную адтуліну камеры-шлюза. Ён зняможана міргаў павекамі, не верачы ў гэтую нечаканую праяву. «Гэта ўсё прывід, падман, — запэўняў ён сябе. — Гэта дражніцца са мной жыццё...»

Каб праверыць, ці адкрыты люк на самай справе, трэба напружыць сілы, рухацца. А так не хочацца гэта рабіць. Прыемна ляжаць, не варушыцца, ні аб чым не думаць.

Але чалавек яшчэ быў жывы, яшчэ, як у нейкім цяжкім тумане, у галаве блукалі апошнія запозненыя думкі, і ён не мог паддацца чарам смерці.

Ён натужыў мускулы ног, глыбока ўздыхнуў і зрабіў асцярожны рух. Выцягнутыя наперад рукі абапёрліся аб стальную абшыўку дзверцаў, і ён увайшоў у камеру-шлюз.

У той-жа момант дзверы зачыніліся. Убаку нешта зашумела, загуло. Чалавек інстынктыўным рухам рукі націснуў на спецыяльны клапан шлема. Шлем адкрыўся, і чалавек зняможана асунуўся на падлогу. Яму раптам здалося, што ён паляцеў некуды ў бяздонне...

Колькі часу прайшло, пакуль чалавек апрытомнеў, ён не ведаў. Абудзіўся ён нечакана ад радаснага адчування бунтуючага навокал жыцця. Яму здавалася: недзе ўгары над ім сунуцца вільготныя шчыльныя хмары, шугае напорысты вецер і па даху пастуквае тугімі кроплямі дождж. Шчаслівая ўсмешка мільганула на яго вуснах. Чалавек не мог паварушыцца, расплюшчыць вочы, бо баяўся, што раптам усё гэта знікне і да яго вернуцца пакуты, страх, смерць...

Ён раней ніколі не заўважаў смаку паветра і быў перакананы, што яно яго не мае і мець не можа. Як ён моцна памыляўся! Цяпер ён дыхаў і

адчуваў, што паветра не толькі салодкае, пяшчотнае, духмянае, — яно свяжэйшае за ваду, смачнейшае за самую лепшую на свеце страву...

Ён адчуваў, што да яго вярнулася жыццё. Ужо рукі і ногі маглі свабодна рухацца, іх скоўвала цяпер толькі цяжкая вопратка.

Чалавек устаў. Цяпер ён быў ўжо не проста чалавек, а Макс Вэл, вялікі пакутнік і не меншы шчасліўчык, былы штурман ракеты «Анаконда». Ён азірнуўся і скінуў касмічны касцюм. Каюта-шлюз напоўнілася паветрам, і адразу замоўклі ўбаку электрычныя помпы. Макс націснуў на зялёную кнопку. Бясшумна расчыніліся створкі сцяны, і ён увайшоў у каюту ракеты.

Са столі лілося мяккае блакітнае святло, ззялі чысцінёй сцены, стол, падлога. Уперадзе віднелася штурманская рубка з безліччу living разнастайных цыферблатаў, лямпачак, кнопак і рычагоў.

Макс павярнуўся, і яго позірк спыніўся на маленькай скрыначцы, на якой ляжалі яблыкі і чорная гумавая бутэлька. Макса нібы нехта падштурхнуў уперад.

Лёс? Так, ён пакуль яшчэ беражэ Макса! Макс раптам адчуў тупы боль у жываце. Гэта былі пакуты голаду. Ён-жа нічога не еў больш сутак. Адразу яго ахапіла прагнае, няўтольнае жаданне: есці, есці!

Уздрыгнулі рукі, у асмяглым роце раптам з'явілася сліна. Ён не падышоў, а падбег да століка, схапіў яблык, запіхнуў яго ў рот і пачаў есці. Потым запіў малаком, якое было ў чорнай бутэльцы. Макс піў, заглушаючы смагу і голад, і не мог паверыць свайму нечаканаму шчасцю.

Некалькі хвілін назад ён быў асуджаны на смерць, біўся, заціснуты яе кастлявымі пальцамі, і вось яго пачулі, прышлі на дапамогу, выратавалі!..

Тут, у каюце, ён знайшоў не толькі святло, цеплыню, паветра, адпачынак. Яго тут як-бы загадзя чакалі. Нават падрыхтаваны яблыкі, малако. А калі пашукаць, дык тут яшчэ што-небудзь знойдзецца...

І раптам — што гэта? Аварыя, катастрофа? Балючы ўдар па галаве збіў Макса з ног, і ён, як падкошаны, зваліўся на падлогу. Рукі інстынктыўна ўчапіліся за нейкую металічную скабу.

Не паварочваючы галавы, Макс прыслухаўся. Чаму-ж нічога не валіцца на яго, не трашчыць, не грукоча? Калі-б адбылося сутыкненне з метэарытам, у адно імгненне знікла-б з каюты і паветра. Але-ж ён жывы, дыхае і навокал пануе ранейшая цішыня.

Значыць, нешта адбылося іншае? Ён хацеў быў павярнуцца, каб паглядзець на каюту, але тут-жа прыціх, затаіў дыханне. За яго спіной выразна пачуліся нейчыя крокі.

Маці родная! Няўжо ён тут не адзін?

У прадчуванні наступнага ўдару Макс напружыў мускулы, падцягнуў да грудзей ногі. Але, мабыць, яго больш не збіраліся біць. Наадварот, нехта стаў над ім, нагнуўся і цяжка засоп над вухам.

І што за праява? Яго цалуюць? Не, гэта не памылка! Ён выразна адчуў на сваёй шчацэ дотык мокрых губ.

Сэрца яго забілася весялей, калі ён уявіў, што тут можа быць жаночая асоба. «Гняўлівая, але-ж і ласкавая», — прыйшла першая думка. Ён падрыхтаваў усмешку, смела павярнуўся ў бок.

Божа літасцівы, як ты дазваляеш сабе гэтак жартаваць! Усмешка Макса ў момант знікла з твару, замянілася на грымасу агіды: перад ім стаяла малпа!

Нейкі час яны глядзелі адзін на аднаго, уражаныя нечаканасцю сустрэчы.

Макс адсунуўся ў бок, са злосцю вылаяўся. Малпа таксама заверашчала нешта сваё, закруціла галавою. Не інакш, яна выказвала сваю крыўду за тое, што парушылі яе супакой, забралі яе сняданак.

Макс нейкі момант глядзеў на крыўлянні малпы, потым раптам зарагатаў.

Калі разважыць, не такая ўжо і дрэнная кампанія. Клапоцячыся аб ёй, людзі, вядома, падрыхтавалі ў ракеце нямала розных прыпасаў. Значыць, тут можна будзе жыць без трывогі і асаблівых клопатаў нейкі час.

Макс устаў, падышоў да століка, агледзеў яго. Гэта быў спецыяльны аўтамат, які ў пэўныя гадзіны выстаўляў для малпы неабходную страву. Як ён дзейнічае, няцяжка было здагадацца.

Макс націснуў на перламутравы гузік, і адразу-ж на стале з'явілася бутэлька і банан. Малпа, убачыўшы такі пачастунак, радасна завішчала, спрытна схапіла ўсё ў лапы і, адскочыўшы ў кут, пачала прагна піць і есці.

— Ну, цяпер задаволена? — добрадушна прамовіў новы жыхар каюты.

Яна маўчала, дзелавіта распраўляючыся са сваім сняданкам.

Макса зацікавіў пульт кіравання. Ён падышоў да яго, звычна апусціўся ў крэсла, пацягнуўся рукою да адной з прылад. Вокліч здзіўлення вырваўся з яго вуснаў. Пульт кіравання знаходзіўся за празрыстым тоўстым шклом. Мільганула думка — і ўсё стала зразумелым. Вядома, нельга-ж было прадаставіць малпе кіраванне ракетай.

Праз момант справа на сцяне нешта загуло. Макс жвава павярнуўся. Высока перад ім свяціўся тэлевізійны экран. Адтуль на яго глядзелі светлыя немігаючыя вочы дзяўчыны.

— Як адчуваеце сябе? — запыталася яна па-англійску.

— О, міс, дзякую. Я абавязаны вам сваім жыццём. Дазвольце расказаць вам, як я сюды трапіў.

— Калі ласка! — адказала дзяўчына. — Я запішу магнітафонам ваш расказ.

Макс у знак згоды кіўнуў галавою, зручней усеўся ў крэсле, рыхтуючыся пачаць расказ пра дзіўнае сваё падарожжа.

## Раздзел дваццаць першы

Дзівосная вестка абляцела ўвесь свет. Усюды толькі і было размовы пра Макса, пра яго незвычайную прыгоду. Чалавек у космасе перасеў на другую ракету, выратаваўся ад немінучай смерці! Гэта было неверагодна! У газетах усіх краін друкаваліся інтэрв'ю Макса Вэла, якія ён даваў з борта аўтаматычнай савецкай ракеты «Алмаз».

Шмат выказвалася розных здагадак аб лёсе яго калег — Поля Арноля і Роба Дэвіса.

Як ніколі, сёння было шумна і ажыўлена ў гарадку астранамічных інстытутаў, абсерваторый і спецыяльных школ па касманавігацыі— Галактыцы. Усе хадзілі ўзрушаныя, усхваляваныя, падоўгу тоўпіліся ля выстаўленых на вуліцы тэлеэкранаў, чакалі новых падзей і навін. Што такія навіны і падзеі будуць, ніхто не сумняваўся.

Алег і Віктар таксама былі ўзрушаны.

Пасярэдзіне пакоя стаяў вялікі круглы стол. Віктар разаслаў карту,

паклаў цыркуль, рознакаляровыя алоўкі. Алег разгарнуў тоўстую ў калянкоравай вокладцы кнігу, сеў побач з Віктарам і пачаў перагортваць старонкі.

Правесці карабель у бязмежным акіяне сусветнай прасторы — не простая справа. Гэта не плаванне на звычайным моры: глядзі на карту і компас, ведай, якая хуткасць, і ты дакладна вылічыш, калі, у які час дасягнеш патрэбнай прыстані.

У космасе нічога не стаіць на месцы. Усё там — і Зямля, і Сонца, і ўсе планеты, і мільёны метэораў, ад мізэрных пылінак да аграмадных скалістых абломкаў — ляціць, кружыцца, пракладае сабе шлях. Імі кіруюць складаныя законы нябеснай механікі.

Мы часта любуемся Месяцам, падоўгу ў ясныя ночы назіраем за ім. І здаецца, што начное свяціла, якое так велічна і ўрачыста ззяе над нашай галавой, робіць вельмі простае падарожжа па небу. Але гэта не так. Каб прадказаць яго будучы шлях, вучоным даводзіцца рабіць складаныя вылічэнні, якія займаюць па некалькі соцень старонак. Яно і зразумела. Трэба ўлічыць больш сотні вялікіх і каля поўтысячы другарадных прычын, якія ўплываюць на яго рух.

З хуткасцю 30 кіламетраў у секунду ляціць па сваёй арбіце Зямля. Увесь час мяняе сваё месца і Месяц. Фактычна, каб трапіць да яго, трэба трапна прыцэліцца. Карабель, які прыляціць да пункта разлічанай сустрэчы на поўгадзіны пазней, не застане свайго касмадрома. Давядзецца даганяць Месяц ці вяртацца назад на Зямлю. Такі пралік можа дорага каштаваць. Вось дзе патрэбна пільнасць, дакладнасць, моцныя рукі, надзейныя вочы.

Зрабіўшы нейкія запісы, Алег адклаў у бок кнігу, падсунуўся да Віктара і пачаў разглядаць карту. На ёй у загадкавым лабірынце перапляліся дзесяткі рознакаляровых ліній. Чырвоныя лініі ў выглядзе ізабараў паказвалі палі прыцяжэння планет, Сонца, сінія — канцэнтрычныя кругі эліпсаў — іх шлях па акіяну касмічнай прасторы.

А што азначаюць пункцірныя штрыхі? Гэта патокі метэарытаў, што з'яўляюцца своеасаблівымі воблакамі космаса.

— З 20 па 30 чэрвеня на Зямлю выпадаюць баацыды, — прамовіў задумліва Алег.

— З сузор'я Валапаса, — дадаў Віктар.

— Так. І самы вялікі зорны дождж ад іх назіраўся ў 1944 годзе. Калі праўда, што галоўная маса баацыдаў пралятае каля Зямлі праз 20 год, тады...— ён замоўк на хвіліну і заклапочана правёў рукою па ілбе. Але калі суджана сустрэцца з імі, сустрэнемся, — сказаў Алег.

— А я назначыў-бы палёт на люты і сакавік месяцы. Не трэба спяшацца...

— Як не трэба спяшацца? Людзі-ж гінуць, просяць дапамогі. А ў нас ракета ўжо гатовая. Баацыды не такія ўжо і страшныя. Бачыш, яны праходзяць ля Зямлі вузкай палоскай, яе лёгка можна «прабіць», калі вылецець роўна ў поўдзень. Глядзі, гэтая траса самая надзейная, — паказаў ён пальцам на тлустую карычневую лінію на карце.

— Яшчэ як сказаць, — запярэчыў Віктар. — Я чуў, Дзянісаў гаварыў, што паток баацыдаў вельмі зменлівы і сёлета можа блізка падыйсці да арбіты Зямлі.

— Яно так, — згадзіўся Алег. — Але я не веру ў вялікую небяспеку.

Скажу табе другое. Многія нашы вучоныя думаюць, што большая частка метэораў — крупінкі лёду розных замёрзшых газаў. Калі гэта так, абшыўка карабля — надзейная наша абарона. Ды ўлічы яшчэ электронна-магнітныя гарматы...

— Мала яны дапамогуць, калі сустрэнецца цэлая скала. У такіх выпадках толькі рукі і вочы.

— Вядома, — згадзіўся Алег. — Для чаго-ж мы будзем у ракеце? Даляцім, Віктар, даляцім!

Нечакана дзверы ў пакой адчыніліся, і хлопцы ўбачылі на парозе Івана Іванавіча Дзянісава. Ён быў у парусінавым светлым касцюме, які здаваўся для яго постаці крыху мешкаватым, у лёгкім капелюшы з рысавай саломкі. Прафесар быў нечым усхваляваны. Ён агледзеў прыжмуранымі вачыма штурманскі пакой, зняў капялюш і, бадзёра ўсміхнуўшыся, падышоў да хлопцаў.

— Магу вам паведаміць па сакрэту, — сказаў ён, — на карабель пагружаюць абсталяванне для рэтрансляцыйнай тэлевізійнай станцыі.

— Нарэшце! — усклікнуў Алег і, па-вайсковаму выцягнуўшыся, спытаў: — Таварыш камандзір карабля, што загадаеце...

Дзянісаў перапыніў:

— Запомні, Алег, я начальнік экспедыцыі і ніякі не камандзір.

Штурман здзівіўся.

— Карабель і без камандзіра?.. Дзіўна... — і пацінснуў плячыма.

— Дарэмна так думаеш. Ён ёсць, — растлумачыў Дзянісаў, — але, клянуся, не я!

— Хто-ж тады? — у адзін голас запыталіся Алег і Віктар.

Іван Іванавіч хітравата прыжмурыў вочы:

— Прыдзе час, ён сам аб'явіцца...

Хлопцы здзіўлена паглядалі адзін на аднаго, добра не разумеючы, жартуе Іван Іванавіч ці гаворыць праўду.

Усе, нібы дамовіўшыся, разам падышлі да высокага, расчыненага насцеж акна. На захадзе палымнеў рознакаляровасцю фарбаў вечар. З шырокіх алеяў, дзе згусціліся цені, струменіў халадок, павявала вільгаццю.

Перад імі раскінуўся неабсяжны прастор. Яго ўпрыгожвалі не толькі прырода, але і чалавечы геній — удалечыні між зеляніны віднеліся купалы і стрэльчатыя вежы будынкаў, мачты, аркі, каланады палацаў. Перад імі ляжала ва ўсёй велічы і вечаровай прыгажосці Зямля — калыска розуму, крылатай думкі, дзёрзкіх сэрцаў.

Любаванне адкрытым ва ўсе бакі прасторам выклікала ў іх душы не толькі радасць, захапленне, але і роздум, нейкі незразумелы смутак.

Іван Іванавіч зняў капялюш, выцер хусцінкай лоб. Блакітныя вочы яго блішчэлі нецярплівай радасцю, на вуснах застыгла ўсмешка.

Нечакана пачуўся нізкі, працяглы гудок: успыхнуў экран тэлевізафона. Чорнабровая, з пухлымі губамі дзяўчына, як-бы пазіраючы ў вочы Івану Іванавічу, прамовіла:

— Гаворыць Масква! Слухайце экстранае паведамленне ўрада Саюза ССР. 25 чэрвеня з спецыяльнага касмадрома ў 12.00 адбудзецца старт ракеты «Вулкан», якая возьме курс на Месяц. Мэта палёту — вывучыць прыроду Месяца, даведацца аб магчымасцях арганізацыі там навукова-даследчага гарадка, заснаваць рэтрансляцыйную тэлевізійную станцыю, апрача ўсяго, — выратаваць членаў экіпажа ракеты «Анаконда», якая пацярпела аварыю ў космасе.

Малінавыя водсветы зары палалі ў шыбах вокнаў, у шырокім люстры басейна, што быў непадалёк ад ракетапорта, на вільготных стужках асфальтавых дарог. Дзянісаў глядзеў у сінявату купал неба прагна, зачаравана, як быццам у ім ён бачыў найвялікшую ў свеце прыгажосць.

* * *

Члены экіпажа «Вулкан» прыляцелі з Масквы на касмадром на паветраным аўтамабілі. Узыходзіла сонца. Дыміўся, зіхацеў ранішнімі росамі шырокі стэп. Хоць воблакі ў небе стаялі амаль на месцы, няцяжка было прыкмеціць, як яны паступова раставалі. Свежыя патокі паветра цяклі не ўздоўж па стэпу, а ад зямлі ў неба.

На касмадроме іх сустрэлі члены ўрадавай камісіі і карэспандэнты розных газет свету. Праважаючых было вельмі мала, бо раён касмадрома з'яўляўся небяспечнай зонай. Старт павінен перадавацца тэлецэнтрамі буйнейшых гарадоў краіны, і яго ўбачаць мільёны людзей.

Дзянісаў, Віктар Машук і Алег Дрозд... Здавалася, гэта стаялі два сыны з бацькам, апранутыя па-дарожнаму. Успыхвалі агні «бліцаў», стракаталі кінокамеры. Такімі — гордымі, са стрыманымі ўсмешкамі — бачылі іх у гэтую хвіліну ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Мінску...

Нарэшце да Дзянісава падышоў начальнік касмадрома.

— Прабачце, апошні раз турбуем. Вас просяць зайсці на санітарны пункт.

— Ах, гэтыя праверкі! Замучылі нас, — уздыхнуў прафесар і кіўнуў хлопцам, каб ішлі за ім.

Яны спусціліся па бетонных прыступках у падземны будынак. Віктар мала спаў гэтай ноччу. Надакучлівыя думкі былі неадчэпнымі. Прад вачыма мільгалі малюнкі карабля, пустога чорнага неба, уяўляліся нечаканыя сустрэчы з метэарытамі.

У санітарным пункце касмічных падарожнікаў акружыў цэлы натоўп урачоў.

— Ды выпусціце нас жывымі. Страўнік замучылі, — гаварыў Іван Іванавіч высокаму ў акулярах прафесару. — Пульс, ціск, дыханне — усё ў норме.

— Не, галубок, не, мы яшчэ раз праверым,— адчуваючы сваю ўладу, жартаўліва адказваў той і старанна выстукваў грудзі.

Віктар Машук стаяў ля канапкі, апранаўся.

— У вас, малады чалавек, здароўя на пяць палётаў, — сказаў задаволена старшыня камісіі, аглядаючы яго мускулістае цела.

— Калі ў яго на пяць, у Алега на дзесяць, — у тон яму заўважыў Іван Іванавіч. — Мы з ім ужо старыя падарожнікі...

Але агляд Алега нешта зацягваўся. Рыжавалосая жанчына падазрона аглядала яго твар, некалькі разоў падлічыла пульс і, нарэшце, прапанавала змераць тэмпературу.

Алег незадаволена зморшчыўся. Падышоў Іван Іванавіч Дзянісаў і стаў нецярпліва чакаць выніку агляду.

— Ну, што? — пацікавіўся ён, калі доктар выцягнула з-пад пахі хлопца градуснік.

— 35,6 градуса, — абвясціла яна, здзіўлена ўскінуўшы вочы. — Пераамленне... Што з вамі здарылася?

— Нічога асаблівага, — адказаў Алег. — Малавата спаў — вось і ўсё.

— Усё-ж я вымушана затрымаць вас, — засмучана сказала яна і павярнулася да Дзянісава. — Іван Іванавіч, у вас ёсць запасныя людзі?

Дзянісаў незадаволена бліснуў вачыма.

— Наталля Сцяпанаўна, што-ж гэта атрымліваецца? Вы гвалтоўна адбіраеце ў мяне бывалага штурмана...

— Усё гэта правільна, але ў нас такі абавязак: дазваляць палёт толькі здаровым. Разумееце?

Дзянісаў захваляваўся.

— Наталля Сцяпанаўна, вы-ж самі ведаеце: Алег прайшоў усе трэніроўкі, паказаў найлепшыя вынікі. Я ўпэўнены за яго, спадзяюся...

Алег спалохаўся, аж збялеў. Якая непрыемная гісторыя! Не выканаў распарадак дня — і вось лыпай вачыма.

Віктар, пачуўшы ўзбуджаную размову Дзянісава з доктарам, падышоў да іх. Задаволенне мільганула ў яго ўсмешцы, якую ён адразу-ж паспяшаўся пагасіць. Нейкі момант Віктар стаяў нерухома, як-бы нешта абдумваючы. Потым штурхнуў у плячо Алега.

— Схітрыў? Так? — ціха, з несхаванай нянавісцю спытаў Віктар. — Але май на ўвазе: пераможца атрымлівае ўсё!

— Віктар, пра што ты? — спалохана зірнуў на таварыша Алег. Потым дакорліва пакруціў галавой і сказаў: — Нікчэмныя ў цябе думкі, Віктар. Я думаў, ты разумнейшы... — і адвярнуўся ў бок.

Урачы спрачаліся, даказвалі адзін аднаму. Алег зразумеў: у іх не было пэўнай цвёрдай думкі і рашэння. І вось Алегам зацікавіўся галоўны ўрач. Ён сам агледзеў яго, выслухаў.

— Галава не баліць?

— Не.

— Не адчуваеце стомы?

— Не.

— Жадаеце ляцець?

— Што за пытанне, доктар, — усхвалявана адказаў Алег. — Не толькі хачу, я жыву гэтым палётам!

— Бачу, бачу, таварыш Дрозд, — усміхнуўся галоўны ўрач. — Ваша шчасце, што я добра ведаю вас і ваш арганізм. А то давялося-б ля тэлевізафона сумаваць. Апранайцеся!

Алег быў рады. Калі падарожнікі пачалі развітвацца, хлопец шчыра, з удзячнасцю пацiснуў руку галоўнаму ўрачу і жартаўліва сказаў:

— Я веру, доктар, прыдзе час, і вы будзеце спецыяльна пасылаць хворых на Месяц, дзе мы пабудуем санаторыі і лячэбніцы.

— Ляціце! Шчаслівай вам дарогі.

Калі яны выйшлі з санітарнага пункта, іх зноў акружыў гаманлівы натоўп. У рукі перадаваліся блакноты, кніжкі, і яны таропкім росчыркам самапісак пакідалі там свае аўтографы.

Карэспандэнты радыё даймалі Дзянісава просьбамі сказаць некалькі слоў перад мікрафонам.

І вось высока над стэпам узляцела сігнальная ракета.

— На старт! — загучала каманда.

Аднекуль выбеглі піянеры з пышнымі букетамі кветак і ўручылі іх пад апладысменты праважаючых смелым падарожнікам.

Дзянісаў, Віктар і Алег, развітаўшыся са знаёмымі і служачымі касмадрома, пайшлі па бетаніраванай дарожцы да ўзлётнай эстакады. Следам за імі несліся ўрачыстыя воклічы, грымела нескладанае, але радаснае «ўра».

І вось непадалёку — доўгі верацёнападобны корпус «Вулкана». Здавалася, гэта ляжаў магутны акіянскі кіт, толькі што выцягнуты з вады. Ільсніліся, блішчалі пад сонцам дбала адпаліраваныя крутыя бакі карабля.

Іван Іванавіч Дзянісаў паважна ўзняўся па лесвіцы да ўваходнага люка, адчыніў яго і павярнуўся да натоўпу. У той-жа момант шырокім прыбоем загучала ўрачыстая магутная мелодыя гімна. Падарожнікі ўвайшлі ў ракету.

Алег паглядзеў у ілюмінатар. У неба зноў узляцела ракета, і ўсе людзі, што былі на касмадроме, заспяшаліся да сховішчаў. Некалькі хвілін — і члены экіпажа занялі свае месцы. Старт пачаўся зусім нечакана. Ужо беглі ў нейкім ліхаманкавым разгоне за ілюмінатарамі пакатыя бетонныя бакі будынкаў касмадрома, высокія вежы антэн лакатараў, басейны, фантаны, істужкі дарогі, — а ў ракеце яшчэ ніхто не адчуваў руху. Нарэшце, пачуўся прарэзлівы посвіст, які раптам ператварыўся ў грымотны грукат.

Эластычны матрац выгнуўся пад Алегам, і юнак выразна адчуў, як на яго грудзі зваліўся нябачны магутны цяжар.

Цяжкая стома завалодала ўсім целам, нехапала паветра. На ілбе выступіў халодны ліпкі пот. Калі Алег адчуў гэта, захваляваўся. Ці не звыш нормы павялічвалася паскарэнне? Ён націснуў на спецыяльную кнопку, і ў ракеце пачуўся голас:

— Вышыня 20 тысяч метраў, тэмпература мінус 42 градуса, паскарэнне 2,5 кілометра ў секунду.

Гэта гаварыў аўтаматычны індыкатар, які з дапамогай мініятурнай электроннай машыны праз кожную хвіліну палёту мог даваць усе неабходныя для экіпажа звесткі.

Алег супакоіўся. Палёт праходзіў дакладна па плану. На сёмай хвіліне індыкатар паведаміў:

— Вышыня 2 тысячы кіламетраў, тэмпература — 215 градусаў, пад намі Сахалін, паскарэнне 5,7 кілометра ў секунду.

Яшчэ некалькі стамляючых хвілін чакання і «Вулкан» набывае хуткасць 7,8 кілометра ў секунду. Выключаюцца матары. Ракета робіць шырокі круг вакол Зямлі.

Падарожнікі ўстаюць з гумавых канапак і, ператварыўшы іх у крэслы, зручна садзяцца.

Алег пазірае ў чорнае, як сажа, неба і ўключае кароткахвалевыя перадатчыкі.

— «Вулкан!», «Вулкан!» — даносіцца з эфіра. — Мы бачым цябе. Прымі прывітанне ад «Амура».

— Гаворыць Прага! Члены калектыву навуковай станцыі Чэхаславацкай Рэспублікі моцна ціснуць вашы рукі і жадаюць шчаслівага плавання.

— Мы з Дуная!.. Мы з Дуная!.. Кланяйцеся ад нас Месяцу.

Потым слова было перададзена «Луары», «Варшаве» і «Каўказу» — усім касмічным астравам, якія курсіравалі па сваіх дарогах-арбітах вакол роднай планеты.

Хутка «Вулкан» павінен быў наблізіцца да «Зоркі Кэц», прыняць ад яе падрыхтаванае паліва, неабходнае для далейшага падарожжа ракеты.

Алег уключыў тэлевізар. На пульсуючым, нібы з вады, шкле вырысавалася аграмаднае вобад-кола. Яно ззяла, пералівалася сотнямі агнёў. Там жылі, працавалі людзі. Штучны спадарожнік ляцеў па сваёй арбіце з хуткасцю да васьмі кілометраў у секунду.

— Сябры! Мы падыходзім да вас, сустракайце! — прамовіў Алег, убачыўшы ў экране капітанскую каюту і вясёлыя твары яе жыхароў.

— Мы гатовы! Высылаем на вашу арбіту хуткасныя ракеты з цыстэрнамі, — пачулася ў адказ. І Алег пераключыў тэлевізар, каб паглядзець, як з гэтых цыстэрн будзе перапампоўвацца паліва-акісляльнік.

Пятнаццаць хвілін — і «Вулкан» быў запраўлены. Цяпер ён выходзіў на трасу свайго вялікага падарожжа.

Вобад «Зоркі Кэц» схаваўся за рамку экрана, бліснуў двума яркімі снапамі пражэктараў. Бывай, Зямля! Ты апошняя праводзіш нас у далёкі шлях, зычыш шчасця і поспехаў.

Хоць падарожнікі прайшлі ўсе трэніроўкі на Зямлі, але страта вагі выклікала непрыемныя адчуванні. Здавалася, яны некуды падаюць, праваньваюцца. Ныла, замірала сэрца ў грудзях...

Толькі тут, у касмічным караблі, можна па-сапраўднаму зразумець значэнне сілы цяжару. Што было-б, калі-б раптам наша планета страціла гэтую сілу? Паветра адразу знікла-б у касмічнай прасторы, выпарыліся-б моры і акіяны; паязды, аўтамашыны і людзі пры нязначным руху адрываліся-б і ляцелі ў бездань. Толькі пры пералётах з адной планеты на другую чалавеку даводзіцца сустракацца з бязважкасцю. Калі-б у ракеце ўсе рэчы не былі прымацаваны да сцен спецыяльнымі скобамі, кручкамі і гумавымі цясёмкамі — яны зрушыліся-б з месц і блукалі-б, як жывыя, з кута ў кут, ад сцяны да сцяны.

Іван Іванавіч сядзеў ля тэлескопа, Віктар заняў месца ля пульта кіравання. У Алега быў вольны час.

«Вулкан» павялічыў хуткасць. Па шырокай поўэліптычнай крывой накіраваўся на стацыянарную арбіту. Яна адрозніваецца ад усіх арбіт тым, што ракета, праходзячы па ёй, будзе як-бы прывязана да аднаго і таго-ж пункта Зямлі. Гэта ствараецца таму, што «Вулкан» будзе рабіць поўны круг вакол планеты за 24 гадзіны.

Спакойна рухаліся стрэлкі прыбораў. Марудна бег час. Над цыферблатам скораметра ўспыхваў чырвоны агеньчык. Няспраўнасць? Так, ракета ў сваім палёце адстае ад графіка на 500 метраў.

Віктар павярнуўся да Алега, кіўнуў галавою: паглядзі, зроблена першае папярэджанне штурману. Але ён нават і не дакрануўся да прыбораў. Яны самі выправяць памылку апаратаў, дадуць каманду павялічыць хуткасць.

Так яно і атрымалася. Вестка аб адставанні была прынята своечасова, і цяпер Віктар назіраў, як стрэлка скораметра пачала хутка схіляцца да жоўтай рыскі.

Чырвоны трывожны агеньчык патух. Ракета ідзе дакладна па графіку.

Дзянісаў сядзеў, узняўшы галаву.

Некалькі год назад ён першы згадзіўся ўзначаліць экспедыцыю вучоных на Малы Месяц. Ён і цяпер пры сваіх гадах не пабаяўся накіравацца зноў у далёкі, небяспечны шлях разам з маладымі. Дзянісава не палохаў, а, наадварот, прываблівау космас.

Колькі дае задавальнення вось гэтае шырокае акно абсерваторыі. Стаіш ля яго — і перад табою, як-бы падуладная тваёй волі, павольна і велічна паварочваецца ўся планета — Зямля. Адкуль яе можна бачыць такой прыгожай, абгорнутай лёгкім блакітным шарфам паветранай дымкі? Ніадкуль! Прыемна дыхаць, адчуваючы свежасць лесу, казытлівыя пахі лугоў і палёў. Але няма, мабыць, большай асалоды касмічнаму

падарожніку, як дыхаць гэтым-жа, нават больш свежым паветрам удалечыні ад Зямлі.

— Пачнем, сябры, нашы касмічныя будні. Вы знаёмы з графікам дзяжурстваў — і прашу яго строга выконваць,— сказаў раптам Дзянісаў.— Колькі часу засталося да выхаду на стацыянарную арбіту?

Віктар глянуў на атамны гадзіннік, адказаў:

— Адна гадзіна дзесяць хвілін.

— Ну вось і добра. Трымайце вуха востра: паблізу можам спаткацца з метэорамі.

У каюце запанавала цішыня. Дзянісаў прыпаў да акуляра тэлескопа і пачаў пільна разглядаць Марс — ён, мабыць, думаў пабываць і там. Алег падрыхтаваў кінаапарат і сеў ля круглага акна абсерваторыі. Праграма здымкаў на гэтым участку шляху была невялікая. Трэба было зняць Сонца, гэты вогненны вулкан, які бясконца бунтуе. Праўда, не так проста падступіцца да яго. Яно зіхаціць, пульсуе, слепіць вочы. Алег апусціў на акно цёмную заслонку.

І вось Сонца перад адкрытым позіркам. Яно было крыху большых памераў, чым гэта здавалася з Зямлі. І не круглае, як дыск, а калматае, успухлае, трапяткое.

Што можна было сказаць аб ім простаму назіральніку? Вельмі мала. Затое для фізіка Сонца — гэта своеасаблівая нябесная лабараторыя, для метэаролага — найлепшы барометр, для батаніка — яно стваральнік жыцця.

Алег некалькі хвілін глядзеў на Сонца, любаваўся яго прыгажосцю, вялікай прамяністай сілай.

Выцягнутыя з двух супрацьлеглых бакоў зіхатлівыя веервы дзівоснага полымя нагадвалі крылы.

— Глядзіце, Іван Іванавіч,— звярнуўся Алег да начальніка экспедыцыі.— Наша Сонца — крылатае! Упершыню бачу такім.

Дзянісаў павярнуўся да акна, і бровы яго здзіўлена падскочылі ўгору.

— Уга! Як яно расхадзілася! — усклікнуў ён. — Вельмі цікава... Здымайце! — параіў ён праз момант.— Такія хвіліны не часта сустракаюцца.

Потым, запісаўшы нейкія даныя ў спецыяльны журнал, устаў з крэсла і сказаў:

— Давайце я здыму карону сам.

Некалькі хвілін клапатліва стракатаў апарат. Дзянісаў імкнуўся зняць не толькі агульны выгляд кароны, але і розныя яе бакі. Нарэшце, ён перадаў апарат Алегу.

У гэты час яго паклікаў Віктар. Штурман устрывожана пазіраў на чатыры авальныя акенцы, што віднеліся перад ім.

— Мы заходзім у небяспечную зону,— сказаў ён здаўленым голасам.— З усіх бакоў метэоры...

— Гэтага трэба было чакаць,— адказаў зусім спакойна Дзянісаў і, асцярожна перастаўляючы ногі ў цяжкіх намагнічаных чаравіках, падышоў да пульта кіравання. — А ну, дайце зірнуць!

На чацвёртым экране лакатара, перакрэсленым тонкай каардынатнай сеткай, была відаць чорная мушка, якая наўкос паўзла па затуманеным шкле.

— Ладны каменьчык даганяе нас,— заклапочана прамовіў Дзянісаў і, разважаючы ўслых, прадаўжаў: — 500... 350... 200 кіламетраў...

Пачуўшы лічбу 200, міжвольна павярнуўся да сяброў і Алег. Набліжэнне метэора на такую адлегласць было небяспечным.

— Уключыць магнітна-электронныя гарматы,— загадаў Дзянісаў, і сам застыў у напружаным чаканні. На шчыту кіравання ўспыхнулі папераджальныя сігналы. У гэты-ж час пачуўся густы голас дыктара гаворачай электроннай машыны.

— Трывога! Трывога!..

Далейшая марудлівасць магла дорага каштаваць экіпажу ракеты. Віктар уключыў гармату.

Будзь тысячу разоў пракляты, метэор! Корпус ракеты сутаргава задрыжаў. Здавалася, нешта ўтрапёнае і імклівае адарвалася ад цела карабля, панеслася ў далячынь. І ў той-жа момант злавесны водбліск асвяціў першы экран лакатара. Мяккае яго ззянне знікла.

— Метэор! — схапіўся Дзянісаў за храміраваную рукаятку.— Паварот — два градусы!

Мускулы на твары Івана Іванавіча напружыліся. Вочы глядзелі пільна і востра. Узбуджанасць і хваляванне, выкліканыя небяспекай, умомант змянілі гэтага чалавека.

Паварот зроблены! Іх траіх адразу кінула ў бок, і яны ледзь утрымаліся на нагах. Чорная мушка на экране лакатара знікла, і зноў ён свяціўся прыгожым блакітна-зеленаватым святлом.

Усе з палёгкай уздыхнулі. Яны зразумелі, што метэор праляцеў міма. Магнітна-электронная гармата разламала яго на дзве часткі, але не магла знішчыць зусім. У чым справа?

Дзянісаў рэзка павярнуўся да Віктара, сказаў:

— У вас не наладжана гармата. Збіта факусіроўка...

Віктар вінавата пачырванеў, стаў правяраць гармату. Праз хвіліну ён выпрастаўся над замком гарматы, развёў рукамі.

— Што за ліха? Гармата ў парадку, а метэор так і не знішчаны.

— Не можа гэтага быць,— усхапіўся Дзянісаў.— Алег, паглядзі, калі ласка...

Але нічога не знайшоў і Алег.

— Дазвольце, Іван Іванавіч, агледзець абшыўку карабля,— звярнуўся ён да начальніка экспедыцыі.— Тут нейкая загадка.

Дзянісаў у знак згоды кіўнуў галавой.

Алег апрануў касцюм, папрасіў Віктара праводзіць з ракеты. Адчынілася камера-шлюз, і праз некалькі хвілін штурман скокнуў у чорную бездань космаса. Па целе яго прабег непрыемны халадок. Заныла сэрца. Але юнак напружыў сілы, адпіхнуўся ад корпуса ракеты і паволі паплыў да кармы.

Уключыўшы ліхтарык, ён прыгледзеўся да карабля. Так, кармавая абшыўка ў трох месцах пагнута выбухам. Праўда, прабоін не было відаць. А што гэта за агеньчык ляціць услед за караблём?

Алег некалькі хвілін сачыў за ім, нямала здзіўлены з'яўленнем нечаканай знаходкі.

Нядоўга думаючы, ён адштурхнуўся ад ракеты і паплыў насустрач маленькай зорцы. Зблізку зорка заззяла яшчэ больш прывабна і ярка — чароўным малахітавым святлом. Вось дык дзіва!

Юнак сціснуў знаходку ў руцэ і рашыў абавязкова паказаць яе сябрам. Калі ён уключыў касцюмны маторчык, адразу заўважыў, як раптам яго руку, у якой ён трымаў кавалачак невядомага металу, адвяло назад.

Алег падляцеў да ракеты і, схапіўшыся за дзвярную скабу, прыпыніўся. Паўтарылася тое-ж самае! Толькі руку на гэты раз высока адкінула ўгару, і юнак выразна адчуў, што металічны шарык ледзь-ледзь не выслізнуў з моцна заціснутай далоні.

Алег на момант застыў, уражаны нечаканым адкрыццём. Ці не здалося гэта яму? Ён адвёў назад руку і зрабіў невялікі ўзмах. Як быццам нейкая магутная сіла падхапіла яго, панесла ў далячынь.

Ад нечаканасці замёрла сэрца, перахапіла дыханне. Алег азірнуўся. Ракета аддалялася ў бязмежжа космаса. Хоць мякка і ўрачыста гарэлі навокал зоркі, яму стала страшна. Ці не кінуць гэты пракляты шарык? Бачыш ты, якія дзівосы робіць ён! Каб не адстаць ад ракеты, трэба было затармазіць свой палёт. Алег уключыў рэактыўны маторчык і ўсхвалявана загаварыў у мікрафон:

— Іван Іванавіч, рыхтуйцеся прыняць на борт. Вяртаюся з вялікай навіной.

А тым часам ён стаў асцярожна набліжацца да ракеты. Вось ужо бачна карма і чорныя цыліндрычныя соплы.

Праз некалькі хвілін Алег, успацелы, але задаволены і радасны, стаяў перад Дзянісавым. Тут-жа, ля яго ног, ляжаў скінуты ў спешцы міжпланетны касцюм.

Дзянісаў доўга разглядаў бліскучы шарык, паспрабаваў нават сплюшчыць яго, але намаганне было дарэмным. Потым падышоў да сцяны, дзе было напісана «Лабараторыя», і націснуў на бліскучую кнопку. У той-жа момант у каюту высунуўся столік з шматлікімі прыладамі. Іван Іванавіч некалькі хвілін клапатліва завіхаўся ля іх.

Нарэшце ён паволі павярнуўся да Алега. Хоць твар Дзянісава не быў з тых, па якім лёгка можна было меркаваць аб яго настроі, але на гэты раз Алег заўважыў, што начальнік экспедыцыі вельмі ўсхваляваны.

— Ну, галубок, скажы дзякуй нашаму лёсу,— прамовіў ён, пагойдваючы ў руцэ знаходку.— Каменьчык не абы-які, а пасланец Сірыуса.

Пачуўшы гэта, Алег аж прысеў ад здзіўлення. Ён добра ведаў: адной з вялікіх загадак для вучоных усяго свету з'яўлялася дзівосная невялікая зорка паблізу Сірыуса. Яна створана з рэчыва, якое ў 60 тысяч разоў больш цяжкое, чым вада. Ніколі ніхто не бачыў яшчэ такога рэчыва. І вось яно ў іх руках. Цяпер зразумела, чаму з Алегам адбываліся такія дзівосы. Хоць металічны шарык не меў вагі, ён валодаў аграмаднай масай, якая ў некалькі разоў перавышала масу ўсяго цела Алега.

— Шарык з аголеных ядраў, — працягваў далей Дзянісаў. — Ён выдатны ізалятар, бо амаль не мае электронаў. Вось, сябры, наша першае навуковае адкрыццё.

— Якое ледзь не каштавала жыцця,— ціха, з нейкім сумам дадаў Віктар.

Аддаўшыся на некалькі хвілін роздуму, Алег тут-жа ўстрапянуўся і дапытліва паглядзеў на Івана Іванавіча. Яму здалося, што задрыжалі сцены ракеты. У гэты-ж час перад Віктарам на пульце кіравання трывожна замільгалі светавыя сігналы. Трывога!

Так, у Алега прадчуванне аказалася правільным: чамусьці самі па сабе запрацавалі маторы. Ён спалохана бліснуў вачыма і крыкнуў Дзянісаву:

— Хавайце знаходку! Узарвецца ракета!

Але Дзянісаў ужо і сам добра ўсё зразумеў. Ён хуценька націснуў у «лабараторыі» кнопку, і са сцяны высунуліся два цяжкія свінцовыя

кругі. Паміж імі ён паклаў незвычайны шарык, і праз момант ён быў схаваны.

Тым часам Віктар у рэактары змяніў камбінацыю ўранавых стрыжняў, паставіў паміж імі больш надзейныя графітавыя заслонкі. Самазапал уранавых стрыжняў быў ліквідаваны. Замоўклі матары.

Ад напружанасці і хвалявання на ілбе Віктара выступіў халодны пот.

— Ух, — уздыхнуў зняможана ён і зласліва паглядзеў на Алега. — Як маленькі, цацкі табе розныя трэба...

Дзянісаў папераджальна махнуў рукой.

— Не бурчы, Віктар. Тут гаворка не аб гэтым. Алег, — устрывожана падышоў ён да юнака і крануў яго за плячо.— Як сябе адчуваеш?

Алег сядзеў у крэсле з бледным тварам і пасінелымі губамі. Рукі яго дрыжалі.

— Кружыцца галава... Нудзіць...

— А як зрок?

— Усё, як у тумане, — шаптаў ён і разводзіў па баках рукамі. — Падыдзіце бліжэй. Я вас не бачу...

Дзянісаў замітусіўся на месцы, потым рэзкім узмахам рук адарваўся ад намагнічанай падлогі і паляцеў у дальні кут ракеты. Там ён дастаў з белай эмаліраванай шафы чорны флакон з гумавай трубкай і хуценька паднёс яе Алегу.

— Выпі гэтай вады, і ўсё пройдзе.

Алег чуў голас Дзянісава, але не мог ужо бачыць ні яго твару, ні прынесенага ім флакона з лекавай вадой. У целе разлівалася цяжкая стома, самі сабой заплюшчваліся павекі.

— Ды вось трубка,— дапамог Алегу Дзянісаў.— Адхіліся назад і пі, хутчэй пі!

Забулькала вада, Алег не паспяваў яе глытаць, і некалькі кропляў вырвалася з рота і павісла ў каюце маленькімі алавянымі шарыкамі.

Дзянісаў тут-жа ўключыў спецыяльныя апараты для назірання за хворым. Убаку на сцяне засвяціліся два рады рознакаляровых агеньчыкаў, нешта застукала, загуло. Апараты паказвалі стан і сілу крывезвароту, наяўнасць радыёактыўнасці ў розных частках цела. Выздараўленне ішло проста на вачах. Хутка прадаўгаватая трубка, што паказвала, як кроў забяспечвае мозг, засвяцілася блакітна-сінім святлом.

Дзянісаў радасна ўсміхнуўся. Да Алега вярталіся бадзёрасць і сіла.

Каб папярэдзіць і сябе ад захворвання, Іван Іванавіч адпіў некалькі глыткоў цудадзейнай вады і перадаў флакон Віктару.

Небяспека паражэння экіпажа карабля інтэнсіўным радыёактыўным выпраменьваннем была ліквідавана. Вось колькі клопатаў прынёс з сабою пасланец ад далёкай зоркі Сірыуса. Некалькі кубічных сантыметраў знойдзенага рэчыва важылі, як вылічыў Дзянісаў, больш трох тон. Можна меркаваць, які небывалы ціск пануе ў недрах зорнага неба, калі атамы-ядры там маглі так цесна наблізіцца адзін да аднаго і стварыць рэчыва такой нечуванай шчыльнасці.

— Ну, усё! — сказаў Дзянісаў.— Цяпер аб усім можна перадаць на Зямлю, — і ён наблізіў да сябе чорны кубачак дыктафона.

Алег устаў і з нечаканай зухаватасцю прайшоўся па каюце.

— Ты, брат, мабыць, у сарочцы нарадзіўся, — сказаў Віктар, усміхаючыся.— У пекла лезеш, і хоць-бы што!

— З шчасцем добра жыць,— заўважыў стрымана на гэта Алег.

У каюце запанавала цішыня. Кожны заняўся сваёй справай. Нават Алег не хацеў сядзець без занятку. Узяўшы кіноапарат, ён падышоў да шырокага акна абсерваторыі і пачаў здымаць Зямлю, якая холадна свяцілася ўнізе аранжава-блакітнай плямай.

Цяжка было адарвацца ад гэтай незвычайнай карціны. У галаве адна за адной узнікалі думкі — яркія, гарачыя, імклівыя.

Алег павярнуўся да Дзянісава і міжвольна ўздрыгнуў. На мазаіцы экрана, у які ўглядаўся Іван Іванавіч, трапяткім бэзавым полымем мільганула дзявочае плацце. Яму здалося, што ўсё гэта — уяўленне, выклікане думкамі. Але вось Дзянісаў павярнуў ручку настройкі, і на гэты раз эфір вынес на экран лёгкую, рухавую постаць дзяўчыны. Наташа! Вось дык сустрэча! Алег ледзь не ўскрыкнуў ад радасці. Наташа ветліва ўсміхнулася, кіўнула галавой. Зірнуўшы на Алега і Дзянісава, спытала:

— Як адчувае сябе Віктар?

Віктар, пачуўшы сваё імя, павярнуўся ў шырокім штурманскім крэсле і паглядзеў на экран. Адразу загарэліся, заззялі яго вочы. Хлопец не мог схаваць сваёй радасці. Губы яго непрыкметна ўздрыгнулі, і ён лагодна сказаў:

— Дзякую, Наташа, за клопат. Мы адчуваем сябе добра. Ляцім па курсу.

— Не хвалюешся? — спытала Наташа.

— Усё сваё хваляванне пакінуў на Зямлі, — адказаў Віктар. Ён хітравата ўсміхнуўся і павольным важным жэстам прыгладзіў рыжаваты чуб. Юнак прыняў увагу да сябе дзяўчыны як знак прымірэння.

Але Наташа не ўсміхнулася яму, яна была па-ранейшаму строгай, як чалавек, які выконвае свой службовы абавязак. Алегу яна нічога не сказала, толькі паглядзела на яго тым доўгім, праніклівым позіркам, які гаворыць больш, чым словы.

— Іван Іванавіч, уключаю Акадэмію навук, — сказала Наташа, і ў дынаміку пачулася глыбокае ўздыханне. Алег устрапянуўся. Было зразумела: дзяўчына хвалявалася, пакутавала ад невядомасці будучага. Алег памахаў ёй рукой...

Віктар украдкай паглядаў на Алега. «Ага, ты хацеў нас пасварыць з Наташай, — здавалася, гаварыў яго позірк. — Але дарэмна. Яна вярнулася да мяне, будзе чакаць...» Ён узяўся за штурвал з адчуваннем сваёй перавагі над Алегам. Рукі яго працавалі спрытна і хутка, пчаліным роем кружыліся думкі. Паглядзеўшы на прыборы, Віктар раптам урачыста абвясціў:

— Увага! Выходзім на стацыянарную арбіту.

Як вядома, старт з гэтай арбіты неабходна правесці строга з вызначанага пункта, каб у той час, калі ракета наблізіцца да Месяца, Зямля была павернута да яго якраз тым бокам, на якім размешчана станцыя радыё- і тэлекіравання.

Іван Іванавіч сеў побач з Віктарам, уключыў электронны лічыльны апарат. І вось атрыманы вынік. Пятнаццаць хвілін засталося да падачы каманды. Віктар паставіў штурвал на аўтаматычнае кіраванне і напружана сачыў за гадзіннікам.

Набліжаецца самы важны і адказны час палёту. Успыхнула сігнальная лямпачка — і адразу запрацавалі маторы. Але не надоўга — ракеце трэба павялічыць хуткасць усяго толькі на 1,02 кілометра ў секунду.

На экіпаж карабля навальваецца сіла цяжару. Алегу здаецца, ён трапляе да некага ў жорсткія, няласкавыя абдымкі. На шчасце, непры-

емныя адчуванні цягнуцца нядоўга. Ракета набірае хуткасць — і нябачны цяжар як-бы звальваецца з плеч.

Зноў у караблі ўсё набывае касмічную незвычайнасць — знікае разуменне верху, нізу, напрамкаў. Калі-б прылады і розныя рэчы на караблі не былі як след прымацаваны, раптоўнае знікненне сілы цяжару выклікала-б сапраўдны бунт. Усё сарвалася-б з сваіх месц, кружылася-б, ляцела, ламалася-б на часткі. Толькі тут, у ракеце, па-сапраўднаму адчуваеш і разумееш дзівосную ўладу Зямлі.

Іван Іванавіч устаў з свайго крэсла і задаволена абвясціў:

— А цяпер, саколікі, паабедаем!

Першы абед у космасе! Дзянісаў, Алег і Віктар накіраваліся да задняй сценкі ракеты, на якой віднеўся надпіс: «Сталовая». Пад надпісам была намалявана бліскучая каструля, з якой густа валіла пара. Дзянісаў уключыў маленькі рубільнік, у поўзмрочным кутку каюты, над галавой і па баках запаліліся бледнаблакітным агнём доўгія, падобныя на сігары, трубкі. Сцяна рассунулася — і павольна, нячутна аднекуль з глыбіні высунуўся невялікі стол і лёгкія плеценыя крэслы. Хвіліна — і ўсе ўжо сядзелі за сталом. Перад кожным членам экіпажа на стале была таблічка з пералікам featured рознастайных блюд.

Алег усміхнуўся. Што ні кажы, добра прыдумана. Ён націснуў пятую з трыццаці кнопак.

— Борчш беларускі заказаў? — весела спытаў Дзянісаў.

— Так. А вы што?

— Рыбную салянку.

Праз дзве хвіліны ў сцяне адкінуліся дзверцы, Алег працягнуў руку і паставіў перад сабой каструлю. Збоку яе тырчала мяккая і пругкая трубка, зробленая з белай пластмасы.

Хутка механічныя афіцыянты падалі заказаны абед Дзянісаву і Віктару. Крыху дзіўна было глядзець, як мужчыны зусім па-дзіцячаму цягнулі праз трубкі страву. Але што зробіш — ні ваду, ні малако, ні чай нельга тут утрымаць у простай шклянцы. Не дагледзіш — яны разальюцца і запоўняць ракету шарамі рознай велічыні. Бегай тады за імі, лаві. Калі датыкнешся да такога шара, цябе адразу абдасць з ног да галавы вадой, як быццам ты трапіў пад сапраўдны лівень.

Вось чаму для нябесных падарожнікаў кухня ў ракеце абсталявана па самаму апошняму слову тэхнікі. Яна працавала на акумулятарах цяпла, што ствараліся невялікімі атамнымі батарэйкамі.

Час за абедам прамільгнуў весела. Хлопцы шмат жартавалі, успаміналі цікавыя гісторыі і прыгоды. Дзянісаў не без гордасці глядзеў на сваіх штурманаў. Арлы — хлопцы! Адно толькі яму не падабалася — нейкая стрыманасць заўважалася ў адносінах паміж імі. Чаго яны не падзялілі?

Як звычайна, у час абеду хлопцам стала горача, яны ўспацелі. Дзянісаў уключыў вентылятар, і чыстае, халаднаватае паветра весела загуляла па каюце.

— А цяпер прагуляемся па лесе,— сказаў ён латуценна, з усмешкай.

Святло было выключана, запрацавалі апараты.

На Алега і Віктара дыхнула водарнай вільгаццю. Нават пачуўся шум дрэваў, мяккі, пяшчотны. Здавалася, яны сапраўды апынуліся ў лясным гушчары. Выразна адчуваўся пах маладога лісця, ранішняга туману, сонечных, усыпаных суніцамі пагоркаў. І ўрэшце за ўсёй гэтай

казачнай, імітаванай спецыяльнымі прыборамі хвілінай — у каюце пачуўся тонкі птушыны посвіст.

Хлопцы сядзелі, не зварухнуўшыся, слухалі і не маглі наслухацца хвалюючых шэптаў, дзівосных гукаў.

Праз некаторы час Дзянісаў падаў каманду заняць свае месцы. Хлопцы не без жалю пакідалі ўтульны, поўны спакою і цішыні куток.

Цяпер на вахту ля пульта кіравання стаў Алег. Набраўшы разгон, ракета ляцела па інерцыі, як камета ці звычайны астэроід. На дзесятай гадзіне палёту трэба было ўключыць для выпрабавання фатонны рухавік. Да гэтага моманту заставалася яшчэ многа часу.

Алег агледзеў прылады, паказанні радыёлакатараў і застаўся задаволены. Дакладна працавалі ўсе механізмы складанай касмічнай машыны. «Вулкан» усё далей і далей імчаўся ад Зямлі, несучы ў космас трох смельчакоў. Хоць яны былі адны ў гэтым чорным, пустым акіяне, які праглынуў усё — зоркі, і Зямлю, і Месяц, і Сонца,— ды ўсё-ж не заўважалі адзіноцтва. Перад імі была мэта, далёкая і таямнічая, у іх была моцная, загартаваная воля. І гэта стварала настрой спакойнай разважлівасці і працавітасці.

Мінула гадзіна, другая. Выканаўшы свае заданні па назіранню за небам, Дзянісаў і Алег леглі адпачыць.

Алег глядзеў у акно абсерваторыі. Ахутаная змрочнай, цёмнай дымкай космаса, ярка свяцілася Зямля. Яна нібы ляцела ўслед за ракетай, круглая, выпуклая, ахопленая мяккім блакітным ззяннем. Абрысы яе мораў і кантынентаў, белыя хвалі воблакаў, што трапяталі над палюсамі, глыбіня космаса — усё было незвычайным, таямнічым, хвалюючым.

Алег марыў аб тым часе, калі скарбы ўсіх планет, і самога Сонца, будуць цалкам падуладны чалавеку. Прыдзе час, і людзі за лік малых планет і астэроідаў наросцяць масу Марса, дадуць яму такую-ж багатую, як на Зямлі, атмасферу, і там бурна і прыгожа зацвіце жыццё.

Ярка гарэлі сігнальныя агні пульта кіравання, дробна дрыжалі штурвальныя рукаяткі ад роўнага гулу масіўных апаратаў. На люстранай трасе экрана ўсё далей і далей прасоўваўся цень мініятурнай ракеты. Паступова змяншалася хуткасць, затрачаная на пераадоленне гравітацыйнага зямнога поля. Набліжаўся час, калі ў работу будзе ўключан фатонны рухавік.

Алег запісаў у вахцены журнал апошнія назіранні і раптам сутаргава схапіўся за падлакотнікі крэсла. Яго прыціснуў цяжар паскарэння. У чым справа? Ён-жа добра ведае, што фатонныя рухавікі павінны запрацаваць значна пазней — праз дзве гадзіны. Ледзяная жудасць агарнула сэрца.

Алег глянуў на панель. На ёй трывожна замільгалі агеньчыкі, настойліва патрабуючы выправіць няспраўнасць. Стрэлка скораметра пачала падымацца ўгару. Яна ўжо адлічыла 12, потым 13, 14 кілометраў. Алег не вытрымаў, ускрыкнуў.

— Што такое? — спытаў Дзянісаў, прачнуўшыся.

— Бяда, Іван Іванавіч... Аварыя... Мабыць, фатонны рухавік няспраўны. Ракету панесла...

Дзянісаў павярнуўся да панелі, бо падысці да яе не мог: не хапала сілы.

— Усё бачу,— сказаў ён і ўсхвалявана і трывожна прабег вачыма па прыборах кіравання. Раптам ён устрапянуўся, падняў галаву: — Алег,

што ты гаворыш? Фатонны-ж рухавік не працуе! Чаму такая скорасць ракеты?

Штурман толькі паціснуў плячыма. Звінелі званкі, успыхвалі чырвоныя агеньчыкі — усё на панелі мітусілася, падміргвала.

Віктар абхапіў свой тапчан рукамі, баючыся, што яго можа адкінуць куды-небудзь далёка.

Іван Іванавіч уключыў тэлевізафон.

— Зямля! Зямля! Гаворыць «Вулкан». Растлумачце, чаму павялічылася хуткасць ракеты. Што здарылася?

Мінула доўгая, пакутлівая хвіліна. З дынаміка далятаў сухі трэск электрычных разрадаў, працяглае тужлівае гудзенне. На мазаіцы экрана то ўспыхвалі нейкія мітуслівыя цені, то яна спакойна флуарэсцыравала мільёнамі ледзь прыкметных сіняватых кропак. Ні гуку. Зямля маўчала. На твары Івана Іванавіча з'явілася прыкметная бледнасць. Няцяжка было ў такі момант разгубіцца. Да таго-ж, становішча з кожнай хвілінай пагаршалася. Алег дакладваў:

— Перагрузка рэзка павялічылася. Хуткасць 22 кілометры ў секунду. Ракета збілася з трасы. Яе нясе ў напрамку сузор'я Лебедзя...

Алег паспрабаваў было ўключыць рухавікі для тармажэння і выпраўлення курсу палёту. Але гэта не дапамагло. Ракету як быццам падхапіла нейкая магутная хваля, збіла і несла ў чорную далячынь сусвету не перадам, а бокам.

Маўчала Зямля, аглухшая, анямелая. Што гэта? Катастрофа?

— Уперадзе метэоры,— ціхім голасам паведаміў Алег.

Віктар і Дзянісаў падхапіліся з тапчанаў, але тут-жа адразу вымушаны былі легчы на іх зноў. Шумела ў галаве, кроў прыхлынула да сэрца. Праклятае паскарэнне! Яно прыкавала свае ахвяры да тапчанаў, нікуды не адпускала іх.

Віктару нехапала паветра. Ён сутаргава хапаў рукамі за грудзі, намагаўся разарваць кашулю. Пачуўся здаўлены, тужлівы, поўны роспачы крык:

— Мы гінем!..

## Раздзел дваццаць другі

Вось яна, новая, невядомая планета. Гарызонт вузкі, рэзка акрэслены. З усіх бакоў сціснутая прастора — унізе камяністыя, вострыя пікі гор, уверсе і па баках — нізкае неба. Цішыня. Спакой. Аняменне.

Роб убачыў, як пад нагамі прасунуўся зазубраны грэбень гары. Ён міжвольна зжахнуўся. Хуткасць палёту яшчэ досыць вялікая, і, калі не дагледзіш, можна разбіцца.

Уключыўшы маторчык, ён павярнуў да шырокай раўніны, намерваючыся зрабіць на ёй пасадку.

Трэба было папярэдзіць аб небяспецы і Поля. Роб азірнуўся і здзівіўся. Яго нідзе не было відаць. Што за ліха?

Роб загаварыў у мікрафон:

— Дзе вы, капітан? Я вас не бачу! Сцеражыцеся: наперадзе грэбень гары.

Але Поль чамусьці не адказаў. Будзь пракляты гэты пусты каменны свет!

Унізе, пад нагамі, маўкліва праплывалі ланцугі ўзгоркаў, высокія хвалепадобныя валы, чорныя шчыліны правалаў.

А вось і шырокая попельнага колеру раўніна. Роб уключыў маторчык і моцна затармазіў свой палёт. Хвіліна — і пачалося свабоднае вертыкальнае падзенне. Ногі крануліся грунту. Падарожнік з палёгкай уздыхнуў.

Азірнуўся. Як дзіўна і незвычайна ўсё тут. Пад нагамі не пясок і гліна, а нейкая камяністая глеба. Не чутно ні ветру, ні шолаху. Як акінуць вокам, голыя даліны, раўніны, плоскаўзвышшы. Усё мёртвае, аднастайнае, нерухомае.

Неба чорнае, цяжкое і таксама мёртвае. На ім — ні воблачка, ні хмурынкі. Яно прыдавіла голую планету і, здаецца, заваліла яе грудамі камення. Сонца вісіць нізка над гарызонтам, вялізнае, вогненнае. У чорнай пустыні неба яно — адзінае цела, якое рухаецца, жыве. Цені ад узгоркаў і камяністых выступаў такія рэзкія і вялікія, што здаюцца чорнымі глыбокімі правaламі ў глебе.

Высока над галавой вісіць родная, далёкая Зямля. Там — люстраныя воды азёр і мораў, шырокія блакітныя нябёсы з сіняватымі воблакамі і сполахамі зарніц.

Дыск Зямлі велізарны, зеленаваты, з ледзь размытымі краямі. Ён на небе Месяца не ўзыходзіць і не заходзіць, не прымае ўдзелу ў велічным вярчэнні цяжкога, чорнага неба.

Зеленаватая глыба Зямлі ззяла ўгары прываблівым далёкім святлом, якое трывожыла і балюча кранала душу Роба. Там — яго дзеці, жонка, усмешкі, цяпло. Там ёсць доўгія, далёкія дарогі, па якіх можна ісці бясконца, бачыць блізкі неабсяжны небасхіл, спыняцца, глядзець удалеч, азірацца, каб бачыць, хто ідзе следам за табою.

Хоць Роб быў змучаны, знясілены, але навізна адкрытага свету хвалявала яго.

Цікава, як тут хадзіць? Ён намерыўся ступіць крок, і нейкая дзіўная сіла перанесла яго на добрых пяць крокаў уперад. Выходзіць, тут не трэба спяшацца! Сіла цяжару на Месяцы ў шэсць разоў меншая, чым на Зямлі.

На дзіва лёгка ўзмахваць рукамі. Роўна б'ецца сэрца.

**Працяг будзе.**



**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# ЖАДАННІ

Я жадаў хлапчуком прайсці ўсе навальніцы
І ў атакі выскокваць за бруствер сыры,
І з Матросавым побач паўзці да байніцы,
І блакады трымаць у дрымучым бары,
І на рэках жадаў прыпыняць вадаспады,
Вышыню з альпіністамі браць не адну.
А мае аднагодкі па сэрца загаду
Ад'язджалі па закліку на цаліну.
Восень лісцем апаўшым рашыла прылегчы,
Адпачыць за зіму пад платамі сяла.
Палажыла Радзіма мне рукі на плечы
І шынель на ўсю службу салдацкі дала.
Значыць, тут і выконваць мне клятву-прысягу,
На жыццё перад ротай якую даваў,
Значыць, тут і выкоўваць такую адвагу,
Што Карчагін калісьці, як сталь, гартаваў.
Каб яе не памялі агнём сваім доты,
Як магутнага дуба буран не сагне.
Бо Радзіма вачамі стралковае роты
Пазірае з давер'ем цяпер на мяне.

* * *

Хусткамі ўслед нам махалі смуглянкі,
Маці жадалі шчаслівай дарогі.
Я не пісаў табе з дальніх паўстанкаў,
Ні пасля кожнай вучэбнай трывогі.

Шлюць прывітанні сяброўкам-дзяўчатам
Хлопцы, якія прышлі з каравула...
Згодзен я з тым, што адзін вінаваты,
Што ў пісьмах к табе быў часамі не чулы.

Нават тады, як з канвертам блакітным
Прыадчыняў паштальён твае дзверы,
Ты, разарваўшы, казала: — Які ты,
Нават «цалую» няма на паперы.

Можа таму і суровая плата
Ходзіць за мной, як бяссоннае гора.
І я хлушу саслужыўцам-салдатам,
Што атрымаў ад цябе пазаўчора.

Веру, сяброўка, што ты пры спатканні
Ступіш наперад і выцягнеш рукі...
Кажуць, гарачыя сэрцы ў каханні
Моцна злучаюць сабою разлукі.

## УЗЛЁТНАЯ ПАЛАСА

Салаўіным шчэбетам і свістам
Ноч трымціць за ўзлётнай паласой.
Эх, прайсці-б па вёсцы з гарманістам
Гэткаю цудоўнаю парой!

Над ракой, дзе к хвалям чыстым, веснім
Вербалоз распушчаны прыпаў,
Для каханай, як пяецца ў песні,
Я-б чаромхі свежай наламаў.

Толькі тое ўсё было і будзе...
А цяпер на ўзлётнай паласе,

Нібы велікан які, за грудзі,
Будзячы спакой, зямлю трасе.

У святле пражэктарным і бляску
Самалёты старт бяруць звяном.
Я у дзяцінстве прагна слухаў казку
Пра маланку ў небе і пра гром.

Толькі ён з зямлі па-над дубровай
Праляцеў, страсаючы расу...
Я трымаю сёння пад аховай
Нашага узлёту паласу.

**Міхась ДАНІЛЕНКА**



Міхась Даніленка — малады беларускі празаік. У 1952 годзе выйшаў зборнік яго апавяданняў «Мая песня». Апавяданні і нарысы М. Даніленкі часта друкуюцца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Нарадзіўся М. П. Даніленка ў 1922 годзе ў вёсцы Ястрэбка Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. У 1952 годзе закончыў Гомельскі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам у Лоеўскім і Асіповіцкім раёнах. Цяпер працуе ў рэдакцыі газеты «Гомельская праўда».

Міхась Даніленка — член Саюза пісьменнікаў БССР.

# УРОКІ ЖЫЦЦЯ

**Апавяданне**

Мал. Ю. Пучынскага.

## 1

У канцы мая Віктар Ермакоў упершыню па заданню рэдакцыі газеты, куды нядаўна ён перайшоў працаваць, паехаў у камандзіроўку ў адзін з дальніх раёнаў. Гэта было неўзабаве пасля таго, як правялі ўзбуйненне абласцей. Разам з многімі іншымі абласнымі арганізацыямі была ліквідавана і газета, дзе дагэтуль працаваў Віктар. Ён яшчэ не паспеў добра агледзецца на новым месцы, як загадчык сельскагаспадарчага аддзела Іван Антонавіч Гардзееў, пабліскваючы тоўстымі шкельцамі акуляраў і пазіраючы некуды за віктараву спіну, прапанаваў:

— А вам, таварыш Ермакоў, маленькае заданнейка варта даць. Як вы думаеце?

Ён прыжмурыў вочы і ледзь-ледзь усміхнуўся. Як заўважыў Віктар, новы загадчык ніводнаму літработніку аддзела не загадваў. Ён заўсёды гаварыў так, што цяжка было адразу здагадацца — загадвае загадчык, або толькі просіць. Таму Віктар запытаўся:

— А якое заданне вы мяркуеце даць?

— Уласна кажучы, заданнейка — глупства. З вашым вопытам сапраўднага газетчыка вы яго за пару дзён бліскуча выканаеце.—Гардзееў, як здалося Віктару, хіхікнуў і задаволена пацёр рукі.— Я перагортваў камплекты вашай газеты-нябожчыцы і не мог не бачыць частых падвальчыкаў за вашым подпісам...

Віктара непрыемна кальнулі словы «газеты-нябожчыцы»; ён пачырванеў. «Дам яму, кабінетнаму пацуку, адразу бой,— рашыў ён, адчуваючы, як распірае грудзі злосць, а потым раздумаў: — Ліха ведае, як тут прынята ў калектыве? Яшчэ чаго добрага паскардзіцца рэдактару, ды будзе, як кажуць, ад варот паварот...»

І хлопец апусціў вочы, каб Гардзееў не ўбачыў іх нядобрага бляску.

— Падыйдзіце, малады чалавек, да карты,— узяўшы за руку Ермакова, прадаўжаў Гардзееў. — Трэба з'ездзіць вось у гэтую МТС, — ён завостраным канцом алоўка абвёў маленькую кропку ў самым поўночным куточку карты.— Тут галоўным інжынерам працуе былы інжынер аднаго з ленінградскіх заводаў. Прозвішча — Розаў. Чалавек, я вам скажу, заслужаны — крэмень-чалавек. Прыехаў на работу па закліку партыі пасля верасьнёўскага пленума. Трэба будзе арганізаваць ад яго артыкульчык. У такім, разумееце, канкрэтным, дзелавым тоне. Прыехаў ён не адзін, а з сябрамі. Вось мы і пастараемся з ім так напісаць, каб чытач бачыў, што зрабілі ленінградцы ў нашай Зарэцкай МТС...

— Ну што-ж,— выслухаўшы Гардзеева, адказаў Віктар.— Пастараюся прывезці такі артыкул.

У той-жа дзень ён выехаў у камандзіроўку. Да МТС ад чыгуначнай станцыі юнак дабіраўся на спадарожнай машыне, усю дарогу ўпіраючыся нагамі ў бочку, якая ні хвіліны не ляжала спакойна ў кузаве і, перакочваючыся, аглушальна грымела.

У гэтай камандзіроўцы, якая, як адчуваў Ермакоў, на новым месцы павінна была паказаць усе яго журналісцкія здольнасці, Віктару, як на злосць, не пашанцавала: Розаў адмовіўся даваць такі артыкул у газету.

— Мала мы пакуль зрабілі,— паглядваючы на Віктара разумнымі шэрымі вачыма, гаварыў інжынер.— І, як кажуць, няма чаго біць у бубны, хваліць.— Розаў зняў прамазучаную старэнькую шапку, прыгладзіў зусім сівыя валасы і скупа ўсміхнуўся:— Праўда, сустрэлі нас ледзь не з аркестрам. Нагаварылі ў райкоме столькі гарачых прамоў! І дапамогу абяцалі, і сёе, і тое... Кватэры нам падрыхтавалі. А як-жа! У мяне ўся сям'я — я ды жонка, а нам далі ў новым катэджы аж тры пакоі з ваннай: жыві, калі ласка, таварыш Розаў, ды па Ленінградзе не сумуй. А асігнаваць якую сотню рублёў на агарожу МТС, каб ніякі крахабор не мог туды прабрацца і ўхапіць тое, што дрэнна ляжыць,— гэтага зрабіць не могуць... Вось палюбуйцеся: машыны амаль пад адкрытым небам. Так яны і зімаваць будуць. Аж сэрца заходзіцца, калі думаю пра гэта.

Колькі ні ўгаворваў Ермакоў галоўнага інжынера напісаць артыкул, той не згадзіўся.

— Разумееце, сумленне не дазваляе. Нашы-ж людзі — трактарысты, камбайнеры будуць чытаць. Не, гэтага я не зраблю...

Віктар і сам бачыў, што патрабаваць хвалебны артыкул ад чалавека, у рабоце якога пакуль многае не ладзіцца, проста няправільна. Але ён уявіў загадчыка сельгасаддзела рэдакцыі Івана Антонавіча Гардзеева, яго хітрыя кепікі, калі той даведаецца, што Ермакоў вярнуўся з пустымі рукамі. «Хіба ў рэдакцыі не ведалі стан спраў у МТС, калі пасылалі мяне ў камандзіроўку?— разважаў ён.— Гардзееў-жа званіў у абласное ўпраўленне сельскай гаспадаркі. Цэлых поўгадзіны размаўляў з інструктарамі. Ды ліха з імі, з інструктарамі,— раптам рашыў Ермакоў.— Крывіць душой не будзем — ні Розаў, ні я».

Як і звычайна, калі Віктар прымаў канчатковае рашэнне, ён заўсёды адчуваў прыемную палёгку і ўжо больш не задумваўся над тым, якія могуць быць вынікі. Чалавек не хоча ашукваць людзей. Правільна ён робіць? Вядома. Справы-ж у МТС сапраўды не бліскучыя: машыны многіх трактарыстаў у час палявых работ часта прастойвалі ў баразне з-за тэхнічных непаладкаў, да ўборкі рыхтаваліся марудна, работай машынна-трактарнай станцыі раённыя работнікі цікавіліся мала. Ермакоў разумеў, што ў райкоме партыі, відаць, сапраўды сваю місію палічылі закончанай,

калі пасялілі Розава з жонкай у кватэры з ваннай. «Значыць, трэба напісаць артыкул крытычны і адкрыць вочы раённым кіраўнікам на іх недапушчальнае роўнадушша», — рашыў Віктар.

Ён заказаў тэлефон рэдакцыі і запытаўся ў Гардзеева, што яму рабіць.

— Глядзіце самі, бацюхна мой,— пачуўся прыглушаны адлегласцю голас.— Артыкул Розава мы заменім чым-небудзь іншым.

Віктар прабыў у МТС чатыры дні. З галоўным інжынерам на порсткім «ГАЗ-69» ён аб'ездзіў амаль усе палі калгасаў зоны МТС. Спачатку, пры першай сустрэчы, Ермакоў падумаў, што ў Розава ўжо выпрацаваўся такі характар «плакальшчыка», які вечна хныкае: яму не дапамагаюць, ён адзін цягне гуж. Віктар ужо сустракаўся з такімі людзьмі. Але калі ён прыгледзеўся да галоўнага інжынера бліжэй, то з радасцю прыкмеціў, што характар ленінградца не такі ўжо мяккі. Там, дзе можна, ён выхапіць голымі рукамі з агню. Гэта быў сапраўдны крэмень-чалавек. Але да яго слоў тут часта не прыслухоўваліся. «Такому варта дапамагчы,— з нейкай лёгкасцю на душы, паглядаючы скоса на падцягнутую, стройную фігуру Розава, думаў Віктар.— Можна верыць, што ён навядзе ў сваёй МТС парадак».

Стаялі пагодлівыя дні. Жыта пайшло ўжо ў рост, у ім даўно хаваліся гракі. Сіняватыя перцы аўса радавалі вока мяккімі, прыемнымі пералівамі. Колькі дзён узапар сеяў ціхі, цёплы дожджык, які ў народзе лічаць «грыбным», і збажына прыкметна шуганула ўгору.

Віктар крочыў з МТС вузкай няезджанай дарогай, зарослай пахучымі рамонкамі і лапушыстым трыпутнікам. На бензавозе, які зараз ішоў на станцыю, ён ехаць адмовіўся. Хлопцу захацелася скінуць чаравікі, падкасаць штаны і прайсціся басанож па халаднаватай мяккай траве, як некалі ў дзяцінстве.

Так ён і зрабіў. Блакнот з запісамі засунуў глыбей у кішэню пінжака, скінуў чаравікі, пачапіў іх на палку і, адарваўшы буйнейшую жытнюю сцяблінку, зрабіў «пішчык». Адчуваючы нейкую невядомую радасць, падзьмуў у расколатую на канцы маленькую трубачку, і на языку застаўся прыемны саладкаваты смак, які напомніў яму нядаўні час, калі Віктар ганяў пасвіць цялят на жоўтую ад свірэпкі талаку. Успомніліся тыя дзянькі, як нейкі даўно пройдзены этап у жыцці, хоць жыць Віктар толькі пачынае. Пасля сярэдняй школы — універсітэт, потым некалькі месяцаў працы ў суседняй вобласці, пакуль яе не ліквідавалі... Усё-ж добра было там. Толькі зжыўся з калектывам, і на табе — раз'ехаліся хлопцы, хто куды. У рэдакцыю гэтай абласной газеты трапілі толькі Ермакоў ды Максім Гуцаў, якога на новым месцы прызначылі загадчыкам аддзела пісем. Але з Гуцавым Віктар і раней блізка не сыходзіўся. Чалавек недалёкі, Гуцаў на новай пасадзе заганарыўся і пры сустрэчы з Віктарам ледзь ківаў яму галавой.

## 2

Вярнуўся Ермакоў у рэдакцыю якраз у той дзень, калі выплачвалі зарплату і ганарар за другую палову месяца. У бухгалтэрыі «свяшчэннадзейнічаў» касір Іван Сцяпанавіч з адтапыранай ніжняй губой і ў пенснэ на чырвоным склератычным носе. Валасы ў касіра былі не проста прычасаны, а нібы прылізаны на прабор. Перш чым выплаціць ганарар, Іван Сцяпанавіч ставіў акуратна завостраным алоўкам насупраць прозвішча

«птушачку», потым адкладваў на лічыльніку некалькі костачак, паглядваў на супрацоўніка, што перамінаўся ад нецярпення, і ўжо толькі потым адчыняў шуфляду стала, дзе былі раскладзены ў ідэальным парадку пачкі грошай. Пералічваў ён грошы некалькі разоў, і рукі ў яго ледзь прыкметна дрыжалі.

Віктару ганарару не было, і ён заўважыў, як фельетаніст Галамака, у якога заўсёды былі потныя рукі, непрыкметна падміргнуў Гардзееву. Той ледзь прыкметна ўсміхнуўся і дазволіў Ермакову пайсці шукаць кватэру.

...Знайшоў кватэру Віктар бадай выпадкова. Ён стаяў каля віядука праз чыгуначныя пуці, дзе каля моста на дашчаным плоце былі наклеены аб'явы, і ніяк не мог знайсці падыходзячай. Амаль на кожнай паўтаралася: «Здаецца пакой для халасцяка-адзіночкі». За гэтым справа не стаяла — Віктар якраз і быў халасцяк-адзіночка. Праўда, недзе ў глыбіні душы штосьці падказвала: «Не слухай іх, Віця. Вось пажаўцеюць антонаўкі ў садах, затарахцяць малатарні, і прыедзе да цябе дзяўчына з залатымі косамі. Дык які ты адзіночка? У вас з ёй ужо ўсё і разлічана. Яна заканчвае інстытут, прыязджае сюды, уладзіцца ў якой-небудзь гарадской бальніцы, а то можна і ў сельскай. Нядарма яна, як урач, часта выслухоўвала тваё сэрца і жартаўліва гаварыла, што яно моцнае, на яго можна спадзявацца».

— Кватэру, малады чалавек, шукаеце? — раптам пачуўся голас, і ад нечаканасці Віктар аж здрыгануўся. Ззаду яго стаяла яшчэ маладая жанчына. У руцэ яна трымала сетку, з якой тырчэла радыска, тоненькія хвосцікі морквы, а наверсе, на гурках, ганарыста разлегліся некалькі чырвоных памідораў.

— Шукаю,— не адрываючы позірку ад памідораў, неахвотна адказаў юнак, бо жанчына гэтая перашкодзіла яму думаць пра Таню.

Заўважыўшы яго нахмураны позірк, жанчына шчыра ўсміхнулася і падняла сетку.

— Слаўныя памідорчыкі, праўда? Гэта аж з Крыма сюды прывезлі. Па цэлым чамадане,— жанчына ўздыхнула.— Ох, і хапанулі яны грошай... Ды чаго я стаю. Вам-жа кватэра патрэбна. Вось гэтая вам падыйдзе? — яна падышла да дошкі і паказала пальцам з манікюрам на паперку, якую толькі што прачытаў Віктар.

— А я якраз збіраўся ісці сюды разведаць,— прызнаўся ён.

— Дык хадзем. Я — гаспадыня дома... Вы дзе працуеце?

Віктар адказаў.

Жанчына ўважліва распытвала, ці даўно ён прыехаў у горад, у колькі гадзін вечара вяртаецца дадому, колькі зарабляе, ці шукаў ён ужо кватэру. Такія падрабязныя пытанні не спадабаліся Віктару, і ён з'едліва запытаўся:

— Вы часам не працавалі ў следчых органах, што так цікавіцеся анкетнымі данымі?

Жанчына какетліва засмяялася. Яе роўненька падведзеныя бровы здзіўлена прыўзняліся:

— Ого, з вамі ўжо і пагаварыць нельга. Тады пойдзем, малады чалавек, паглядзім пакой. І не будзьце такім яршыстым.

Вокны пакойчыка, куды прывяла Яўлампія Аляксандраўна Віктара, выходзілі ў сад. У кутку саду, за малiннікам і агрэстам, выглядала будка для вартаўніка. У пакойчыку стаяў стол, этажэрка з кнігамі, на сцяне каля рэпрадукцый з карцін Рэпіна і Левітана выглядаў з-пад майстэрскі

вышытай сурвэткі чорны круг гучнагаварыцеля. У кутку ад вуліцы стаяў меншы столік, на якім у беспарадку валяліся розныя фарфоравыя цацкі.

— Гэта пакой дачкі,— растлумачыла Яўлампія Аляксандраўна.— Але мы Жану пераселім у той, што за кухняй. Піяніна мы пераставілі ўжо туды. Ведаеце, Жана так перажывае, так перажывае... У мінулым годзе ў інстытут не дабрала ўсяго якіх тры балы. А сёлета ледзь у тэхнічнае вучылішча на токара не пайшла. Вядома, утрапёная. Я ўжо так яе адгаварвала, так адгаварвала...

Віктар уважліва агледзеў пакойчык, дагаварыўся з Яўлампіяй Аляксандраўнай аб цане і сказаў:

— Я згодзен. Думаю, што ні я вам, ні вы мне не будзем перашкаджаць.

— Я так і ведала, што вам у нас спадабаецца,— успляснула рукамі Яўлампія Аляксандраўна. — Ды што гэта я стаю? Зараз прыдзе Антон Пятровіч ды і Жаначка вось-вось вернецца. Трэба што-нішто падрыхтаваць. А вы размяшчайцеся, як дома, бо гэта і ёсць з сённяшняга дня ваш пакой,—і яна засмяялася, задаволеная сваімі словамі.



Віктар распрануў пінжак і павесіў яго на спінку крэсла. Застаўся ў зялёнай тэнісцы. «Засяду зараз за артыкул, нічога не зробіш», — рашыў ён, бо ўспомніў, як незадаволена нахмурыўся Гардзееў, калі даведаўся, што Ермакоў за артыкул яшчэ не браўся.

— А я, прызнацца, чакаў-такі, што вы па тэлефончыку яго перадасце, — хмыкнуў ён.

— Але-ж мне трэба абдумаць усё, што я бачыў, што чуў. Не хочацца-ж, каб пасля майго артыкула пры сустрэчы з Розавым ці кім іншым з работнікаў МТС прышлося чырванець.

— Разумею, разумею вас, бацюхна. Час



і, так сказаць, творчае натхненне, — і Іван Антонавіч не да месца падміргнуў з-за акуляраў.

Віктар з першай гутаркі не ўзлюбіў свайго загадчыка аддзела. Цяпер ён думаў толькі аб тым, ці зможа працаваць з ім. Пакуль Ермакоў тут амаль нікога не ведаў, ён стараўся не выказваць ніякай непавагі да свайго начальства. «Ліха яго ведае, што ён за чалавек. Усё хіхікае, падміргвае ды кпліва так пад'ядае,— разважаў Віктар.— Але хіба не памылковае бывае першае ўражанне? Можа ён добры журналіст, у якога водзяцца сякія-такія дзівацтвы?»

З двух іншых супрацоўнікаў аддзела Ермакоў трохі бліжэй сышоўся з Грыгорыем Качаном, хударлявым мужчынай гадоў трыццаці пяці. Даведаўшыся, што Віктар едзе ў Зарэцкую МТС, той доўга тлумачыў, як лепш туды дабрацца, і ўсё незадаволена пазіраў на дзверы кабінета Гардзеева. Другі работнік, непаваротлівы таўсцяк Апанас Конанаў, увесь час маўчаў і ўважліва падкрэсліваў алоўкам важнейшыя факты ў селькораўскіх пісьмах, каб потым адразу прадыктаваць карэспандэнцыю на машынку.

Віктар устрасянуў ручку, але яна ўсёроўна не пісала. «Вось яшчэ бяда,— раззлаваўся ён.— Трэба-ж было не здагадацца купіць бутэлечку чарніла». Ён успомніў, як заўсёды, калі яны бывалі разам і Віктару часам трэба было што-небудзь запісаць, Таня з яго жартавала:

— З-за таго, што ты такі забыўчывы, гісторыя можа не атрымаць якога-небудзь геніяльнага экспромта. Няўжо я вечна буду насіць дзеля цябе вось гэтую самапіску?

Таня, міла схіліўшы галаву, як гэта магла рабіць толькі яна, адкры-

вала сумачку і даставала ручку. Цяпер Віктар разгублена ўздыхнуў і рашыў папрасіць чарніла ў гаспадыні.

— А вы зайдзіце і набярыце,— адгукнулася яна за сцяною.

Ермакоў прыадчыніў дзверы. Каля тэлевізара стаяла Яўлампія Аляксандраўна ў дарагім шаўковым квяцістым халаце і, пабліскваючы золатам зубоў, усміхалася. Яна была задаволена, што зрабіла на кватаранта ўражанне. У гэтым халаце яна сапраўды быццам памаладзела на дзесяць гадоў.

— Вы не зважайце, што я так, па-дамашняму,— бачачы, што Віктар крыху разгубіўся, сказала Яўлампія Аляксандраўна.— Вось вам чарніла,— і яна падала юнаку бутэлечку чарніла для аўтаручкі.

За той кароткі час, калі Віктар набіраў чарніла, ён паспеў заўважыць, якая тут багатая абстаноўка. Безумоўна, не тэлевізар здзівіў Ермакова, хоць і ён пакуль быў рэдкасцю ў жыхароў абласнога цэнтра, дзе працаваў Віктар. На сцяне вісеў вельмі дарагі дыван з цудоўным альпійскім краявідам. Сонечныя зайчыкі скакалі на хрустальным посудзе, што віднеўся праз дзверцы буфета. У бронзавай аправе красавалася высокае, ледзь не пад самую столь, трумо, а на сцяне ляніва адлічваў бясконцыя сонныя хвіліны старамодны гадзіннік з зязюляй на вечку скрынкі.

«Нішто сабе абстановачка,— аж пакруціў галавой Віктар, калі вярнуўся да сябе ў пакоік. — Не інакш, гаспадар якую адказную пасаду займае... І то нядрэнна: хоць па тэлевізару перадачы буду разам з гаспадарамі глядзець...»

### 3

Пад вечар, калі віктараў артыкул ужо амаль быў гатовы, вярнуліся гаспадар дома і Жана. Тоненькая, з пышнымі каштанавымі валасамі, з вялікімі шэрымі вачыма, якія насмешліва паглядалі з-за густых, загнутых на канцах вейк, Жана бесцырымонна зайшла ў пакой да Віктара і запрасіла яго да бацькоў.

— Ты-ж пазнаёмілася-б спачатку,— заўважыла маці.

— Ой, і праўда-ж, — схамянулася тая і падала Віктару вузенькую далонь.

На Жане было прыгожае вішнёвага колеру плацце са стаячым каўнерыкам, запясце яе рукі абхопліваў важкі залаты браслет, і Віктару чамусьці зрабілася шкада, што такія пышныя валасы не заплятаюцца ў косы, як у Тані, а прыносяць столькі клопатаў цырульніку.

Жана нават не хацела і слухаць, калі Віктар памкнуўся спаслацца на занятасць.

— З гэтага нічога не выйдзе, — і яна глянула яму проста ў вочы сваімі насмешлівымі вачыма.

У зале стаяў накрыты стол, на якім выстраіліся бутэлькі віна, каньяку і шампанскага. «І калі яна паспела?» — здзівіўся Ермакоў, думаючы пра Яўлампію Аляксандраўну.

Насустрач Віктару падняўся тоўсценькі лысы мужчына. Хітрыя яго вочкі акінулі постаць кватаранта, і ён працягнуў Віктару руку:

— Будзем знаёмы: Волкаў Антон Пятровіч. — І раптам адразу задаволена закудахтаў, ад чаго вочы яго хаваліся ў шчылінках-маршчынках:— Ох, і моладзь пайшла... Не паспеў чалавек на кватэру стаць, а

ўжо адразу і за працу. Хоць я вас разумею, вы, так сказаць, страж пяра...

— Ну, што ты разумееш, папа? — капрызна надзьмула губкі Жана.— У Віктара Ісакавіча можа тэрміновая работа была.

— Усё можа быць, усё можа быць,— згадзіўся Антон Пятровіч.

Яўлампія Аляксандраўна белым ручніком выцерла і без таго ззяючы хрусталь келіхаў на цыбатых ножках, бакалы і ласкава прагаварыла да дачкі:

— Чаго-ж ты, Жануля? Запрашай Віктара Ісакавіча да стала.

Віктар сеў поруч з Жанай. Антон Пятровіч спрактыкаваным жэстам адкаркаваў бутэлькі і, задаволена кхекаючы, напоўніў келіхі. Жонцы і дачцы ён наліў віна, сабе і Віктару — каньяку.

— За наша знаёмства, за вашу працу, паважаны страж пяра,— закончыў ён словамі, якія, мабыць, яму спадабаліся.

Яўлампія Аляксандраўна няўлоўна павяла тонкім брывом, і Антон Пятровіч паспяшаўся чокнуцца з Віктарам, жонкай і дачкой. Яўлампія Аляксандраўна выпіла палавіну налітага келіха, а Жана — толькі прыгубіла. Затое Антон Пятровіч спрытна кульнуў і нават не запіў баржомам, бутэлька якога сціпла прымасцілася на канцы стала.

Віктар не паспеў, як кажуць, і міргнуць вокам, як Антон Пятровіч намерыўся зноў напоўніць келіхі. Хлапец запратэставаў. Яўлампія Аляксандраўна зноў сурова зірнула на мужа, і той услужліва падсунуў да Віктара талеркі з вяндлінай і рыбай.

— Вазьміце заліўной сяўругі або падчапіце на відэлец вось гэтага шэльму-ліня.

— Фі! Усё вы, папа, ніяк ад сваіх улюбёных славечак не адвыкнеце,— паморшчыла носік Жана.

Аднак, відаць, хмель пачаў наступленне на гаспадара, і Антон Пятровіч адмахнуўся:

— А што нам? Мы інстытутаў не канчалі, а , дзякаваць богу, жывем не горш за іншых. А калі і сарвецца якое там слоўца, дык, будзь ласкава, дачушка, прапусці яго міма.

— Антон, ты зноў за сваё,— глянула ў бок мужа Яўлампія Аляксандраўна і, прыветліва ўсміхаючыся, прадаўжала частаваць Віктара. Наогул, як паспеў за кароткі час заўважыць Віктар, гаспадыня адначасова быццам свяцілася пяшчотай, калі яна звярталася да дачкі або кватаранта, і рабілася суровай і халоднай, калі раз-по-раз кідала грозныя позіркі на мужа.

Антон Пятровіч, выцершы сурвэткай губы, рашуча ўзяўся за бутэлькі.

— Што-ж, як той казаў, напоўнім бакалы, падымем іх разам...

— Няхай жыве сонца, няхай жыве розум, — закончыла Жана і, нахіліўшыся да Віктара, у галаве якога пачало ўжо шумець, запыталася:— А вы часам не паэт? Вершаў не пішаце?

Ермакоў пачырванеў: ён сапраўды спрабаваў пісаць вершы. Некаторыя з іх друкаваліся нават у рэспубліканскім друку, але ён пра іх сароме́ўся гаварыць, хіба толькі часам з Таняй. Але-ж то з Таняй...

Як ні адмаўляўся Віктар, яго прымусілі выпіць яшчэ раз. Цяпер ужо настойвала Жана. Яна нават раз ці два незнарок дакранулася да віктаравай рукі, а вочы яе — вялікія і насмешлівыя — увесь час глядзелі на яго. І ён, набраўшыся духу, выпіў. І адразу вушы быццам залажыла ватай. Кудысьці далёка-далёка адыйшлі падзеі сённяшняга дня, Гардзееў у аку-

лярах, маўклівы Апанас Конанаў, касір у пенснэ. Віктар хацеў прыпомніць яшчэ нешта вельмі важнае, але так і не мог. Артыкул? Ага, артыкул. Аднак, якая яму справа да Розава? Гардзееў-жа сказаў, што Віктар можа рабіць па свайму меркаванню. Ён так і зробіць. Віктару здалося, што з Розавым ён ніколі не сустракаўся. Так, некалі бачыў яго можа ў сне.

— Давайце вып'ем з вамі баржому,— прапанавала Жана і чокнулася з Віктарам.

Між тым Антон Пятровіч толькі, відаць, разыйшоўся. Лысіна яго пачырванела і, здавалася, аж прасвечвала, вочы пасвятлелі, разгладзіліся каля іх маршчынкі. Цяпер ён наліў толькі сабе і выпіў, амаль не закусваючы.

— Чалавек для чаго жыве?— філасофстваваў ён, звяртаючыся то да Віктара, то да жонкі.— Толькі і слава, што пад'есць, вып'е ды згуляе. На тое мы і працуем, начэй не дасыпаем і сіл не шкадуем...

Яўлампія Аляксандраўна замілавана ківала мужу, а Жана, крануўшы віктараву руку, шапнула:

— Цяпер папа зусім з нормы выйшаў. Хадзем у сад падыхаем паветрам...

Слова «папа» яна вымаўляла на свой манер — з націскам на апошнім складзе.

Блытаючыся між крэслаў, Віктар услед за Жанай выбраўся з-за стала, і яны пайшлі ў сад.

## 4

Так пачалося віктарава жыццё на новай кватэры. Дарэмна ён спадзяваўся, што ў вольныя дні зможа глядзець па тэлевізару перадачы: Яўлампія Аляксандраўна і Антон Пятровіч амаль ніколі не падыходзілі да тэлевізара, і, забыты, ён сумна паблісквау экранам са століка, дзе стаяў. Віктар саромеўся сам падыйсці і паспрабаваць пакруціць штурвальчыкі яго настройкі.

Жана цэлымі днямі недзе прападала. Мусіць, яна палічыла Віктара празмерна сумным, каб хадзіць з ім у тэатр або на танцы. Здарылася гэта праз тыдзень пасля таго, як Віктара запрасілі гаспадары выпіць дзеля знаёмства.

У віктараву баковачку без стуку зайшла Жана. Яна была ў доўгай цёмнай жакетцы, у вузкай спадніччы. На адвароце жакеткі віднелася прыколатая касцяная брошка — страла, што вісела на тоненькім пазалочаным ланцужку, прабівала сэрца. Віктар збіраўся ў Палац культуры слухаць даклад аб атамных рухавіках. Да пачатку даклада заставалася не так і многа, і хлопец спяшаўся. А тут, як на грэх, ніяк не завязваўся новы гальштук, які Віктар толькі што купіў.

— Вось ужо мне гэтыя літаратары,— нахмурыла бровы Жана.— Адразу відаць, што вы чалавек непрактычны. Няўжо вы не бачыце, што гальштук не пасуе ні да вашага твару, ні да касцюма? Хочаце, я папін павяжу?— і не паспеў Віктар прамовіць ніводнага слова, як Жана ў момант прынесла пярэсты гальштук і павязала яго Віктару, хоць той адчайна і круціў галавой.

— Вось цяпер вы сапраўдны малады чалавек,— адышоўшы на тры крокі ад Віктара, любуючыся, сказала Жана.



Віктар убачыў сябе ў люстэрцы і аж уздрыгнуў: новы гальштук быў ні да твару, ні да месца.

— Ведаеш, Жана, — каб не пакрыўдзіць дзяўчыну, папрасіў ён, — я лепш так пайду.

— Ой, мамачка мая! А хто табе забараняе? Я сама спачатку не хацела рабіць прычоскі «юнацтва свету». Прыехаў на які тыдзень лепшы цырульнікз Масквы, да яго чарга вунь якая, а я, дурніца, слухала сяброваk, пакуль мама не выправіла мяне.

Віктар рашуча развязаў гальштук і аддаў Жане. Дзяўчына нахмурылася і адвярнулася. У гэты час з Яўлампіяй Аляксандраўнай нехта загаварыў на кухні. Да Жаны заглянуў высокі худы юнак з даўжэзнымі светлымі валасамі. На яго пярэстым гальштуку была прыколата якраз такая-ж брошка, як і ў Жаны.

Жана выпырхнула і, падхапіўшы юнака пад руку, выйшла ў залу. Неўзабаве яны прайшлі вуліцай па тратуары, і Віктар здзіўлена глядзеў услед, бачачы нібы іншую Жану, з незнаёмай, расслабленай і вялай паходкай.

З таго дня паміж Віктарам і Жанай быццам прабегла чорная кошка.

Артыкул аб рабоце МТС Віктар даўно здаў. Гардзееў яго чытаў не спяшаючыся, то здымаючы, то надзеючы акуляры. Насупраць абзацаў, дзе востра крытыкаваліся раённыя кіраўнікі, загадчык акуратна паставіў пытальнікі. Затым ён паклікаў Ермакова, паказаў адзначаныя ў артыкуле месцы і прапанаваў:

— Тут вось і тут трэба мякчэй. А тут, як мне здаецца, вы залішне, бацюхна, ломіце коп'і. Як кажуць, маладосць і сіла горы варочае. Аднак-жа можна незнарок і дроў наламаць. Разумееце?

Віктар не разумеў і адказаў:

— Але ўсё там так і ёсць. Я сам правяраў.

— Мала што ёсць. Мы-ж пішам для людзей усёй вобласці. Так можна ўсялякую ахвоту ў добрых людзей ад работы адбіць.

Віктар, аднак, не здаваўся. Наогул там, дзе справа датычылася праўды, ён не адступаў. Тады Гардзееў падазрона хутка згадзіўся і на тытульным лісце паставіў свой подпіс.

— З гэтага дня і я нясу адказнасць за ваш разносны артыкул,—пажартаваў ён і паклаў артыкул у ёмкую папку.

Супакоены, Віктар сеў за стол і пачаў апрацоўваць селькораўскія пісьмы. У аддзеле тады быў толькі пануры таўсцяк Конанаў, і Віктар не заўважыў яго насмешлівага, іранічнага позірку.

Прайшоў тыдзень, другі, а неспакушаны ў падобных справах Віктар усё спадзяваўся ўбачыць свой артыкул у газеце. Не ведаў ён, што артыкул пайшоў на самае дно загадчыкавай папкі,— той самай папкі, якую востры на язык Рыгор Качан ахрысціў «бяздоннай».

Дома па вечарах Віктар многа чытаў. Яму амаль ніхто не перашкаджаў. Ледзь толькі цямнела, Яўлампія Аляксандраўна на ўсіх вокнах зачыняла цяжкія аканіцы і праз адтуліну ў вушаках прадзявала ўнутр пакояў моцныя жалезныя прэнты.

Кожную раніцу, прышоўшы з рынку, яна абавязкова расказвала аб якім-небудзь грабяжы або забойстве. Расказвала з такімі падрабязнасцямі, быццам бачыла ўсё ўласнымі вачыма. Па яе выходзіла, што ў горадзе ледзь не на кожнай вуліцы можна сустрэць жулікаў і прайдзісветаў. Звычайна Яўлампіі Аляксандраўне падтаквалі Антон Пятровіч і Жана, калі толькі не было знаёмых, якія часценька прыходзілі з нейкімі таямнічымі кулькамі і пакункамі. Аднойчы Віктар быў дома і не вытрымаў:

— Усё тое, што вы расказваеце, Яўлампія Аляксандраўна, звычайныя бабскія плёткі і больш нічога.

Вочы гаспадыні зрабіліся круглымі, і ў першы момант яна не знайшла нават, што адказаць.

## 5

З гэтага часу адносіны гаспадароў да кватаранта неяк змяніліся. Раней кожны вечар Яўлампія Аляксандраўна запрашала Ермакова выпіць шклянку чаю з духмяным варэннем. На стале стаяла мноства баначак з такімі гатункамі варэння, якіх, прызнацца, Віктар раней ніколі і не каштаваў. Цяпер чаепіцці прыпыніліся. Віктар адчуваў за знешняй гаспадынінай ветлівасцю затоеную злосць.

Перастаў заглядаць у баковачку і гаспадар, хоць усяго некалькі дзён назад ён абяцаў паехаць у выхадны з Віктарам на рыбу — кіламетраў так за поўсотні ад горада.

— Мы, браток, машыну і брэдзень як піць даць арганізуем. Ну, а для таго, каб які шэльма-лінь ямчэй пайшоў, заранеі паклапоцімся і яшчэ пра што-кольвечы,— і ён, надзьмуўшы тугія шчокі, пстрыкаў па горле.

Зараз Антона Пятровіча па вечарах Віктар амаль не бачыў: відавочна, у таго была тэрміновая работа на базе, дзе ён працаваў, і Волкаў кожны раз затрымліваўся.

Аднак гэта ніколькі не бянтэжыла Віктара. Ён сабраўся з'ездзіць да Тані. Яна ўжо здавала дзяржаўныя экзамены. Але іншыя падзеі перашкодзілі Віктару ажыццявіць гэтую паездку.

Стаялі на дзіва пагодлівыя дні. На пляжы каля Сожа нельга было ступіць нагой,— столькі ляжала загараючых. Жаніны рукі і плечы адлівалі цёмнай бронзай, і Віктар кожны раз паглядваў на раку з зайздрасцю. Але яму не было часу перакачвацца з боку на бок на гарачым

пляжы: у рэдакцыі прыбавілася работы. Гардзееў і маўклівы літсупрацоўнік адначасова пайшлі ў адпачынак. У аддзеле цяпер засталіся толькі Ермакоў і Качан. Аднаму з іх заўсёды прыходзілася ездзіць у раёны, другі вёў штодзённыя справы аддзела.

Зацвіла ліпа. У напоеным мядовым водарам паветры лёталі пчолы, чулася роўнамернае, засяроджанае гудзенне. Пахла мёдам нават там, у затоках ракі, дзе Жана з сяброўкамі у рознакаляровых купальніках гоцалі па сіне-чырвонаму мячу, падобнаму на вялізны глобус. Каля іх увесь час увіхаліся і хлюсты, такія, як той, з доўгімі валасамі.

У адзін з такіх дзён у рэдакцыю нечакана зайшоў запылены галоўны інжынер Зарэцкай МТС Розаў. Ён павітаўся з Ермаковым, як са старым знаёмым, і, сеўшы за стол, загаварыў:

— Не дачакаліся вашага артыкула. Механізатары нашы ўсе вочы праглядзелі.

Шчокі Віктара прыкметна пачырванелі. Пасля таго, як ён аддаў артыкул Гардзееву, Віктар усяго два разы загаварваў з Іванам Антонавічам пра яго лёс. Загадчык запэўніў, што ўсё будзе ў парадку. Пасля Гардзееў пачаў рыхтавацца ў адпачынак. Ён страчыў свае артыкулы адзін за другім, і Віктар, бачачы такую празмерную занятасць, не напамінаў больш пра артыкул.

Пасля ад'езду Гардзеева Качан, які цяпер выконваў абавязкі загадчыка, выпадкова знайшоў артыкул у «бяздоннай» папцы.

Але прайшло ўжо шмат часу, і Ермакоў баяўся выступіць у газеце: а што, калі той, аб кім ён піша, даўно не працуе ў МТС? Ці мала чаго бывае? Паехаць-жа цяпер у далёкі раён Віктар не меў магчымасці.

Тады Качан з Ермаковым зайшлі да рэдактара.

Рэдактар, нізкі, хударлявы чалавек з ускалмачанай прычоскай, да падначаленых адносіўся падчас грубавата. Нават не выслухаўшы Рыгора, ён накінуўся на Ермакова:

— За такія справы, ведаеце, як трэба пакараць? Я кажу не пра Гардзеева. Ён па-свойму аказаўся дальнабачным і загадзя падаў заяву аб звальненні па ўласнаму жаданню. Я пра вас кажу. Абавязак журналіста — неадкладна ўмяшацца ў жыццё, дзе толькі можна і неабходна. А вы што? Вы-ж дэзертыравалі! Разумееце? Дэзертыравалі!

Віктар нават не спрабаваў апраўдвацца. Ён разумеў, што рэдактар па свойму праў. Вынікам іх размовы з'явілася тое, што на наступны дзень на трэцім паверсе рэдакцыі, дзе ў машынным бюро стракаталі машынкі, вывесілі загад. Ермакову была аб'яўлена вымова. Няўмольнае жыццё само дало юнаку першы ўрок. Што-ж, відаць, у кожнага чалавека бываюць няцвёрдымі яго першыя жыццёвыя крокі... Хіба не мог ён даць Гардзееву сапраўдны бой? Вядома, мог. А вось струсіў, дэзертыраваў, і цяпер няхай крыўдуе на сябе.

На другі дзень, сустрэўшы Віктара ў машынным бюро, Гуцаў яго кальнуў:

— Віншую, Віця. Аказваецца, ты на новым месцы падаеш вялікія надзеі...

...Розаў моўчкі пазіраў на схуднелы віктараў твар з рэзка выступаўшымі скуламі і аб нечым заклапочана думаў.

— Ведаеце што? Я зараз схаджу да рэдактара. Няхай ён адпусціць вас яшчэ разок да нас. Цяпер у МТС справы пайшлі на лад. Прыслалі новага сакратара райкома, і наогул вам карысна ў нас пабыць.

Узрадаваны, Віктар заківаў галавой.

Аказваецца, ёсць людзі, якія разумеюць яго. Разумее хоць-бы вось гэты запылены чалавек, які знайшоў вольную хвіліну і забег у рэдакцыю. А колькі перажываў за Віктара Рыгор Качан? Здавалася, не Ермакову, а яму вынеслі тую праклятую вымову. Часта, бачачы, як маўкліва пакутуе юнак, ён употай прапанаваў:

— Дваццаць хвілін у нашым распараджэнні, пакуль прынясуць з друкарні гранкі. Айда на раку!

І Віктар плёўся ўслед за Качаном на раку, дзе з прыкрасцю даваў нырца ў ваду.

Розаў выйшаў з кабінета рэдактара і, задаволена паціраючы рукі, аб'явіў:

— Абяцаў адразу адпусціць вас, як толькі я пазваню. Можа нават здарыцца, што і наша машына будзе ў горадзе. Тады хутчэй даберацёся.

Прайшло яшчэ некалькі дзён пасля наведвання Розава, і Віктара паклікаў да сябе рэдактар. Ён падаў яму густа спісаны ўборыстым почыркам ліст паперы. Чытаючы яго, Віктар то чырванеў, то бялеў. Ён хуценька перавярнуў ліст і глянуў на подпіс. Аднак подпіс яму нічога не сказаў. Нейкі рабочы Іваноў падрабязна пералічваў усе махінацыі загадчыка абласной промтаварнай базы Антона Пятровіча Волкава і блізкіх яго саўдзельнікаў. Артыкул так і называўся «Антон у воўчай скуры».

— Вельмі сур'ёзныя факты,— сказаў рэдактар.— Трэба праверыць і неадкладна даваць фельетон. Я рашыў даручыць гэтую справу вам.

Спачатку інстынктыўным віктаравым жаданнем было адмовіцца. Як ён будзе пісаць пра Антона Пятровіча, пра Яўлампію Аляксандраўну і Жану? Яны вунь і так амаль перасталі з ім размаўляць. Але тут-жа падумаў: «Рэдактар, вядома, не ведае, што я жыву ў гэтай воўчай бярлозе». І добра, што не ведае, і, глянуўшы спакойным позіркам у вочы рэдактара, цвёрда сказаў:

— Фельетон зраблю ў нядзельны нумар.

— Добра. Але ні ў якім разе не спяшайся. Завадатар гэтай шайкі, мусіць, вопытны камбінатар і мае шырокія сувязі...

— Будзе зроблена,— устаючы, яшчэ раз кіўнуў Віктар галавою.

Тады ён аўтобусам адразу-ж паехаў на базу. У кішэні яго ляжаў ліст ад Тані, які Віктару перадалі перад самым ад'ездам. «Як твае поспехі, паважаны журналіст?» — пыталася ў пісьме Таня. «Дрэнныя мае поспехі, ох, дрэнныя»,— думаў Віктар.

Хіба гэта не жыццёвы ўрок? Колькі ён пражыў у тым мяшчанскім гняздзе, дыхаў засмуроджаным паветрам, а палец аб палец не ўдарыў, каб разграміць той ладненька скалочаны добрабыт, ускалыхнуць засталую твань. Хіба выцягнуў ён з балота Жану? Нічога не зрабіў. Зусім нічога. Дзяўчына пасля «юнацтва свету» змяніла яшчэ добрую дзюжыну прычосак, а брошку — апазнавальны значок сытых лайдакоў — высакамерна прыколвае на кожную блузку. На людзей яна, як і яе бацька, глядзіць з пагардай і з ухмылачкай. Не ўмяшаўся ён, Віктар Ермакоў, у жыццё Жаны. Відаць, не знайшоў патрэбных слоў, каб уздзейнічаць на яе.

Паўз вокны аўтобуса адплывалі назад купчастыя сады з налітымі сокам ранетамі, адбягалі дамы з расчыненымі вокнамі. І ў кожным доме

ішло сваё жыццё, са сваімі няпісанымі законамі, са сваімі надзеямі і радасцямі. Але чамусьці Віктар быў цвёрда ўпэўнены, што яно зусім не такое, як у доме Волкавых.

Наперадзе паказаліся прыземістыя будынкі базы. Віктар успомніў агідны гаспадароў смяшок і, уяўляючы яго ліслівую ўхмылачку, прашаптаў:

— Трымайся, Антон Пятровіч. Патрывожым твой абмежаваны свет. Патрывожым па-сапраўднаму.



**Міхась ПАРАХНЕВІЧ**

# БЯРОЗА

Стаіць бяроза ўскрай лясной паляны,
Дубовы клін прабіў ёй гладкі бок.
Са звонам у вялікі збан гліняны
Сцякае кроплямі салодкі сок.

Напоўняць людзі ім даверху бочку,
Бяроза зноў загоіць месцы ран,
Яна яшчэ пакіне і для почак
Жывучы сок, што абліваў ёй стан.

А ўлетку зноў яна прыгожай будзе!
Лісты на ветры зноў зашалясцяць...
Вось так і мне: усё аддаць-бы людзям
І толькі сіл пакінуць для жыцця.

* * *

Не звані ў рэдакцыю сягоння,
Не чакай мяне ля бальшака:
Я чацвёрты дзень як на раёне
З запісным блакнотам у руках.

У калгас прыду — тут вечарынка.
Гарманіст — мастак на ўсе лады,
І пярэсцяцца дзяўчат хусцінкі
І кашулі хлопцаў маладых.

Дзве дзяўчыны у сукенках яркіх
«Ураджайнай» вывелі матыў,
Дзве сястры, дзве лепшыя даяркі,
Ім, здаецца-б, сэрца падарыў.

І пад гучны гром апладысментаў
Як з такімі мне не станцаваць?
Мне ахвота, як карэспандэнту,
Ад сваіх герояў не адстаць.

З імі я хачу адным парывам
Пры уборцы жыць і пры сяўбе,
Толькі ўсюды мару я, шчаслівы,
Аб адной дзяўчыне — аб табе!

Віктар ДАЙЛІДА



# ДЗЯВОЧЫ ПАЛОННІК

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

Ціхі, бадзёры марозік...

Ярчэй рассыпанага жэмчуга іскрыцца бялюткі сняжок пад святлом халоднага месяца. Дыхаць лёгка-лёгка. Гараць зоры — вялікія, яркія. Упадзе каторая, пакінуўшы за сабою агністы шрам, або сутыкнецца з суседкаю, і абедзве ўспыхнуць чырвоным клубком, рассыпаўшыся на дробныя іскры... Прыемны халадок кранае шчокі. Свішчуць лыжы па мяккай парошы, а сэрца спявае... Чаму? Хто яго ведае! Але гэта добра, эх, як добра! З той пары, як убачыў Саша Людмілу, яно так і спявае, так і спявае без канца і без меры.

Саша расшпільвае гузікі ў сваім чорным поўкажушку, скідае рукавіцы, крышку набок насоўвае кубанку, бо ўжо блізка вёска Ульянаўка, і зноў свішчуць лыжы па мяккай парошы, і зноў бесперапынна спявае сэрца.

Вось ужо свецяцца шырокія вокны ўльянаўскіх хат, і лыжы цяпер не патрэбны. Саша скідае іх з ног і хавае ў снег пад старой вярбою, што адзінока стаіць ля ручая, за млыном, на самым краі вёскі. А думак у галаве многа-многа. Успамінаецца той незабыўны вечар, калі Саша ўпершыню сустрэўся з Людмілай. Сустрэўся выпадкова, калі ўльянаўскія хлопцы згадзілі на вечар вядомага на ўсю акругу гарманіста Сеньку Кунцэвіча і па-сяброўску запрасілі Сашу пагуляць. Саша прышоў у клуб у самы разгар вечарынкі.

...Сенька зайграў. На круг выйшла Людміла. Яна заўсёды пачынала танец першай, што-б ні гралі, бо хлопцы бралі яе наперабой, а канчала апошняй, канчала тады, калі гарманіст ужо гатоў быў зваліцца ад зморанасці. Танцуючы, яна прыпынялася часам, калі пела чарговую прыпеўку. І здавалася, не знойдзецца тут нікога, хто-б мог яе percтанцаваць.

— Саша, выйдзі на круг! — шапнуў яму хтосьці з хлопцаў.

— Выйдзі... ды распраніся,— падбадзёрылі яго.

— Не, не, хлопцы,— стаў аднеквацца Саша. Але сам неяк усміхнуўся

і міжвольна праціснуўся да круга, пацёр рукі. Людміла ўбачыла яго. Яна зразумела ўсё і закружылася на адным месцы, а пасля пайшла перад ім у прысядкі ў знак таго, каб ён пайшоў на круг. Хвіліна мінула ў няёмкім замяшанні. Саша крышку пачырванеў, але хутка, падбадзёраны хлопцамі, распрануўся. Схапіў поўкажушок за каўнер і, нават не азірнуўшыся, падаў яго некаму з жанчын. Не падаў, а проста кінуў камусьці на рукі.

Саша прайшоў разы са два па кругу, а пасля ўпрысядкі падаўся за Людмілай. І вось, здаецца, насцігне яе і схопіць пад рукі. Людміла, адступаючы назад, паскорыла крокі. Але Саша яшчэ хутчэй ірвануўся ўперад, страсянуў чубам і злавіў Людмілу за руку. І так закружыў дзяўчыну, што яна, баючыся страціць роўнавагу, нахілілася яму на плячо. А Саша, ці то просячы прабачэння, ці дзякуючы за танец, пакланіўся ёй, а пасля паціснуў руку і, кіўнуўшы галавой у бок музыканта, зноў пайшоў на ранейшае месца.

Так адбылася іх першая сустрэча.

З тае пары ў вольныя ад работы вечары Саша кожны раз імчыцца на лыжах у людзіну вёску, і сэрца яго спявае...

Вёска Ульянаўка стаіць на самым узгорку. Спаленая вайной, яна адбудавана занава.Стаіць і зухавата выхваляецца новымі хатамі і маладымі садамі.

Схаваўшы лыжы пад вярбою, Саша крочыць па шырокай вуліцы, кідаючы позірк на вокны хат. За фіранкамі дзе-ні-дзе калышуцца чалавечыя цені, а электрычныя лямпачкі на слупах скрозь па вуліцы шчодра льюць святло, і ад гэтага снег зіхаціць іскрамі.

Калі сустракаецца хто-небудзь на дарозе з жыхароў Ульянаўкі, Саша стараецца хутчэй размінуцца, каб не пазналі, бо кожны пытліва пазірае на яго: і жанчыны, несучы вёдры з вадою, і дзяўчаты, і нават пажылыя жанчыны і дзеці. А чаго, каб хто іх спытаў? Ну што-ж тут дзіўнае, калі Саша Кавалёў прышоў пагуляць да Людмілы? На ім сёння новыя хромавыя боты, штаны адпрасаваны на кант і напушчаны на боты, з-пад кажушка відаць футболка з замочкамі. І сам ён не брыдкі.

І работа гарыць у яго руках.

Сёння перад абедам Саша накідаў апошні воз торфакрошкі на балоце. Хлопец так стараўся, так увагрэўся. Скінуў ватнік і шапку на снег, а сам завіхаўся ў катлаване з ломам, адварочваючы тарфяныя пліты. Цераз балота ехалі дзяўчаты, якія працуюць на кароўніку — мабыць, па бульбу ў першую брыгаду.

— Здароў, шахцёр...— крыкнула адна з іх і кінула ў яго вялікую снежку.

Саша выбраўся па ступеньках наверх і хацеў сказаць нешта злоснае, бо ў гэты час халодная крупінка снегу пакацілася ў яго па спіне, але, заўважыўшы на санях Людмілу, толькі ўсміхнуўся:

— Эх, і канёк-жа ў вас... Сапраўдны малакавоз. На ім толькі галлё цёткам з лесу вазіць...

Людміла шлеганула ляйчынай кудлатага, з вялікім жыватом коніка, і ён пабег па дарозе дробным трушком, фыркаючы раз-по-раз і круцячы кароткім хвастом. Дзяўчаты смяяліся, махалі рукамі, а Саша стаяў на беразе канавы і глядзеў ім услед.

Цяпер, падыходзячы да людзінай хаты, Саша ўспомніў гэта і неяк захваляваўся. Крышку пабойваўся, каб Люда не пакрыўдзілася. Ля

варот ён пастаяў, падумаў. Страшнавата... Саша спачатку паглядзеў у акно, дзе была крыху адхілена фіранка, і яшчэ трошкі паразважаў: «І маці яе дома»... Але, тут, братка, усялякі страх пераможаш, калі ў такую дзяўчыну закахаешся.

Стоячы каля хаты, Саша насунуў крышку набок кубанку і паправіў гальштук. Тут ён проста пашкадаваў, што не захапіў з сабой суконачку, каб шмаргануць ёю боты. А яны намерзлі і самі просяцца, каб іх пацягнуў аксамітам. Нямнога, два разы, і тады яны засвецяцца, загараццца яркім бляскам, проста ўсміхнуцца і людзям і самому іх уладальніку.

...Людміла апранула паліто, завязала шэрую пуховую хустку, і яны выйшлі на вуліцу. Халоднае зімовае неба было густа ўсыпана зоркамі. Месяц хаваўся ў нейкую цмяную шэрую пеляну, відаць было, што надвор'е змяніцца. Вецер пачынаў шумець у голлі таполяў, а мароз мацнеў і рабіўся больш калючым. Але што той мароз!.. Сустракацца ім даводзілася рэдка, і яны не пайшлі ў клуб, а рашылі пагуляць па вуліцы.

Але праз некаторы час узмацнеў вецер, і пачалася мяцеліца. Каля хат выраслі сумёты, а там, дзе вуліца не была загароджана, снег слаўся белымі, як-бы раскудзеленымі пасмамі. Усхадзілася сапраўдная завіруха.

Саша з Людай вярнуліся назад, сталі на ганку каля яе хаты, затуліўшыся ад ветру, а мяцеліца гуляла па вуліцы, у садзе, у полі... Гуляй, завіруха!.. Мацней, мацней!.. Гэта добра, эх, як добра! Саша расшпіліў поўкажушок і наставіў у ім каўнер, расшпіліў людзіна паліто, хоць яна быццам крышку і супраціўлялася, а сам прыціснуўся да дзяўчыны моцна-моцна, абгарнуўшы яе поламі кажушка, каб не змерзла. Цёпла і добра... А завіруха гудзе, гуляе. Свішча вецер і шкрэбае па плоце мёрзлымі галінамі вішань. Сыпне снег са страхі, завіхрыцца на ганку, закружыцца драбнюсенькімі сняжынкамі і абсыпле ім каўняры, нават зацярушыць твар. Але ў іх шчака да шчакі. І не хочацца размаўляць, бо і без слоў усё зразумела. Хочацца заплюшчыць вочы і думаць, думаць, а мяцеліца-весялуха няхай гуляе, няхай гудзе аж да відна.

На парозе замяўкаў кот.

— Холадна бедненькаму...— сказала Людміла.

Яна хацела яго ўпусціць у сенцы, але дзверы знутры былі запёрты засаўкай. Маці, пачуўшы стук, выйшла, каб адчыніць. На парозе яна заўважыла Сашу.

— Што-ж гэта вы мерзнеце на ганку...— здзівілася старая.— У хату ішлі-б. Гэта-ж такі холад. Ды ўжо і позна, спаць пара.

Маці сышла з ганку, і вецер пхнуў яе ў снег.

— Ох, завіруха якая! — прагаварыла старая.— А яны стаяць на парозе. Марш у хату!

Саша спачатку пакрыўдзіўся. Але калі маці ўжо ў хаце строга загадала, каб Люда не пускала Сашу дамоў такой завірухай, ён падумаў: «Добрая яна. Ну, вось і прасядзім з Людай на канапе ўсю ноч. А што можа быць лепей?» Але маці, кладучыся спаць, паклікала Людмілу і сказала:

— Ты-ж чалавеку палажы падушку на канапе, хай адпачне якую гадзіну...

— Добра,— адказала Людміла, стрымліваючы пачуццё сораму перад маці.

Гэта-ж у яе будзе начаваць хлопец!.. І што заўтра людзі скажуць?..

А Саша думаў другое: «І няўжо гэта ў дзяўчыны прыдзецца начаваць?... Што-ж дома падумаюць? Ды як заўтра на вуліцу выйсці...»

Але яму ўсё-ж было радасна, што ён будзе спаць у Людмілы на канапе і што заўтра вясковыя дзяўчаты будуць з яго смяяцца. Ён доўга сядзеў і размаўляў, пакуль не заспявалі першыя пеўні. Апоўначы Людміла яму прапанавала, каб ён спаў не на канапе, а дзе-небудзь у другім месцы.

— Заўтра рана прыдзе хто-небудзь у хату і заўважыць,— папярэдзіла Людміла. — Лепей, лезь ты, Сашка, на печ, а я цябе посцілкай завешу. Не гневайся толькі, так лепш.

— Дык мне ўсёроўна, толькі я забыўся, калі на печ лазіў. Але магу і на печы пераспаць, у чым справа. Ты гэта правільна прыдумала.

Людміла паслала на печы пасцель, палажыла ля коміна падушку і, выключыўшы святло, пайшла ў бакоўку да маці. Саша раздзеўся і лёг. Хоць крышку цвердавата на чаране, але ў незнаёмай хаце прыемна слухаць, як цікаюць на сцяне нястомныя ходзікі. Неяк смешна.

Саша доўга не спаў, усё марыў. Толькі пад раніцу заснуў моцна, як дома. Людзіна маці прачнулася і, шкадуючы будзіць дачку, пайшла за яе даіць кароў. Зірнуўшы на канапу, старая падумала, што Саша ўжо даўно дома. «Які ранні, — падумала яна, — відаць, руплівы». А ён спаў тым часам на печы.

Людміла ўстала, калі ўжо вывіднела. Яна адразу хацела будзіць Сашу, але ў гэты час у хату зайшоў загадчык фермы.

— Дзе-ж маці? — спытаў ён.

— Пайшла на ферму за мяне.

— Дык трэба, каб цялушку забралі.

— Якую цялушку? — здзівілася Людміла.

— Вось бачыш, праспала. Учора на праўленні табе цялушку ў якасці дадатковай аплаты вызначылі... Добры пасаг будзе,— усміхнуўся загадчык фермы.

Ён дастаў капшук з табаком і стаў закурваць. Неўзабаве вярнулася з фермы і маці. Завязалася гутарка. Саша прачнуўся і з-за коміна ўбачыў загадчыка. «І як-жа адсюль злезці...» — думаў ён, непакоячыся за сваё становішча.

Але калі маці размаўляла з загадчыкам фермы, Людміла неўзаметку падала Сашы яго адзенне. Ён ціхенька адзеўся і чакаў зручнага выпадку, каб саскочыць з печы. І вось загадчык вышаў, а за ім і маці. Саша злез з печы і хуценька абуўся.

— Слухай, Людка,— прагаварыў ён,— а што, каб я цялушку дапамог прывесці? Думаеш, не ўтрымаю? Будзь спакойна, не турбуйся.

— Што ты, Саша! Смяяцца ўсе будуць...

— Ну і няхай смяюцца. Што-ж тут такога... Давай дапамагу! — цвёрда настойваў ён, калі маці зноў увайшла ў хату.

Людміла пачырванела, разгубілася. Але ўсё-ж стала апранацца. І чамусьці апранула не «целагрэйку», як заўсёды ідучы на ферму, а новае паліто, тое, з каракулевым каўняром, у якім учора гуляла на вуліцы. Яна дастала з-пад лаўкі вяроўку, падала яе Сашы. І з ім-жа пайшла на ферму.

— Пойдзем па цялушку,— толькі і сказала яна маці, якая яшчэ болей упэўнілася ў руплівасці Сашы, здзівіўшыся, што ён зноў прышоў гэтак рана.



... Пасля завірухі на вуліцы было шмат снегу. Хаты замяло аж да самых вокнаў. Дзеці на лыжах, на саначках каталіся з горкі, а мужчыны рыдлёўкамі расчышчалі сцежкі. Усе яны глядзелі на Сашу і Люду і не разумелі, куды яны накіраваліся. Можа распісвацца, калі так абое прыбраліся? Але нашто-ж тады нясуць вяроўку?

— Нашто? — пажартаваў стары Ігнась.— Можа маладая ўпрэцца, дык падагнаць трэба будзе. Я некалі жаніўся, дык проста крыўдна цяпер. Адразу-ж пасля вяселля сваю лейцамі высцебаў: пасаг не ўвесь прынесла, а бацька мой настаяў — гані з хаты, кажа, калі яна цябе падвяла. Мусіла яна бегчы па абяцаныя грошы. Ото, што было...

На ферме сабралася шмат людзей. Санюкова Галька заўважыла, што Саша ідзе з Людмілай, і закрычала:

— А — во-о!.. Дзевачкі — гляньце! Прымак ідзе на ферму. Мусіць, па пасаг...

Яна аж танцавала на памосце каля дзвярэй і ўсё пляскала ў далоні:

— Дзевачкі, гляньце!..

Між тым загадчык фермы паказаў Сашы тую цялушку, якую Людзе вызначылі ўчора на праўленні ў якасці дадатковай аплаты. «Лялька»,— прачытаў Саша на табліцы.— «Сапраўды, лялька»,— падумаў ён.

Пярэстая цялушка высока трымала галаву. Саша завязаў ёй за рогі вяроўку і адшчапіў ланцуг. Цялушка падышла да памоста і стала, як укапаная. Яна выцягнула ўперад шыю, уперлася нагамі і моцна чыхала. А пасля віхрам вылецела з аборы. Саша некаторы час бег за ёю, упіраючыся нагамі збоку, але відаць было, што ён хутка адстане. І сапраўды, Лялька вырвалася, падбрыкнула і пайшла гуляць з вяроўкай па выгане, узнімаючы клубы снежнага пылу. А Саша як бег, так і распластаўся на ўвесь рост на снезе.

— Эй, палоннік, даганяй...— крыкнула Галька.

Прысутныя сталі смяяцца. Нават дзеці перасталі коўзацца з горкі і глядзелі, што будзе далей. А Саша ўстаў і не ведаў, як выйсці з такога няёмкага становішча. «Вось пагарэў...» — думалася яму. Але ён хутка апамятаўся, распрануўся і, кінуўшы поўкажушок у снег, з усіх сіл пусціўся даганяць Ляльку.

Цялушку ўсё-такі прывялі і, як казаў загадчык фермы, сталі «замочваць». За сталом Саша доўга не затрымліваўся. Ён ведаў, што дома непакояцца, таму, крыху перакусіўшы, стаў апранацца.

— Ну, маці, дзякую за ўсё, — сказаў ён, пасмялеўшы. — Прабачце, калі што не так...

— На здароў'е! Ой, за што-ж прабачаць... Усё добра, а як-жа...

Саша моцна пацiснуў старой руку i, падмiргнуўшы Людмiле, каб зачынiла за iм дзверы, вышаў з хаты.

У сенцах ён намерваўся нешта сказаць дзяўчыне, але, відаць, не мог адважыцца, бо ўсё расціраў на падлозе наском бота драбок снегу, які хтосьці занёс у сені. А пасля ўзняў галаву i прагаварыў:

— Знаеш, Людка, што я надумаўся?

— Ну што?

— Прыду сёння вечарам са сватам... Як ты глядзіш на гэта?

— Ой, што ты... Не трэба... Нават i не думай... Не пайду, яшчэ рана...

— Пачакай, дык ты-ж не гарачыся... Я ў прымы...

— У прымы!.. Ну, калi ў прымы... Але не, не... Не трэба... Не трэба, Сашачка, паслухай ты мяне...

— Прыду, Людка, абавязкова! — цвёрда сказаў ён, ласкава гледзячы ёй у вочы...— Толькi-ж ты не падвядзі! Не падвядзеш?

— Не прыходзь, i ўсё...— сказала яна, апусцiўшы галаву.— Скажы, не прыдзеш?

— Прыду...

— Ай, кiнь ты, Саша. I без таго ўжо на душы цяжка стала, толькi ты пра сваты ўспомнiў...

— Гэта так сабе... Усё будзе добра.

Саша моцна прытулiў Людмiлу да грудзей i пацалаваў. I, не развiтаўшыся, вышаў з сяней, а пасля пайшоў нацянькі — па цалiку, па полi. Нават забыўся пра лыжы, што пакiнуў пад вярбою.



Iшоў не спяшаючыся. Узыходзячы на ўзгорак, спынiўся, азiрнуўся. Глянуў туды, дзе вырвалася ў яго з рук цялушка. «От шэльма... — закруцiў ён галавою. — Але даў я ёй усё-такi рады».



Саша падняўся яшчэ вышэй і азірнуўся. За вясковымі будынкамі відаць была страха людзінай хаты. «Хутка ў гэтай хаце прыдзецца жыць,— падумаў ён.— Яно-то лепей было-б у сваёй вёсцы, але Людка не згодзіцца. Прытым, нельга-ж старую адну пакінуць. Ды, урэшце, якая розніца, дзе жыць... Прывыкнецца... Толькі-б яна згадзілася распісацца... Толькі-б згадзілася... Вось будзе работы, калі не згодзіцца!»

Яму хацелася крыкнуць на ўсё поле: «Людка, скажы, ці згодзішся?» І нейкі ўнутраны голас нібы адказаў на запытанні яго думак: «Згаджуся, згаджуся, мой дарагі, толькі прыдзі...»

Ярка свяціла сонца. Зірнеш на снег — і не зажмурыш вочы. А кругом, у аснежаным полі, так хораша, так светла. Блакітныя снегавыя іскры пераліваюцца на сонцы тысячамі агнёў, і маленькія, лёгкія сняжынкі, павольна кружачыся, падаюць зверху лёгкім пухам, хоць неба сіняе-сіняе і чыстае, без хмурынкі.

**Вадзім ЗЫБЛЕЎ**

# КОЛАС

Над нівою шырокай
Пад полагам блакіта
Кругом, як глянуць вокам,
Запенілася жыта.

То ніц падзе да долу,
То ўздымецца сцяною,
А сціхне вецер — колас
Ужо над галавою.

Кароткія расніцы
Нахмурыць — пагражае:
— Не руш! а касавіцай
Прыходзь за ураджаем.

Кулік пераклікнецца,
Прысвісне перапёлка,
Заблытаецца вецер
У вусах яго колкіх.

Прастор такі навокал,
Што не ахопіш вокам!
Плыві над морам жыта,
Круці штурвал са спрытам.

Вясёлы, звонкі голас
Ляціць ва ўсе кірункі:
— Ну што, таварыш колас,
Частуй-жа падарункам.

# КАБ НЕ ЛЫЖКАЙ ЧЭРПАЦЬ, А КАЎШОМ

Аж з лясніцтва саджанцаў бярэмя
Нёс я з дружбакамі да сяла...
Пасадзіў, усё зрабіў як трэба
І.., за што-ж так трапіла пчала!

Колькі-б не кусалі мяне пчолы —
Пчалярам зайздрошчу я заўжды,
І хачу, каб вуллямі наўкола
Кветнікі заставіць і сады.

Я хачу, каб вербамі канавы,
А ракітай выдмы загулі,
Дзе-б вясной на коціках так жвава
Працавалі пчолы і чмялі.

Каб не джаліліся болей пчолы,
А ляцелі з кветкі на ляток,
А затым на кветку,
Без патолі
Сабіралі нектар і пылок.

Напаўнялі-б ношку сваю з лішкам,
Каб дарма не гойсаць паражнём...
Вось тады і мёд ужо не лыжкай,
А чарпалі-б з ліпаўкі каўшом.

# Васіль БЫКАЎ



Васіль Уладзіміравіч Быкаў нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Чарапоўшчына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і селяніна. Закончыў сем класаў Кукліцкай сярэдняй школы, потым вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. З 1941 па 1955 год знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі. Цяпер працуе ў рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда».

Апавяданні В. Быкава друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», у часопісах «Вожык» і «Маладосць».

# БУЙНЫ ВЫЙГРЫШ

## Апавяданне

Мал. Ю. Пучынскага.

У нядзелю раніцай спіш і адчуваеш, што дзень гэты не такі, як усе дні. Гэта — выхадны, і таму ў галаву ўжо ідуць іншыя, адметныя ад будзённых думкі, агортваюць душу святочныя адчуванні. У нядзелю звычайна цябе чакаюць цікавыя з'явы. Вось хоць-бы латарэя. Сёння, напэўна, табліца выйгрышаў ашчасліўціць тысячы людзей. І хто ведае, можа ў лік шчасліўцаў трапіць і мая асоба? Гэтая думка адразу праганяе сон. Я ўсхопліваюся і, накінуўшы хатняе адзенне, выходжу на двор. Але ў скрынцы на дзвярах яшчэ пуста — гэтыя пісьманосцы ніколі не спяшаюцца, калі іх вельмі чакаеш. Трошкі маркотна ад першага расчаравання, але нішто. Калі вельмі хочаш стаць шчасліўцам, дык мусіш без скаргаў вытрываць якіх пару гадзін.

А ў небе тым часам ужо дужаецца сонца з густой замессю хмар, і на зямлі то імчыцца іх ветраны цень, то нахлынае спякота. Шуміць, ляскоча лісцем малады садок. За рэдкім невысокім плотам на лаўцы ўжо дыміць люлькай дзядзька Пракоп. Гэта — пажылы, брывасты чалавек, худы, шырокаплечы, з учэпістымі працавітымі рукамі. Ён трыццаць год пражыў на чужыне і вынес адтуль усё тую-ж беднасць, з якой і ехаў туды, кучу невясёлых успамінаў і новае прозвішча «Пракоп-амерыканец».

Я падыходжу да плота, бяруся за яго дашчатыя вастракі і вітаюся.

— Адпачываем, значыць? — кажа дзядзька Пракоп, прыплюшчваючы ад дыму сваё запалае вока.

— Ды ўжо-ж, — згаджаюся я. — Выхадны. Газет чакаю: табліца павінна быць.

— А-а, — зразумеўшы, цягне дзядзька. — Выйграць, значыць, хочаш? І што хацеў-бы?

— Ды не пашкодзіла-б «Волгу» ці там «Масквіча» ў горшым выпадку.

— Ну, вядомая справа. Кожнаму гэта хочацца, — паведамляе дзядзька Пракоп, нерухома аблакаціўшыся на калені вузлаватымі рукамі. І раптам ён выпростваецца, нібы ўсхопліваецца ад чаго, вымае з роту аздобленую меддзю люльку, і на твары яго з'яўляецца ўсмешка.

— Гэ, вось, хлопец, да ўспамінаў прыйшло. Ужо колькі год, як зусім забыўся на гэтую гісторыю, а ты вось нагадаў. Там, у Амерыцы, здарылася. Ты часам не спяшаешся? — пытаецца ён мяне, і па яго жвавых вачах я здагадваюся, што паслухаць сапраўды варта, бо ўжо вельмі хоча расказаць мне штосьці гэты чалавек.

— Гэта, браце, я тады маладзейшы быў і ў гаражы адным працаваў, у гэтых Штатах — хай ім пекла без дна. Работа простая — выціраць гразь, плямы, качаць бочкі з бензінам, заліваць масла. І там-жа, у нас, працаваў механік, містэр Пік. Такі-ж наёмны рабацяга, як і ўсе мы, рабочыя, але трымаў сябе крышачку гэтак з гонарам: механік усё-ж. І хоць у яго, як і ў нас, былі запэцканыя па локаць рукі, але меў чалавек свой домік на ўскраіне, куплены ў растэрміноўку, святочны гарнітур, радыёпрыёмнік і нават старэнькі, уласнаручна звінчаны і склёпаны двухмесны «Форд». Да таго-ж, містэр Пік быў працавіты, як вол, памяркоўны, як старая ўдава, і скупы, як банкір. Ужо ён куфля піва не вып'е без дай прычыны. А сам такі чорны, як цыган, маленькі, тоўсты і вельмі вяртлявы. Дык вось я і хачу расказаць, як адна тамашняя латарэя спарахніла лёс гэтага чалавека.

Уся справа, як ён потым расказваў, пачалася таксама аднойчы ў нядзелю. Містэр гэты раніцою выйшаў на вуліцу, і яго апанаваў цэлы натоўп газетчыкаў. Усе крычалі пра выпуск гранд-латарэі. Пік адмахнуўся ад тае назолы і пайшоў у гарадскі парк. Але і там вялікія рэкламы заклікалі яго купіць латарэйныя білеты. У механіка чамусьці сапсаваўся настрой ад гэтых маляўнічых заклікаў, і ён зайшоў у кафэ выпіць шклянку мінеральнай вады. Аднак і там раскіданыя і расклееныя аб'явы навязвалі латарэю. Тады ён вярнуўся дадому, а жонка перш-на-перш яму навіну : «Перадавала радыё, каб білеты куплялі: выгадная справа». Пік ужо раззлаваўся і, насварыўшыся на жонку, запёрся ў бакоўцы. Але з ганку пастукалі ў дзверы. Ён выйшаў адчыніць, і на яго сунуўся — хто думаеш? Адзін з гэтых прадаўцоў білетаў. І з такім запалам стаў запэўняць чалавека ў выгадзе гэтай латарэі, так распінацца ў бескарыслівасці яе завадатараў, што містэр Пік неяк прамарудзіў і не паспеў зачыніць дзверы. А трэба табе сказаць, што калі не зробіш гэта на першым слове, то потым ужо не ўдасца, позна будзе. Пакрысе прадавец гэты ўлез у калідор, потым апынуўся, нарэшце, у бакоўцы механіка. Праз поўгадзіны містэр Пік не пярэчыў, а, загіпнатызаваны гаваруном, сядзеў насупраць яго і злосна маўчаў. А той усё распінаўся:

— Вы падумайце, дарагі містэр: долар білет. Што вы траціце? А якія выйгрышы ў вас будуць! Колькі цудоўных рэчаў... Нават акіянскі параход! Мільённая штука, скажу вам, і білет на тое шчасце — адзін долар.

Скончылася, вядома, тым, што, прывыкшы да думкі аб страце долара, містэр Пік купіў білет. Але прадавец не адчапіўся, пакуль ён не купіў тры. Пік маркотна паглядзеў на іх, пашкадаваў свае долары і, раззлаваны, сеў чытаць тэхнічны часопіс.

... Дзядзька Пракоп хапаецца за сваю люльку, хуценька цмокае ёю. Там нешта сіпіць, і перад тварам паяўляецца клуб шызага дыму. Дзядзька робіць зацяжку разы тры, — чалавеку, відаць, хочацца курыць, але яшчэ больш — расказаць гэты цікавы ўспамін.

— І вось, братка ты мой, мінуў час — месяц ці два, не памятаю ўжо — адбылася тая латарэя. Містэр Пік газет не чытаў, увесь дзень корпаўся ў рухавіках, і гэтую падзею прапусціў. Вядома, чалавек глядзеў на ўсё, як на баламуцтва, толькі шкадаваў свае тры долары і ўсё беда-

ваў пра гэтую страту. Мы тым часам кпліва супакойвалі яго: «Нічога, не бядуйце, містэр Пік: тры долары не вернуцца, затое «Санту Марыю» выйграеце». Так называўся акіянскі карабель, які выпадаў на самы буйны выйгрыш. Казалі, а самі смяяліся ў душы з гэтага сур'ёзнага, скупога чалавека, які дапусціў трохдоларавую слабасць.

Але жонка ўсё-ж прымусіла яго знайсці табліцу і праверыць білеты. Праверка таксама адбылася ў нядзелю. Я добра памятаю, бо я тады сядзеў з суботы галодны і нічога не еў. І раптам паштоўка: «Містэр Пік тэрмінова запрашае да сябе на сямейны абед з прычыны сямейнай урачыстасці». Што, думаю, за дзіва такое? Пяць год працавалі разам — ніколі з ім чарку віскі не выпіў, а тут — урачыстасць. І вось я — у містэра Піка. Там ужо народу багата — нашыя з гаража, інжынер, знаёмы чыноўнік, суседзі. У чым справа? Лагодны, радасны, гаспадар паведамляе: на адзін яго білет выпаў выйгрыш — і думаеце што? Сама «Санта Марыя». Усе дзівуюцца, віншуюць, глядзяць на табліцу і на той білет — сапраўды так. Наш аўтамеханік містэр Пік — уладальнік мільённага акіянскага парахода!

І вось для містэра Піка насталі дзівосныя дні. Ён перастаў хадзіць на працу, на яго месца з'явіўся другі, а гаспадар гаража містэр Сландэр афіцыйна запрасіў механіка ў свае кампаньёны. Знаёмыя віншуюць. Усе гарадскія гандляры расчынілі дзверы сваіх крам перад жонкай Піка: калі ласка і як хочаш — наяўнымі ці ў крэдыт, нават дарма бяры. Для мільянера не шкада. Сам Пік, як звар'яцелы, кідаецца па гораду па нейкіх справах: афармляе дакументы на карабель, ездзіць на тэлеграф, высвятляе, атрымлівае тлумачэнні, патрабуе даведкі, водзіць хвасты газетных рэпарцёраў, пазіруе фатографам і дае інтэрв'ю. На другі дзень газеты і радыё на ўвесь свет разнеслі вестку аб ашчасліўленым латарэяй чалавеку.

Але вось тут і пачалося ліха. Містэр Пік — аўтамеханік, а не капітан. Да таго порта, дзе стаяла гэтая «Санта Марыя», тысяча міль. А карабель



не шлюпка, яго ў кантэйнер не ўкладзеш. Пік папрасіў латарэйных гаспадароў выплаціць яму грашыма кошт парахода, але тыя адмовіліся. Тады ён змясціў у газетах аб'явы аб продажы судна, чакаў тыдзень — і ніводнай прапановы. Ён — да гандлёвых і марскіх экспертаў: у чым справа? Аказваецца, справа ў скарачэнні гандлёвых абаротаў марскога флоту і ў старасвецкіх якасцях тае «Санта Марыі». Карабель вялікі, але ўжо стары. Ад усіх гэтых навін містэр Пік схуднеў, і пінжак матляўся на ім, нібы пашыты навырост. А тут новыя непрыемнасці: з порта прыйшла тэлеграма ад аб'еднання партавікоў. А з ёю — і рахунак: за ўтрыманне ля прычалу судна заплаціце такую і такую суму, а ў наступныя дні тарыф за прычальнае месца будзе павышаны ў паўтара раза.

Містэр Пік пачаў сівець. Гандляры і крэдыторы, нюхам учуўшы нядобрае, пачалі слаць напамінкі аб тэрмінах даўгоў. Містэр Пік праклінаў тую латарэю і грыз жонку за дурную выдумку, а жонка яго — за камерцыйную неразваротлівасць.

...Я пільна гляджу, як хітравата ўсміхаецца запалымі вачыма дзядзька Пракоп, як плывуць у зацішку шызыя струменьчыкі з яго адмысловай люлькі. Дзівосныя тыя справы захапляюць мяне сваёй навізной, гэткім незвычайным для нашага жыцця паваротам падзей і логікай з'яў.

— Дык вось, значыць, задумаўся містэр Пік і парашыў хоць як-небудзь адвязацца ад гэтага праклятага выйгрышу. Праз аднаго знаёмага ў тым партовым горадзе напытаў ён купца на свой параход. Купец гэты быў гаспадаром нейкага метызнага завода, і за чвэрць цаны, як для якога рачнога катэра, купіў-бы той параход на металалом. Усё ўжо было ўладжана — і цана і парадак продажу, як раптам тэлеграма: купец адмаўляецца ад парахода. Містэр Пік аж вар'яцее. Чаму? Аказваецца такая справа. Метызнік атрымаў таямнічую пагрозу: купіш параход — наракай на сябе... Містэр Пік яшчэ цану збавіў, кідаўся сюды-туды, але калі ўжо тыя магнаты цыкнулі, то хто адважыцца зрабіць наперакор?

Што тут было рабіць небараку Піку? Рахунак у порце ўсё расце — гэтак і ў турму нядоўга трапіць за даўгі. Пагараваў містэр Пік, прадаў свае набыткі — і «Форд», і палову дома, і нават святочны гарнітур і свой і жончын — і паехаў у той порт. Там ён наняў буксір, каманду матросаў, якія выцягнулі тую рухлядзь з порта, адбуксавалі на глыбейшае месца і затапілі. Містэр Пік пасля гэтага стаў сівы, як лунь, страціў пасаду. Добра яшчэ, што гаспадар гаража зліταваўся і прыняў яго простым рабочым. Вось, браце, якая гісторыя!

Я смяюся і кажу:

— Дзіўная гісторыя...

Дзядзька Пракоп, відаць, прывык за трыццаць год, што пражыў за акіянам, да такіх пачварных паваротаў лёсу і цяпер толькі цмыгае сваю люльку і ўсміхаецца: вось, маўляў, як было на свеце.

Я рагачу. Для мяне смешная гэтая гісторыя. Дзядзька Пракоп хітравата гаворыць, успамінае пра сваё заморскае жыццё, а сам надта хвалюецца. Мне смешна, бо я ведаю: за пазухай у яго латарэйных білетаў больш, чым у мяне.

І ўвечары, атрымаўшы газету, мы віншавалі адзін аднаго. Праўда, я не выйграў ні «Масквіча», ні «Волгі». Мой выйгрыш выпаў на фестывальную пуцёўку, а дзядзька Пракоп выйграў дзіцячую каляску.

— Віншую, дзядзька Пракоп! — казаў я. — Гэта не вам, а вашаму ўнуку пашанцавала.

Фама КЛАКОЦКІ

# СПАТКАЛА...

## Апавяданне

Па дарозе між палеткаў збажыны ішоў чалавек. Цёмнасіні форменны касцюм, які носяць курсанты са школы грамадзянскага авіяфлоту, ёмка сядзеў на яго стройнай постаці. Ён ішоў з чамаданам, не спяшаючыся. Ды і куды спяшацца? Наперадзе — водпуск.

А на сэрцы ў яго было неспакойна. «Як-жа так? — думаў ён.— Папярэдзіў тэлеграмай і не спаткала... Можа якая бяда з ёю?» Розныя думкі кружыліся ў яго галаве.

Толькі ён прайшоў з кілометр ад станцыі, як яго дагнала грузавая палутарка і абдала воблакамі густога шэрага пылу. «Ганяюцца, чэрці», — нездаволена падумаў ён, аббіваючы пыл з кіцеля, з галіфэ. Яму цяпер было ўсё няміла.

Між тым у кузаве палутаркі, што, як віхор, праімчалася міма, сядзелі дзяўчаты. Яны аглядзелі спачатку ззаду, а потым спераду ішоўшага, і адна з іх, Соня, сказала:

— Дык гэта-ж Алік Клімаў ідзе. Далібог, ён!.. Што трактарыстам у нас быў...

Яна перагнулася цераз борт, каб загаварыць з шафёрам, а другая забарабаніла кулакамі па кабінцы. Машына затармазіла і спынілася.

— Эй, хутчэй! — крыкнула спадарожніку сяброўка Соні. — Падвязем!

Але хлопец з чамаданам як ішоў памаленьку, так і прадаўжаў ісці. Ён быццам не хацеў, каб яго падвозілі. Позірк юнака быў спакойны, няўзрадаваны. Машына ўсё-ж не ад'язджала, чакала яго, і ён, нібыта вымушаны быў, кінуў рэчы ў кузаў. Потым лёгка і спрытна ўскочыў сам.

— Добры дзень! — стрымана прывітаўся юнак, не падаючы рукі.

— Добры дзень! — адказалі дзяўчаты.

Калі палутарка зноў, як віхор, паімчалася па гравійцы, дзяўчаты хітра пераглянуліся. Соня, прытуліўшыся да сяброўкі, прашаптала:

— Задаецца ці не пазнае...

Юнак у цёмнасінім касцюме сапраўды быў тым, каго пазналі дзяўчаты. Але ён за тры гады вучобы ў школе ці то забыў іх, ці то не

пазнаў. Настрой у яго быў абыякавы, ён нават не хацеў расказваць, куды едзе.

Так і праехалі моўчкі з кілометр. Потым Соня раптам, нібыта штосьці ўспомніўшы, звярнулася да сяброўкі:

— Ну, як табе вяселле Мані Владзімірскай? Нішто сабе! Праўда, ён прыгожы хлопец? Ды багаты-ж, кажуць... Гэтая зялёная «Пабеда», што ў садку стаяла, яго ўласная. Ён на заводзе інжынерам працуе...

Соня цяжка ўздыхнула і дадала:

— Будзе Маня цяпер з горада прыязджаць дадому на ўласнай машыне... А казалі-ж, у яе быў кавалер, Алік Клімаў... На лётчыка недзе вучыцца... Як паехаў, дык па сённяшні дзень...

— Празяваў дзяўчыну, дзівак! — падтрымала сяброўка.— А можа сам ажаніўся ўжо?..

Алік Клімаў, як пачуў імя Мані Владзімірскай, далей стараўся не прапусціць ніводнага слова. «Дык вось яно што,—думаў сабе ён, апусціўшы галаву.— Маня выйшла замуж у горад?! Вось чаму сталі рэдкімі яе лісты. А ў апошнім, кароценькім, паведаміла: «Пісаць няма калі, раскажу потым». Так і не расказала. Дзе ўжо?! А я спадзяваўся...» Успомніўшы, як ён позіркам шукаў на пероне станцыі Маню, Аліку стала крыўдна і балюча. Ён пачаў прыпамінаць, што некаторыя пісьмы яе былі халоднымі, нібы чужыя...

«Але, ажаніўся!? Было мне калі гэтым у школе займацца,—думаў сабе Алік Клімаў. — Балазе, што дзяўчаты не пазнаюць мяне. Трэба сысці».

І ён парашыў злезці. Не даязджаючы кілометры два да роднай Церахоўкі, ён папрасіў спыніць машыну каля мосціка, дзе адыходзіла дарога на суседні калгас, нібыта яму трэба было ісці туды. Ён саскочыў з чамаданам і намерыўся далей дабірацца пехатой, і ўсё думаць, думаць... Развітваючыся са сваімі спадарожніцамі, ён не заўважыў, што яны чамусьці згорбіліся над кабінкай палутаркі і не глядзяць у яго бок..

А ў Мані Владзімірскай—дачкі старшыні калгаса з Церахоўкі—абставіны склаліся так. Тэлеграму ад Аліка Клімава яна атрымала яшчэ раніцай.

Прачытала, і рукі яе задрыжалі ад хвалявання, яшчэ раз прачытала, і яшчэ раз. Убачыўшы бацьку, які ішоў у кантору, Маня кінулася да яго:

— Тата, я сёння адлучуся з брыгады... Мне трэба з'ездзіць на станцыю.

— Чаго?—строга запытаў заклапочаны старшыня, не гледзячы на дачку.

— Мне трэба, тата... І машына няхай мяне падвязе.

— Машына?—здзівіўся і нават узлаваўся бацька.—Кожная мінута дарага, дождж можа пайсці—хлеб на полі, а яна выдумляе... Нікуды не пушчу і машыну не дам.

— Тата!

— Усё! Кончаны разгавор!—адрэзаў бацька.—Ідзі ў брыгаду!

Маня сарвала з галавы касынку і ўткнулася ў яе тварам. Яна ведала, што стаіць гарачая пара, што бацька заўсёды такі неўтрапёны да работы і няўважлівы да сваіх інтарэсаў, асабліва да роднай сям'і. Няхай-бы яна лепш не пыталася ў яго і сама без дазволу сустрэла Аліка на станцыі. Сэрца яе разрывалася і пакутавала. І ўсё-ж праз нейкі час, выцершы на шчоках слёзы, яна нехаця, памаленьку пайшла ў брыгаду.

Алік Клімаў нічога гэтага не ведаў. Саскочыўшы з машыны, ён, панурыўшы галаву, пайшоў на ўзгорак. І пакуль чутно было гурчанне матора

палутаркі, яму ўсё здавалася, што да слыху яго даносіцца прыглушаны смех і пякучыя словы: «Празяваў дзяўчыну, дзівак». Так, сапраўды, дзяўчаты ў кузаве рагаталі з яго. І было з чаго рагатаць. Сапсаваны настрой канчаткова змяніўся крыўдай і горкім смуткам.

Была хвіліна, калі ён хацеў вярнуцца на станцыю, каб паехаць назад у школу, але ўспомніў пра бацьку і маці. Ён даўно ўжо іх не бачыў.

«Ну што-ж, няхай смяюцца, — у думках парашыў ён. — Няхай смяецца ўсё сяло... Пераначую, а заўтра ў дарогу. І больш ніколі не прыеду сюды».

Падняўшыся на ўзгорак, ён нейкім рашучым позіркам акінуў палеткі. Сярод спелага жыта, залітага яркімі праменнямі заходзячага сонца, узвышаўся камбайн. Ён стаяў, а каля яго мітусіліся людзі. Алік падумаў пра сваю брыгаду, дзе ён быў некалі трактарыстам. Як тады ўсе яго паважалі і любілі! «Досыць, не трэба аб гэтым»,— парашыў ён.

Падыходзячы ўсё бліжэй і бліжэй да камбайна, які спыніўся каля палявой дарожкі, Алік міжволі стаў прыкмячаць, што калгаснікі, сабраўшыся вакол машыны, чамусьці ўстрывожаны. Пад'ехала фурманка. Двое людзей кагосьці паднялі і панеслі на фурманку. Палажылі... Алік крок за крокам міжволі накіраваўся да камбайна.

Няшчасце, сведкай якога стаў Алік Клімаў, было вялікае. Машыніст Трахім Крук незнарок усунуў руку ў махавік камбайна. Руку паламала, і зараз акрываўлены чалавек ляжаў на возе, стагнаў. Каля яго бегалі прычэпшчык і дзядзька-фурман. Везьці ў бальніцу трэ' было найхутчэй, трэ' было ратаваць чалавека.

У такой мітусні ніхто не прыкмеціў, як падышоў Алік Клімаў. Ён паставіў чамадан і ціха прывітаўся. На яго звярнулі ўвагу ўжо тады, калі фурманка выехала на дарогу. З абыякавасцю яго спаткалі, роўнадушна прынялі вестку, што ён прыехаў у водпуск. Здарэнне, якое адбылося толькі што, страшэнна ўскаланула ўсіх. І зараз усе аб гэтым гаварылі, паўтаралі адны і тыя-ж словы, як Трахім Крук падаў руку ў махавік. І брыгадзір, які прыскакаў на кані, запылены, усхваляваны, злосна плюнуў некалькі разоў і сказаў:

— Застапарылася работа!.. Выбыў са строю чалавек і агрэгат.

Усе ўспомнілі, што замяніць машыніста няма каму. Толькі з МТС можна чакаць падмогі. І то няскора. Дзень-два спатрэбіцца. А жыта пераспелае.

Алік Клімаў сядзеў на сваім чамадане і кусаў саломінку. Людское гора, нечаканы выпадак памаленьку пачалі тушыць яго асабістую крыўду і смутак. І тут раптам усе неяк убачылі яго і загаварылі.

— Здароў, Алік! — ціснучы яму руку, сказаў брыгадзір. — Надоўга ў сяло? А ў нас, бачыш, бяда...

Рашэнне ўзяцца за штурвал камбайна прыходзіла да Аліка Клімава паступова. Спачатку ў яго з'явілася думка: «А чаго спяшацца дадому? Ужо ўсёроўна!» Калі-ж ён, узышоўшы на масцік камбайна, стаў за руль і брыгадзір запытаўся: «А не забыўся? Забыўся, напэўна!», Алік сказаў:

— На гэта ніколі не забываюцца. Цяпер не такая машына мяне слухае...

І загадаў памочніку і прычэпшчыку заняць свае месцы.

Машына ўздрыганула і паплыла ў спелым жыце. Моцна сціскаючы ў руках штурвал, Алік напружана ўглядаўся наперад. За працай на сэрцы рабілася лягчэй і прывольней.

Звечарэла. Запалілі фары ў камбайна. А машына Аліка Клімава ішла безупынку па полі. Ужо некалькі разоў адгрузілі збожжа. Грузавікі з насыпаным зернем адыходзілі ў цемру ночы.

І вось прышла палутарка, якая стала воддаль камбайна. Яе фары ярка свяцілі Аліку ў вочы. Ён нават здзівіўся: навошта гэта, хто гэта? Але памочнік сказаў:

— Вячэру прывезлі нам. Спыніся, перакусім!..

Калі заглух матор камбайна і Алік сышоў з мосціка на іржышча, чыесьці гарачыя рукі ў цемнаце абвілі яго шыю. Ён, вядома, пазнаў, хто гэта.

— Маня!—вырвалася з яго грудзей.

І губы іх спаткаліся ў пацалунку. А дзесьці побач чуўся смех, знаёмы Аліку смех. Гэта смяяліся Соня і яе сяброўка.

**Марына БАРСТОК,**
**кандыдат філалагічных навук**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Беларуская дзіцячая літаратура нясе на сабе адзнакі гістарычнага развіцця ўсёй беларускай культуры. Першыя яе крокі звязаны з перыядам рэвалюцыйных падзей 1905 года, з прыходам у літаратуру Я. Купалы, Я. Коласа, Э. Пашкевіч (Цёткі), з іх шырокай праграмай рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця, абароны працоўнага чалавека.

Рэвалюцыйна-дэмакратычныя пісьменнікі ўзнялі нашу літаратуру на новую ступень народнасці і рэалізма, зрабілі яе ў большай меры, чым іх папярэднікі, выразніцай дум, настрояў і патрабаванняў працоўных мас. Яны ўпершыню глыбока паказалі побыт беларусаў, іх норавы і звычаі, працавітасць, душэўны склад, свабодалюбства і прагу да актыўнай дзейнасці. У іх творах па-майстэрску раскрылася хараство беларускай прыроды, усімі сваімі фарбамі заззялі незлічоныя скарбы народнай мовы.

Ёсць свая законамернасць у тым, што заснавальнікамі нашай дзіцячай літаратуры з'явіліся пісьменнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, барацьбіты за палітычныя свабоды, за развіццё нацыянальнай культуры, мовы, асветы.

Шырока паказваючы жыццё народа на пэўным гістарычным адрэзку часу праз побыт працоўнага чалавека, Я. Купала, Я. Колас і Цётка ўпершыню ў беларускай літаратуры звярнуліся да вобразаў дзяцей, іх псіхалогіі, да паказу фармавання іх характараў. У папярэдняй нашай літаратуры амаль што няма дзіцячых партрэтаў, не гаворачы ўжо аб спецыяльна напісаных кнігах для дзяцей, бо пытанні побыту і сям'і не выступалі яшчэ ў непасрэдным і ўсебаковым мастацкім асвятленні. Выкрыццё сацыяльнай несправядлівасці, прыгнёту, паказ цяжару паднявольнай працы як-бы адцяснялі іх на другі план. Вядома, што гэта звязана яшчэ і з традыцыяй у літаратуры, з накапленнем вопыту шырокага, усебаковага адлюстравання жыцця, з узроўнем майстэрства пісьменнікаў, з вялікай праблемай узнікнення і развіцця рэалізма.

Верачы ў духоўныя сілы свайго народа, у яго лепшую будучыню, народныя песняры клапаціліся аб нацыянальных кадрах літаратуры, аб пашырэнні аўдыторыі чытачоў, аб тым, каб дзеці беларусаў вучыліся на роднай мове, пазнавалі свой край і народ і пранікаліся патрыятычнымі пачуццямі. Звязаныя непасрэдна са школай, з выхаваннем дзяцей, пісьменнікі-настаўнікі Якуб Колас і Цётка адчулі практычную неабходнасць у кнігах для чытання і ўзяліся за іх стварэнне.

Асабліва сур'ёзна гэтае пытанне паўстала ў сувязі з патрабаваннем народа і перадавой часткі інтэлігенцыі адкрыць школы з роднай мовай навучання.

Першыя беларускія дзіцячыя кніжкі вышлі ў Пецярбургу ў выдавецтве з паэтычнай і многаабяцаючай назвай «Загляне сонца і ў наша аконца». Ужо ў самых загалоўках гэтых кніжак вызначаўся іх характар і змест. «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (1906 год) — так назвала Цётка свой вопыт складання невялікай чытанкі. Падтрымліваючы гэтае добрае пачынанне, паглыбляючы і пашыраючы яго, Якуб Колас падрыхтаваў і выдаў у 1909 годзе «Другое чытанне для дзяцей беларусаў».

Асаблівасцю гэтых чытанак было тое, што яны не толькі складзены, але і напісаны ў асноўным самімі складальнікамі.

Беларуская дзіцячая літаратура ўзрастала не на пустым месцы. Яна ўбірала ў сябе багатыя традыцыі народнай казкі, выкарыстоўвала рускія літаратурныя і педагагічныя традыцыі, якія былі заўсёды блізкімі нам і натхнілі Я. Коласа, Цётку, М. Багдановіча яшчэ ў тыя далёкія часы напісаць свае першыя дзіцячыя творы.

Адначасова з вершамі і апавяданнямі аб рэвалюцыйнай барацьбе ў 1905—1906 гг., такімі, як «Хрэст на свабоду», «Мора», «Прысяга над крывавымі разорамі», Цётка з любоўю пісала вершаваныя і празаічныя творы для дзяцей, запісвала і апрацоўвала казкі, збірала прыказкі, пагаворкі, загадкі, каб потым уключыць іх у дзіцячыя зборнікі.

У «Першым чытанні» выразна гучаць фальклорныя матывы. Аб гэтым сведчаць невялікія апавяданні «Журавель і чапля», «Сварба», «Пакуль не ў руках, не кажы, што тваё», «З прыску ды ў агонь», «Курыца і пятух», якія з'яўляюцца апрацоўкай народных сюжэтаў, а таксама шматлікія прыказкі, прыпеўкі, загадкі, змешчаныя ў кнізе. Магчыма, не зусім метадычна падабраны некаторыя з іх і не заўсёды падыходзяць да першага чытання («Горка рэдзька — ды ядуць, кепска замужам — ды йдуць», «Хоць за вала, толькі-б у хаце не была»), але, як правіла, творы чытанкі — гэта свет дзіцячых інтарэсаў, думак і захапленняў.

У невялічкіх і па-дзіцячаму простых вершах, апавяданнях і нарысах паэтэса малюе родную вёску, сад, лес, дзень свята — нядзельку і будні ў сялянскай хаце.

Сваімі творамі яна дапамагае ў блізкім і звычайным бачыць сапраўды прыгожае, вартае любавання і захаплення.

Ад апісання гаспадаркі, святочнага дня ў роднай хаце, заняткаў маці і сясцёр аўтар ідзе далей, паступова пашырае кола дзіцячых назіранняў і ўяўленняў, малюе вёску ў плане абагульнення, як сімвал любасці да роднай краіны, роднай зямлі. Відаць, што ў аўтара пры складанні кніжкі была добрая думка аб яе адзінстве і цэльнасці, аб паслядоўнасці ў падборы матэрыялу.

На старонках «Першага чытання» жыве хлопчык, сынок маленькі,

ласкавы, цікаўны, добры па натуры. Выразна чуецца дзіцячая гаворка, дзіцячыя інтанацыі:

Татульку, хачу я чытаць;
Татульку, хачу свет пазнаць;
Татульку, ехаць хачу праз моры;
Татульку, убачыць хачу я горы;
Як буду вучоным, татульку,
Куплю табе тытуну ў люльку,
Куплю яшчэ кажух белы
Дый армяк суконны цэлы...*

Сынок абяцае яшчэ купіць бацьку «сарочку нову», «сошаньку клянову», а маці, якую ён таксама вельмі любіць, — «чырвону хустку», «хвартушок рабенькі, андарак палавенькі». Праз абяцанні сынка выказаны мары і патрэбы працавітых людзей старой вёскі, іх сціплыя жаданні мець адзенне і неабходныя прылады працы.

Побач з дзіцячай гаворкай са старонак чытанкі чуваць голас апавядальніка, настаўніка, дарослага чалавека, які любіць дзяцей і мае што расказаць ім. Аўтар часам непасрэдна звяртаецца да сваіх чытачоў з запытаннямі, будзіць у іх думкі, актыўныя адносіны да прачытанага: «Потым вясна пасварылася з летам. Хто цяпер адалее, скажыце, дзеткі, самі» («Сварба»).

Мова зборніка простая, даступная дзіцячаму ўспрыйманню і ў той-жа час вобразная, насычаная ўдалымі, народнымі выразамі: «Вёска, дзе я радзіўся, завецца Стаўбунцы. У маёй вёсцы ўсяго будзе дымоў з 80» («Мая вёска»); чапля з гонарам адказвае жураўлю: «Не прыпадаеш ты да майго смаку» («Журавель і чапля»).

Пад псеўданімам Тымчасовы Цётка выдае ў 1906 годзе яшчэ адну кніжку для першага чытання «Гасцінец для малых дзяцей». У ёй змешчаны апавяданні, перакладзеныя з украінскай мовы «з малымі пераменамі», як заўважае аўтар. Гэта творы бытавыя, прыродаапісальныя, дэмакратычныя па сваёй сутнасці. У іх расказваецца аб жыцці сірот і дзяцей беднякоў, аб тым, якою цаною дастаецца іх маткам кавалак хлеба («Хлеба будняга дай нам сёнека»), аб дзяўчынцы, якая ўсюды помніла пра сваю хворую маці («Добрае дзіцятка»), аб вялікай радасці селяніна-аратая, якому добрыя людзі — бацька з сынам — палажылі па палціне ў кожны лапаць, бо, каб не гэтыя грошы, у яго і солі не было-б за што купіць.

У духу твораў самой Цёткі вытрымана апавяданне «Лебедзь», якое мае значны соцыяльны змест. Лебедзь, гаворыцца ў апавяданні, птушка рэдкая, далікатная, дарагая. Яна падобна да гуся, але так, як пан да мужыка. «Лебядзінага пуху не шмат, а панскай працы яшчэ менш на свеце. Любіце, дзеткі, гусачак, бо на іх падушках спіцё, любіце мужыкоў яшчэ больш, бо з іх працы жывецё». **

Складальніка цікавілі таксама і апавяданні маральнага парадку, аб паводзінах і ўзаемаадносінах дзяцей, аб іх дружбе. Але не настаўленні і сухі дыдактызм сустракаем мы ў яе кніжках, а паказ жыццёвых варункаў і падзей, у якіх раскрываюцца дзіцячыя характары.

* «Першае чытанне», 1906, стар. 9.
** «Гасцінец для малых дзяцей», 1906, стар. 11—12.



**На беразе возера Нарач. Група моладзі з сяла Парфіянава (Докшыцкага раёна Маладзечанскай вобласці).**

Фото А. Дзітлава.



Выпускнікі сярэдняй школы № 2 у г. Гарадку (Віцебская вобласць) Ада Барылава і Ґенадзі Грышкін. Закончыўшы школу з залатым медалем, абодва яны вырашылі набыць прафесію ўрача і залічаны на першы курс Віцебскага медыцынскага інстытута.

Фото А. Дзітлава.

Асветніцкая праца Цёткі неадлучна ад яе паэтычнай творчасці і актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці. Свой талент і энергію педагога-асветніка яна аддавала беларускім дзецям і моладзі, да якой звярталася не аднойчы з шчырым, натхнёным словам.

У пачатку 1914 года ў Мінску пачынае выходзіць літаратурна-навуковы часопіс беларускай моладзі «Лучынка». Новы часопіс падпісваў рэдактар-выдавец А. Уласаў, але сапраўдным рэдактарам яго, як сведчаць старэйшыя пісьменнікі, была Цётка. Яна-ж была і асноўным творчым работнікам у рэдакцыі.

«Лучынка» паступова набывала вядомасць у чытачоў. На яе старонках змяшчалі свае творы Я. Купала, Я. Колас, Я. Журба, А. Гурло, Ц. Гартны. Прымаліся захады да пашырэння актыву карэспандэнтаў з ліку беларускіх студэнтаў і вясковай моладзі. Праўда, часопіс існаваў нядоўга і не паспеў па гэтай прычыне, а таксама ў выніку жорсткіх цэнзурных умоў, выявіць больш выразна сваё аблічча. Ідэі асветніцтва, гуманізму і патрыятызму выступалі ў ім у агульнай, расплывістай форме, не звязваліся з канкрэтнымі задачамі барацьбы на тым этапе.

Першы нумар «Лучынкі» адкрываўся вершам Цёткі той-жа назвы, у якім выказвалася надзея, што часопіс панясе святло ў цёмныя беларускія хаты, будзе расказваць аб родным краі, абуджаць і клікаць маладыя сілы да актыўнай грамадскай дзейнасці.

У перадавых артыкулах часопіса, большасць з якіх напісана самой Цёткай, з вялікім запалам і шчырасцю гаварылася аб любві да сваёй роднай мовы, аб неабходнасці берагчы і шанаваць яе, бо мова з'яўляецца выражэннем характару і душы народа.

На старонках часопіса Цётка друкавала свае мастацкія творы, напісаныя ў гэты час, — апавяданні «Зваротлівы», «Міхаська», нарыс «З дарогі». У выглядзе пісем з дарогі яна расказала аб сваёй паездцы ў поўднёвыя краіны, аб прыгажосці мора, аб гарадах і музеях, у якіх ёй давялося пабываць. Але пасля ўсяго ўбачанага яшчэ мілейшым стаў ёй родны край, бо «нідзе так не пекна, як у нас».

Яе мастацкія нарысы мелі значэнне ў пашырэнні жанравай разнастайнасці літаратуры таго часу.

З майстэрствам і веданнем дзіцячай душы расказала Цётка чытачам «Лучынкі» аб горкім лёсе Міхаські-сіраты, аб яго страшнай душэўнай адзіноце. Хворы, галодны, пакрыўджаны мачыхай і благімі дзецьмі, хлопчык не меў ніводнай блізкай істоты. І таму так моцна палюбіў ён разумную птушку жорава, якую ён выратаваў і выкарміў. Трагічны лёс Міхаські нагадвае лёс падстрэленага, адстаўшага ад выраю жорава. І калі Міхась памёр, жораў першы ішоў за яго дамавінай, а потым задрыжэў на свежай магіле і ўзняўся да лёту, каб несці вялікі жаль па хлопчыку ясным зоркам і белым хмарам. Усё гэта гучыць, як папрок чалавечай грубасці і чэрствасці. Зусім відавочна выхаваўчае гуманістычнае значэнне твора.

Асветніцкі часопіс Цёткі «Лучынка» адыграў прагрэсіўную ролю, несучы роднае слова, культуру і веды ў масы чытачоў.

На вокладцы першага нумара «Лучынкі» было аб'яўлена аб выхадзе ў свет беларускага часопіса для дзяцей «Іскрачкі». Але, відаць, гэта засталося толькі добрым намерам.

Побач з кніжкамі Цёткі для дзяцей і падлеткаў ля вытокаў беларускай дзіцячай літаратуры стаіць «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа. Гэта — чытанка для вучняў другога года навучання ў беларускай школе. Напісанне кнігі «Другое чытанне» — важнае звяно

ў багатай, шматграннай дзейнасці пісьменніка. Пачынаючы з гэтай кнігі, Я. Колас сістэматычна працуе ў галіне дзіцячай літаратуры, стварае для юнага чытача казкі, вершы, паэмы, апавяданні і аповесці.

К часу выдання зборніка Я. Колас ужо не адзін год папрацаваў на ніве народнай асветы, разам з Янкам Маўрам і іншымі рэвалюцыйна настроенымі настаўнікамі заявіў на настаўніцкім з'ездзе ў 1906 годзе аб неабходнасці барацьбы за новы дзяржаўны лад і новую школу, актыўна выступаў са сваімі смелымі, праўдзівымі творамі на старонках першых беларускіх газет і часопісаў.

У аўтабіяграфіі Я. Колас успамінае аб рабоце над сваёй першай кнігай для дзяцей і аб тых умовах, у якіх яна стваралася:

«З'езд быў накрыты паліцыяй. Удзельнікаў з'езда пазвальнялі з настаўніцкіх пасад і аддалі пад суд. Зіму 1906—1907 гг., пакуль цягнулася следства, я жыў у брата ва ўрочышчы Смалярня і вучыў дзяцей прыватным парадкам. У гэты-ж час пачаў пісаць кнігу для другога года навучання ў беларускай школе» («Другое чытанне для дзяцей беларусаў»).

Паказальны для гісторыі нашай культуры факт: звольнены з пасады, «нядобранадзейны», праследуемы паліцыяй настаўнік у лясным глухім кутку Беларусі піша для народнай школы светлую, патрыятычную кніжку на забароненай аж да рэвалюцыі 1905 года беларускай мове. Работа ў такіх абставінах — гэта ўзор грамадзянскай мужнасці Я. Коласа — лепшага прадстаўніка беларускай народнай інтэлігенцыі, сына свайго народа.

Першая кніжка для дзяцей Я. Коласа з цяжкасцю праходзіла праз цэнзурныя рагаткі. Аб гэтым сведчыць рукапіс яе, які захоўваецца ў бібліятэцы ў Вільнюсе. З кнігі, канчаткова падрыхтаванай да друку, выкраслены байкі з выразным сацыяльным падтэкстам.

Першая дзіцячая кніжка Я. Коласа ўся прасякнута духам народнай творчасці, ідэямі патрыятызму і любві да чалавека працы. Пісьменнік і педагог, глыбокі знаўца народнага жыцця і дзіцячай псіхалогіі — такім паўстае аўтар гэтай простай і змястоўнай кніжкі.

У цэнтры ўвагі пісьменніка тры асноўныя тэмы: сціплая, непаўторная ў сваёй красе прырода Беларусі ва ўсе поры года, штодзённая цяжкая праца людзей і народная творчасць, пададзеная ў формах, даступных дзіцячаму ўспрыйманню.

Звяртае ўвагу чытачоў жанравая разнастайнасць кнігі: тут мы знойдзем вершы, апавяданні, казкі, песні, дыялагі, задачкі, замалёўкі і апісанні. І ў той-жа час у ёй адчуваюцца мэтанакіраванасць і адзінства стылю.

Першы раздзел у паказе пораў года — вясна.

Настаўнік раскрывае перад дзецьмі багацце фарбаў і колераў ажыўшай пасля зімовага сну, расквітнеўшай вясновай прыроды. Прырода, — гаворыць ён, — багатая і мудрая кніга жыцця. Трэба вучыцца яе чытаць і разумець, каб быць смелым і ведаць месца чалавека на зямлі.

Усё ў прыродзе напоўнена харaством, сэнсам і значэннем. Прыгрэе сонейка і, як ні хаваецца снег у лагчыны, у лес, у балота, нідзе яму не схавацца: знойдзе ўсюды.

Настае пара — і прылятаюць птушкі, нашы добрыя сябры. Яны бароняць нашы сады, лясы ад шкоднікаў, радуюцца цяплу і сонцу, спяваюць на розныя галасы, уюць гнёзды, выводзяць птушанят.

Колькі харaства і ажыўлення яны надаюць нашай прыродзе!

Маленькі Ясь заслухаўся спевам птушкі. «Не відаць нічога, а ў небе ціха разліваецца тоненькая песенька, як грае хто на срэбранай дудачцы.

Гэта жаваранак! І так весела Ясю, здаецца, каб льга было, пацалаваў-бы мілую птушачку.

Галубка! Яна ўжо вярнулася з далёкай старонкі ў наш бедны край і ў ясным небе заліваецца дзіўнаю песняю». *

Лепшым другам і заступнікам чалавека выступае, у паказе Я. Коласа, багатыр Нёман, які шырока разліваецца вясной, гоніць праз лясы свае светлыя, чыстыя воды. Ён ва ўсім спрыяе селяніну-бедаку; калыша на сваіх магутных грудзях рыбацкія чаўны, гоніць плыты ўдалеч, поіць і корміць людзей. Аўтар знаходзіць прачулыя, глыбока паэтычныя словы і вобразы для ўслаўлення хараства і велічы любімай ракі беларусаў — Нёмана, звяртаецца да яго цёпла, задушэўна:

Чуў ты смутак горкай долі
Свайго сына-мужыка,
Чуў не раз у чыстым полі
Плач і слёзы бедака.
Ў ціхі вечар над табою
Дудка плакала не раз,
І кацілася слязою
Песня ў ранні летні час.
А на беразе пад дубам,
У ночку цёмную, рыбак
Спаў не раз пад мокрым лубам,
Гнуўся з холаду, бядак.
А у буру вецер кветку
Да грудзей тваіх схіляў,
І ў табе касец улетку
Пот крывавы абмываў.**

Праз прыроду, праз вобраз Нёмана Я. Колас ставіць на старонках «Другога чытання» тэму працы. Нёман дапамагае бедаку зарабіць кавалак хлеба, слухае і разумее яго жальбы, песні, думы.

А вось і ручаёк, якіх так многа на Беларусі. Цячэ ён, — расказвае аўтар дзецям, — па каменьчыках, скачучы з аднаго парога на другі. Працавікі-сяляне не раз асвяжалі ў ім свае гарачыя, потныя твары ў летні поўдзень і слухалі яго мову: буль-буль-буль! Цюх-цюх-цюх! Ручай, нібы жывая істота, размаўляе з дзецьмі, расказвае ім пра сябе:

— «Я, — кажа адна капелька, — была потам і скацілася з працавітага твару мужыка, як трудзіўся ён у полі над сваёю вузенькаю палоскаю». *** Другая капелька была слязою маці, якая плакала, стоячы над труною свайго сына. Трэцяя была ў дзіцячым сэрцы. Іншыя былі снегам, градам.

І ад гэтага ручаёк не страціў свае красы, а, наадварот, зрабіўся яшчэ больш празрыстым і прыгожым.

Як цесна пераплецена тут між сабою жыццё чалавека працы і жыццё прыроды!

Карыстаючыся прывычнай казачнай алегорыяй, аўтар увасабляе працавітасць у вобразе мурашкі, у якой многаму можна навучыцца гультаю.

* «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», 1909, стар. 9—10.
** Там-жа, стар. 13.
*** Там-жа, стар. 23.

На старонках «Другога чытання» з'яўляецца многазначны вобраз магутнага, глыбока ўросшага ў зямлю дуба, які не гнецца перад бураю.

Вобраз дуба, што сімвалізуе мудрасць, стойкасць і жыццёвую сілу, будзе развівацца і паглыбляцца ў далейшай творчасці пісьменніка. А форма філасофскай алегарычнай навелы, цесна звязанай з народнай творчасцю, зачаткі якой можна бачыць на старонках дзіцячага зборніка, пазней ляжа ў аснову арыгінальнай, мудрай і высока паэтычнай кнігі Я. Коласа «Казкі жыцця».

Якуб Колас свядома ставіў перад сабой задачу — паказаць дзецям сапраўдную рэчаіснасць: вёску, у якой яны жывуць, побыт і працу іх бацькоў, непрыглядныя сацыяльныя абставіны. Яго творы маюць на мэце ідэйнае і эстэтычнае выхаванне чытачоў на аснове праўдзівага паказу жыцця, месца і ролі ў ім чалавека.

Праз увесь зборнік праходзіць думка аб вялікай садружнасці чалавека і прыроды. На яе ўлонні селянін працуе і адпачывае. У грамадстве-ж ёсць сілы, варожыя чалавеку працы. Ад іх залежыць беднасць вёскі і неўладкаванасць жыцця. Паэт стварае праўдзівы вобраз старой беларускай вёскі з яе беднасцю і цеснатой, з маленькімі незашклёнымі вокнамі ў хатах, з пылам і брудам.

Бедная вёска, пустая мужыцкая ніва, вясковая дарога, поўная ціхага хараства — усё гэта родныя, знаёмыя вобразы. А вось і сам мужык-хлебароб, у лапцях, з загарэлым тварам, на якім адбіліся невясёлыя думкі. Адметная вопратка і гаворка ў жыхароў Палесся, цягучыя, мілыя сэрцу паэта песні палешукоў. У зборнік для дзіцячага чытання ўключаліся блізкія і родныя кожнаму школьніку, кожнаму выхаванцу вёскі творы. «Наш родны край», «Наш палетак», «Мужычае жыццё», «Песня пры калысцы» — гэтыя цяпер шырока вядомыя вершы, якія друкуюцца ў коласаўскіх тамах, былі ўключаны аўтарам у «Другое чытанне».

Аб жыцці і людзях, а таксама аб таямніцах прыроды дзеці даведваюцца ў школе ад настаўніка, вобраз якога жыве на старонках кнігі. Зборнік прывівае любоў да школы, да ведаў, да калектыву. У гэтых адносінах цікавым з'яўляецца апавяданне «Школа», у ім расказана аб першых днях вучобы вясковых дзяцей. Першакласнік Міхаська адразу-ж пераадольвае ў сабе страх перад школай і настаўнікам і весела бяжыць дадому расказаць аб усім, што ён там бачыў і чуў. Ад настаўніка даведаўся хлопчык, для чаго трэба вучыцца і якая карысць ад навукі.

Значнае месца ў кнізе займаюць казкі, апрацаваныя Я. Коласам для дзяцей.

У раздзел зборніка пад назвай «Казкі» ўвайшлі папулярныя ў народзе творы гэтага жанру, у якіх у своеасаблівай, выпрацаванай стагоддзямі форме асвятляецца жыццё, выяўляецца светаадчуванне простых людзей, іх розум, дасціпнасць, аптымізм. Меркай вартасці дзеючай асобы выступае ў казках сумленнасць, кемлівасць, здольнасць да працы, да карыснай дзейнасці. У гэтым і выяўляецца народны пункт погляду на чалавека.

Я. Колас апрацоўвае і ўключае ў «Другое чытанне» казкі аптымістычнага характару, у якіх услаўляецца жыццё ў любых яго формах.

Народная мудрасць вучыць, што паэзія і хараство не ў тым, што лёгка даецца, а якраз наадварот: неабходнае ўсім і самае каштоўнае даецца з вялікімі цяжкасцямі. Сімвалам гэтага ў народным уяўленні з'яўляецца хлеб. Цяжкая ў яго доля, але затое ён дае шчасце і радасць людзям.

Аднойчы жытцо, апавядаецца ў казцы «Цяжкая доля», расказала пра

свой лёс раку, які пакрыўдзіўся на ўвесь свет і глыбока залез ў нару. Кінуць мяне ўвосень у сырую зямлю, гаворыць жытцо. І зімой, і вясной топчуцца па мне, рэжуць, вяжуць у снапы, б'юць цэпам, сушаць, труць каменнямі ў муку, месяць, пасадзяць у гарачую печ... Сапраўды, горшай і слаўнейшай долі, чым у жытца, няма ні ў кога. Магчыма, толькі доля мужыка ў чымсьці падобна на яе.

Аўтар зборніка прапануе для дзіцячага чытання казкі, у якіх з сімпатыяй падаецца асоба простага чалавека. Селянін можа быць здагадлівым і хітрым («Мужык і цыган»), можа з пачуццём уласнай годнасці гаварыць з панам («Мужык і пан»). Нават Мароз — Чырвоны Нос не мае ўлады над чалавекам працы («Два марозы»). Мужычы сын Іван-дурань аказваецца разумнейшым за сваіх сквапных братоў і гандляра («Дурань»). Ён пераадольвае ўсе перашкоды, выходзіць з іх пераможцам.

Ёсць у зборніку твор «Песня птушкі», прысвечаны тэме мастацтва. Аўтар раскрывае ў ім значэнне і харaство праўдзівай, цесна звязанай з жыццём людзей песні. Адзін чэсны чалавек, чытаем мы ў апавяданні, пасаджаны ў турму злымі варожымі сіламі, прасіў птушак расказаць аб волі і доме. Арол адмовіўся зрабіць гэта.

«Я не раскажу табе, што робіцца на зямлі, — сказаў ён, — бо рэдка апускаюся на зямлю. Я ўю гняздо сваё на самых высокіх курганах у гарах і на старых дубах, далей ад нягодных людзей, каб не чапалі яны майго гнязда. Я не заспяваю табе песні. Я ніколі не спяваю на зямлі. Я падымаюся высока-высока, і мае песні слухае толькі вечнае сонца». *

Лебедзь таксама не раскажа аб тым, што робіцца на зямлі, бо ён плавае па вадзе, чыстай і светлай. А спявае толькі перад смерцю, адзін раз у жыцці. Верабейчык можа і ведае што-небудзь аб доме вязня, але заўсёды некуды спяшаецца і не мае часу.

І толькі адзін салавейка задаволіў прагу астрожніка, добра і шчыра спяваў яму, і той заплакаў ад радасці.

Простая, праўдзівая і шчырая песня адгукаецца ў сэрцы знябытага ў няволі чалавека і прыносіць яму шчасце.

Кніга для чытання ў другім класе багатая і рознастайная па свайму зместу. Складзеная з любоўю, блізкая дзецям, яна аказвала добратворны ўплыў на іх выхаванне. Вядома, што і ў ёй мелі месца недасканаласці, абумоўленыя недастатковасцю агульнага вопыту ў галіне складання чытанак і хрэстаматый, адчуваліся недахоп падыходзячага матэрыялу, нераспрацаванасць тэорыі дзіцячай літаратуры. Магчыма, што не ўсё ў кніжцы даступна для ўспрыймання васьмігадовых дзяцей. Многа ў ёй замалёвак, апісанняў і малавата сюжэтных элементаў.

Але тым не менш, гэта добры пачатак, грунт, на якім потым вырастала дзіцячая літаратура.

У беларускай літаратуры, як і ў іншых, многа з таго, што напісана для дарослых, увайшло потым ў дзіцячае чытанне. Так здарылася з паэмай «Сымон Музыка», паасобнымі раздзеламі з паэмы «Новая зямля», у якіх расказваецца аб жыцці дзяцей, іх вучобе і забавах. І тут Я. Колас выявіў выдатнае веданне дзіцячай душы і характараў, жывых і розных па свайму псіхалагічнаму малюнку.

У паэме шырока раскрываецца тэма дзяцінства. І ў гэтым плане яна пераклікаецца з творамі аб маленстве ў Талстога і Горкага. Па-майстэрску абмаляваныя дзіцячыя партрэты ў паэме ўзмацняюць сілу яе рэалізма,

* «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», 1909, стар. 105—106.

спрыяюць шырокаму і ўсебаковаму паказу народнага жыцця. Пачынаючы з раздзела «Раніца ў нядзельку», на старонках паэмы паяўляюцца дзеці, і ў далейшым побыт галоўных герояў, многія іх чалавечыя якасці нельга ўявіць сабе без адносін да дзяцей, да выхавання.

Колас паказаў здаровую, высока маральную сялянскую сям'ю, зачаткі працоўнага выхавання дзяцей, першыя крокі вучобы ў так званага «дарэктара». Бацькі і дзядзька ўважліва і патрабавальна адносяцца да дзяцей, спрыяюць развіццю іх прыродных здольнасцей. Асабліва ўважліва адносіцца да дзяцей дзядзька Антось, дзеці гэта адчуваюць, паважаюць і шчыра любяць яго.

Разумны, працавіты, добрадушны і цікавы чалавек, дзядзька Антось расказваў дзецям казкі («Вечарамі»), развіваў іх фантазію («Каля зямлянкі»), вучыў любіць і разумець сціплае хараство беларускай прыроды («На рэчцы»). І тут, як у «Другім чытанні», выхаванню дзяцей спрыяюць тры фактары: праца, прырода і народная творчасць.

Пранікнёны паказ рамантыкі дзіцячага свету, цікавыя, жывыя дзіцячыя характары, створаныя ў паэме, бясспрэчна, спрыялі росту і развіццю беларускай дзіцячай літаратуры, накіроўвалі яе на шлях народнасці і рэалізма, вучылі высокай ідэйнасці і майстэрству тыпізацыі.

Ёсць, вядома, розніца паміж дзіцячай літаратурай і літаратурай аб дзецях. Народны пясняр Я. Колас надзвычай добра бачыў яе. Аб гэтым сведчыць хоць-бы супастаўленне раздзела «На рэчцы» з «Новай зямлі» і верша на гэтую тэму «На рэчцы зімою», напісанага спецыяльна для дзяцей у 1910 годзе. Прастата, эмацыянальнасць і непасрэднасць пачуцця, больш імклівае развіццё дзеяння, чоткая строфіка робяць гэты верш адным з выдатных твораў дзіцячай літаратуры.

Цікаўны, дапытлівы хлопчык Алесь па свайму псіхалагічнаму складу — гэта той-жа Костусь з «Новай зямлі». Тая-ж сітуацыя і абставіны. Але апрацоўка і гучанне іншыя:

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку маломy:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...
— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла: —
Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?
Я не буду доўга,
Зараз-жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы
У санках паважуся.

Усё ў Алесю звычайнае, дзіцячае: жаданне павазіцца ў санках, ласкавая непасрэдная просьба: «Мамачка-галубка...», кавалак хлеба ў кішэні, а побач неразлучны дружбак-сабачка. І ў той-жа час мы бачым у ім прыроджаную паэтычнасць душы, назіральнасць і моцную прагу да ведаў. Пісьменнік умее проста і маляўніча гаварыць аб важных і складаных для дзіцячага разумення рэчах.

Проста і задушэўна гаварыў з сваім малым чытачом народны пясняр Янка Купала. У яго дакастрычніцкай творчасці няма твораў, напісаных спецыяльна для дзяцей. Але многія з іх з любоўю чытаюцца і вывучаюцца

дзецьмі старэйшага ўзросту. Простыя і ясныя па форме, яны даступны для дзіцячага ўспрыймання і многа раскажуць юным чытачам аб радзіме, аб цудоўнай беларускай прыродзе, аб легендах і песнях роднага краю. З вялікай мастацкай сілай расказаў паэт аб жыцці і быце беларусаў у дакастрычніцкі час, стварыў тыповы вобраз беларускай вёскі («Вёска»), паказаў цяжкую працу мужыка на вузкай неўрадлівай палосцы, яго беднасць і цемру. І ў той-жа час ён убачыў вялікую пераўтваральную сілу ў народзе, у простым чалавеку, які сваёй працай множыць багацці зямлі. Вялікая вера ў чалавека і гордасць за яго гучаць у вершах «Мужык», «Я — мужык-беларус». Людзі працы — цэнтральныя героі твораў Я. Купалы. Прыгожыя, маляўнічыя сродкі знаходзіць паэт для абмалёўкі іх вобразаў. Мужык-беларус — пан сахі і касы, жняя — сама царыца ў залатой кароне. Паэт услаўляе касца, аратая, сейбіта. З яго твораў вырастае абагулены вобраз народа, змагара за вызваленне, за свае чалавечыя правы («А хто там ідзе», «Там»).

Паэтычнасцю і глыбокім патрыятычным пачуццём вызначаецца прыродаапісальная лірыка Я. Купалы. У ёй раскрываецца выдатнае майстэрства паэта. Вершы «Вясна», «Восень», «Лета» «Зіма», «Захад сонца», «Яшчэ прыдзе вясна» і інш. даступны і вядомы дзецям.

Вялікае пазнавальнае і выхаваўчае значэнне маюць яго вершы аб паэзіі і паэце. Яны непасрэдна звязаны з біяграфіяй аўтара, з усім працэсам развіцця прагрэсіўнай беларускай літаратуры. Яны вучаць паважаць і любіць найвялікшы здабытак народа і яго інтэлігенцыі — народную нацыянальную культуру, родную мову.

З біяграфіі і твораў Я. Купалы відаць, якімі намаганнямі здабываліся скарбы нашай літаратуры ва ўмовах забароны роднага слова. Любоў да яго ў творах Я. Купалы гучыць як выражэнне любві да народа:

Магутнае слова, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне.
Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло! *

Любімым чытаннем дзяцей і юнацтва сталі многія творы Я. Купалы, напісаныя ім на фальклорнай аснове, і ў першую чаргу жамчужына купалаўскай паэзіі — паэма «Курган». Гэты твор чытаюць і любяць людзі розных узростаў. Высокая паэтычнасць мовы, яркая вобразнасць, сацыяльна востры канфлікт, кампазіцыйная стройнасць, эпічны размах і сіла натхнення робяць гэты твор класічным узорам беларускай паэзіі.

Я. Купала не абмінуў сваёй увагай і вобразы дзяцей. У яго чулае сэрца запалі карціны змрочнага, бяздольнага дзяцінства, сіроцтва, і аб гэтым ён расказвае ў сваіх творах. З жалем і смуткам гаворыць ён аб долі ўдавы, якая вымушана прасіць хлеба для дзяцей, аб хлопчыку-сіраце, што стаіць на марозе пад брамаю багатага дома. Ярка абмалявана горкая доля пастушка ў паэме «Адвечная песня». Праўдзіва паказана суровае дзяцінства і юнацтва дачкі беларускай вёскі Ганны ў паэме «Зімою».

* Выбраныя творы, Мінск, 1952, стар. 197.

Абяздоленае, украдзенае дзяцінства выступае характэрным момантам у сацыяльнай біяграфіі герояў, якія маюць у яго творчасці вялікі абагульняючы сэнс.

Цікавым па замыслу і мастацкаму вырашэнню з'яўляецца вобраз чатырнаццацігадовага хлопчыка Данілкі ў драме «Раскіданае гняздо». Гэта разумны, дасціпны, назіральны падлетак, які часта выказвае думкі самога аўтара.

Праўдзівая, народная па зместу і форме творчасць Я. Купалы аказала добратворны ўплыў на развіццё ўсёй беларускай культуры, а таксама на такую яе галіну, як літаратура для дзяцей.

Сярод твораў М. Багдановіча, напісаных для дзяцей, ёсць невялікая паэма «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» (1915), якая неаднойчы з адпаведнымі ілюстрацыямі выходзіла ў савецкі час асобнымі выданнямі. Яна з'яўляецца ўзорам творчага падыходу пісьменніка да фальклорных скарбаў, выпрацоўкі і далейшага развіцця нацыянальнай формы.

Жартоўная песня пра жаніцьбу і смерць камара вядома і ў іншых славянскіх фальклорах. Асобныя песні далі аўтару канву для стройнай сюжэтнай пабудовы з выкарыстаннем вясельнай абрадавай творчасці, фальклорных плачаў, featureзнастайных стылістычных сродкаў і прыёмаў мастацкага выяўлення.

Паэма складаецца з маленькага ўступу і пяці частак. Ва ўступе аўтар зазначае, што сказ гэты ён падслухаў у песні-звоне камароў. У далейшым развіцці сюжэта шырока выкарыстаны прыём увасаблення, па-майстэрску даны характарыстыкі дзеючых асоб.

Маладая мушка-зелянушка тужыць у адзіноце і скардзіцца на свой лёс: абыйшла яе доля жаніхамі. Пачуўшы гэтую скаргу, шэры, насаценькі камарык вырашыў пасватацца да яе:

Прыляцела мушка дахаты, —
Аж у яе камарык насаты.
Сватоўя-хрушчы уссядаюць,
З бацькам-маткай штосьці размаўляюць.
«Мы — стральцы, шукаем куніцу,
Не куніцу, але дзявіцу».
Гаманілі болей гадзіны
Ды гавораць так да дзяўчыны:
— «Ці да смаку вам госць багаты?»
— «Запытайце ў мамы і таты». *

Сватанне праходзіць у поўнай згодзе з правіламі вясельнага рытуалу. Адказ мушкі-дзяўчыны — «Запытайце ў мамы і таты» — гаворыць аб яе схільнасці да жаніха. І далей, паглыбляючы прыём упадабнення мушкі да дзўячыны-нявесты, аўтар стварае выдатныя па сваёй мастацкай апрацоўцы радкі, у якіх адчуваецца ўсмешка замілавання і добры гумар:

Тут гарэлкай усё змацавалі,
А пасля і заручын даждалі.
Браў жаніх ад мушкі-дзяўчыны
Дарагі ручнік з павучыны,

* «Мушка-зелянушка», Мінск, 1952, стар. 7.

Што яна на траўцы сцяліла
І на ясным сонцы бяліла. *

Каларытна, па-майстэрску і з густам падаецца сам абрад вяселля з песнямі і прымаўкамі, музыкай і багатымі пачастункамі.

На вяселле запрошана ўся мушчына і камарова радня. Уліткі тут каравайніцы, авадзень — старшы дружка ў камара, матылькі — баяры, пчолкі — баяркі, а чмяліха — найстарэйшая паміж імі. Уводзіцца жаласлівая песня-журба маладой, якая развітваецца з бацькамі, з родным домам, а таксама з'едлівая песня чмяліхі аб залішняй сквапнасці дружкаў жаніха. Усё як і трэба на вяселлі: добра, гучна граюць музыкі, скачуць неўгамонныя конікі, спорна п'юць і ядуць госці, умела і ласкава частуюць іх гаспадары.

Зусім у іншым тоне і рытме напісана наступная частка паэмы, у якой падаецца невясёлы роздум камара. Шпаркі, імклівы рытм змяняецца павольным, цягучым, блізкім да фальклорнага плачу:

Абляцелі кветачкі
Не ў пару.
Невясёла шэраму
Камару.
Не умее мушачка
Працаваць,
Толькі ўмее з хлопцамі
Жартаваць;
Ані выткаць кросенкі,
Ані шыць,
Ані стравы хораша
Наварыць. **

Цікава, што рашаючым у характарыстыцы мушкі з'яўляюцца яе адносіны да працы. Маляўніча паказаны гора і смерць камара, яго пахаванне і галашэнне мушкі-ўдавы: «Мой мужочак, мой камарочак, ты падай мне з труны галасочак».

Паэма «Мушка-зелянушка» — закончанае мастацкае цэлае, добры прыклад беражлівых адносін да вуснай народнай творчасці, выкарыстання яе шматфарбнасці і каларыту ў мэтах развіцця нацыянальнай паэтычнай формы. Яна выхоўвае ў чытачоў добры густ, прывівае любоў да мастацкага слова. І не бяда, што ў цэнтры яе стаяць сватанне, вяселле. Усё гэта зроблена ў духу народных казак і песень, з высокім маральным пачуццем і светлым гумарам.

Рамантыка беларускай народнай казкі, яе вобразы, сюжэты, паэтычныя прыёмы паланілі ўвагу і такога своеасаблівага пісьменніка, як Зм. Бядуля. Ён старанна збірае і вывучае вусную народную творчасць, лічачы яе цудоўным люстрам сялянскага жыцця. Казка арганічна ўваходзіла ў мастацкую тканіну яго твораў, а песня часам станавілася аб'ектам творчасці («Начлежнікі пяюць»). Аб глыбокай зацікаўленасці пісьменніка вуснай паэзіяй і веданні яе сведчаць ужо раннія яго апавяданні і вершы. Аўтар шырока карыстаецца казачнымі вобразамі для характарыстыкі многіх падзей сучаснага яму жыцця.

---

* «Мушка-зелянушка», Мінск, 1952, стар. 7.
** Т а м-ж а, стар. 13.

Па народных матывах, выкарыстоўваючы прыём пераўвасаблення, ён піша казку «Ратай», у якой славіць рупную працу хлебароба, цяжкае і прыгожае жыццё простага чалавека. Добра быць жытнімі зярнятамі, якія кормяць чалавека, думае ратай. Добра быць зямлёй, якая дае хлеб. Але самае важнае і лепшае — гэта сам ратай, бо без яго працы і зямля не дасць хлеба.

Пісьменнік добра ведаў жыццё беларускай вёскі, становішча і побыт яе жыхароў. З працаю аратага, плытагона, лесаруба звязаны многія яго дзіцячыя ўражанні, якія пазней знайшлі сваё адлюстраванне ў многіх творах.

Пісьменнік-гуманіст, Зм. Бядуля спачувальна, з вялікай любоўю малюе вобразы дзяцей сялянскай беднаты, праўдзіва паказвае іх становішча ва ўмовах капіталістычнага грамадства. Трагічны лёс напаткаў многіх з іх. Памірае ад сухотаў трынаццацігадовая дзяўчынка Ганулька, адзіная радасць і ўцеха бацькоў. Перад гэтым яна некалькі год рабіла на кулакоў (апавяданне «Тулягі»). Замярзаюць у лесе малыя дрывасекі — браты Халімон і Цішка, якія вымушаны непасільнай працай зарабляць сабе хлеб.

Пісьменнік бачыць таленавітых, здаровых дзяцей вёскі, паказвае, як у гаротнай сялянскай хатцы не могуць дружна ўжыцца паэзія з прозай жыцця.

Сцяпанка, якога празвалі ў вёсцы Пецкуном за яго незвычайную цягу да малярства (апавяданне «Вялікодныя яйкі»), пільна прыглядаўся да навакольнага і заўважаў ва ўсім колеры і фарбы. Ён нават у сне бачыў пэндзлі, дзіўныя палацы з размаляванымі сценамі і чалавека, які разумеў яго і хваліў за ўменне маляваць.

«Фарбы былі для яго недасціглай таемнасцю, хаця ён іх бачыў усюды ў дрымотным лесе, у хмарках, на блакітным небе, у зорках, на кветках, у сажалцы і ў сваіх сініх глыбокіх вачах, якія пазіралі на яго з вады, куды ён часам углядаўся, як у люстэрка.

Канца няма фарбам на свеце. Яны заварожвалі яго. Любаваўся ён імі на ніве з залацістымі каласамі, калі праменні сонца пераліваліся на хвалях жыта пад ветрыкам. Вабіла яго пажоўклая грэчка на ўзгорку, авёс у лагчыне, сенажаць, далёкія хаткі, асенні лес, імглістая далеч. Фарбы яму гаварылі свае казкі, спявалі свае песні». *

Праўда, вельмі ўжо незвычайны, не падобны да ўсіх людзей яго мастак. А эпізод, у якім Сцяпан, не маючы фарбаў, сваёю крывёю размалёўвае вялікодныя яйкі, мяжуе з містыкай.

Прагу да пазнання ўсяго навакольнага, жывую зацікаўленасць да яго выяўляе малы Янка з апавядання «Дзе канец свету?» Пісьменнік добра паказвае самы працэс адкрыцця свету хлапчуком:

«— ... З-з-м! з-з-м! Глядзі, Янка,— кажа залатая пчолка з кветкі канюшыны,— які велізарны абшар зямлі, канца краю няма. А колькі гэтых кветак з салодкімі, зацукраванымі збаночкамі!

Ой, вялікі свет...

— С-с-с! колькі каласоў, братоў родных, вакол мяне, — шэпча жытні колас Янку, — ліку няма...

— ... Чалом! чалом! чалом, Яначка, — пяе жаўранак над галавою пастушка.— Ой, як высока неба над намі, каб ты ведаў...

... Уздоўж у даль дарогі едуць падарожнікі. Скрыпяць і грукаюць

* Збор твораў, т. I, Мінск, 1951, стар. 71.

калёсы. Цішэюць-цішэюць. Меншаюць-меншаюць. І коні, і людзі робяцца тымі самымі маленькімі жучкамі, якімі былі спачатку. Вось-вось хаваюцца за пагорак на самым краі неба...

— Скуль гэтыя падарожнікі, што прыехалі з «канца зямлі»?

— Куды яны паехалі, згінуўшы на другім «канцы зямлі»!» *

Выразна абмаляваны хлопчык Андрэйка з «Летапісцаў», які піша ліст пад дыктоўку дзеда. Ад салдата Мацея, што ўсім піша лісты, ён засвоіў прыгожы іх пачатак: «За дубовым сталом пішу залатым пяром». Пасля такіх слоў іншымі здаюцца закопчаная кухня, дзе ў позні начны час сядзяць дзед з унукам, дымная лучына, што скупа свеціць на паперу, і клякса на чыстым лісце.

Суровая, скрыўджаная старасць і дзяцінства з яго марамі пра лазовую свісцёлку і рэдкі гасцінец — абаранкі на капейку — сышліся ў гэтую душную цёмную ноч і знайшлі агульную мову.

Гэтыя творы былі пачаткам фармавання Бядулі як дзіцячага пісьменніка.

Беларуская дзіцячая літаратура ў дакастрычніцкі час не была нейкім нейтральным полем, дзе бестурботна скакалі зайчыкі і раслі прыгожыя казачныя дрэвы. У ёй праяўляліся супрацьлеглыя погляды і тэндэнцыі, адбівалася ў нейкай меры агульная ідэалагічная барацьба. У той час, як лепшыя пісьменнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку змагаліся за праўдзівую, высокаідэйную, звязаную з жыццём народа літаратуру і стваралі яе, беларускія нацыяналісты імкнуліся аказаць свой уплыў на дзяцей і падлеткаў.

У 1915 годзе адно з выдавецтваў выпусціла «Кніжыцу для беларускіх дзяцей для навук і чытання». У ёй былі змешчаны малітвы ў перакладзе на беларускую мову, нарысы аб старажытных князях і так званым «залатым веку», ідэйна заганныя вершы і апавяданні.

Але не містыка і абстрактная ці рэакцыйная рамантыка патрэбны былі дзецям і народнай школе, а праўдзівая, таленавітая кніга, якая-б пашырала кругагляд чытачоў, вучыла іх жыць і змагацца.

Што было першым чытаннем нашых пісьменнікаў, выхадцаў з гушчы народных мас, аўтараў дзіцячых кніжак? Якуб Колас успамінае, што ў дзяцінстве ён чытаў і вывучаў байкі Крылова, творы Пушкіна, Гогаля. І пазней у ліку твораў Пушкіна, якія аказалі найбольшы ўплыў на яго творчасць, паэт называў несмяротныя пушкінскія казкі. Цётка, як вядома, старанна вывучала нацыянальны фальклор, простыя і праўдзівыя вершы Фр. Багушэвіча. Янку Купалу, як адзначае ён ў аўтабіяграфіі, захаплялі народныя казкі, а потым кнігі, у якіх гаварылася пра цяжкую долю беднага люду. Першымі кнігамі М. Багдановіча былі «Роднае слова» і «Дзіцячы свет» таленавітага рускага педагога Ушынскага, пачаткі гісторыі, геаграфіі, заалогіі, фізікі ў папулярных нарысах, апісанні падарожжаў, урыўкі з чытанак, даступных для дзіцячага ўзросту.

Выхаваныя на лепшых узорах класічнай літаратуры і вуснай песеннай творчасці, выходзячы з патрабаванняў самога жыцця, передавыя беларускія пісьменнікі залажылі асновы нацыянальнай дзіцячай літаратуры, прасякнутай ідэямі народнасці і гуманізма.

---

* Збор твораў, т. І, Мінск, 1951, стар. 89—90.

**Дзмітры БАЛЬШОЎ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# АБ ФОРМАХ І МЕТАДАХ НАВУКОВА-АТЭІСТЫЧНАЙ ПРАПАГАНДЫ

Пад уплывам поспехаў комуністычнага будаўніцтва, у выніку выхаваўчай работы, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, насельніцтва ўсё больш і назаўсёды вызваляецца ад рэлігійных перажыткаў. Аднак у Беларусі сярод насельніцтва, у тым ліку і сярод моладзі, ёсць яшчэ нямала праяў рэлігійных забабонаў.

На тэрыторыі рэспублікі дзейнічае яшчэ значная сетка цэркваў і касцёлаў, у радзе раёнаў працуюць секты баптыстаў, «пяцідзесятнікаў», вядуць сваю дзейнасць ксяндзы-місіянеры, захаваліся варажбіткі, знахары. У вёсках заходніх абласцей — Брэсцкай, Гродзенскай, Маладзечанскай — на рэлігійныя святы збіраецца шмат людзей, часта арганізуюцца так званыя «фэсты». Гэта прыводзіць да зрыву работ у калгасах, да масавага п'янства. Зусім натуральна, што найбольш распаўсюджаны перажыткі мінулага сярод насельніцтва заходніх абласцей, якое па сутнасці ўсяго 12—13 год жыве пры совецкай уладзе, а ў недалёкім мінулым доўгі час знаходзілася пад уплывам буржуазна-нацыяналістычнай прапаганды панска-фашысцкага ўрада, старой школы і каталіцкай царквы.

Пастанова ЦК КПСС «Аб памылках у правядзенні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва» дапамагла значна палепшыць навукова-атэістычную прапаганду, аднак многія недахопы яшчэ не ліквідаваны.

Некаторыя нашы прапагандысты няправільна зразумелі гэтую пастанову партыі, перайшлі з адной крайнасці ў другую. Яны прытупілі вастрыню антырэлігійнай прапаганды, слаба пачалі выкрываць шкоднасць рэлігіі. Калі яны і выкрываюць у той ці іншай форме рэакцыйны характар рэлігіі ў капіталістычных краінах, рэакцыйны характар Ватыкана, то аб шкодзе рэлігіі ў нашым грамадстве пачалі гаварыць вельмі мала і ў вельмі агульных формах. Адчуваецца, што многія з іх баяцца сказаць што-небудзь благое пра рэлігію, якую прапаведуюць рэлігійныя арганізацыі ў нашай краіне.

Рэлігійныя арганізацыі ў нас імкнуцца змяняць змест і формы сваёй работы, каб утрымацца на глебе, якая ўплывае з-пад іх ног. Нашы

прапагандысты часам не ўлічваюць гэтага. Яны часта ўказваюць толькі на вельмі агульную прычыну наяўнасці рэлігійных забабонаў — «адставанне свядомасці ад быцця», а канкрэтныя прычыны распаўсюджвання рэлігійных перажыткаў у той ці іншай мясцовасці, у тым ці іншым калектыве не ўскрываюцца, а значыць, і не вызначаюцца шляхі іх пераадолення. Такая прапаганда адарвана ад жыцця, ад практыкі комуністычнага выхавання.

У барацьбе з рэлігійнымі забабонамі не заўсёды ўлічваецца значэнне арганізацыі здаровага быту насельніцтва.

1

У апошні час многія прадстаўнікі рэлігійных арганізацый хрысціянства заяўляюць аб нібыта прагрэсіўнай ролі хрысціянскай рэлігіі ў грамадскім жыцці. Яны спрабуюць адмежавацца ад іншых форм рэлігіі, напрыклад, ад пантэізма, язычаства, абвяшчаючы іх «не рэлігіяй» і сцвярджаючы, што толькі пантэізму, а не рэлігіі ўласцівы пасіўнасць, рабскае пакланенне перад старасветчынай. Яны імкнуцца паказаць хрысціянства, як рэвалюцыйную ідэалогію, якая нібыта ўпершыню ўзняла голас супраць эксплуатацыі і прыгнёту і абвясціла ідэю роўнасці і братэрства ўсіх людзей. Міфічны Ісус Хрыстос у іх выступленнях паказваецца як першы змагар супроць прыгнятальнікаў і класавай няроўнасці, за што ён нібыта і быў пакараны.

Няцяжка зразумець мэту такіх сцвярджэнняў. Падтрымка шырокімі народнымі масамі, асабліва ў нашай краіне, ідэй і прынцыпаў комунізма звужае і зусім знішчае базу для распаўсюджвання рэлігіі. Аблытваючы частку веруючых выдуманай «агульнасцю» прынцыпаў рэлігіі і комунізма і спекулюючы на іх сімпатыях да комунізма, царква імкнецца ўтрымаць усялякім спосабам свае пазіцыі. На самай-жа справе рэлігійная ідэалогія супрацьлеглая комунізму. Комунізм не сумяшчальны з рэлігіяй.

Нашы прапагандысты павінны ведаць новыя аргументы, палажэнні, якія высоўваюць прадстаўнікі рэлігіі для абароны сваіх старых біблейскіх поглядаў, каб сваім яркім, пераканаўчым словам дзейсна дапамагчы працоўным пазбавіцца ад рэлігійных перажыткаў, глыбей і правільней зразумець сэнс соцыялізма і комунізма і тым самым стаць актыўнымі будаўнікамі нашага грамадства.

Рэлігія ўзнікла ў першабытным грамадстве, калі яшчэ не было класаў, але і тады яна была ўжо рэакцыйнай сілай. З самага-ж свайго ўзнікнення рэлігія была не толькі вынікам бяссілля першабытнага чалавека ў яго барацьбе з прыродай, не толькі ілжывай, пустой верай. Яна замацоўвала гэтае бяссілле, бо перашкаджала бачыць свет такім, які ён ёсць у сапраўднасці, адцягвала людзей у бок ад правільнага шляху пазнання свету, ад практычнай дзейнасці да малітваў, пакланення багам, духам.

З узнікненнем класавага грамадства рэакцыйная роля рэлігіі ўзмацнілася. Усякі эксплуататарскі клас мае патрэбу ў рэлігіі, як у сродку адурманьвання прыгнечаных мас у мэтах прымірэння з цяжкім становішчам эксплуатуемага. Рэлігія перашкаджае чалавеку пазнаць сапраўдныя прычыны соцыяльнага зла і шляхі яго знішчэння. Пануючыя класы выкарыстоўваюць яе як зброю ўмацавання сваёй улады. Вялікі настаўнік пролетарыята Карл Маркс назваў рэлігію «опіумам народа», гэта значыць, яго духоўным дурманам.

Не было і не можа быць прагрэсіўнай рэлігіі. Праўда, пераход у но-

вую рэлігію можа прынесці з сабой некаторыя прагрэсіўныя элементы. Напрыклад, прыняцце на Русі хрысціянства зблізіла Кіеўскую дзяржаву з іншымі краінамі, з Візантыяй, садзейнічала пашырэнню яе культурных, гандлёвых і палітычных сувязей.

У некаторыя перыяды гісторыі рэлігійныя погляды маглі быць выкарыстаны як форма выражэння пратэсту супраць сацыяльнай несправядлівасці. У часы сярэдневякоўя, напрыклад, у сялянскай вайне 1525 года, сяляне свае рэвалюцыйныя патрабаванні, спадзяванні аб роўнасці і братэрстве тлумачылі спасылкамі на біблію.

Аднак сама па сабе рэлігія не можа мець прагрэсіўнага значэння, таму што ў самой аснове сваёй засмечвае свядомасць прыгнечаных фальшывымі марамі аб раі на небе, перашкаджае працоўным усвядоміць свае сапраўдныя інтарэсы і скінуць з сябе ланцугі рабства.

Выдатныя мысліцелі, прыхільнікі грамадскага прагрэсу, заўсёды змагаліся супраць засілля рэлігіі. У эпоху станаўлення капіталізма перадавыя колы буржуазіі, якая з'яўлялася тады прагрэсіўным класам, актыўна выкарыстоўвалі атэізм у барацьбе супраць феадальных парадкаў. Царква падтрымлівала феадалаў, рэлігія стаяла на шляху развіцця навукі, якая неабходна была буржуазіі для развіцця вытворчасці. Дзідро, Гельвецый, Гольбах па-майстэрску выкрывалі ілжывасць асноў рэлігіі, яе шкоднасць. Раскрываючы рэакцыйную сацыяльную ролю рэлігіі, яны ўказвалі, што яна калечыць людзей, патрабуе ад народа пакорлівасці, з'яўляецца тормазам на шляху да прагрэсу.

Гнеўна выкрывалі рэлігію перадавыя дзеячы культуры Расіі — вучоныя, пісьменнікі, мастакі, музыканты. Выступаючы супраць прыгнёту народа, яны бясстрашна, нястомна шукалі новых шляхоў у навуцы і мастацтве, гэтым самым непазбежна падрываючы асновы рэлігіі. Ёй супрацьпастаўлялі яны чалавека, моцнага сваім розумам, які верыць у сябе, імкнецца пазнаць таямніцы прыроды і законы развіцця грамадства.

З асаблівай глыбінёй і навуковай пераканаўчасцю выкрывалі антынавуковую і рэакцыйную ролю рэлігіі класікі марксізма-ленінізма.

У працах В. І. Леніна, у яго артыкулах, нататках пачатку 90-х гадоў мы знаходзім пастаянныя закіды супраць рускай праваслаўнай царквы. У 1901 годзе ў адным з артыкулаў, змешчаных у газеце «Іскра», В. І. Ленін піша: «Святыня праваслаўя тым дарагая, што вучыць «пакорліва» пераносіць гора! Якая-ж гэта зручная, на самай справе, для пануючых класаў святыня!.. Іменна так, іменна дзякуючы велізарнаму распаўсюджанню ў народных масах рэлігійных «заблуджэнняў» «спяць спакойна» і Стаховічы, і Абломавы, і ўсе нашы капіталісты, якія жывуць працай гэтых мас...». І да ранняй і да позняй рэлігіі адносяцца словы: «Хто суцяшае раба, замест таго, каб узняць яго на паўстанне супраць рабства, той дапамагае рабаўласнікам». Зразумела, што рэлігія з'яўляецца ў класавым грамадстве верным абаронцам эксплуататарскага ладу.

В. Д. Бонч-Бруевіч успамінае: «У 90-х гадах мінулага стагоддзя мы не любілі нават называць сябе атэістамі — па той простай прычыне, што атэіст толькі супрацьстаіць тэісту... Атэістамі былі і народнікі, і радыкалы, і лібералы... Мы-ж заўсёды пераконана гаварылі, што ў нашым светапоглядзе няма і не можа быць ні малейшага месца нічому ідэалістычнаму, што мы адносімся да ўсіх праяў рэлігійнай думкі як да чагосьці зусім чужога».

З усіх рэлігійных арганізацый асабліва рэакцыйную ролю адыгрывае Ватыкан і каталіцкая царква, якую ён узначальвае. Гэта — адзін з самых

буйных перажыткаў сярэдневякоўя. Варта заўважыць, што многае ў каталіцызме выклікае асаблівыя сімпатыі буржуазіі да гэтай рэлігіі. Ёй падабаецца пышнасць каталіцкага культу, як адзін з сродкаў уздзеяння на веруючых, падтрымка і культыванне каталіцызмам самых грубых забабонаў. Упадачнай ідэалогіі сучаснай буржуазіі ўласціва крайняя містыка, якую прапагандуе каталіцызм. Буржуазія высока цэніць цэнтралізаваную і разгалінаваную арганізацыю каталіцкай царквы з яе царкоўнай дысцыплінай і шырокім арсеналам сродкаў прапаганды. Асабліва каштоўна для буржуазіі крайняя рэакцыйнасць «сацыяльнай дактрыны» Ватыкана, якая катэгарычна асуджае прынцып сацыяльнай і маёмаснай роўнасці і рэзка асуджае дэмакратыю, як нібыта супраціўную звычайнаму праву і «боскаму закону».

Ідэолагі Ватыкана, у асобе лідэраў створаных з дэмагагічнай мэтай так званых «хрысціянскіх прафсаюзаў», каталіцкіх палітычных партый, у асобе прадстаўнікоў так званага «хрысціянскага сацыялізма», выступаюць супраць забастовак. Яны крывадушна згаджаюцца, што праца рабочага цяжкая, аднак тлумачаць гэта неабходнасцю выкупляць грэхападзенне Адама. Яны перасцерагаюць рабочых «не выступаць у грамадзе людзей, якія каварна ўсяляюць празмерныя надзеі», указваюць, што розныя класы не павінны знаходзіцца ў варожасці, што капітал і праца нібыта не варожыя па сваёй прыродзе. Яны нават выражаюць «спачуванне» капіталістам, якія «вымушаны насіць ланцугі ўласнасці». І беднякі не павінны зайздросціць ім, бо беднякі знаходзяцца ў больш зайздросным становішчы — іх чакае рай на небе, а лепшы шлях да гэтага раю — беднасць і цярплівасць. Ці можна ўявіць сабе больш нахабную крывадушнасць!

Царква асуджае тых католікаў, якія не з'яўляюцца, на яе думку, дастаткова злоснымі антыкамуністамі, і бязлітасна распраўляецца з тымі, хто выступае за мір і дэмакратыю.

У 1950 годзе ў Парыжы пачаў выходзіць каталіцкі часопіс «Кінзэн». Па многіх пытаннях гэты часопіс адстойваў традыцыйныя погляды царквы, аднак ён адкрыта выступіў супраць «бруднай вайны» ў Індакітаі, супраць пераўзбраення Германіі, за прафсаюзнае адзінства рабочых-католікаў з камуністамі, за ўдзел католікаў у міжнародным руху за мір. У адказ на гэта папскім дэкрэтам часопіс быў закрыты.

Такім чынам, ужо з кароткага пераліку фактаў бачна, што ў сучасны момант у буржуазных краінах дзейнасць царквы накіравана супраць прагрэсу, супраць вызваленчай барацьбы працоўных.

## 2

У нашай краіне ў выніку перамогі сацыялізма і ліквідацыі эксплуататарскіх класаў падарваны сацыяльныя карэнні рэлігіі, знішчана база, на якую абапіралася царква. Аднак і ў нас яшчэ да гэтага часу рэлігія працягвае існаваць як перажытак. Прычым рэлігійныя перажыткі з'яўляюцца вельмі жывучымі. Чаму-ж захаваліся гэтыя перажыткі?

Марксізм-ленінізм вучыць, што ў грамадскім жыцці спачатку змяняюцца знешнія ўмовы, а потым адпаведна змяняецца і свядомасць людзей. У нашай краіне ліквідавана прыватная ўласнасць, знішчана эксплуатацыя, працоўныя сталі гаспадарамі і актыўнымі будаўнікамі грамадскага жыцця. Ва ўмовах капіталізма прычыны, якія параджаюць рэлігію, галоўным чынам сацыяльныя. У нашай сацыялістычнай сістэме такіх прычын няма. Аднак у свядомасці некаторай часткі савецкіх людзей усё яшчэ прадаўжа-

юць жыць старыя, у тым ліку і рэлігійныя, забабоны. Тым больш, што гэтыя перажыткі падтрымліваюцца і ўплывам капіталістычнай ідэалогіі, якая пранікае ў нашу краіну, а таксама ўплывам царкоўнай прапаганды, якую вядуць рэлігійнікі.

У нашых умовах мы знаходзім рад прычын, якія калі не параджаюць, то тармозяць пераадоленне рэлігійных перажыткаў, а часам і прыводзяць да некаторага ажыўлення іх.

Да гэтых прычын трэба аднесці слабасць нашай прыродазнаўча-навуковай прапаганды, а таксама тую акалічнасць, што мы яшчэ не можам поўнасцю распараджацца сіламі прыроды, поўнасцю прадухіліць такія з'явы, як неўраджай, засуха, марозы і г. д. Рэлігія грунтуецца на невуцтве. У свядомасці людзей, якія не разумеюць прычын прыродных з'яў, гэтыя з'явы звязваюцца з нейкімі звышнатуральнымі сіламі. Недахопы ў прапагандзе прыродазнаўча-навуковых ведаў садзейнічаюць гэтаму. Не ведаючы законаў прыроды, веруючы чалавек жыве тым, што дае яму рэлігія.

Тармозяць пераадоленне рэлігійных перажыткаў і недахопы ў арганізацыі здаровага быту насельніцтва, недахопы ў культурна-масавай рабоце.

Сучасная рэлігія ўсё больш увагі аддае маралі. Яна прэтэндуе на ролю маральнага настаўніка працоўных, імкнецца паказаць рэлігійную мараль, як абаронцу інтарэсаў працоўнага чалавека. Але рэлігія была, ёсць і пры ўсіх умовах і ва ўсіх выглядах, у якое-б адзенне яна ні прыбіралася, застаецца антынавуковай ідэалогіяй. Яе мараль — супрацьлеглая комуністычнай маралі. Асновай усякай рэлігіі была і застаецца вера ў звышнатуральнае. Канчатковай мэтай намаганняў чалавека яна аб'яўляе нябесны рай. Ні адна рэлігія не можа даць навуковага тлумачэння грамадскіх з'яў, а таму не можа з'яўляцца асновай для выхавання свядомага патрыятызму, не можа дапамагчы працоўным зразумець сваю ролю ў грамадскім жыцці.

Многія прадстаўнікі праваслаўнай царквы сцвярджаюць, што без царквы нібыта немагчыма і руская нацыянальнасць, а дакладнае выкананне рэлігійных канонаў выстаўляюць як любоў да радзімы. Яны заяўляюць, што сапраўдны патрыятызм — гэта хрысціянскі патрыятызм. Яны разважаюць так: патрыятызм заснаваны на любві, але звычайная любоў недастатковая як аснова патрыятызму; толькі хрысціянская любоў вычэрпвае паняцце патрыятызму.

А што такое «хрысціянская любоў»? Гэта рабскае пачуццё, якое нічога агульнага не мае з комуністычнай мараллю і савецкім патрыятызмам.

«Хрысціянская любоў» заўсёды звязана з пакорлівасцю і цярплівасцю. Яна не можа служыць асновай для патрыятызму. Не «дзеля бога» праяўляў савецкі народ гераізм у барацьбе з фашызмам, а дзеля абароны сацыялістычнага грамадства, якое створана не літасцю бога, а рукамі працоўных пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, у адпаведнасці з аб'ектыўнымі законамі грамадскага жыцця.

Нашы прапагандысты павінны мець на ўвазе, што рэлігійнікі ў сваіх пропаведзях шырока прапагандуюць думкі, накшталт прыведзеных вышэй. Таму ў сваіх гутарках, асабліва з людзьмі рэлігійна настроенымі, яны павінны ў пераканаўчай форме супрацьпастаўляць гэтым ідэям тлумачэнне асноў савецкага патрыятызму, сапраўдных прычын бязмежнага гераізму савецкіх людзей, іх працоўнай доблесці, прычын магутнасці нашай сацыялістычнай дзяржавы.

Паміж рэлігійным і навуковым разуменнем патрыятызму — непраходная мяжа. Патрыятызм — гэта адно з найбольш глыбокіх пачуццяў,

якія склаліся ў народаў гістарычна, вякамі і тысячагоддзямі іх жыцця і працы. Гэта — любоў да Радзімы, народа і да лепшых нацыянальных традыцый, гэта адданасць чалавека сваёй Айчыне.

Савецкі патрыятызм — гэта бязмежная адданасць вольных савецкіх людзей савецкаму грамадскаму і дзяржаўнаму ладу, сваёй соцыялістычнай Айчыне, Комуністычнай партыі. Гэта глыбока свядомы патрыятызм, ён прасякнуты соцыялістычным зместам, у аснове яго ляжыць вялікая ідэя комунізма, разуменне савецкім народам карэннай перавагі соцыялізма над капіталізмам. Ён не мае нічога агульнага з тым патрыятызмам, які прапагандуецца рэлігіяй.

Ідэі патрыятызму пярэчыць адно з асноўных палажэнняў хрысціянства — вучэнне аб замагільным жыцці, згодна якога галоўныя помыслы чалавека павінны быць накіраваны перш за ўсё да нябеснага жыцця.

Шкодныя і рэакцыйныя «патрыятычныя» сцвярджэнні рускай праваслаўнай царквы аб рускім народзе, як выбранніку боскім, што атрымаў у дар ад бога асаблівы патрыятызм, які складае нацыянальную рысу яго характару. Такія разважанні не маюць нічога агульнага з сапраўдным тлумачэннем сутнасці патрыятычных пачуццяў нашага народа. Яны ўваскрашаюць старыя шавіністычныя тэорыі аб рускім народзе — боганосцу. Яны шкодныя таксама тым, што сапраўдныя глыбокія патрыятычныя пачуцці нашага народа, яго свядомую любоў да Радзімы, якая з'яўляецца крыніцай доблесці, працоўнага гераізму, падмяняюць сімпатыямі да царквы, пропаведдзю нябеснага шчасця.

Спасылаючыся на дэмакратычны дух ранняга хрысціянства, царква імкнецца паказаць хрысціянскую рэлігію як крыніцу дружбы народаў, абаронцу роўнасці людзей. Але-ж нельга пры гэтым забываць, што хрысціянства разумее прынцып роўнасці вельмі абмежавана, — у выглядзе аднолькавай грахоўнасці ўсіх людзей, а «дружбу народаў» разумее, як аб'яднанне людзей розных рэлігій і розных нацый у адзіным рэлігійным руху.

У выступленнях царкоўнікаў часта гаворыцца пра тое, што поспехі нашай дзяржавы тлумачацца мудрай палітыкай нашага ўрада і партыі, але далей яны заяўляюць, што важнейшая прычына, з якой вынікае і сама мудрая палітыка,— гэта «перст божы»(?!).

Зразумела, што ў адказ на такую прапаганду мы павінны ўзмацніць растлумачэнне палітыкі партыі, яе навуковай абгрунтаванасці, ролі партыі, як кіруючай і накіроўваючай сілы ў развіцці нашага грамадства.

Сучасная царква, праводзячы рэлігійна-ідэалістычны погляд на грамадства, імкнецца паказаць веру ў бога, як тлумачэнне ўсіх падзей грамадскага жыцця. Улічваючы гэта, нам неабходна ўзмацняць прапаганду навуковага тлумачэння законаў грамадскага развіцця, нашых поспехаў у будаўніцтве соцыялізма, сапраўдных прычын гэтых поспехаў.

Лаяльны ў адносінах да дзяржавы характар дзейнасці рэлігійных арганізацый не павінен уводзіць у заблуджэнне нашых прапагандыстаў.

Узяць, да прыкладу, пропаведзі праваслаўнай царквы аб міры. У іх сцвярджаецца, што задача абароны міру павінна вырашацца не палітычнымі метадамі, а маральнымі, гэта значыць, толькі шляхам выхавання ў духу хрысціянскай ідэалогіі людзі дасягнуць маральнага ўдасканалення, пранікнуцца пачуццямі братэрства і дружбы, і можна будзе пабудаваць грамадства без крызісаў, без войн і галечы. Такія разважанні з'яўляюцца як-бы тэарэтычным абгрунтаваннем удзелу царквы ў барацьбе за мір і характару яе дзейнасці ў гэтым напрамку.

Царкоўныя рэцэпты палепшання жыцця людзей у лепшым выпадку — утопіі, а ў большасці сваёй — сапраўдны падман. Хочуць таго ці не хочуць рэлігійнікі, але яны сваёй ідэалагічнай дзейнасцю ашукваюць веруючую частку савецкіх людзей, адцягваючы іх увагу ад сапраўднага цяперашняга шляху палепшання жыцця і тым самым перашкаджаюць справе будаўніцтва комунізма.

Падзяляючы міралюбівыя імкненні царквы, мы не можам не растлумачваць фальшывасць і памылковасць яе метадаў. Іх аснова ілжывая, яна супярэчыць навуковаму тлумачэнню шляхоў знішчэння эксплуатацыі, беспрацоўя, крызісаў, войн. Мы павінны растлумачваць антынавуковасць пазіцыі царквы ў гэтых пытаннях і тым самым дапамагчы веруючым патрыётам актыўна і свядома ўключыцца ў справу барацьбы за мір, дэмакратыю і соцыялізм.

Вялікае месца ў сучасных рэлігійных ідэолагаў, у тым ліку і ў пропаведзях праваслаўнай царквы, займаюць выказванні аб працы.

Рэлігія заўсёды вучыла, што праца — гэта божае пракляцце, кара за першародны грэх. Хрысціянская мараль і хрысціянскія адносіны да працы заўсёды служылі апраўданнем прыгнёту працоўных.

Сучасныя абаронцы рэлігіі пазбягаюць называць працу карай за першародны грэх. Яны нават імкнуцца сцвярджаць, што іменна хрысціянства зрабіла высокароднай працу, у параўнанні з грэка-рымскім язычаскім светам. Але ў сапраўднасці хрысціянства прынесла з сабой новыя рабскія ланцугі. Яно вучыла рабоў не праклінаць працу, а глядзець на яе, як на «свяшчэнную справу», якая забяспечыць рай пасля смерці.

Сучасныя ідэолагі хрысціянства спасылаюцца на хрысціянскае паходжанне запаведзі «не трудящийся да не ест» і імкнуцца даказаць тоеснасць яе з соцыялістычным поглядам на працу. У сапраўднасці гэта запаведзь упершыню сустракаецца не ў Евангеллі, а ў больш раннім творы — у «Вучэнні дванаццаці апосталаў». Там асуджаюцца багачы, тыя, хто не працуе. Гэтае вучэнне з яго спачувальнымі адносінамі да рабоў зыходзіць з колаў малазаможных рабаўладальнікаў, што мелі невялікую колькасць рабоў, якіх трэба было берагчы, а таксама з колаў дробных рамеснікаў. Таму там ідэалізуецца ручная праца, устанаўліваецца абавязак для ўсіх займацца працай. Так узнікла і запаведзь «кто не хочет работать, того и не должно кормить». Аднак, нягледзячы на спачуванне бедным, там няма і намёку на соцыяльную рэформу. Наадварот, рабы заклікаюцца да пакорлівасці, да непраціўлення злу.

Не кажучы адкрыта, што праца — пакаранне божае, царква па-ранейшаму праслаўляе працу, заснаваную на голым паслушэнстве. Адносіны да працы, як да ганебнага цяжару, якія выхоўваліся на працягу вякоў эксплуататарскім ладам, могуць знікнуць не на аснове пропаведзі любві да бога, а толькі ў грамадстве, якое пазбаўлена эксплуатацыі.

Рэлігійныя байкі аб працы «на бога», якімі-б «дэмакратычнымі» ці «прагрэсіўнымі» яны ні здаваліся і якую-б мэту яны ні ставілі, вядуць працоўных па ілжываму шляху, наносяць вялікую шкоду справе комуністычнага выхавання.

А ўзяць, напрыклад, такі маральны прынцып, як адносіны да жанчыны. Агульнавядомы пагардлівыя адносіны да жанчыны з боку ўсіх рэлігій. Ужо ў рэлігійных паданнях аб паходжанні жанчыны сказана, што яна з'яўляецца істотай другараднай, створанай пасля мужчыны і толькі для таго, каб не было яму сумна. Яна створана з косці мужчыны і таму не можа думаць аб роўнапраўі.

Паколькі ў бібліі сказана, што бог, стварыўшы першага чалавека, удзьмуў у яго бессмяротную душу, а пра душу жанчыны нічога не сказана, царкоўнікі доўгі час спрачаліся, ці ёсць у жанчыны душа і ці можна лічыць жанчыну чалавекам наогул. Толькі ў VI стагоддзі на адным з'ездзе хрысціянскага духавенства вырашана было прызнаць жанчыну чалавекам, у якога ёсць душа.

Зразумела, што гаварыць пра жанчыну ў старым духу, называць яе «сасудам д'ябла» цяпер было-б неразумна, асабліва, калі ў Савецкім Саюзе, Кітаі і іншых краінах народнай дэмакратыі жанчыны атрымалі сапраўднае роўнапраўе.

У рэлігійных часопісах часта з'яўляюцца артыкулы, у якіх дэмагагічна сцвярджаецца, што, моў, толькі савецкая ўлада і Кастрычніцкая рэвалюцыя стварылі ўмовы для ажыццяўлення вучэння Хрыста аб роўнасці ўсіх людзей, у тым ліку і аб роўнасці жанчын. Няма неабходнасці нашым прапагандыстам уступаць у дыскусію з царкоўнікамі з выпадку іх артыкулаў, але недапушчальна аддаваць веруючых уплыву дэмагогіі, якую прапагандуюць царкоўнікі пад выглядам лаяльнасці да Кастрычніцкай рэвалюцыі і савецкага ладу.

Адносіны да жанчыны, як да няроўнапраўнай істоты, засталіся маральнай нормай сучаснай рэлігіі. Яе прапаведнікі, зводзячы душэўнае багацце жанчыны толькі да глыбокага разумення абавязку жонкі, надзяляючы яе такімі якасцямі, як пакорлівасць, ціхамірнасць, рэлігійнасць, фактычна ўмацоўваюць стары погляд на жанчыну.

У поглядах на сям'ю сучасныя рэлігійныя прапаведнікі імкнуцца сцвярджаць, што рэлігія з'яўляецца прыхільніцай сапраўднай сям'і. На самай-жа справе, калі выходзіць з духу хрысціянства, ідэалам з'яўляецца — служэнне богу. Усё зямное жыццё даецца чалавеку для таго, каб падрыхтаваць сябе для нябеснага шчасця, а таму ён павінен адмовіцца ад усяго зямнога, у тым ліку і ад шлюбу, таму што шлюб — гэта ўжо служэнне сабе і перашкода на шляху служэння богу.

І цяпер для рэлігіі характэрна пропаведзь дамастроеўшчыны ў сямейных адносінах. Яна абвяшчае ўмовай ідэальных адносін паміж мужам і жонкай уладаранне мужа і рэлігійнасць жанчыны-маці, вучыць, што шлюб — саюз няроўны, што ў ім панаваць павінен мужчына. Рэлігія сцвярджае, што не можа быць моцнай сям'і без рэлігійнага асвяшчэння шлюбу.

Нашы савецкія людзі бачаць сапраўдную моц сям'і ў свабодзе жанчыны ад прыгнёту і заняволення, у роўнасці мужа і жонкі, у іх вольнай узаемнай любві і дружбе. Савецкая дзяржава не толькі дала жанчыне ўсю паўнату грамадзянскіх правоў, але заўсёды змагалася і змагаецца за фактычнае роўнапраўе жанчыны ва ўсіх галінах грамадскага жыцця.

Такім чынам, мараль усякай рэлігіі, у тым ліку і самай сучаснай, зусім супрацьлеглая камуністычнай маралі.

Неабходна растлумачваць веруючым фальшывасць асноў рэлігійнай маралі, яе шкоднасць, а таксама шляхам актыўнага ўцягнення іх ў грамадскае жыццё дапамагчы ім пазбавіцца ад рэлігійных забабонаў.

## 3

Што з'яўляецца сутнасцю, спецыфічным прызнакам рэлігіі, які адрознівае яе ад іншых форм ідэалогіі?

Такім прызнакам з'яўляецца вера ў звышнатуральнае, пакланенне замагільным сілам. Сутнасць гэтай веры заключаецца ў тым, што людзі сілай сваёй фантазіі надзяляюць прадметы матэрыяльнага свету, апрача

іх натуральных уласцівасцей, яшчэ ўласцівасцямі звышнатуральнымі, выдумляюць нематэрыяльныя істоты (багоў, духаў, анёлаў і г. д.) і пакланяюцца ім. Таму спробы сучасных прадстаўнікоў царквы прынцыпова адмежавацца ад язычаства, пантэізма, адмежаваць веру ад забабонаў, як ад «не рэлігіі» зусім беспадстаўныя. Абаронцы рэлігіі спрабуюць знайсці розныя вызначэнні рэлігіі, як «чыстай веры», свабоднай ад забабонаў і містыкі, якія пры сучасным развіцці навукі і ведаў не карыстаюцца вялікай папулярнасцю нават сярод некаторых веруючых.

Рэлігія заўсёды з'яўлялася велізарным тормазам на шляху развіцця навукі. Гісторыя ведае тысячы прыкладаў заўзятай барацьбы рэлігіі супраць навуковага разумення прыроды і грамадства, адкрытай вайны прыхільнікаў рэлігіі супраць навукі, у імя біблейскай догмы. Няправільна лічыць, што сучасная хрысціянская рэлігія маўкліва адмовілася ад біблейскіх казак. Гэта далёка не так, бо такі адказ прывёў-бы да адмаўлення ўсёй царкоўнай сістэмы. Рэлігія прадаўжае адстойваць зусім бязглуздыя з пункту гледжання навукі цуды. І зараз рэлігія патрабуе сляпой веры ў тое, што гаворыць святое пісанне. Прыгадаем, як Ватыкан асудзіў у свой час геліяцэнтрычнае вучэнне Каперніка толькі на той аснове, што, як указвае свяшчэннае пісанне, Ісус Навін загадаў спыніцца сонцу, а не зямлі, і параўнаем гэты прыклад з сучасным патрабаваннем папы аб недапушчальнасці ніякіх дыскусій па пытанню аб паходжанні чалавека. Ён адстойвае біблейскую казку аб тым, што ўсе людзі паходзяць ад адной пары: ад Адама, створанага богам з гліны, і Евы, якая была створана з адамавага рабра.

І сучасная рэлігія заяўляе, што рэлігійныя цуды застаюцца таямнічнасцю, не дасягальнай ніякаму чалавечаму даследаванню. Аднак трэба мець на ўвазе і другое. У наш час, ва ўмовах велізарнага аўтарытэту навукі, калі біблейскае паданне пра тое, як бог развешаў ліхтарыкі на небе і рабіў жанчыну з рабра мужчыны, можа выклікаць смех, у тым ліку і ў многіх веруючых, простае, нічым не прыкрытае адмаўленне навукі — асуджана на правал.

Царкоўнікі прымаюць рад новых спроб захаваць і ў нейкай меры ўтрымаць свае пазіцыі.

Вось адзін з прыкладаў, які паказвае, як царкве, нягледзячы на варожасць да навукі, даводзіцца выкручвацца. Савецкія медыкі распрацавалі метад абязбольвання родаў, які ўжо з поспехам выкарыстоўваецца ў радзе краін. Аднак у каталіцкіх колах доўга ішлі спрэчкі пра тое, ці мае права медыцына парушаць «божае ўстанаўленне» родавых пакут, бо, згодна святому пісанню, бог, пакараўшы Еву, сказаў ёй: «Ты будзеш нараджаць у муках». І толькі ў мінулым годзе папа вымушаны быў заявіць, што царква прызнае абязбольванне родаў. Прычым папа ўхіліўся ад прамога адказу на пытанне, як-жа быць з біблейскай догмай.

Прапагандыст-атэіст павінен памятаць, што поспехі навукі вымушаюць царкву пераходзіць ад метадаў адкрытай атакі да рознага роду хітрыкаў, да навукападобнай дэмагогіі. У сувязі з гэтым неабходна ўзмацніць атэістычную накіраванасць прыродазнаўча-навуковай прапаганды, выкрываць не толькі біблейскія цуды, але і хітрыкі сучаснай рэлігіі.

Адным з прыёмаў сучаснай рэлігіі з'яўляецца выкарыстанне навуковай тэрміналогіі для «доказаў» біблейскіх цудаў. Цяпер многія абаронцы рэлігіі заяўляюць, напрыклад, што першы раздзел так званай «Кнігі быцця», дзе гутарка ідзе пра стварэнне свету ў шэсць дзён, варта разумець як маляўнічае апісанне падзей. Так як у старажытнейшы час не было слова «перыяд», то для вырашэння гэтага паняцця ўжывалася слова «дзень».

Таму пад днямі стварэння трэба разумець не звычайныя дні, а цэлыя гістарычныя перыяды. Але-ж гэтая слоўная маскіроўка не закранае светапогляду рэлігіі, бо па-ранейшаму сцвярджаецца, што ў стварэнні свету і яго развіцці ўдзельнічала вышэйшая сіла — бог і прырода дзейнічала па божай волі.

Ёсць не менш «арыгінальная» тэорыя, якая растлумачвае паяўленне Адама і Евы ў духу ідэалістычнай генетыкі, як вынік раптоўнага змянення спадчыннага вешчаства, што забяспечыла пераход ад жывёльнага арганізма да арганізма чалавека. Вядома, гэтыя змяненні адбыліся дзякуючы ўплыву бога!

Прадстаўнікі царквы імкнуцца прымірыць навуку з рэлігіяй, даказаць, што навука і рэлігія сумяшчальныя, але навука сапраўдная ўсяго ў нейкіх прамежках, за якімі пачынаецца вобласць рэлігіі.

На адной з дыскусій прадстаўнікі рэлігійных арганізацый, якія прапаведуюць хрысціянскую веру, сярод іншых абмяркоўвалі пытанне: «Хрысціянская вера і сучасная навука». Яны вымушаны былі заявіць, што хрысціянская вера нібыта не адмаўляла неабходнасці і карысці навук, і выпадкі ганення вучоных на Захадзе ў час папскай інквізіцыі абвясціць вынікам фанатызму і папскага ўладарніцтва. Аднак прызнаць поўнасцю значэнне навукі — значыць адмовіцца ад рэлігіі. Як-жа быць?

Аказваецца, біблія і прырода — гэта дзве кнігі, напісаныя богам, і, як творы аднаго аўтара, не могуць пярэчыць адна другой. Калі-ж часам і сустракаюцца гэтыя пярэчанні, то тлумачыцца гэта тым, што не ўсе ісціны веры дасягальныя для навуковага разумення і тлумачэння, паколькі адносяцца да вобласці звышнатуральнага.

Рэлігія прызнае, напрыклад, што такая падзея, як уваскрашэнне Хрыста, з'яўляецца з'явай звышнатуральнай і застаецца тайнай, якая недасягальная ніякаму чалавечаму даследаванню і ніякаму апісанню ні словам, ні вобразам. Здаецца, зразумела — аснова старая!

Рэлігія прадаўжае прызнаваць і такія цуды, як бяссмерце душы, уваскрашэнне з мёртвых, прагнанне чарцей і г. д. Асноўнай сутнасцю рэлігіі была і застаецца вера ў звышнатуральнае.

Сярод абаронцаў рэлігіі ёсць спробы адмежавацца ад ідэалізма, які страціў навуковы аўтарытэт, і шукаць «пунктаў судакранання» матэрыялізма і рэлігіі шляхам славеснай сафістыкі. Яны гавораць, што хрысціянін, напрыклад, верыць у вялікую сілу, якая ляжыць у аснове ўсяго жыцця, у бога, у руках якога знаходзіцца ўлада над усім, што творыцца ў свеце, а матэрыяліст таксама верыць у пануючую сілу, толькі называе яе гістарычным працэсам (!?).

Перш за ўсё варта сказаць, што гэтыя разважанні — вынік банкруцтва рэлігіі і велізарнага росту аўтарытэту навукі. Гэта — спроба захаваць уплыў рэлігіі на веруючых, якія адыходзяць ад рэлігіі.

Каб крытыка антынавуковага характару рэлігіі была больш пераканаўчая, асабліва сярод веруючых, на якіх робіць уплыў навейшая рэлігійная прапаганда, нашым прапагандыстам неабходна ведаць і выкрываць не толькі біблейскія міфы і забабоны ў іх старых формах, але і спробы сучасных абаронцаў рэлігіі прымірыць рэлігію і навуку.

* * *

Партыя заўсёды патрабавала весці антырэлігійную работу так, каб яна не адштурхоўвала веруючых, не абражала іх рэлігійных пачуццяў, не дапускала абразлівых выпадкаў супраць духавенства, адміністрацыйнага ўмяшання ў дзейнасць рэлігійных аб'яднанняў і груп.

Таму барацьба супраць рэлігійных забабонаў у сучасны момант павінна разглядацца, як ідэалагічная барацьба навуковага матэрыялістычнага светапогляду супраць антынавуковага рэлігійнага светапогляду.

Недапушчальным і памылковым з'яўляецца падмена крытыкі рэлігіі анекдотамі і казкамі пра царкоўнікаў. Такая «прапаганда» не крытыкуе самой рэлігіі, не выкрывае ілжывасць яе асноў, не ўскрывае яе шкоднасць. Напрыклад, крытыка няправільных паводзін папа ў быце — гэта яшчэ не крытыка рэлігіі.

Неабходна шырока разгарнуць прапаганду прыродазнаўча-навуковых ведаў, растлумачваць з'явы прыроды і грамадства, глыбей ускрываць прынцыпы існавання рэлігійных забабонаў і больш канкрэтна вызначаць шляхі іх знішчэння.

У нас яшчэ нямала прапагандыстаў, якія, гаворачы аб прычынах існавання рэлігійных перажыткаў, абмяжоўваюцца тлумачэннем таго, што «свядомасць у сваім развіцці адстае ад развіцця матэрыяльнага жыцця», і не ўскрываюць канкрэтных прычын існавання рэлігійных перажыткаў у даным калгасе, на прадпрыемстве.

У адным з калгасаў на Брэсчыне надумалі прачытаць лекцыю «Сон і снабачанні». Арганізацыя такой лекцыі была выклікана тым, што ў вёсках сярод моладзі жывуць такія забабоны, як варажба, вера ў сны і г. д. Аднак лектар абмежаваўся толькі тым, што прачытаў брашуру пра сны, павярхоўна і незразумела спрабаваў расказаць пра вучэнне акадэміка Паўлава, перасыпаў лекцыю малазразумелымі, спецыяльнымі навуковымі тэрмінамі. Зразумела, што карысць ад такой лекцыі была вельмі нязначная.

Многія нашы лекцыі на антырэлігійныя тэмы занадта акадэмічныя, цяжкія для засваення.

Ёсць і другая крайнасць. Некаторыя лектары, імкнучыся да папулярнага выкладання матэрыялу, дапускаюць залішнюю спрошчанасць, а часам і скажэнне тэорыі. Ад лектараў, прапагандыстаў патрабуецца, каб яны будавалі свае лекцыі папулярна, але на высокім навуковым узроўні.

Вялікая роля ў барацьбе супраць аджыўшых ідэй і ўяўленняў старога свету належыць жывому слову, нашай мастацкай літаратуры. Як у рускай, так і ў беларускай літаратуры савецкага часу барацьба супраць рэлігіі знайшла шырокае адлюстраванне. Такія пісьменнікі, як М. Горкі, В. Маякоўскі, Д. Бедны, А. Серафімовіч, Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва і іншыя, трапна і ў высокай мастацкай форме выкрывалі рэакцыйную сутнасць рэлігіі. Многія з гэтых твораў не страцілі сваёй вастрыні і ў наш час.

У пісьме да Аляксея Суркова А. М. Горкі дае рад каштоўных парад аб формах і метадах вядзення антырэлігійнай прапаганды праз мастацкую літаратуру. Ён лічыць абавязкам літаратараў ускрываць сацыяльныя карэнні рэлігіі, рэкамендуе таксама развенчваць ізуверскія, брудныя адносіны царквы да жанчыны, стварыць нарыс «Жанчына і рэлігія» ці «Адносіны царквы да жанчыны».

У нашай савецкай літаратуры з'явілася некалькі твораў у якіх антырэлігійная тэма займае важнае месца. Гэта — аповесць Ф. Гладкова «Ліхая гадзіна», раман Т. Сёмушкіна «Алітэт уходзіць у горы» і некаторыя іншыя. Аднак гэта далёка не дастаткова і па колькасці і, асабліва, па якасці.

Сур'ёзны папрок трэба кінуць у гэтых адносінах беларускім пісьменнікам. Нельга сказаць, што ў іх творах не закрануты атэістычныя тэмы. Яны закрануты ў шмат якіх кніжках, але амаль усюды яны звернуты ў мінулае.

Адлюстраванне ў яркай мастацкай форме шкоднага ўплыву рэлігійнай маралі на веруючых савецкіх людзей, паказ таго, што дае нашаму працоўнаму чалавеку вызваленне з-пад уплыву рэлігіі, як ён гэтага дасягнуў, хто і як яму ў гэтым дапамог, раскрыццё зместу і значэнне гэтага духоўнага перараджэння нашага чалавека і з'явілася-б выдатным укладам нашых літаратараў у справу атэістычнай прапаганды.

Пераадоленню рэлігійных перажыткаў у значнай ступені садзейнічае ўзмацненне культурна-масавай, фізкультурна-спартыўнай работы, арганізацыя здаровага быту.

Правільна, напрыклад, робяць там, дзе праводзяць у дні рэлігійных свят цікавыя вечары моладзі, гулянкі, наладжваюць гутаркі па пытаннях выхавання і інш. Гэта прыносіць вялікую карысць. Аднак не варта, напэўна, у дні рэлігійных свят наладжваць лекцыі на антырэлігійныя тэмы, бо гэтым можна пашкодзіць справе прыцягнення веруючага насельніцтва да мерапрыемстваў, якія праводзяць клубы, хаты-чытальні.

Комсамольскія арганізацыі, культасветустановы пачалі цяпер больш клапаціцца пра тое, каб арганізавана адзначаць такія падзеі, як маладзёжнае вяселле, нараджэнне ў маладых бацькоў дзіцяці і г. д. Аднак гэтая работа праводзіцца слаба. А варта пра яе падумаць. Для гэтай справы можна выкарыстоўваць і клубы і хаты-чытальні. Царква-ж мае на гэты выпадак дэталёва распрацаваны абрад. Варта было-б паклапаціцца і аб паляпшэнні работы нашых загсаў. Многія з іх дагэтуль размяшчаюцца ў цесных закутках, іх работнікі не маюць належнай культуры.

Культурна-масавая, фізкультурна-спартыўная работа, клопаты аб здаровым быце — важны сродак выхавання моладзі, адцягнення насельніцтва ад удзелу ў царкоўных абрадах і святах.

Выпраўленне дапушчаных памылак і недахопаў у навукова-атэістычнай прапагандзе, недахопаў у арганізацыі здаровага быту насельніцтва дапаможа ў значнай меры ўзмацніць выхаванне адданых Комуністычнай партыі свядомых і актыўных будаўнікоў комунізма.

**Іларыён ІГНАЦЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

# РАЗГРОМ ЦАРСКАЙ СТАЎКІ

Узброенае паўстанне пралетарыята, якім кіравалі бальшэвікі, перамагло. Часовы ўрад перастаў існаваць. Другі Усерасійскі з'езд Саветаў абвясціў уладу рабочых і сялян і стварыў новы ўрад — Савет Народных Камісараў на чале з В. І. Леніным.

Прыклад рабочых Петраграда падхапіў пралетарыят другіх гарадоў. За кароткі час па ўсёй нашай неабсяжнай Радзіме была ўстаноўлена ўлада Саветаў.

Буржуазія і памешчыкі сустрэлі сацыялістычную рэвалюцыю варожа. Галоўнай сілай, на якую разлічвалі эксплуататары ў сваіх планах барацьбы супраць Савецкай улады, была армія. На чале арміі стаялі рэакцыйныя ў сваёй большасці генералы і тысячы адданых старому ладу афіцэраў. Стаўка вярхоўнага галоўнакамандавання, як вышэйшы вайсковы орган, пакуль яшчэ не была ліквідавана. У яе штабе сядзела шмат манархічна-настроеных генералаў і афіцэраў. Пры стаўцы знаходзіўся так званы агульнаармейскі камітэт, які складаўся з дваццаці пяці членаў — прадстаўнікоў франтоў арміі, флоту і цэнтральных вайсковых устаноў. Агульнаармейскі і падпарадкаваныя яму камітэты былі абраны вясной і летам 1917 года. Таму большасць у іх складалі эсэры і меншавікі. Узначальваў агульнаармейскі камітэт штабс-капітан Перакрэстаў, злосны вораг Савецкай улады і паслядоўны прыхільнік манархіста Духоніна, галоўнакамандуючага стаўкі.

Контррэвалюцыя ў сваёй ацэнцы арміі глыбока памылялася. Яна не брала пад увагу волю мільёнаў рабочых і сялян, апранутых у салдацкія шынялі. Салдаты аднолькава ненавідзелі і цара, які быў скінуты ў лютым 1917 года, і часовы буржуазны ўрад Керанскага, які не хацеў спыняць вайны.

Каб утрымаць у сваім падначаленні армію, стаўка спрабавала ўтаіць ад салдат вестку аб перамозе ўзброенага паўстання петраградскага пралетарыята і звяржэнні Часовага ўрада. Раніцай 26 кастрычніка 1917 года Духонін разам з агульнаармейскім камітэтам устанавіў у Магілёве і на чыгуначнай станцыі дзяжурства членаў камітэта для затрымкі тэлеграм з Петраграда.

Аднак стаўка і агульнаармейскі камітэт не маглі ўтаіць ад арміі паведамленні аб такіх грандыёзных падзеях. Вестка аб перамозе соцыялістычнай рэволюцыі, аб дэкрэтах Другога Усерасійскага з'езда Советаў даляцела да салдацкіх мас. Салдаты горача падтрымлівалі мерапрыемствы маладой совецкай улады. У рэзалюцыі экстранага пасяджэння ротных камітэтаў 66-га Парэчанскага палка, якое адбылося 28 кастрычніка 1917 года, пісалася: «Мы, салдаты, горача вітаем Цэнтральны Ваенна-рэволюцыйны камітэт, які ўзяў уладу ў свае рукі і скінуў ненавісны ўрад, бо толькі Совет можа ажыццяўляць усе нашы спадзяванні, спыніць праклятую вайну. Полк у любы час узброенай сілай падтрымае Ваенна-рэволюцыйны Совет».

Совецкую ўладу прывіталі салдаты 267-га Духаўшчынскага палка, чацвёртай Сібірскай палявой артылерыйскай брыгады, 69-й пяхотнай дывізіі, грэнадзёрскага палка, 10-й арміі і многіх другіх часцей і вайсковых злучэнняў. У арміі адбываліся сходы салдат, з'езды прадстаўнікоў камітэтаў, якія адзінадушна выказваліся за падтрымку Совецкай улады, патрабавалі роспуску контррэволюцыйных армейскіх франтавых і агульнаармейскага камітэтаў.

Палітычная актыўнасць салдацкіх мас узрастала з кожным днём, няспынна ішла большэвізацыя арміі. Камандуючы 10-й арміі ў рапарце галоўнакамандуючаму заходняга фронта пісаў: «У 38-м корпусе — рэзка выражаны большэвіцкі настрой. Ужо да 2 лістапада 1917 года на бок совецкай улады перайшлі часці другой, трэцяй, дзесятай арміі заходняга фронта».

Салдаты ненавідзелі стаўку і не давяралі ёй, лічылі яе вінаватай у паражэннях на франтах. «Паўстанне Карнілава поўнасцю раскрыла той факт, што армія, уся армія ненавідзіць стаўку», — пісаў Ленін. Правільнасць гэтай ацэнкі хутка пацвердзіла само жыццё.

Аб палітычных разліках стаўкі можна меркаваць па тэлеграме генерала Духоніна камандуючым франтамі ад 26 кастрычніка 1917 года. У гэтай тэлеграме контррэволюцыйны генерал патрабаваў: «Стаўка, камісарверх і агульнаармейскі камітэт падзяляюць пункт гледжання ўрада (Часовага ўрада. — Рэд.) і вырашылі ўсімі сродкамі стрымліваць армію ад уплыву паўстаўшых элементаў, аказваючы ў той-жа час поўную падтрымку ўраду».

Стаўка на чале з Духоніным актыўна рыхтавалася да барацьбы супраць соцыялістычнай рэволюцыі. Пачынаючы з 25 кастрычніка 1917 года, генерал Духонін безупынна вёў перагаворы з камандуючымі франтоў аб мабілізацыі «надзейных часцей» для падаўлення рэволюцыі. Стаўка сцягвала да сябе з усіх франтоў ударнікаў, георгіеўскіх кавалераў, казакаў. Яна планавала захапіць вернымі часоваму ўраду часцямі Дно, Оршу, Гомель — важнейшыя ў аператыўных адносінах чыгуначныя вузлы на шляху да Петраграда і Масквы. Усімі сіламі стаўка імкнулася перакінуць надзейныя часці ў Петраград, Маскву і Кіеў для барацьбы з большэвікамі. Стаўка тайна ўстанавіла цесныя сувязі з ваеннымі аташэ краін Антанты, з контррэволюцыйным каледзінскім рухам, які разгортваўся на Дану, з украінскай радай, якая стала на шлях адкрытай барацьбы супраць Совецкай улады.

Паміж Духоніным і атаманам Каледзіным вяліся перагаворы аб арганізацыі карнай экспедыцыі. Памочнік Каледзіна Багаеўскі заявіў аб гатоўнасці казацтва выступіць у абарону Часовага ўрада.

У адказ на гэтую заяву Духонін паслаў тэлеграму, у якой пісаў:

«Гатоўнасць казацтва стаць на варту дзяржаўнага выратавання для нас усіх з'яўляецца падтрымкай у гэтыя цяжкія хвіліны... Да апошняй магчымасці будзем змагацца за аднаўленне ў даны час Часовага ўрада і Совета рэспублікі, а з імі і парадку ў краіне».

З тэксту прыведзенай тэлеграмы відаць, што стаўка не думала спыняцца толькі на аднаўленні ўлады Часовага ўрада. Духонін быў ворагам нават буржуазнай дэмакратыі. Па прызнанню Дзенікіна, ён з цяжкім сэрцам пераносіў лад, які нарадзіўся ў лютым 1917 года. Аднаўленне манархіі — такой была мэта стаўкі, якой кіраваў Духонін. Гэты контррэвалюцыйны генерал да канца свайго жыцця заставаўся манархістам. 10 кастрычніка 1917 года на сходзе кадэцкай партыі ў Разані Духонін заявіў: «Да 1 сакавіка мы павінны ўстанавіць канстытуцыйную манархію. Нам не варта адхіляць законнага нашчадка кароны Міхаіла Аляксандравіча».

Абставіны патрабавалі, каб усе сілы Савецкага ўрада і бальшэвіцкай партыі былі накіраваны на разгром контррэвалюцыі. У першую чаргу патрэбна было перацягнуць на свой бок салдацкія масы. Бальшэвікі растлумачвалі салдатам сэнс дэкрэтаў Другога Усерасійскага з'езда Саветаў аб міры і зямлі, выкрывалі антынародную сутнасць контррэвалюцыі. Работа агітатараў прыносіла добрыя вынікі. Салдацкія масы адмаўляліся змагацца супраць сваіх братоў — рабочых і сялян, пераходзілі на бок Савецкай улады.

Разам з пралетарыятам Расіі, Украіны самаахвярна абаранялі Петраград і Маскву рабочыя Беларусі. Пралетарыят Віцебска пад кіраўніцтвам Ваеннага Рэвалюцыйнага камітэта за час з 28 кастрычніка па 7 лістапада 1917 года затрымаў на Віцебскім чыгуначным вузле да 20 тысяч салдат і казакаў, якіх накіравала стаўка ў Петраград і Маскву на падаўленне рэвалюцыі. Вайсковыя эшалоны затрымліваліся рабочымі Аршанскага, Гомельскага, Мінскага і другіх чыгуначных вузлоў.

Разгром войск Краснова пад Петраградам і ганебныя ўцёкі Керанскага сведчылі аб бяссіллі контррэвалюцыі падавіць Савецкую ўладу. У сувязі з гэтым стаўка знешне таксама нібыта спыніла актыўную барацьбу супраць рэспублікі Саветаў і заняла пазіцыю чакання. Але на самай справе яна цішком падцягвала да Магілёва «надзейныя» часці.

Духонін сцягваў у стаўку ўсе контррэвалюцыйныя сілы. Пад ахову стаўкі перабралася старое ЦВК, абранае Першым з'ездам Саветаў, кіруючыя эсэра-меншавіцкія дзеячы (Чарноў, Гоц, Цэрэтэлі і іншыя), вярхушка старых армейскіх камітэтаў, ваенны міністр былога Часовага ўрада Вярхоўскі, рэакцыйнае афіцэрства. Тут-жа размясціліся цэнтральныя ўстановы ваенізаваных буржуазных арганізацый — Саюза земстваў і гарадоў, ваенна-прамысловага камітэта. У Магілёў прыехалі прадстаўнікі замежных місій, якія адмовіліся прызнаць Савецкі ўрад.

Замежныя дыпламаты ўсяляк умешваліся ва ўнутраныя справы нашай краіны. Так, напрыклад, амерыканскі ваенны аташэ падпалкоўнік Керт ад імя ўрада ЗША афіцыяльна патрабаваў, каб стаўка не толькі не падпарадкоўвалася Савецкаму ўраду, але і змагалася супраць яго. Эсэра-меншавіцкія лідэры, прадстаўнікі агульнаармейскага камітэта ў саюзе з рэакцыйным генералітэтам паспрабавалі ўтварыць новы буржуазны ўрад. На пост старшыні контррэвалюцыйнага ўрада меціў кіраўнік партыі эсэраў Чарноў, які ўжо 8 лістапада заявіў аб гэтым у Магілёўскім Савеце. Дзеянні контррэвалюцыі актыўна падтрымліваліся замежнымі місіямі.

Магілёў ператварыўся ў цэнтр галоўных сіл контррэвалюцыі. Гэта стала магчымым таму, што да Кастрычніка ў Магілёве адсутнічала самастойная большэвіцкая арганізацыя, была толькі фракцыя большэвікоў у аб'еднанай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі. Магілёўскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў нават у першыя дні пасля Кастрычніка знаходзіўся пад уплывам эсэраў, меншавікоў і бундаўцаў, а Совет сялянскіх дэпутатаў цалкам ішоў за эсэрамі.

Салдацкія масы выступілі супраць антысовецкай змовы эсэраў і меншавікоў з контррэвалюцыйным генералітэтам. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт 2-й арміі пісаў у тэлеграме выканкому Поўночнага фронта: «Армейскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт 2-й арміі... заклікае ўсіх, для каго дорага свабода і хутчэйшы мір, аб'явіць бязлітасную барацьбу духонінцам: ворагі народнай Совецкай улады, ворагі рабоча-сялянскай рэвалюцыі, прадстаўнікі агульнаармейскага камітэта набраліся нахабства лічыць сябе крыніцай дзяржаўнай улады і разам з генералам Духоніным рыхтуюць новую братазабойчую вайну... Другая армія знойдзе ў сабе сілы змагацца за свабоду і мір з контррэвалюцыйнымі дэмакратамі і заклікае ўсіх таварышаў падтрымаць яе ў барацьбе за дасягненне народных ідэалаў».

Салдаты прагнулі міру. Яны не хацелі паміраць за інтарэсы памешчыкаў і буржуяў. Імкненне салдат да міру стаўка наважыла выкарыстаць у сваіх контррэвалюцыйных мэтах. Размовамі аб блізкім міры з Германіяй яна спрабавала ашукаць салдацкія масы, падняць баявы дух арміі, каб выкарыстаць гэтыя масы для звяржэння Совецкай улады.

Стаўка і агульнаармейскі камітэт, падтрыманыя эсэра-меншавіцкімі армейскімі камітэтамі Поўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў, разгарнулі сярод салдат контррэвалюцыйную агітацыю за стварэнне «агульнасоцыялістычнага ўрада», без якога нібыта немагчыма заключыць мір. Контррэвалюцыянеры схілялі салдат на тое, каб звергнуць урад большэвікоў, які нібыта супрацьдзейнічае заключэнню міру. Гэты крок стаўкі і агульнаармейскага камітэта трэба разглядаць, як спробу контррэвалюцыі перахапіць у Совецкай улады папулярную ідэю міру і тым самым умацаваць свае палітычныя пазіцыі. У гэтым контррэвалюцыю падтрымлівала і Антанта. У тэлеграме італьянскага аташэ ў адрас стаўкі гаварылася, што саюзнікі ў прынцыпе не будуць пярэчыць, калі Расія адна заключыць мір з Германіяй. Такім чынам у барацьбе супраць Совецкай улады едналіся сілы ўнутранай і знешняй контррэвалюцыі.

Але «агульнасоцыялістычны» ўрад так і не быў створаны. Прадстаўнікі розных контррэвалюцыйных груп і партый прагнулі ўлады і таму не змаглі знайсці асновы для здзелкі. Спроба неадкладна стварыць контррэвалюцыйны ўрад пры стаўцы праваліласся. Толькі агульнаармейскі камітэт па-ранейшаму не прызнаваў уладу Совета Народных Камісараў, заклікаў ахоўваць стаўку ўзброенай сілай. Перагаворы аб стварэнні «агульнасоцыялістычнага» ўрада працягваліся.

Не атрымаўшы ад ваюючых дзяржаў адказу на свой зварот аб заключэнні міру, Совецкі ўрад 8 лістапада перадаў паслам замежных дзяржаў ноту з прапановай устанавіць перамір'е на ўсіх франтах. Адначасова вярхоўнаму галоўнакамандуючаму генералу Духоніну было прапанавана — неадкладна звярнуцца да ваенных улад непрыяцельскіх армій, каб як мага хутчэй спыніць ваенныя дзеянні.

Духонін катэгарычна адмовіўся заключыць перамір'е. У сваім адказе

Совету Народных Камісараў ён пісаў, што не можа выканаць прадпісання ўрада, якога не прызнае.

У ноч з 8 на 9 лістапада 1917 года Ленін, Сталін, Крыленка па даручэнню СНК РСФСР па прамому праваду звязаліся са стаўкай і ўльтыматыўна прапанавалі Духоніну неадкладна прыступіць да перагавораў аб перамір'і. І калі ён другі раз адмовіўся падначаліцца Совецкаму ўраду, яго знялі з паста вярхоўнага галоўнакамандуючага, бо цяпер было ясна, што стаўка і падпарадкаваныя ёй армейскія штабы сталі на шлях барацьбы з Совецкай уладай.

Совецкі ўрад павёў рашучую барацьбу супраць Духоніна і стаўкі, якую ён узначальваў. У гэтай барацьбе партыя большэвікоў апіралася на падтрымку шырокіх народных мас. Рашаючую ролю ў барацьбе за мір магла адыграць армія. Таму Ленін раніцай 9 лістапада звярнуўся да салдат фронта па радыё. У гэтым звароце гаварылася: «Салдаты! Справа міру ў вашых руках. Вы не дасце контррэвалюцыйным генералам сарваць вялікую справу міру, вы акружыце іх вартай, каб пазбегнуць недастойных рэвалюцыйнай арміі самасудаў і перашкодзіць гэтым генералам ухіліцца ад суда, што чакае іх. Вы захаваеце найстражэйшыя рэвалюцыйныя і ваенны парадак. Няхай палкі, якія стаяць на пазіцыях, выбіраюць неадкладна ўпаўнаважаных для фармальнага ўступлення ў перагаворы для перамір'я з праціўнікам. Совет Народных Камісараў дае вам права на гэта. Пра кожны крок перагавораў паведамляйце нам усімі сродкамі. Падпісаць канчаткова дагавор аб перамір'і мае права толькі Совет Народных Камісараў. Салдаты! Справа міру ў вашых руках. Пільнасць, вытрымка, энергія, і справа міру пераможа!»

Сярод салдат распаўсюджваліся звароты і пракламацыі Совецкага ўрада, якія выкрывалі Духоніна і яго контррэвалюцыйнае акружэнне. На фронце дзейнічалі тысячы большэвіцкіх агітатараў, якія неслі ў гушчу салдацкіх мас праўду аб совецкай уладзе. Большэвікі сваёй растлумачальнай работай дапамагалі таксама адданым радзіме афіцэрам і генералам разабрацца ў абстаноўцы і перацягвалі іх на бок Совецкай улады.

Совет Народных Камісараў прыняў практычныя меры для ліквідацыі стаўкі, якая была арганізуючым цэнтрам контррэвалюцыі. Дзеля гэтага з Петраграда ў Магілёў накіраваўся зводны рэвалюцыйны атрад матросаў Балтыйскага флоту і салдат Літоўскага палка пад камандаваннем Крыленкі, прызначанага вярхоўным галоўнакамандуючым. У дапамогу петраградскаму атраду былі сфарміраваны два атрады на Заходнім фронце. Першы атрад, арганізаваны ў 35-м корпусе, быў аб'яднаны з Петраградскім атрадам і накіроўваўся на Магілёў з боку Оршы. Другі атрад сфарміраваўся ў Мінску. У яго склад ўваходзіў Першы імя Мінскага Совета рэвалюцыйны полк, 60-ы Сібірскі стралковы полк, дзве бронемашыны, рота пяхоты і сапёры. Ён павінен быў наступаць на Магілёў з поўдня, з боку Жлобіна.

Рэакцыйны генералітэт працягваў ігнараваць дырэктывы СНК РСФСР аб перамір'і і не прызнаваў новага вярхоўнага галоўнакамандуючага. Гэта прымусіла Совецкі ўрад ужыць больш дзейсныя меры. 11—12 лістапада 1917 года былі зняты з пастоў галоўнакамандуючыя Поўночным і Заходнім франтамі генералы Чарамісаў і Балуеў, арыштаваны камандуючы пятай арміі генерал Болдыраў і саманазначаны, часова выконваючы абавязкі галоўнакамандуючага Заходняга фронта генерал Малявін. За контррэвалюцыйную дзейнасць, якая вяла да новага выбуху

грамадзянскай вайны, Совецкі ўрад аб'явіў Духоніна ворагам народа і прыцягваў да адказнасці ўсіх тых асоб, якія яго падтрымлівалі.

Мяцежная стаўка між тым працягвала супраціўляцца. Яна рыхтавалася даць бой рэволюцыйным войскам, якія набліжаліся да горада. У Магілёў спешна перакідваліся з поўднёва-заходняга фронта казакі і ўдарныя батальёны. Але стаўка магла разлічваць толькі на ўдарнікаў. Што датычыць казакаў, то пад уплывам растлумачальнай работы большэвікоў яны завагаліся. Чацвёрты Сібірскі казачы полк, выкліканы для аховы стаўкі, зусім вышаў з падпарадкавання.

Эсэра-меншавіцкі агульнаармейскі камітэт усё яшчэ імкнуўся стварыць контррэволюцыйны ўрад. З гэтай мэтай у ноч на 18 лістапада 1917 года ім была склікана нарада, на якой прысутнічалі прадстаўнікі Каўказскага, Румынскага і Поўднёва-Заходняга франтоў, генерал Духонін, вярхоўны камісар былога Часовага ўрада эсэр Станкевіч, высокія чыны штаба і прадстаўнікі ўдарных батальёнаў. Заходні і Поўночны франты не мелі на нарадзе сваіх прадстаўнікоў, бо к гэтаму часу яны ўжо не былі пад уплывам стаўкі.

Але і на гэты раз контррэволюцыі не ўдалося сфармаваць свайго ўрада. У сувязі з прыбліжэннем да Магілёва рэволюцыйных ваенных атрадаў, нарада вымушана была абмяркоўваць пытанне аб уступленні ў горад рэволюцыйных войск.

У той-жа дзень, 18 лістапада 1917 года, адбылося пасяджэнне Магілёўскага Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Палітычны твар Совета за апошнія тры тыдні пасля звяржэння Часовага ўрада істотна змяніўся. Большасць салдат гарнізона была настроена рэволюцыйна. Праходзілі перавыбары дэпутатаў у Советы. У выніку гэтага Магілёўскі совет цвёрда стаў на большэвіцкія пазіцыі.

Улічваючы абстаноўку, выканком Магілёўскага Совета абраў Ваенна-рэволюцыйны камітэт, які аб'явіў аб пераходзе ўлады ў горадзе ў яго рукі і аб кантролі над стаўкай. У радыёграме Ваенна-рэволюцыйнага камітэта гаварылася: «Мясцовы Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і прадстаўнікі арміі аб'явілі сябе адзіным органам, якому належыць уся ўлада ў горадзе».

Магілёўскі гарнізон падтрымаў рашэнне Ваенна-рэволюцыйнага камітэта. Улада ў горадзе поўнасцю перайшла ў рукі ваенрэўкома.

Такім чынам, рашэнні нарады, скліканай агульнаармейскім камітэтам, не мелі ніякага практычнага значэння. Армія перастала падпарадкоўвацца стаўцы. Сіл ударных батальёнаў для барацьбы з Совецкай уладай было недастаткова. Стаўка заставалася без войск. Нават «надзейныя», на думку стаўкі, часці адмаўляліся яе абараняць. Штабныя афіцэры канчаткова страцілі свой ваяўнічы дух. Ваенная машына, якая з'яўлялася ўвасабленнем звергнутага царызма, дажывала апошнія дні. Стаўка паступова развальвалася. У гэты момант Станкевіч прапанаваў Духоніну ўцякаць, але той чамусьці перадумаў, і Станкевіч уцёк адзін. Духонін і яго акружэнне наважылі перакінуць стаўку ў Кіеў, але дарогу контррэволюцыянерам перагарадзілі салдаты. Тады аператыўная нарада стаўкі прапанавала агульнаармейскаму камітэту спыніць сваю дзейнасць, а яго членам разам з удзельнікамі нарады раз'ехацца. Але ажыццявіць гэта было ўжо немагчыма з-за адсутнасці транспарту і ненадзейнасці аховы стаўкі. Духонін прызнаваўся, што нават яго дзяншчык сачыў за ім.

Апошнім злачынствам Духоніна з'явілася вызваленне з Быхаўскай турмы арганізатараў карнілаўскага мецяжу генералаў Карнілава, Дзяні-

кіна, Лукомскага і другіх. У тую-ж ноч з Магілёва ўцяклі прадстаўнікі замежных місій.

20 лістапада раніцай у Магілёў без бою ўвайшоў Петраградскі рэвалюцыйны атрад. Духонін быў арыштаваны. Узбуджаныя салдаты, незадаволеныя весткай аб уцёках Карнілава, патрабавалі выдачы Духоніна. У адказ на гэтае патрабаванне салдат галоўкаверх Крыленка заявіў, што Совецкая ўлада будзе судзіць Духоніна за яго злачынствы. Гэта супакоіла салдат. Але хутка іх стала збірацца ўсё болей і болей. Напор салдацкай масы быў настолькі моцны, што варта не магла яго стрымаць. Салдаты выцягнулі Духоніна з вагона і разарвалі яго на часткі.

Стаўка — апошні апорны пункт царызма, была ліквідавана. Тая рака нянавісці, якая вылілася ў самасуд над Духоніным, наглядна сведчыла аб адносінах салдацкай масы да контррэвалюцыі. З ліквідацыяй стаўкі быў знішчан галоўны ачаг контррэвалюцыі на фронце.

Уладзімір МЯЖЭВІЧ

# ПАРТЫЗАНСКІЯ СЁСТРЫ

У той дзень Ліля і Рая былі ў дзіцячым садзіку, а самая меншая, Тамара, дома. Калі па іх прышла маці, ля кватэры Дзяружыных ужо стаяла падвода. Параска Якаўлеўна пасадзіла дзяцей у драбіны і ўслед за другімі рушыла на ўсход. Не паспелі ад'ехаць некалькі кіламетраў, як раптам наперарэз бежанцам рынуліся фашысты і закрычалі: «Цурук!», «Цурук!»

Параска Якаўлеўна з дзецьмі вымушана была вярнуцца ў Расоны. Цяжка ёй было адной з трыма малымі, але на работу да акупантаў яна не пайшла. Распрадала ўсё, што засталося, і жыла дапамогай суседзяў.

Часта Параска Якаўлеўна брала ў кайстру збожжа і з Раяй ішла на млын у суседнюю вёску. Ліля прасілася, каб і яе ўзялі з сабою, але маці пакідала яе з маленькай Томачкай.

— Зачыні дзверы на зашчапку і нікога не пускай у хату, — гаварыла яна Лілі, ідучы з дому.

Дома Лілі было сумна. Каб не гэтая праклятая вайна, Ліля пабегла-б да бабулі Дар'і Пятроўны Машэравай. Дзядзька Пятро, як заўсёды, адклаў-бы вучнёўскія сшыткі і прачытаў-бы ёй цікавую казку! Але няма дзядзькі Пятра. У доме Машэравых засталася толькі адна Дар'я Пятроўна.

Неяк Ліля спытала ў яе:

— Бабуля, калі-ж дзядзька Пятро прыдзе?

Бабуля пагладзіла па галоўцы Лілю і сказала загадкава:

— Дзіцятка маё, хутка ён прыдзе і прыдзе не адзін!..

Дар'я Пятроўна часта наведвалася ў дом Дзяружыных. Заходзіла звычайна позна ўвечары. Жанчыны доўга аб нечым гаварылі, не запальваючы лямпы.

Маці і цяпер насіла збожжа на млын. Аднойчы Ліля заўважыла, што бабуля паклала ў кайстру да маці нейкую паперку, а раніцай маці з Раяй, як звычайна, адправіліся ў дарогу.

Непадалёку ад Расон у лясах прачуліся партызаны. Усё часцей яны непакоілі немцаў. Па начах была чуваць страляніна. Іншы раз маці доўга затрымлівалася на

млыне, і Ліля баялася, што яе зловяць і заб'юць. Сказала пра гэта сяброўцы, якая была на гады два старэйшай. Тая разважліва адказала:

— Партызаны забіваюць толькі немцаў-фашыстаў. Яны — добрыя, а камандзірам у іх дзядзя Пятро, настаўнік!..

Ліля надумалася расказаць аб гэтым бабулі і выйшла на вуліцу. Каля дома Машэравых тоўпіліся немцы. Іх зялёныя мундзіры мільгалі і ў вокнах хаты. Ліля пачула, як закрычала бабуля Дар'я Пятроўна. Схаваўшыся пад клець, дзяўчынка пачала назіраць. Яна ўбачыла, як з хаты вывелі бабулю са звязанымі рукамі і пацягнулі яе да машыны...

На світанні маці зноў пайшла на млын. Цяпер Ліля ведала, што яна ходзіць да партызанаў.

...Настала зіма. Параска Якаўлеўна Дзяружына па-ранейшаму працавала партызанскай сувязной. У яе кайстры заўсёды было крыху жыта — яго быццам нехта нябачнай рукой усё падсыпаў і падсыпаў.

У канцы жніўня 1942 года гестапаўцы на матацыклах пад'ехалі да дома Дзяружыных. Абшукалі ўсе закуткі і вышлі. Якраз пасярэдзіне вуліцы заўважылі Параску Якаўлеўну і скруцілі ёй рукі.

— Прыглядзьце за маімі дзецьмі! — толькі паспела крыкнуць яна суседцы, якая стаяла ля брамы.

На вачах малых дзяцей Параску Якаўлеўну збілі і кінулі ў школу, дзе цяпер была турма. Тры маленькія дзяўчынкі засталіся адны. Назаўтра да кватэры немцы падагналі грузавік і забралі ўсё, што было ў Дзяружыных. Дзяўчынкі бачылі, як выносілі матчын куфар. З шуфлядкі выпалі маленькія ліліны валёначкі. Яны зараз былі ёй малыя, але Томе — якраз. Ліля падышла да тоўстага немца, які трымаў у руках яе валёнкі, і папрасіла, каб аддаў ёй, але той каваным чобатам піхнуў яе ў жывот...



**У гады партызанскага жыцця.** Злева направа: **Тамара, Рая і Ліля.**
Фото В. Данілевіча.

Дзяўчынкі часта падыходзілі пад вокны школы, але салдаты праганялі іх. Аднойчы ім удалося ўбачыць у акне сваю маці: увесь твар яе быў у крыві і яе нельга было пазнаць. Убачыўшы сваіх дзяцей, яна ўскрыкнула і ўпала без памяці...

19 верасня 1942 года партызаны выбілі з Расон фашыстаў. Прарваўшы партызанскую блакаду, акупанты ўцяклі ў Полацк, кінуўшы сваю артылерыю, боепрыпасы, склады. За тыдзень да гэтага захопнікі расстралялі 16 расонскіх патрыётаў, сярод іх — Параску Якаўлеўну Дзяружыну і Дар'ю Пятроўну Машэраву. Іх, звязаных разам калючым дротам, так і пахавалі ў брацкай магіле...

Дзяўчынак-сірот прытулілі партызаны. Партызанскія краўцы пашылі ім сукенкі з парашутаў,

кажушкі з аўчынак... Ліля і Рая ў лесе навучыліся чытаць і пісаць. Дзядзька Пятро пісаў вершы і казкі, і сам іх дзяўчынкам расказваў.

У красавіку атраду трэба было перапраўіцца на левы бераг Заходняй Дзвіны. Паўстала пытанне: «Што рабіць з дзецьмі?» У лесе, апрача сясцёр Дзяружыных, было яшчэ некалькі малых. Было вырашана адвесці Дзяружыных ў Расоны да каго-небудзь з надзейных людзей. Даручылі гэта Арыне Піліпаўне Мігуновай. Партызаны выдалі ёй карову, прадукты. Цётка Арына замяніла дзяўчынкам маці. Калі сюды наблізіўся фронт, адны з партызан засталіся ў тылу, а другія злучыліся з нашымі салдатамі. У Расонах фашысцкія войскі на некаторы час замацаваліся, і нехта данёс ворагу, што тут хаваюцца партызанскія дзеці. Гітлераўцы забралі сясцёр Дзяружыных. Арына Піліпаўна пайшла разам з імі, пакінуўшы свой дом. Іх завезлі ў канцлагер у Ідрыцу. Адсюль жывым ніхто не выходзіў — людзі паміралі ад голаду і катаванняў. Але пад націскам Савецкай Арміі гітлераўцы вымушаны былі эвакуіраваць канцлагер, і дзяўчынкі апынуліся ў Латвіі, якая ў хуткім часе была вызвалена. Арына Піліпаўна тут захварэла, і надоўга разлучылася з дзецьмі.

Дзяўчынак узялі да сябе на выхаванне літоўскія сяляне. Рая трапіла ў літоўскую сям'ю і жыла там, як родная дачка, а Лілі і Томе не пашанцавала. Людзі, якія іх узялі, імкнуліся толькі да аднаго: выгадаваць з іх батрачак. Убачыўшы, як пакутуюць дзяўчынкі, настаўнік мясцовай школы стаў патрабаваць, каб іх накіравалі ў дзіцячы дом. Тут сёстры сустрэліся. Цяпер яны заняліся пошукамі цёткі Арыны.

Сцяжынка прывяла іх на хутар.

— Мы шукаем цётку Арыну, не ведаеце вы пра яе? — спытала Ліля ў дзяцей, якія гулялі на двары.

**Сёстры Дзяружыны ў 1957 годзе.**



— Цётка Арына? Швачка? — хорам загаварылі дзеці. — Яна жыве ў вёсцы, недалёка адсюль...

Тое, што адбылося ў гэты дзень, нагадвала казку. Ліля і Тома прышлі ў дом, дзе жыла іх любімая цётка Арына. Якая гэта была сустрэча!..

У 1948 годзе Ліля і Тома прыехалі ў Краслаўскі дзіцячы дом і неўзабаве ўзялі да сябе Раю. Усе тры сястры былі цяпер разам.

Аднойчы Рая гартала часопіс.

— Лілька, Тома, глядзіце, — наш дзядзька Пятро, — паказала яна сёстрам часопіс, дзе быў змешчаны партрэт Героя Совецкага Саюза былога камісара партызанскай брыгады Пятра Міронавіча Машэрава. Іх дарагі дзядзька Пятро мяккімі і ласкавымі вачамі ўсміхаўся дзяўчынкам са старонкі часопіса.

— Ура! Дзядзька Пятро жывы!

Сёстры пачалі пісаць Пятру Міронавічу ліст.

Прайшло некалькі дзён. Ад П. М. Машэрава прышла вялікая тэлеграма, у якой ён пісаў сёстрам Дзяружыным, што яны былі і засталіся для яго роднымі дочкамі і што па іх хутка прыедзе цёця Поля, яго жонка...

Пагасціўшы ў Пятра Міронавіча, дзяўчынкі засталіся ў Мінскім дзіцячым доме № 8. Адсюль Ліля пайшла ў педагагічнае вучылішча і, паспяхова скончыўшы яго, стала настаўніца. Рая — цяпер студэнтка Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Тамара сёлета атрымала атэстат сталасці. Дзіцячы дом праводзіў апошнюю з сясцёр Дзяружыных у самастойнае жыццё.

Фадзей СОБАЛЬ

# ТАЛАШОНКІ

### Успаміны партызана

Ціхім летнім надвячоркам прыехаў я ў соўгас «Брэсцкі», у знаёмыя мне з маленства мясціны. На пляцы сустрэўся мне каржакаваты, загарэлы хлопец-трактарыст. На маё запытанне, дзе можна бачыць Аляксея Васільевіча Антанюка, ён спакойна адказаў:

— Алёша ў полі, з людзьмі вунь гутарыць, — і паказаў рукой у той бок, дзе на ўскраі вёскі, на прыдарожжы, сядзелі мужчыны.

Алёша, з якім я не бачыўся чатырнаццаць год, сядзеў у гурце і аб нечым горача гаварыў. Алёшаў загарэлы твар кранулі маршчынкі. Адна асаблівасць з'явілася ў ягоным твары, якой нельга было заўважыць некалі, гэта — чорныя вусы. А рассталіся мы з гэтым хлопцам, калі яго твару не кранала брытва.

Неўзабаве мы ўжо былі ў хаце Аляксея Антанюка. Доўга мы гутарылі. Мне ўспомніліся тыя часіны, калі разам з Алёшам знаходзіліся ў адным узводзе, разам спалі, елі з аднаго кацялка. У памяці ўсплылі яго расказы аб юнацкіх гадах, поўных розных нечаканасцей і баявых подзвігаў.

Калі пачалася Айчынная вайна, Аляксей быў хлапчуком, яму ледзьве споўнілася пятнаццаць год, але ён ужо сур'ёзна думаў пра тое, каб дапамагчы Радзіме ў такі небяспечны час. Алёша наладзіў сувязь са сваім дзядзькам-партызанам Ігнатам Рыгоравічам Антанюком і выконваў адказныя заданні. Гэта ён знаходзіў патроны і перадаваў іх у лес; праз Алёшу партызаны даведваліся, дзе ў вёсках збіраюцца паліцаі, калі наязджаюць карнікі. Каля двух год хлопец быў выдатным партызанскім сувязным.

Аднойчы ў дом да Антанюкоў зайшоў стараста Антон Карпук і прапанаваў Аляксею і яго старэйшаму брату Сяргею паехаць у Германію на работу.

— Там вы будзеце добра жыць, заробіце многа грошай, — угаворваў ён.

Бацька Васіль Рыгоравіч, маці Марыя Каленікаўна маўчалі. І раптам нечакана для ўсіх Алёша крыкнуў:

— Калі там рай, дык пашлі туды сваіх пляменнікаў!..

Злосны, стараста моўчкі падаўся з хаты. А на другі дзень да

Антанюкоў раптоўна ўварваліся паліцаі, каб схапіць таго, хто так смела абняславіў нямецкага служку. З таго дня Аляксей не начаваў дома. Паліцаі некалькі разоў рабілі налёт, але дарэмна. Адзін раз, у прыцемкі, Алёша прышоў на гумно, глыбока зарыўся ў сене. Раптам пачуліся чыісьці галасы. Зыркаючы ліхтарыкамі, паліцаі шнырылі ў гумне...

Бацькі сядзелі ў хаце і дрыжалі за лёс сына. А ён быў поўны рашучасці змагацца: зараджаны пісталет і шэсць гранатаў, якія былі пры ім, надавалі незвычайную смеласць.

«Калі палезуць на сена,— думаў Алёша,— саслізну непрыкметна, кіну гранату... А сам на гарод і ў поле.»

Аднак паліцаі пашнырылі, пасвяцілі ліхтарыкамі, вылаяліся і пайшлі ні з чым. Праз некалькі дзён Аляксей быў у партызанскім атрадзе. Сустрэлі яго партызаны насмешкамі:

— Ваяка знайшоўся, — жартавалі яны.— Табе, хлопча, хіба ў барабаншчыкі. Ты-ж, малеча, меншы за вінтоўку! І адзін з партызанаў падышоў да хлапца і побач паставіў вінтоўку. І сапраўды, ён ніжэйшы крыху. Усе гучна засмяяліся. Алёша строга насупіў бровы, з-пад ілба бліскаў вачамі. Ягоны позірк гаварыў: яшчэ пабачыце, чаго я варты буду!

Партызаны глядзелі на хлопца і смяяліся. Але тут хтосьці сур'ёзна заўважыў, што з гэтага малога будзе добры партызан, бо ўцёк-жа ён ад паліцаяў і нават зброю сабе раздабыў. Хлопца залічылі ў атрад, і зараз жыў ён адной марай — даказаць усім, хто з яго смяяўся, што ён зможа так ваяваць, як і ўсе партызаны.

Увесну 1943 года немцы выведалі месца нашага атрада і кінулі супраць нас вялікія сілы салдат і паліцыі. Доўга цягнуўся гэты цяжкі бой, п'яныя немцы і паліцаі з дзікімі крыкамі кідаліся ў атаку. Адна атака захлыналася, пачыналася другая... Алёша адбіваўся з аўтамата. Былі мінуты, калі ён шпурляў і гранаты, але ні на крок не адступіў ад таго ўчастка, дзе загадаў яму быць камандзір. Чатыры разы адступаў вораг, пакідаючы на полі бою дзесяткі трупаў. Немцы так і не паспелі іх убраць. Варожая зброя дасталася партызанам. Пасля гэтага бою ў атрадзе на хлопца глядзелі іншымі вачыма.

Хутка Алёшу ўзялі ў дыверсійную групу.

Далёкія рэйды, засады, «рэйкавая вайна», неспадзяваныя напады на нямецкія гарнізоны — усе нягоды партызанскага жыцця мужна пераносіў гэты хударлявы хлапчук. Асабліва ахвотна ён хадзіў у глыбокія варожыя разведкі. Аднойчы ягоная група задумала злавіць начальніка нямецкага гарнізона ў вёсцы Косічы, які ахоўваў чыгунку паміж Брэстам і Жабінкай. Сувязныя данеслі, што адзін з афіцэраў — напэўна гэта і ёсць начальнік гарнізона — начуе побач, у сялянскай хаце. Яго надумалі ўзяць жывым. За гэта ўзяліся чатыры смельчакі — Білееў, Смаль, Алёша і яго брат Сяргей, які таксама быў ужо ў партызанах.

Разведчыкі ўзялі з сабою вясковага старасту. Падышоўшы да хаты, трое партызан засталіся на двары, а Алёша накіраваўся са старастам на двор. Ля самых дзвярэй стараста адмовіўся будзіць гаспадара. У гэтую рашучую хвіліну Алёша прымае план: настаўляе пісталет на старасту і злёгку стукае ў акенца. З хаты пачуўся голас:

— Хто там?

Стараста маўчаў. Тады Алёша, падрабляючыся пад ягоны голас, прагаварыў:

— Стараста. Адчыніце!

Шчоўкнула зашчапка, зарыпелі



**Сям'я Ігната Рыгоравіча Антанюка (1953 год).**

дзверы. Алёша штурхнуў праз парог у сенцы старасту і ступіў за ім, апынуўшыся ў мыцельніку. Стараста маўчаў. У гэты момант гаспадар чыркнуў запалку, і Алёша заўважыў на ложку афіцэра. На лаўцы ляжала яго зброя — аўтамат і пісталет. Афіцэр пачаў лаяць старасту, што так позна непакоіць гаспадара.

Алёша імгненна падскочыў да ложка і, асвяціўшы кішэнным ліхтарыкам, загадаў па-нямецку:

— Хендэ хох!

Немец хутка працягнуў руку да аўтамата, але ўжо было позна. Зброя апынулася ў руках Алёшы. У гэтую хвіліну ў хату ўскочылі ягоныя сябры. Перад партызанамі ў ложку з ўзнятымі ўгору рукамі сядзеў нямецкі афіцэр.

У тую-ж ноч «трафей» даставілі ў размяшчэнне партызанскага атрада. Калі немец пераходзіў праз рачулку, лёд abламаўся, і ён упаў у палонку. Вылазячы з вады, гаварыў:

— Гут, гут...

Калі ў яго запыталі, што «гут», ён адказаў:

— Партызан гут, гут партызан!..

Часта Аляксей Антанюк хадзіў «на жалезку», на падрыў эшалонаў. Аднойчы з камандзірам падрыўной групы Андрэем Пугачом ён пайшоў на заданне. Ноч выдалася цёмная. Цішыня навокал. Толькі нацягнулі шнур і заклалі міну, як раптам наткнуліся на немцаў. Тыя, мабыць, палічылі, што гэта патрулі, і спыталі пароль. Партызаны моўчкі кінуліся пад адхон. Немцы адкрылі агонь.

Аляксей стаіўся непадалёк ад чыгункі, у хмызняку. Немцы стоўпіліся на месцы, дзе была закладзена міна, і зыркалі ліхтарыкамі. Нечакана ў Аляксея нарадзіўся план — знішчыць іх.

Затаіўшы дыханне, ён папоўз з аўтаматам у руках да чыгункі. Вось ужо бачны згорбленыя по-

стаці немцаў. Апошнія метры. Яшчэ хвіліна, і рука намацвае канец шнура. Моцны рывок, і агнявы слуп узняўся ўгору: паляцелі шпалы, рэйкі.. Шасцёра фашыстаў знайшлі сабе тут магілу.

На другі дзень Аляксей сустрэўся са сваім камандзірам. Ён вярнууўся ў атрад, толькі згубіў шапку.

Партызанскія мінёры і падрыўнікі вялі падлік сваёй работы. На рахунку ў Аляксея Антанюка 25 узарваных эшалонаў, 12 аўтамашын, дзве параконныя павозкі...

... Мы доўга сядзелі ў той вечар, усхваляваныя ўспамінамі пра даўняе, незабыўнае. Аляксей доўга і ўсхвалявана расказваў пра сваё партызанскае жыццё ў той час, калі я ўжо быў у салдатах.

У сакавіку 1944 года наш атрад злучыўся з наступаўшымі на Брэст часцямі Савецкай Арміі. Адны з былых партызан сталі байцамі рэгулярнай арміі, другія — самыя вопытныя і адважныя — пайшлі зноў у варожы тыл. Сярод іх быў і Аляксей, адзін са шматлікай партызанскай сям'і Антанюкоў.

Дыверсійная група, у якой быў Аляксей Антанюк, разгарнула сваю баявую дзейнасць па суседству з гарнізонам. Хлопцы смела нападалі на адступаючага ворага, рабілі засады, сабіралі ў тыле падрабныя звесткі аб праходжанні войск... На іх міне, падкладзенай на дарозе паміж вёскамі Пугачова і Камяніцай-Журавецкай, падарваўся з машынай нямецкі афіцэр, які ехаў з Германіі на праверку войск. Ад трапнай партызанскай кулі ў Шэбранскім лесе загінула шмат фашыстаў.

За баявыя подзвігі Аляксей Антанюк узнагароджан ордэнам Чырвонай Звязды і медалямі «За адвагу» і «За баявыя заслугі».

За Аляксеем пайшлі ў партызаны яго бацька Васіль Рыгоравіч, маці Анна Каленікаўна, іх астатнія сыны — Віктар, Сяргей і Валодзя. Усе хлопцы мужна змагаліся з ворагам, былі бясстрашнымі падрыўнікамі.

Гэта толькі адна партызанская сям'я Антанюкоў. А іх ў нашым атрадзе было многа. У Васіля Рыгоравіча было яшчэ тры родныя і адзін стрыечны браты, а ў іх — жонкі, сыны і дочкі. Калі лічыць толькі аднафамільцаў Антанюкоў, то іх было восемнаццаць, а са стрыечнымі братамі, сынамі, з пляменнікамі — 36 чалавек.

... З першага дня вайны пакінуў родны дом брат Васіля Рыгоравіча Ігнат. У 1941 годзе Ігнат Антанюк працаваў старшынёй Чарнянскага сельсовета. Як толькі на Брэсчыну прышлі фашысты, ён стаў на шлях барацьбы з імі.

— Калі памерці, дык са зброяй у руках і за савецкую ўладу, — сказаў комуніст Ігнат Антанюк.

Неўзабаве ў Чарнянскім сельсовеце была створана баявая тройка, куды ўвайшлі Ігнат Рыгоравіч, яго брат Радыён і Карп Іванавіч Малыха. Гэта быў касцяк будучага партызанскага атрада.

Аднойчы, калі Ігнат ноччу зайшоў дамоў, жонка падала яму павестку, каб гаспадар з'явіўся ў Брэст, у гестапа, калі-ж не з'явіцца — расстрэл усёй сям'і. Ігнат Рыгоравіч задумаўся: ісці ў гестапа — значыць дабравольна аддацца на ганебную смерць, калі адмовішся, смерць чакае жонку і шасцярых дзяцей.

Ціхенька, каб не пачуў большы сын, Ігнат Рыгоравіч расказаў свой план жонцы. Тая, усхліпваючы, адказала:

— Спрабуй, што будзе.

На развітанне Ігнат Антанюк свайму адзінаццацігадоваму сыну даў наказ:

— Калі хто спытае, скажы, што твой бацька, як пачалася вайна, пайшоў з большэвікамі.

Гэтай-жа ноччу ў дзверы вяскобага старасты злёгку пастукалі. Той выйшаў у сенцы і запытаў, хто там.

— Свае. Адчыні.

— Хто свае?

— Антанюк Ігнат.

Стараста доўга думаў, што рабіць. Зноў пачуўся настойлівы голас:

— Адчыні, інакш будзеш крыўдаваць на сябе!

Пачуўся лёгкі шэпт, і дзверы адчыніліся. У Ігната са старастам адбылася кароткая размова.

— Калі кранеш жонку і дзяцей, не дарую! — паабяцаў Ігнат старасце, адыходзячы.

Прайшоў некаторы час. Ігнат з сябрамі перабраўся за рэчку Мухавец. Аднойчы ён наведаўся дамоў. Жонка пры сустрэчы сказала, што паліцаі за апошні час бываюць рэдка, і Ігнат рашыў пераднюваць у сваім гумне. Але ў вёсцы нехта заўважыў яго і данёс паліцыі. Увечары паліцаі акружылі антанюкоў дом. Абшукалі ўсё, перарылі салому, перамацалі штыкамі і шампаламі сена, а Ігнат у гэты час сядзеў у хляве ў сховішчы паміж стрэхамі. Абшарыўшы ўсюды, паліцаі ні з чым выйшлі і забралі з сабою старэйшага сына. Як толькі яны адышлі ад дому, Ігнат Рыгоравіч выйшаў са сховішча і, непрыкметна прабраўшыся ў хату, пачаў назіраць, што будзе з яго сынам.

Раптам бацька жахнуўся: яго роднага сына паліцаі паставілі да плоту і заляскалі затворамі. Яго роднага сына на яго вачах будуць расстрэльваць. Не, ніколі гэтаму не быць!

Ігнат Рыгоравіч расчыняе акно, кладзе дзесяцізарадку на падаконнік і бярэ на мушку паліцаяў і сына... «Няхай лепш і сын загіне ад маёй бацькоўскай рукі. Смерць насцігне і катаў»,— маланкава прамільгнула думка ў Ігнатавай галаве. Ён хацеў ужо націснуць на спускавы кручок, як раптам ля вуха пачуўся шэпт:

— Ігнатка, родненькі, не трэба,— і ў тую-ж хвіліну чыясьці рука абхапіла вінтоўку, тарганула ўгору. Ігнат азірнуўся: побач з ім стаяла яго жонка. Хвілін колькі яны маўчалі, стаіўшы дыханне.

Яны ўбачылі, што адзін з паліцаяў пайшоў да хлопца, нешта запытаў у яго, а той адказаў. Паліцай даў маламу плескача і крыкнуў:

— Марш дамоў!

Ігнат ад нечаканасці выпусціў з рук вінтоўку і, звяртаючыся да жонкі, прагаварыў:

— Ты выратавала хлопца!

Праз некалькі дзён паліцаі прыехалі зноў, каб арыштаваць Анну Тарасаўну, але яна ўжо з дзецьмі была ў партызанскім атрадзе.

Ігнат Рыгоравіч, як і яго пляменнік Аляксей, быў адважным партызанам, удзельнічаў у вядомым баі з акупантамі непадалёк ад Брэста. Тады ён на руках вынес з бою свайго параненага камандзіра. Пазней яго прызначылі начальнікам разведкі атрада.

З Ігнатам Рыгоравічам мы сустрэліся ў Брэсце якраз у той час, калі ён вярнуўся з партыйнага сходу. Я яго адразу пазнаў. Здаецца, гэты чалавек нісколькі не змяніўся. Шчыры позірк вясёлых вачэй, дасціпны гумар, бадзёрасць і душэўнае здароўе не пакінулі Ігната Рыгоравіча Антанюка. Нават не пасівелі ягоныя чорныя вусы, якія ён узгадаваў у партызанах.

Мне прыгадалася, як, бывала, Ігнат Рыгоравіч — начальнік партызанскай разведкі — вяртаўся з задання. Калі ён быў у добрым настроі, то вусы яго высока ўзніраліся ўгору, і тады партызаны гаварылі:

— Вось і наш «дзед Талаш» добрыя весткі вязе!..

«Дзедам Талашом» Ігната Рыгоравіча празвалі, калі ў атрад прышло многа Антанюкоў. Яго братоў і пляменнікаў называлі «талашонкамі». За гэта Ігнат Рыгоравіч не злаваўся. Наадварот, яшчэ ганарыўся, гаворачы, што з яго радні можна выставіць цэлую баявую партызанскую адзінку.

І заслугі Ігната Рыгоравіча ў барацьбе з ворагам высока ацаніла Радзіма — ён узнагароджаны ордэнамі Чырвонага сцяга і Чырвонай Звязды, партызанскім медалем і медалем «За перамогу над Германіяй».



Алесь **ВЕЧАРКОЎ**



Звеннявая Ніна Карпейчык у дні ўборкі ўраджаю.

# НЕЗВЫЧАЙНАЕ ЛЕТА

Яно такое, як і летась, шчодрае, у сакавітай зяляніне, з цёплымі ліўнямі і навальніцамі, з чыстым празрыстым блакітам. Як звычайна, у летнюю пару зямля расквечваецца багатым узорам, і вясковыя вуліцы адвячоркамі прыемна пахнуць агурэчнікам і кропам...

І ўсё-ж летні час кожнага года нясе ў сабе свае, характэрныя прыкметы. Сёлетняе лета асаблівае. Гэта асаблівасць — не ў адметнай яркасці фарбаў і малюнкаў, не ў прыроднай шчодрасці і выключнасці. Яна, гэтая асаблівасць — ва ўсеперамагаючым поступе часу, у незвычайным творчым уздыме людзей вёскі, якім партыя дала магутныя крыллі для новага, небывалага ўзлёту.

Яшчэ ў тую пару, калі забуялі дружныя веснавыя ўсходы і ўжо ўгадваліся першыя вынікі калгасніцкай рупнасці, партыя кінула кліч — дагонім ЗША па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва!

Урачыстым веснавым громам пракаціўся гэты радасны покліч па неабсяжных прасторах нашай вялікай Радзімы, ускалыхнуўшы ўсе далёкія і блізкія куткі зямлі. Калгаснікі, удумліва ўзважыўшы

свае магчымасці, параіўшыся з механізатарамі, са спецыялістамі, прышлі да адной згоднай думкі:

— Зробім. За намі справа не стане!

— Адужаем Амерыку!

Гэты покліч пайшоў па ўсёй нашай рэспубліцы, ад Сожа да Нёмана, ад браслаўскіх азёр да абшараў Палесся. У кожным калгасе дэталёва абмяркоўваліся лічбы, вышукваліся рэзервы, і ў сацыялістычных умовах, што былі прыняты раней, на прадвесні, уносілі папраўкі. Калі абавязацельствы перадавых калгасаў былі апублікаваны ў друку, калі потым перагледзелі свае ранейшыя планы ўсе калгасы, тады стала бачна, што Беларусь зможа ўжо ў гэтым годзе даць краіне столькі малака, колькі патрабуецца, каб дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці малака і масла на душу насельніцтва.

Як заўсёды, наша слаўная сельская моладзь, комсамольцы горача адгукнуліся на гэты заклік роднай партыі, прынялі яго блізка да сэрца. Комсамольцы выступілі надзейнымі, умелымі памочнікамі сельскіх партыйных арганізацый у змаганні за павелічэнне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі, за шпаркае развіццё ўсіх галін сельскай гаспадаркі.

Наглядным, яркім доказам таго, як самыя смелыя надзвычайныя планы і задумы совецкіх людзей ператвараюцца ў жыццё, і з'яўляецца сёлетняе лета. Куды-б вы ні зазірнулі, у які-б калгас ні наведаліся, усюды вы ўбачыце тое, што прынята называць проста — працоўным уздымам, творчай актыўнасцю мас. У паход рушылі нават самыя яшчэ нядаўна адсталыя калгасы, ускалыхнуліся самыя глыбінныя вясковыя закуткі, бо свежы вецер жыцця авеяў іх сваім пошумам.

У напружаную летнюю пару, у самы разгар жніва, мы ездзілі па калгасах Скідзельшчыны. Нашы калегі — работнікі раённай газеты — прапаноўвалі адну за другой гаспадаркі і не маглі спыніцца на якой-небудзь канчаткова.

— Варта было-б з'ездзіць у калгас імя Леніна, — раілі яны нам, — але тут блізка, часта бываюць карэспандэнты. Калгас імя Калініна наша перадавая гаспадарка і па ўраджайнасці, і па надоях, але зноў-жа — на шасейцы, ад гасцей не адбіцца... Можна і ў калгас «Праўда», імя Жданава, імя Кірава — усюды знойдзеце тое, што вам трэба, — прыкметныя змены ў калгасным жыцці.

Мы рашылі наведацца ў калгас «Сталінскі шлях», хоць ехаць туды — цэлая праблема: і дарога не блізка, і на пароме праз Нёман трэба перабірацца. Нас узрадаваў той факт, што ў Глядавічах калгас «Сталінскі шлях», які яшчэ два гады таму назад быў адным са слабых, «дабіты да ручкі», сёння з'яўляецца першым па надоях малака, славіцца багатым ураджаем.

— Там, у Глядавічах, моладзь усімі справамі варочае, — падахвоціў нас і сакратар райкома комсамола Валянцін Каначэўскі. — Комсамольцы і на ферме, і ў полі — адным словам, на рашаючым участку. Старшыня калгаса Аркадзь Філіповіч — нядаўні комсамолец, яго намеснік Люба Шпадарук — комсамолка з атэстатам сталасці, загадчык фермы, рахункавод — усё кіраўніцтва маладое, комсамольскае...

...Прыгожыя, непаўторныя ў сваім харастве мясціны — Наднямонне. Быстрацечны, свавольны Нёман, пракладваючы сабе шлях паміж узгоркамі і лясамі, нарабіў шмат заваротаў, згібаў і рукавоў. Вёска Глядавічы, дзе цяпер калгасны цэнтр, знаходзіцца на крутым левым беразе ракі, пасярэдзіне вялікай лукі, якая пачынаецца ля вёскі Паніжаны і канчаецца за



**Новае кіраўніцтва калгаса.** Злева направа: **аграном Антаніна Дубавец, намеснік старшыні Люба Шпадарук і старшыня калгаса Аркадзь Філіповіч.**

Шчэрбавічамі. Уся гэтая лука — надрэчча — уладанне глядавіцкага калгаса.

Некалі на гэтых сыпучых пяшчаніках пралягала старое рэчышча, а цяпер Нёман значна аддаліўся, і з-за ракі, як узнімецца вецер, гоніць цэлыя воблакі пяску, які асядае не толькі па старыку, але заносіцца далёка цераз агароды на палі, што шырокай раўнінай раскінуліся за вёскамі.

Новы старшыня — малады аграном Аркадзь Філіповіч, прышоўшы ў Глядавічы, адразу звярнуў увагу на асаблівасці тутэйшай зямлі і сам сабе сказаў: «Мы гэтыя наносы прыбярэм да рук. Не будуць яны, як дзяды, лысінамі свяціць. Тут зашумяць травы!»

І вось цяпер, праз два гады свайго жыцця і працы на новым месцы, Аркадзь, як самае сваё лепшае, што ёсць у яго гаспадарцы, паказвае нам гэтыя пяшчанікі — надрэчча, якое скрозь засеяна райграсам з аўсом, і гаворыць, смяшліва прыжмурыўшы левае вока:

— Мяне за гэтыя наносы вунь як лаялі! Маўляў, дзівак аграном — адкрыў на чаране ляда! Гэты ягоны райграс з першым ветрам выдзьме. Але, як бачыце, не здзьмуў вецер райграсу! — неяк асабліва ўрачыста прамовіў Аркадзь. — Не толькі сена добрае парасло, а нават кукуруза не заганарылася — упадабала нашы наносы: густая, рослая, як мала-ды бярэзнік!

Аркадзь Філіповіч, шчуплы, востраплечы, з густым, добра выбеленым на сонцы чубам, зусім малады мужчына (Аркадзь — бацька траіх дзяцей), водзіць нас па калгасных палях, над узрэччам, і ўсё расказвае і расказвае пра сёлетнія ўраджаі, пра сваіх людзей, якія цяпер, калі ўбачылі сваімі вачамі змены і зрухі ў гаспадарцы, нібы памаладзелі. Старшыня ўсё з трывогай пазірае на неба, якое нечакана пачало зацягвацца вільготнымі, шэрымі хмарамі, нібы нейкай мутнай заслонай.

— Абрыдзеў ужо нам гэты

дождж,— уздыхнуў Аркадзь і ўзяў у рукі спелы бічасты колас, пяшчотна пагладзіў яго рукой, а потым задумліва, нібы сам сабе, прагаварыў: — Вось ужо і пшанічка паспела — рук просіць,а мы яшчэ з жытам ніяк не ўправімся!..

Старшыня пачаў расказваць нам пра тое, як раней у Глядавічах і Шчэрбавічах ні за што не хацелі сеяць азімую пшаніцу, не верылі, што на іх нішчымных пяшчаніках яна парасце. Даводзілася зноў-жа пераконваць, настойваць, ламаць у людзей старыя заскарузлыя звычкі, каб расчысціць дарогу новаму.

Цяпер, вядома, і гэты глядавіцкі пажылы чалавек, што ідзе нам па дарозе насустрач, гэтак-жа, як і мы, любуецца пшанічным полем, магчыма, вылічвае, прыкідвае, колькі будзе той пшанічкі на гектары. А вясной-жа гэты чалавек, як нам расказваў старшыня, не з вялікай ахвотай ішоў рассяваць «соль» на полі і зусім адмаўляўся баранаваць пасевы, лічачы гэта непатрэбшчынай.

Як высветлілася, Лявон Капыцкі дачуўся, што ў Шчэрбавічах, у брыгадзе Язэпа Садоўскага намалацілі па 120 пудоў пшаніцы з гектара, і зараз спяшаецца туды, каб упэўніцца на свае вочы.

— Добрая пшанічка! — замест прывітання сказаў Лявон, спыніўшыся.

— Канешне, добрая, — адказаў старшыня, усміхнуўшыся. — Каб і ваша брыгада дала поўную норму падкормкі, дык у вас была-б яшчэ лепшая.

— І наша не благая, — запярэчыў Лявон, сумеўшыся. — Потым, пазіраючы неяк з боку выпрабавальным вокам на старшыню, запытаўся: — А на працадзень пшаніцы дасце?

— А як-жа, дадзім, дзядзька Лявон! — жвава ўсклікнуў Аркадзь. — Па кілограму, не менш, думаю, выйдзе...

Вяртаючыся з пшанічнага поля, старшыня нам паказваў калгасны птушыны гарадок па-над ракой, пляцоўку, дзе будуецца новая, на моцных цэментаваных шулах, канюшня, і з захапленнем апавядаў пра тое, што сёлета нават ад птушкі атрыман вялікі прыбытак — сто тысяч рублёў. А два гады таму назад, як падлічыў, адно яйка калгасу каштавала 40 рублёў...

На другі дзень мы знаёміліся з глядавіцкімі людзьмі, з моладдзю, якая і сапраўды вяршыць у калгасе ўсімі адказнымі справамі.

Перш-на-перш мы пабывалі ля камбайнаў, дзе ў тыя дні кіпела работа. Камбайнеры, між іншым, нам скардзіліся:

— Жыта сёлета — зрэзу няма. Машыны ідуць на першай скорасці...

На гэтыя скаргі цёмнавокая дзяўчына Ніна Карпейчык, што стаяла пры вагах( яна прымае з бункера збожжа), заўважыла:

— Хлопцы, дык вам-жа радавацца трэба, а не скардзіцца, што ўраджай такі — з хлебам будзем!

Камбайнер Паўлюк Ерчык паскроб патыліцу:

— Яно вядома, калі ўраджай, дык добра. Але-ж як цераз план не зробіш, дык тых 25 пудоў, што належаць ад дзяржавы, не атрымаеш.

— А хіба ты, Пашка, плану не выканаеш? — здзіўляецца Ніна і дадае: — Вунь-жа Мікола Давыдаў убірае кожны год больш як па 300 гектараў. Ён працуе на такіх землях, як і нашы.

Пашка маўчыць, відаць, не знаходзячы, што сказаць у сваё апраўданне. Каб скрасці няёмкасць, ён крычыць капнільшчыкам:

— Хлопцы, паехалі!

Ніна Карпейчык, што гаспадарыць ля вагаў, потым заўважыла:

— Нашы камбайнеры думаюць толькі пра гектары, а які намалот — ім клопат малы...

Заўвага, канешне, слушная.

Але-ж нам здаецца, хлопцы дадуць і намалот, і гектары. Не дарэмна яны стараюцца, крукам сядзяць за штурвалам поўны летні дзень, а потым прыхопліваюць яшчэ і ночы. І той-жа Паўлюк Ерчык, як і яго сябра — камандзір суседняга палявога карабля комсамолец Кастусь Долаб, днём і ноччу нястомна нясуць вахту на хлебным фронце.

Калі старшыня калгаса дамаўляўся з брыгадзірам першай брыгады Міколам Капыцкім наконт начной малацьбы, то Паўлюк Ерчык адразу, не задумваючыся, даў сваю згоду. Згадзіўся на начную малацьбу і брыгадзір, бо ведаў: каб і цяпер утрымаць першае месца, нельга спаць у шапку — абгоняць суседзі.

Увечары, наведаўшы малацьбітоў, старшыня, між іншым, даў брыгадзіру такую параду:

— Мікалай Сілівестравіч, вы часцей перапынкі рабіце. Папрацуйце гадзінку-другую — і спыніцеся...

Старшыня таямніча ўсміхнуўся, крануў за гарачае плячо Мікалая:

— Пэўна-ж самі былі маладымі? Хто ведае, можа лепшага месца, чым малацьба, і не знойдзеш для прызнання ў каханні!..

Заўзяты, вясёлы гоман хлопцаў і дзяўчат, што завіхаліся ля малатарні, роўны, суладны шум матора сярод прыціхлага, спаласканага начной прахаладай поля, перамігванне зорак на сінім аксамітным небе — усё гэта стварала своеасаблівае хараство, бадзёрыла настрой, і становіцца зразумелым, чаму вясковая моладзь так ахвотна ідзе ў начную малацьбу.

З асаблівым задавальненнем наведвалі мы ў Глядавічах калгасныя фермы. Некалі жывёлагадоўлю называлі другім цэхам. Цяпер такая назва, мабыць, недастатковая. Якраз гэты цэх і з'яўляецца сёння галоўным, куды скіравана ўвага ўсяго народа.

Глядавіцкія жывёлаводы — гэта хлопцы і дзяўчаты, якія ўсклалі на свае маладыя плечы ўвесь цяжар працы на фермах. Варта заўважыць, што прышлі сюды людзі з комсамольскім гартам нядаўна, пры новым старшыні, які і сам яшчэ нядаўна насіў комсамольскі значок. Загадвае жывёлагадоўляй малады гаспадарлівы комсамолец Валодзя Галавач, па спецыяльнасці ветэрынар. Амаль усе работнікі — даяркі, свінаркі, пастухі — людзі зусім маладога ўзросту, якія нядаўна яшчэ сядзелі за школьнай партай.

— Маладыя, а парадак навялі не горш, як сталыя людзі, гаспадары! — Так выказаў сваю думку пра глядавіцкіх жывёлаводаў намеснік старшыні райвыканкома Барыс Рыгоравіч Масколенка, які прыехаў сюды, каб уручыць лепшай глядавіцкай даярцы Зіне Каберда грашовую прэмію.

Мне давялося чуць, як гутарыў Барыс Рыгоравіч з даяркамі, якія цесным, шумлівым гуртам абкружылі яго на двары.

— Колькі вы надаілі малака ў чэрвені? — звярнуўся Барыс Рыгоравіч да адной з дзяўчат. Гэта была Ліля Матук, якая сёлета пасля заканчэння сямігадовай школы прышла на працу.

— Па трыста літраў на карову.

— А колькі надоіце ў ліпені?

Дзяўчына ўпэўнена, нават крышачку задзірыста адказала:

— Не менш!..

Барыс Рыгоравіч загаварыў, што ўстаноўлена заданне: у ліпені і жніўні надаіць па 350 літраў на кожную карову — гэта столькі, каб ужо сёлета з поспехам выканаць пастаўленую партыяй задачу. І даяркі ўсе, як адна, цвёрда і ўпэўнена заявілі:

— Зробім. Па 350 літраў будзе!

— Значыць, дагонім Амерыку?



**Намеснік старшыні райвыканкома Б. Маскаленка ўручае даярцы Зіне Каберда прэмію.**

— Вядома!

Гэта не проста словы. Гэта ўпэўненасць людзей, якія ведаюць, што ў іх ёсць, якія маюць абгрунтаваныя і дакладныя разлікі, цвёрдыя намеры і канкрэтныя планы.

Жывёлаводы спадзяюцца на тое, што ў іх сёлета, як ніколі, трывалая кармавая база: удосталь будзе і сіласу, і бульбы, і збожжа, бо ўраджай вырашчаны небывалы. Апрача таго, лепш, чым ва ўсе ранейшыя гады, будзе размешчана жывёла. Будуецца тры новыя памяшканні, на фермах уводзіцца механізацыя. А старшыня разлічвае на людзей, на энтузіязм і актыўнасць работнікаў жывёлагадоўлі. Праўленне дакладна захоўвае парадак аплаты працы ў жывёлагадоўлі, усяляк заахвочвае іх ініцыятыву і стараннасць. Даяркі атрымлівалі сёлета двухтыднёвы адпачынак, некалькі прэмій, ім у першую чаргу аказваецца матэрыяльная дапамога. Усе, хто працуе ў жывёлагадоўлі, атрымліваюць спецвопратку.

На развітанне старшыня калгаса Аркадзь Філіповіч гаворыць: — Сёлета, як ніколі, абудзіліся ўсе вясковыя людзі, яны як-бы паглядзелі на сябе з іншага боку, а паглядзеўшы, сказалі: «Вунь мы якія»!

...У калгасе над Нёманам багатае, шчодрае лета.



*У свеце мастацтва*

# НОВЫ АТРАД БЕЛАРУСКІХ АРТЫСТАЎ

Калі ў 1949 годзе ў Беларускім тэатральным інстытуце адбыўся першы выпуск артыстаў з вышэйшай адукацыяй, былы Камітэт па справах мастацтва апынуўся ў даволі цяжкім становішчы: не было куды накіраваць іх на працу. Дырэкцыя інстытута тады нават адмовілася ад новага набору студэнтаў. Але гады ідуць, і ўсё больш выяўляецца патрэба ў нацыянальных кадрах беларускіх артыстаў. Выпускнікі Мінскага тэатральнага інстытута з поспехам працуюць у тэатрах сталіцы і на перыферыі. На базе аднаго з выпускаў арганізаваны рэспубліканскі Тэатр юнага гледача. Леташні выпуск цалкам увайшоў у склад Бабруйскага перасоўнага калгасна-соўгаснага драматычнага калектыву.

Сёлета з Беларускага тэатральнага інстытута выйшаў восьмы атрад маладых спецыялістаў сцэнічнага мастацтва. Тыя, хто калісьці заканчваў тэатральны інстытут у цяжкі пасляваенны час, не могуць не пазайздросціць па-сяброўску сваім малодшым калегам. Яны ўваходзяць у творчае жыццё ўпэўненым крокам. Значна выраслі духоўныя запатрабаванні людзей. З кожным годам павялічваецца сетка тэатральных устаноў у рэспубліцы, паляпшаюцца ўмовы працы сцэнічных работнікаў, разам з усімі працоўнымі паляпшаецца іх дабрабыт. З распасцёртымі рукамі сустракае творчае папаўненне акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, куды накіравана большасць выпускнікоў. Чакаюць іх і ў тэатрах імя Я. Коласа, Бабруйскім калгасна-соўгасным тэатры, у тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі.

Новы выпуск акцёрскага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (тут цяпер рыхтуюцца не толькі акцёрскія кадры, але і спецыялісты жывапісу, скульптуры, графікі) праходзіў навучанне пад кіраўніцтвам рэжысёраў - педагогаў — мастацкага кіраўніка курса народнага артыста БССР дацэнта К. Н. Саннікава і кандыдата мастацтвазнаўства дацэнта А. І. Бутакова.

На дзяржаўных экзаменах выпускнікі паказалі свае дыпломныя спектаклі «Апошнія» М. Гор-

кага, «У добры час» В. Розава, «Слуга двух паноў» К. Гальдоні і першыя два акты з драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо». Такі рознастайны рэпертуар дазваляе зрабіць пэўныя вывады аб творчых магчымасцях кожнага з выпускнікоў, меркаваць аб іх прафесійных навыках і прыроджаных здольнасцях.

Сацыяльная драма М. Горкага «Апошнія» пастаўлена выпускнікамі ў сцэнічных традыцыях, створаных акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Амаль кожны з маладых выканаўцаў у той ці іншай ступені імкнецца ствараць даручаную яму ролю, маючы на ўвазе ўзор са спектакля купалаўцаў. Ды і рэжысура таксама не хавае гэтага імкнення. Аднак назваць работу студэнтаў пасіўнай копіяй нельга. Творчая самастойнасць іх выявілася ў своеасаблівым натхненні, у напоўненасці герояў спектакля жывымі думкамі і пачуццямі, у арганічнасці сцэнічных паводзін выканаўцаў.

Найбольш добрае ўражанне пакідае В. Тарасаў, які выконвае ролю Івана Каламійцава. Маладога артыста ўжо ведаюць мінскія гледачы па спектаклях Тэатра юнага гледача і імя Я. Купалы. Тарасаў мае пэўныя здольнасці ў майстэрстве пераўвасаблення. Аб гэтым сведчаць яго паспяховыя выступленні як на прафесійнай сцэне, так і ў інстытуцкіх пастаноўках, дзе ён выконвае рознапланавыя ролі: паніча ў «Раскіданым гняздзе», Андрэя Аверына ў п'есе «У добры час» і гаспадара гасцініцы Брыгеля ў «Слуга двух паноў».

Добра зарэкамендавала сябе выпускніца Г. Ваксман, якая аднолькава пераканаўча праводзіць поўную ўнутранага драматызму ролю Любові ў «Апошніх» і Беатрычэ — камедыйную ролю з пераапрананнем у камедыі К. Гальдоні.

Ярка акрэсленая індывідуальнасць у Э. Перагуда. Мы не прыхільнікі таго, каб абмяжоўваць магчымасці таго ці іншага выпускніка пэўным колам аднапланавых роляў, вузкага «амплуа». Але Э. Перагуд, як сведчыць яго дыпломны рэпертуар, рыхтуе сябе да роляў камедыйна-сатырычных, вострахарактарных. Яго талент — выкрываўчага напрамку. Аб гэтым асабліва яскрава сведчыць створаны ім пераканальны вобраз турэмнага ўрача Ляшча. Добрае ўражанне пакідае М. Захарэвіч у ролі Соф'і. Аднак нам здаецца, што здольнасці маладой артысткі не знайшлі яшчэ свайго поўнага выяўлення. М. Захарэвіч выступіла на экзаменах з двума ролямі драматычнага плана (другая яе работа — Маша ў спектаклі «У добры час». А нам, напрыклад, хацелася-б бачыць яе ў камедыйным рэпертуары, каб мець аб яе магчымасцях больш поўнае ўяўленне. Тое, што робіць М. Захарэвіч у інстытуцкіх спектаклях і нават у пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы «Пакуль вы маладыя» (Лена), пакідае ўражанне прафесійнай пісьменнасці, але пазбаўлена натхнення і патрэбнага тэмпераменту.

Выпускнік інстытута Г. Аўсянікаў вельмі ўдала выканаў ролю Якарава ў «Апошніх». Але маладому артысту трэба быць больш патрабавальным да сябе, шукаць розныя фарбы для сваіх персанажаў, не паддавацца спакусе лёгкага поспеху ў непатрабавальнай часткі гледачоў. Аб небяспецы найгрышу і паўтарэння аднолькавых прыёмаў ігры сведчыць яго няўдалае выступленне ў ролі Апанаса («У добры час») і зусім недарэчнае — у ролі Старца з «Раскіданага гнязда» Я. Купалы. Павявае штампам і ад яго Труфальдзіна ў камедыі «Слуга двух паноў», хоць гэтая роля і больш удалая ў Г. Аўсянікава.

Бясспрэчна добрыя творчыя перспектывы ў А. Дударава (Пётр

— у «Апошніх» і Вадзім Развалаў у спектаклі «У добры час»), у Г. Камаровай, якая даволі цікава правяла ролю Анастасіі Яфрэмаўны ў п'есе В. Розава.

Найбольш складанае становішча ў выпускнікоў Н. Казініна, О. Букетавай, А. Зотава, Т. Бабко. У дыпломным рэпертуары яны не прадэманстравалі пэўных творчых схільнасцей і выразнай індывідуальнасці. Ёсць, зразумела, і ў іх асобныя здабыткі ў некаторых ролях (Букетава — Вера ў «Апошніх», Зотаў — доктар Ламбардзі і Казінін — Фларында Арэтузі ў камедыі Гальдоні). Але гэта пакуль што вельмі сціплыя намёкі на наяўнасць сцэнічнага таленту. Хай наша суровае папярэджанне паслужыць для маладых артыстаў стымулам для ўпорнай працы над сабой, над павышэннем свайго майстэрства. Трэба адзначыць, што ёсць прафесіянальныя хібы ў многіх выпускнікоў. Адны з іх адчуваюць скаванасць у рухах, другія не валодаюць культурай мовы, дыкцыяй, голасам, трэція — не адчуваюць сцэнічнага ансамбля і пасаматужніцку іграюць сваю ролю, без уліку асноўнага драматургічнага дзеяння. Інстытуцкія навыкі, хоць-бы яны і былі дасканалымі, — гэта толькі больш ці менш трывалы фундамент для творчага самаўдасканальвання.

Маладыя артысты павінны памятаць, што толькі настойлівая праца адкрые ім шырокі шлях у творчую будучыню.

**Г. КОЛАС.**




# МОЛАДЗЬ СВЕТУ — МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ

Прайшлі дні VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў. Раз'ехаліся па дамах нашы дарагія госці... Яны павезлі з сабою не толькі незабыўныя ўражанні аб свяцe маладосці, аб шматлікіх сустрэчах на вуліцах і плошчах, аб новых сябрах,— яны павезлі з сабою моцную веру ў тое, што свяшчэнная справа міру на зямлі будзе ўмацавана іх дружнымі намаганнямі. Удзельнікі фестывалю пакляліся змагацца за мір, працаваць у імя міру, кожны дзень, кожны час свайго жыцця памятаць дэвіз фестывалю: «Мір! Дружба!»

На заходнім узбярэжжы Афрыкі размешчана маленькая каланіяльная краіна Сьера-Леоне. Яна яшчэ толькі прабуджаецца да барацьбы за незалежнасць і шчасце, і моладзь гэтай краіны прагна сочыць за жыццём другіх народаў. Пасланец моладзі Сьера-Леоне — Заа Філі Фабо, даведаўшыся пра Беларусь, пажадаў перадаць беларускай моладзі самае гарачае вітанне.

Аргенцінскі спявак Орасіо Гуарані, не ведаючы нават рускай мовы, развучыў тэксты беларускіх песень, каб павезці іх з сабою за акіян. Так, іх не затрымаюць ніякія кардоны! Ён вітае вас, маладыя беларусы.

— Афрыка! Мая дарагая Афрыка! — ад душы прамовіў малады албанец Канстанцін Тана, абдымаючы на маскоўскай вуліцы афрыканскую дзяўчыну. Гэтае кароткае, гарачае выражэнне дружбы было сустрэта бурнай авацыяй. Албанец Канстанцін Тана з задавальненнем выкарыстаў магчымасць выказаць свае шчырыя пачуцці моладзі Беларусі.

Алжырац і дзяўчына з Лівана пакінулі ў рэдакцыйным блакноце запіс на арабскай мове. Малады рабочы з Капенгагена Іорген Люфе з асаблівым бляскам у вачах расказваў аб сваіх першых кроках па савецкай зямлі ў беларускім горадзе Брэсце. Не звяртайце ўвагі на яго бараду, — гэта толькі сведчанне вернасці звычаям бацькоў. Іорген Люфе малады гадамі і думкамі. Ён з вамі ў агульнай барацьбе за мір і дружбу.

З намі і дзяўчаты з Польшчы, якія паслалі нам калектыўнае пасланне, і кітайскія таварышы, і многія, многія другія. Маладыя кітайцы пранеслі па вуліцах Масквы велізарных маляўнічых драконаў. І гэта таксама сведчанне павагі да народных звычаяў. Так робяць яны ў сябе на радзіме ў дні вялікіх свят. Тым самым кітайская моладзь нібы гаварыла, што і за тысячы кіламетраў ад роднага Кітая, у Маскве, яна адчувае сябе, як дома.

«Мір і дружба!», «Мір і дружба!» — гучала ў дні фестывалю ў Маскве на самых розных мовах. Ва ўсіх сумленных людзей свету, незалежна ад узросту, гэты дэвіз знайшоў адзін агульны водгук — не пакладаючы рук змагацца за мір на зямлі, за шчасце народаў.

Фота і тэкст нашага карэспандэнта

**А. ДЗІТЛАВА.**

Saludo por intermedio de la revista "Molodost" al pueblo de la Union Sovietica con la amistad argentina enlazada en los acordes maravillosos del cariño imperecible de este pueblo y mi guitarra viajera.

Desde mi tierra amaré toda la vida tanto cariño!

Horacio Guarani
Moscu 30/7/57

# МІР!
# ДРУЖБА!

Вітаю праз часопіс «Маладосць» савецкі народ! Вітаю ўсёй сілай дружбы аргенцінца, увасобленай у цудоўных акордах маёй вандруючай гітары.

І ад сваёй зямлі вітаю ўсё жывое на вашай зямлі!

Масква, 30. 7. 57.

**Орасіо ГУАРАНІ.**

**Аргенцінскі комуніст Орасіо Гуарані — музыкант, спявак і кампазітар — вельмі папулярны ў сябе на радзіме.** На здымку: **Орасіо Гуарані на вуліцах Масквы ў дні фестывалю.**

↓





↑

**Дарагія сябры з Беларусі!**

Моладзь Дзяржаўнага ансамбля песні і танца «Шлёнск» успамінае сваё прабыванне ў вашай сталіцы Мінску. Мы ўспамінаем вашу вялікую сардэчнасць. Мы вас успамінаем часта і цяпер. З VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў мы пасылаем вам наша гарачае прывітанне. Мы хацелі вам сказаць, што мы вельмі, вельмі шчаслівыя, што маглі сустрэцца з моладдзю ўсяго свету тут, у сталіцы Савецкага Саюза, і прадэманстраваць нашу любоў да міру і дружбы.

**Польскі Дзяржаўны народны ансамбль песні і танца «Шлёнск».**



←

Як член дэлегацыі албанскай моладзі, я вельмі рады, што ўдзельнічаю ў гэтым фестывалі.

Я ўжо другі раз удзельнічаю ў міжнародным фестывалі моладзі (першы раз — у 1953 г. у Бухарэсце). Самае галоўнае, што мае агульны інтарэс ў нашай сустрэчы, — гэта жаданне ўмацоўваць мір і дружбу.

Гэта мара ўсёй албанскай моладзі. За гэта албанская моладзь змагаецца, гэтаму прысвячае сваю працу!

**Канстанцін ТАНА.**

31 ліпеня 1957 г.



**Дарагія сябры!**

Па-першае — фестывальнае прывітанне ад датчаніна.

Няхай жыве моладзь усіх краін!

Я магу сказаць вам, савецкія таварышы, што гасціннасць, якую вы праявілі да нас у час паездкі па Саюзу Савецкіх Рэспублік і ў Маскве, у вышэйшай ступені ўмацоўвае міжнародныя сувязі моладзі ў барацьбе за мір. Няхай жыве Фестываль!

**Іорген ЛЮФЕ,**
**механік з Капенгагена.**



**Дарагія сябры, моладзь Беларусі!**

Перадаю ад імя кітайскай моладзі высокую павагу. Мы глыбока ўпэўнены ў тым, што на гэтым фестывалі намаганнямі моладзі ўсяго свету абавязкова ўмацуецца агульнае жаданне ўсяго свету — мір, дружба!

**Ваш кітайскі друг ЛУ КЭЙ-СЯН,**
**мастак.**

Дзякую савецкаму народу за вялікую барацьбу, якую ён вядзе ў імя свабоды і незалежнасці ўсіх народаў. І я жадаю, каб усе арабы імкнуліся да міру так, як гэта робяць савецкія людзі!

Прывітанне ад арабскай моладзі беларускай моладзі!

**Муніра АТАЛА,**

**дзяўчына з бейруцкага прыгарада Жаледзіб (Ліван).**



**Дарагія савецкія таварышы!**

Мне вельмі хацелася больш ведаць аб Савецкім Саюзе і аб савецкім народзе. Мне вельмі хацелася сустрэцца з савецкай моладдзю, падружыцца з маладымі людзьмі з Савецкага Саюза. І вось прадставіўся шчаслівы выпадак — VI Фестываль моладзі. Я рабіў усе намаганні для таго, каб трапіць на фестываль. Мае намаганні мелі поспех. Я дасягнуў сваёй мары — прыехаў у Маскву, сустрэў дарагіх савецкіх сяброў. Мы, дэлегаты, былі прыняты ў Маскве выключна горача. Можна ўсё забыць, але нельга забыць, як сустракалі нас на кожнай вуліцы, на кожнай плошчы. У гэтым залог вялікай дружбы!

Прыміце мае завярэнні ў самай шчырай дружбе ад імя алжырскай моладзі. Няхай жыве араба-савецкая дружба! Няхай жыве дружба паміж народамі ўсяго свету!

**Сі Ласен ЛАРБІ,**

**алжырац, студэнт каірскага ўніверсітэта.** (На здымку — крайні злева)





**Дарагія таварышы!**

Словамі часта нельга выказаць свайго захаплення той сардэчнасцю, якую сустрэў я, і астатнія ўдзельнікі фестывалю, у вашай краіне.

Як ваш таварыш, я веру, што моладзь вашай і маёй краіны (Афрыкі) цвёрда ўпэўнена ў міры, міжнароднай дружбе і ўзаемаразуменні паміж народамі.

Выношу падзяку ўсёй савецкай моладзі за яе гасціннасць.

**Філі ФАБО,**

**юрыст з краіны Сьера-Леоне (Заходняя Афрыка).**

Fillie-Fabo

На здымку: **Філі Фабо з балгарскай дзяўчынай Здраўкай Бойчавай.**

**«...Ва ўрачысты час закрыцця нашага фестывалю мы вітаем усіх юнакоў і дзяўчат, усю моладзь свету і гаворым ім:**

**Мір і шчаслівую будучыню можна пабудаваць, калі народы і моладзь будуць заўсёды жыць у дружбе, як гэта было на нашым фестывалі. У дружбе народаў і моладзі — залог міру. Будзем заўсёды і ўсюды мацаваць нашу дружбу, каб сумеснымі намаганнямі пабудаваць на зямлі мір радасці і шчасця!**

**У добры час, дарагія сябры! Вялікіх вам поспехаў, шчаслівага вам жыцця і будучыні!**

**Масква, 11 жніўня 1957 года.»**

З заявы Міжнароднага камітэта VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў.

## Гумар і сатыра

Міхась СКРЫПКА




Мал. Н. Гурло.

# ГУЗІКІ

— І што за чалавек гэты Грышка?! Для яго сапсаваць настрой камунебудзь — раз-два. Ну, ты-ж, белабрысы блазнюк, бачыш, што ўсё ідзе добра: арцель кожны месяц перавыконвае план, у людзей такі ўзняты настрой на сходзе. Дык чаго ты лезеш са сваімі гузікамі?! «Скардзяцца,— кажа,—пакупнікі, што і дзень не паносіш гарнітур, як гузікі ў адпачынак ідуць». І каб хто казаў, а то гэты блазнюк, што на падбартоўцы сядзіць. Ну, ты рэдактар насценгазеты! Дык і пішы, ніхто табе не забараняе. На тое і самакрытыка! Але-ж ты пішы пра план, пра людзей. А чаго ты да гэтых гузікаў прычапіўся, як сляпы к плоту?!

Так разважаў сам з сабой загадчык кравецкай арцелі Барыс Сымонавіч Булойчык, чалавек сярэдніх гадоў і з даволі несярэднім чэравам. Ідучы на сход, Барыс Сымонавіч быў упэўнены, што яго павіншуюць з выкананнем плана, а тут на табе: гузікі!

Яму чамусьці ўспомнілася, як у маладыя гады ён хадзіў у рыбу. Бывала, падвядзеш таптуху пад куст, а сам паціху затупаеш нагамі. І раптам—плёх! Ну, думаеш: шчупак, а то і два. Хуценька падымаеш таптуху, а там — зялёнае стварэнне: два вокі і чатыры нагі.

— Вось так і сёння,— разважае Барыс Сымонавіч. Усё паказвала на шчупака, а выйшла — ква-ква!

Але Барыс Сымонавіч быў аптымістам і супакойваў сябе:

— Ат, глупства! Словы Грышкі не рашаюць справы, як гузікі промфінплана. Ды ці першы раз пра гэтыя гузікі гавораць. На тое і сход! А я загадчык і ведаю, што мне рабіць. Мне патрэбна выконваць план, а гузік — дробязь!

І каб адарвацца ад гэтай думкі, Барыс Сымонавіч вырашыў:

— Вось прыду дамоў, павячэраю і спаць: сон—лепшы лекар ад усіх неспакойных думак.

Дома, распранаючыся ў пярэднім пакойчыку, ён, пацягнуўшы носам, пачуў, што пахла нечым смажаным. Ён адчыніў дзверы і аж падаўся назад ад здзіўлення: на стале сярод багатай закускі ўздымалі чорныя і чырвоныя галовы бутэлькі. На канапе сядзелі брат і сястра жонкі і яго маці.

Барыс Сымонавіч прывітаўся з гасцямі. Жонка, заўважыўшы яго разгубленасць, пажартавала:

— Нішто сабе ў мяне гаспадар! Госці тут яго зачакаліся, віно кісне, а ён там недзе на сходзе самакрытыку, як сыр, цісне.

І, схапіўшы яго за руку, павяла ў другі пакойчык:

— Хуценька пераапранайся. Надзявай вось гэты касцюм. Я табе ў падарунак купіла: сёння-ж дваццаць гадоў са дня нашага вяселля...

І, пацалаваўшы мужа, хутка выйшла да гасцей.

— Нездарма-ж кажуць, што жонка — д'ябл: што захоча, тое і зробіць,— разважаў, пераапранаючыся, Барыс Сымонавіч. Але ў душы ён быў да таго задаволены, што нават на Грышку з яго крытыкай забыўся.

За сталом усё ішло па-гасціннаму. Жонка вяла рэй, і як Барыс Сымонавіч ні абараняўся, а начаставаўся як след. А ў такім стане ён гатоў быў абняць усіх на свеце. Такі ўжо ў яго характар. Другі, як перабярэ, дык гатоў увесь свет скрышыць. (Дай толькі яму волю і роўнавагу ў нагах!) Барыс-жа Сымонавіч, наадварот, да таго раздобрыўся, што гатоў быў сюды запрасіць нават самога Грышку.

— А што Грышка? Добры чалавек! Такіх не бойся. Той, хто гаворыць у вочы — табе не вораг. Бойся таго, хто на кожным кроку шапку перад табой здымае, «маё шанаванне» штодзень дэкламуе. А з дробязямі, як кажа Грышка, у нас і сапраўды нядобра...

Барыс Сымонавіч так захапіўся «вытворчымі пытаннямі», што, здавалася, канца не будзе яго гаворцы. А тым часам гадзіннік, які, відаць, быў зроблены ў сапраўднай арцелі, своечасова адбіў адзінаццаць. Жончын брат пачаў збірацца дамоў, і Барыс Сымонавіч пайшоў яго праводзіць.

Вяртаючыся, Барыс Сымонавіч, як на грэх, сустрэўся з Баранчуком, начальнікам аддзела якасці арцелі.

— А-а! Зойдзем у рэстаран, па куфлю свежанькага вып'ем,— запрасіў Баранчук.

— Не, не! З мяне ўжо хопіць!..

Але той не адставаў, і Барыс Сымонавіч нарэшце згадзіўся.

— Ну, хіба куфаль, не больш.

Праз гадзіну перад Барысам Сымонавічам сядзеў не адзін Баранчук, а два, а то і два з палавінай. Рэстаран заканчваў работу, і іх папрасілі «дахаты». Барыс Сымонавіч устаў і з задавальненнем адчуў сябе пры сваім розуме, але... не пры сваіх падцяжках: падцяжкі віселі самі па сабе, а штаны самі па сабе.

— Гузікі!— маланкай мільганула думка. Ён нязграбна пачаў мацаць гузікі, але іх ужо не было. На іх месцы матляліся кароткія шматкі нітак.— Дзякуй богу,— падумаў Барыс Сымонавіч,— што хоць гаплік моцна прышыты. —І падцягнуў штаны вышэй.

Ды раптам, як у той казцы: дзе коратка — там і рвецца. Гаплік толькі дзынкнуў аб падлогу.

— Рад-бы вам, Барыс Сымонавіч, дапамагчы,— сказаў Баранчук,— ды самі-ж ведаеце — мая папруга на ваш, з дазволу сказаўшы, жывот малая.

— Ну што-ж, пойдзем!

І яны пайшлі. Барыс Сымонавіч трымаў у адной руцэ падцяжкі, а ў другой — штаны. Як мог, дапамагаў яму Баранчук.

Да трамвайнага прыпынку сябры дабрылі толькі тады, калі ішоў апошні трамвай. Ён быў перапоўнены: людзі ехалі з тэатра. Ехаць на

падножцы не асмеліліся: па-першае, удвух не памесцішся. Ды і як за ручку будзеш трымацца, калі рукі заняты.

— Уключай рухавікі ўнутранага згарання,—гледзячы ўслед чырвоным аганькам адыходзячага трамвая, паспрабаваў жартаваць Баранчук...— Пайшлі...

— Папаўзлі,— паслізнуўшыся, сказаў Барыс Сымонавіч.

— Барыс Сымонавіч, ты толькі не дужа налягай на пластунскі метад, а то мы і да дня не дабярэмся дадому.

І толькі а палове другой Барыс Сымонавіч стаяў на кухні перад жонкай.

Жонка заламала рукі.

— А божа-ж мой! Хто гэта цябе так распісаў?

— Гузікі...—зусім цвяроза сказаў Барыс Сымонавіч, аслабаняючы адну руку, каб выцерці пот.

— Якія гузікі?

— Тыя, што ў адпачынку.

Назаўтра, нават не паснедаўшы, Барыс Сымонавіч сеў пісаць скаргу на нядбайнікаў кравецкай арцелі.

— Паглядзі, калі ласка, кляймо на пінжаку, якой гэта арцелі прадукцыя,— звярнуўся ён да жонкі.

Тая доўга разглядала кляймо на падкладцы.

— Ну, праз каго гэта я так выкачаўся?

— Нешта не разбяру...

— Дай сюды,— ён паправіў акуляры і пачаў углядацца ў літары фабрычнай маркі. Прачытаўшы, са злосцю шпурнуў пінжак на канапу і сказаў:

— Давай снедаць!

— Разабраў? Чыя работа?

— Чыя, чыя! Яшчэ ты тут будзеш самакрытыку разводзіць... Есці давай!..



**Іван БУЧЫНСКІ,**
**кандыдат геаграфічных навук**

# ЦІ ЗМЯНЯЕЦЦА КЛІМАТ

У апошні час у многіх краінах назіраюцца выключныя па сваёй інтэнсіўнасці змены надвор'я. Так у 1951 годзе ў Італіі, Англіі і Галандыі адбыліся вялікія навадненні. 1952 год быў адзначан засухамі ў Аўстраліі, Індыі і Аргенціне, штормамі і навадненнямі ў Алжыры, ЗША, вельмі спякотным летам на востраве Мальта і ў другіх месцах. У студзені 1953 года навадненні ахапілі Галандыю, а жорсткая засуха летам — Гавайскія астравы і Чэхію. Зімой 1954 года ў Югаславіі, Францыі і іншых еўрапейскіх краінах лютавалі моцныя маразы, летам-жа, у ліпені — жніўні, у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе прайшлі вялікія ліўні, якія выклікалі спусташальныя навадненні. Жорсткія маразы і завірухі лютавалі на Еўрапейскім кантыненце і ў мінулым годзе.

Такія рэзкія адхіленні надвор'я ад нормы складаюць у некаторых людзей уражанне аб больш ці менш хуткім змяненні клімату. Аднак такія думкі не маюць пад сабой падстаў.

Не трэба блытаць паняцці «надвор'е» і «клімат». Надвор'е — гэта стан атмасферы, які няспынна змяняецца. Клімат — шматгадовы рэжым надвор'я, характэрны для дадзенай мясцовасці. Калі надвор'е мяняецца з дня ў дзень ці з месяца ў месяц, дык клімат на працягу даволі доўгага часу застаецца ў асноўным нязменным.

Узнікае пытанне: а ці змяняецца клімат наогул?

Навука адказвае на гэтае пытанне станоўча.

Вывучаючы матэрыялы археалагічных раскопак, вучоныя ўстанавілі, што клімат Зямлі некалькі разоў рэзка змяняўся. Напрыклад, пры археалагічных даследаваннях на поўдні Украіны знойдзены косці страуса. Гэта сведчыць аб тым, што некалькі мільёнаў год назад клімат тут быў значна больш спякотны і сухі, чым зараз. Пазней, у ледніковую эпоху, калі ільды пакрывалі значную частку тэрыторыі СССР, клімат на Украіне стаў халодным і вільготным.

Такім чынам, са зменай геалагічных эпох адбываецца змена і кліматычных ўмоў,але гэта патрабуе соцень тысяч і нават мільёнаў год. Прычыны такіх змен розныя. Адны з іх звязаны з ваганнямі сонечнай актыўнасці ў мінулыя геалагічныя эпохі, другія — з рознай празрыстасцю зямной атмасферы, не аднолькавай у розныя перыяды, трэція—утварэннем і разбурэннем гор, наяўнасцю тых ці іншых суадносін акіянаў і сушы, напрамкам акіянскіх плыняў і г. д.

Аднак да гэтага часу яшчэ няма адзінай тэорыі, якая растлумачвала-б законамернасць у зменах клімату.

Акрамя значных змен клімату, якія прадаўжаюцца сотні тысяч і мільёны год,назіраюцца векавыя яго ваганні з перыядамі ў тысячу і дзесяткі тысяч год. На тэрыторыі рускай раўніны, напрыклад, перыяд такіх ваганняў складае каля двух тысяч год (з адхіленнямі ў той ці іншы бок у 200—250 год). Адразу пасля вызвалення гэтага раёна ад ледніка (прыкладна 10—12 тысяч год назад) клімат тут

быў суровы, кантынентальны. Потым ён стаў больш цёплым і вільготным.

Вывучэнне шматлікіх назіранняў паказвае, што і ў XIX і XX стагоддзях бывалі і вельмі халодныя, і вельмі цёплыя зімы, засушлівыя і багатыя ападкамі гады. Рэдка ў з'явах надвор'я здараецца што-небудзь, чаго-б не назіралася трыццаць, семдзесят ці, у выключным выпадку, сто год таму назад. Рэзкія адхіленні ад кліматычнай нормы яшчэ не сведчаць аб хуткім змяненні клімату. Наадварот, яны ўяўляюць неад'емную асаблівасць данага кліматычнага рэжыму.

У чым-жа заключаецца прычына такіх кароткачасовых ваганняў клімату? Совецкія вучоныя М. С. Эйгенсон, Л. А. Віцельс, П. П. Прадцечанскі, якія займаліся вывучэннем гэтага пытання, прыйшлі да вываду, што яны абумоўлены зменамі агульнай цыркуляцыі атмасферы пад уплывам працэсаў, што адбываюцца на Сонцы. Гутарка ідзе ў дадзеным выпадку аб такіх ваганнях сонечнай актыўнасці, якія суправаджаюцца ўзмоцненым утварэннем ці, наадварот, значным памяншэннем колькасці сонечных плям. У перыяд павелічэння сонечнай актыўнасці расце інтэнсіўнасць атмасфернай цыркуляцыі, паскараецца абмен паветра паміж высокімі і нізкімі шырынямі Зямлі. У выніку змяняецца размеркаванне тэмпературы: у тропіках становіцца халадней, у Арктыцы цяплей. З павышэннем-жа тэмпературы клімат робіцца сушэйшым.

Некаторыя замежныя вучоныя лічаць, што ўзмоцненая атмасферная цыркуляцыя, якая назіраецца зараз, звязана з атамнымі выбухамі. Але такая думка не падмацоўваецца фактамі. Перш за ўсё, ваганні клімату, як мы ўжо бачылі, неаднаразова назіраліся і раней, калі не было атамных і вадародных бомб. Апрача таго, для атмасферных працэсаў патрабуецца энергіі ў шмат разоў больш, чым яе вызваляецца пры атамных выбухах.

Паводле даных члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Е. К. Фёдарава, у час самай звычайнай навальніцы на поўдні траціцца столькі энергіі, колькі нясуць яе ў сабе дзесяцьпятнаццаць выбухаў вадародных бомб. А пры сярэднім шторме на моры колькасць энергіі, якая пераходзіць з аднаго віду ў другі, эквівалентна сотням, калі не тысячам атамных выбухаў.

Даследаваннямі ўстаноўлена наяўнасць 80-гадовага цыкла ваганняў клімату, звязанага з перыядычнымі зменамі сонечнай актыўнасці, і 250-гадовага цыкла, абумоўленага перыядычнымі ваганнямі ў хуткасці вярчэння Зямлі. Некаторыя вучоныя лічаць, што сучаснае пацяпленне з'яўляецца вынікам супадзення аднолькава накіраваных абедзвух гэтых прычын. Згодна такому пункту гледжання, у бліжэйшы час у Еўропе трэба чакаць адваротных векавых змяненняў клімату ў бок узмацнення яго кантынентальнасці.

Неабходна адзначыць, што ў зменах клімату ўсё большую ролю адыгрывае дзейнасць чалавека. Так драпежніцкія адносіны да прыродных рэсурсаў (высячэнне лесу, нерацыянальнае ворыва), характэрныя для капіталістычных краін, выклікаюць звычайна, пагоршанне кліматычных умоў. Свядомае-ж пераўтварэнне прыроды ў соцыялістычных краінах, як і ў радзе краін, якія скінулі з сябе ярмо каланіялізма, робіць на клімат станоўчы ўплыў. Асушэнне балот, змяненне гідралагічнага рэжыму рэк, збудаванне арашальных сістэм, захаванне і ўзнаўленне лясных масіваў, новыя зялёныя насаджэнні, — усё гэта спрыяе паступоваму паляпшэнню клімату. Далейшыя поспехі навукі ў пазнанні прычын метэаралагічных з'яў дазволяць людзям яшчэ актыўней уздзейнічаць на клімат нашай планеты.

# НАВІНЫ ТЭХНІКІ

## ПРАЗРЫСТЫ ХІРУРГІЧНЫ ІНСТРУМЕНТ

На медыцынскім факультэце Чыкагскага універсітэта распрацавана серыя хірургічных інструментаў з празрыстай пластмасы, спецыяльна прызначаных для аперацый на мозгу. Грані гэтых інструментаў закруглены, каб не пашкодзіць ткані мозга; яны не адлюстроўваюць святла ў вачах хірурга, не ствараюць электрычных патэнцыялаў, праз іх можна добра бачыць месца, якое аперыруеш.

## НОВЫ БУРЫЛЬНЫ МАЛАТОК

У шахтах Чэхаславацкай рэспублікі ў вытворчасці прымяняецца новы бурыльны малаток, створаны навуковым работнікам Ольдржыкам Абода. Асаблівасць малатка ў тым, што ўвесь пыл, які ўтвараецца пры рабоце, адсасваецца праз пустую сярэдзіну малатка і накіроўваецца па гумаваму шлангу ў асобы фільтр.

## ПАДШЫПНІКІ З ГАЗАВАЙ ЗМАЗКАЙ

Англійскімі інжынерамі-спецыялістамі па ядзернай тэхніцы прыменены ў прамысловым абсталяванні падшыпнікі з газавай змазкай. У падшыпніках замест звычайнай змазкі выкарыстоўваецца газ пад ціскам, які раздзяляе паверхні частак падшыпнікаў, якія труцца. Для гэтай мэты можна выкарыстоўваць шмат якія газы. Падшыпнікі могуць працаваць пры розных тэмпературах і ціскаў газападобнай змазкі.

## СОНЕЧНЫМ АКУЛЯРАМ.... 1000 ГОД

Як паведамляе югаслаўскі часопіс «Свет технике», акуляры, якія ахоўваюць вочы ад сонца, існуюць па меншай меры тысячу год. Першапачаткова яны ўжываліся ў тых краях, дзе многа снегу. Тады іх рабілі не са шкла, а з тонкіх пласцін янтару або моцна расцягнутых пузыроў рыбы, якія былі празрыстымі і добра ахоўвалі вочы ад бляску снегу. Такія акуляры і зараз яшчэ можна сустрэць у эскімосаў.

## ВАДА РЭЖА КАМЕНЬ

Яшчэ ў XIX ст. на адкрытых распрацоўках карысных выкапняў, у прыватнасці залатаносных парод, былі прыменены струмені вады. Падземная-ж гідраздабыча ажыццёўлена ўпершыню ў СССР у 1952 годзе на адной з шахт Кузбаса. З чаго часу гэты метад здабычы знаходзіць у нас усё большае прымяненне.

Ініцыятыву Савецкага Саюза падхапіла і паспяхова развівае Польская Народная Рэспубліка. Гэта ёй належыць цяпер вядучая роля ў галіне гідрамеханізацыі горных работ.

Вядома, што чым вышэй ціск струменя вады, тым большая прадукцыйнасць устаноўкі.

У 1955 г. у Польшчы пабудавалі і пачалі выкарыстоўваць гідраманіторы, якія даюць струмень пад ціскам 60 атмасфер. А ў канцы 1956 г. на вугальным кар'еры «Кася-II» пачалася здабыча пры ціску 250 атмасфер. Гэта намнога перавышае ціск, які прымяняецца ў горнай справе дзе-б там ні было за межамі Польскай Народнай Рэспублікі. Пры та-

кім ціску струмень вылятае з наканечніка з хуткасцю 170 м/сек — 62 км. у гадзіну. Такі струмень крышыць вугаль і пароду не горш за звышцвёрдыя зубцы вугальнага камбайна.

Расход вады на тую-ж колькасць здабытага вугалю паменшыўся ў 10 разоў, чым пры ціску 60 атмасфер, а прадукцыйнасць працы гідраманіторшчыка складае 80 тон у гадзіну, г. зн. у 12 разоў больш, чым раней.

Гэтаму поспеху ў значнай меры садзейнічала асаблівая канструкцыя — насадка, якая забяспечвае аднолькавую напружанасць струменя ў цэнтры і па баках. Размешчаная па восі насадка—своеасаблівая іголка — тармозіць ваду ў сярэдзіне патока і выроўнівае яе хуткасць.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ СПОСАБ ЛОВУ РЫБЫ

Ці дастаткова выкарыстоўвае рыбная прамысловасць сучасную тэхніку? Безумоўна, на рыбалавецкіх суднах прымяняюцца многія навуковыя і тэхнічныя дасягненні. Але гэта адносіцца ў асноўным да будовы і абсталявання суднаў, да пошукаў у моры касякоў рыбы. Але як толькі справа даходзіць да галоўнага—да лову рыбы — зноў прыходзіцца звяртацца да вядомых яшчэ дагістарычнаму чалавеку сецяў і кручкоў.

Амерыканскі вынаходца Эл Мандл прапанаваў новы спосаб лову рыбы: яе можна здабываць з мора гэткім-жа чынам, як здымаюць вяршок з малака. Зразумела, такім спосабам можна лавіць не ўсякую рыбу, а толькі такую, якая ў пошуках ежы ходзіць паблізу паверхні мора, напрыклад, тунец.

У Сіэтле, на Ціхім акіяне, будуецца спецыяльны глісер даўжынёю 18 метраў, які складаецца з трох вузкіх карпусоў, перакрытых моцнай металічнай сеткай. У яго насавой частцы прадугледжаны своеасаблівы велізарны сталёвы латок з мноствам адтулін, які будзе апускацца пад ваду. Авіяцыйны рухавік у 520 конскіх сіл з паветраным вінтом дасць судну хуткасць у 35 вузлоў, г. зн. каля 65 км. у гадзіну.

Вось і ўсё. Ніякія спецыяльныя прылады лову больш не патрэбны. Знайшоўшы касяк рыбы, судна на поўным ходу праходзіць над ім. Падхопленая латком рыба разам з вадой выкідваецца на сятчатую палубу. Далейшае зразумела: вада сцякае, рыба застаецца.

## ПАНЧОХІ І... ГЕНЕРАТАРЫ

Перлон, створаны ў апошнія гады,—сінтэтычны матэрыял. Панчохі і шкарпэткі з яго расцягваюцца так, што аднолькава прыгодны і для падростка, і для таго, хто носіць 48 нумар чаравікаў.

Але перлон — гэта не толькі панчохі. Асаблівыя якасці гэтага матэрыялу дазволілі электрамашынабудаўнікам ГДР замяняць у генератарах і рухавіках дарагую электралітычную медзь алюмініем, не змяняючы габарытаў машын.

Чаму нельга было зрабіць такую замену да гэтага часу?

Электраправоднасць алюмінія ніжэй, чым медзі, таму сячэнне алюмініевага абмотачнага дроту павінна быць большае, чым меднага. А гэта немінуча павялічыла-б памер машын.

Ізаляцыйныя-ж якасці так званага ізаперлонавага лаку такія высокія, што яго слой у 0,06 мм замяняе звычайную ізаляцыю на бавоўнянай аснове таўшчынёй 0,26 мм. Значыцца, плёнка лаку ў 4,5 раза танчэйшая за ранейшую ізаляцыю. І хоць сам алюмініевы дрот таўсцейшы, але ў спалучэнні з ізаперлонавым пакрыццём ён не перавышае па дыяметру медны дрот са звычайнай ізаляцыяй.

Новы ізаляцыйны матэрыял аблягчае адвод цеплыні ад электрычных машын, павышае дапушчальнае награванне і тэрмін іх службы, памяншае вагу абмоткі і ўсёй машыны.

З 1956 г. электрамашынабудаўнікі ГДР, зрасходаваўшы 7500 тон алюмінія, сэканомілі 15 тысяч тон дэфіцытнай медзі і сотню тон бавоўнянай тканіны. Гэтай колькасці дастаткова для вырабу паўтараста тысяч сарочак.

## ЗМЕСТ:



**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам».**

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 03579. Здадзена ў набор 27-VII-57 г. Падпісана да друку 30.VIII. 57 г Заказ 533

Фармат паперы $70 \times 108/_{16}$. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 16 500 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.